# УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА

## Выбраныя творы

Мінск
«Беларускі кнігазбор»
1998

# ШУКАЛЬНІК ХАРАСТВА

Першая квадра дваццатага стагоддзя для Беларусі была шматспадзеўнай і стратнай адначасова. Надзеі на ўваскрошанне паняволенай Бацькаўшчыны цепліліся ў сэрцах беларускіх адраджэнцаў вякамі, а ў час, калі задрыжалі падваліны і хіснуліся сцены расійскай імперскай вязніцы, абудзіліся з новай сілай. Але ваенна-рэвалюцыйная калатнеча не магла паспрыяць развою паўнакроўнага актыўнага жыцця, якое звычайна назіраецца пасля абуджэння. Парушаны жыццёвы побыт, голад і эпідэміі накладалі свой жахлівы адбітак на існаванне спаняверанага, знядужалага людства. Човен Харона без пярэдыху снаваў па беларускіх рэках, вышукваючы чарговых ахвяраў. Колькі іх было, беларусаў, падкошаных тыфам і сухотамі, забітых немцамі, палякамі, бальшавікамі? Час ад часу зтагосветны човен прыпыняўся і забіраў у незваротную вандроўку людзей з Божай іскраю ў сэрцы — каб хоць неяк усцешыць насельнікаў краіны вечнага смутку. І радзеў шэраг ратавальнікаў беларушчыны, і большаў почат святых пакутнікаў за мройную для многіх, а для іх амаль увачавідненую Беларускую Дзяржаву. Цётка, Іван Луцкевіч, Максім Багдановіч, Ігнат Канчэўскі, Ядвігін Ш., Алесь Гарун, Андрэй Зязюля...

Яснай грамнічнай свечкай загарэўся напярэдадні ці не самай трагічнай у гісторыі нашага народа эпохі і заўчасна ў зусім маладыя леты згас яшчэ адзін, Богам падараваны Беларусі светлы талент — Уладзімір Жылка.

Вяртанне Уладзіміра Жылкі ў беларускую літаратуру адбылося не адразу. Спрычынілася да гэтага многае, але найперш — раскіданасць ягоных рукапісаў па замежных архівах. Ды і студэнцкая трохгадовая эміграцыя, недвухсэнсоўныя выказванні паэта пра «маскоўскую кантору» прымушалі рэдактараў з пэўнай доляй абачлівасці публікаваць Жылкавы творы. Замоўчванню творчасці паэта, вядома ж, не маглі не «пасадзейнічаць» і выстаўленыя перад ім абвінавачанні ў палітычных грахах і гвалтоўная высылка аўтара падалей ад Радзімы.

Сёння творы Уладзіміра Жылкі, аднаго з найбольш цікавых і самабытных паэтаў, яскрава ўпісаліся ў залаты фонд айчыннай

літаратуры, імя яго заняло адно з самых пачэсных месцаў на беларускім парнасе.

Нарадзіўся будучы паэт 27 траўня 1900 года ў вёсцы Макашы, што раскінулася над ракой Вушой непадалёку ад чыгуначнай станцыі Гарадзея. Уладзік быў першынцам у сям'і Адама Жылкі і Таццяны з Раманейкаў. Пасля яго на свет прыйшлі яшчэ Алег, Барыс і Кастусь. Школы ў Макашах не было, першую навуку хлопчык спасцігаў спачатку ў Гарадзейскай царкоўна-прыходскай школе, а потым у Мірскай гарадской вучэльні. Можна ўявіць, якое моцнае ўражанне зрабіў на чулага душой юнака славуты Мірскі замак, магутныя вежы якога дамінавалі над усім мястэчкам. Магчыма, настаўнік гісторыі расказваў падлеткам пра аблогу замка войскам цара Аляксея Міхайлавіча ў 1655 годзе, пра ўпартае супраціўленне месцічаў. Магчыма, апавядаў пра Касцюшкаўскае паўстанне, пад час якога замак быў моцна разбураны. А хутчэй за ўсё, адпрацоўваючы казённае жалаванне, прыгадваў геройскія дзеянні казацкай конніцы расійскага генерала Платава супраць французскай кавалерыі маршала Даву ў 1812 годзе. У выніку апошняй сутычкі пад сценамі замка некаторыя вежы былі ўзарваныя, а палац спалены і разрабаваны салдатнёй.

Чатырнаццацігадовым падлеткам Уладзік трапляе ў Менск, куды бацька, патомны селянін, адважыўся пераехаць настала, атрымаўшы месца гандляра ў царкоўнай краме. У тым жа годзе юнак трапляе на вучобу ў Багародзіцк у Тульскай губерні. Трэба сказаць, што адносіны да навукі ў сям'і Жылкаў былі самыя паважлівыя, хлопцы змалку прывучаліся да чытання. Вось што пісаў нястомнаму даследчыку творчасці Уладзіміра Жылкі прафесару У. Калесніку брат паэта Барыс у лісце ад 6 сакавіка 1966 года: «Колькі я помню, то Уладзік вельмі любіў чытаць. Матка часта адбірала ў яго кніжкі і выпраўляла гуляць, але нічога не памагала, ён збіраўся ісці гуляць, але браў другую кніжку за пазуху і зашываўся туды, дзе б яго не турбавалі. Бацькі не шкадавалі грошай на набыццё кніжак, і іх у нас назбіралася шмат. Падчас пераезду адна падвода была цалкам загружана кніжкамі — Пушкін, Лермантаў, Гогаль, Цютчаў, Фет, Надсан, усе прылажэнні да журналаў. Былі ў нас і ўсе кніжкі беларускія, якія толькі выйшлі да 1914 года...»

Калі Жылка вярнуўся на Беларусь, дакладна невядома, але ўжо ў 1916 годзе ён закончыў Слонімскую вышэйшую пачатковую школу. Вучэльні падобнага кшталту мелі агульнаадукацыйны характар і давалі права паступлення ў спецыялізаваныя навучальныя ўстановы. І Уладзімір выкарыстоўвае гэтае права — паступае ў Ковенскую сельскагаспадарчую вучэльню.

Рэвалюцыйны 1917 год Уладзімір Жылка сустрэў у Менску, дзе трапіў у вір палітычных падзей. Жывучы ў цэнтры горада, паблізу цяперашняй Плошчы Свабоды, ён меў магчымасць ледзь не штодня назіраць шматлюдныя мітынгі, бачыць касцельныя працэсіі пад польскімі нацыянальнымі сцягамі. Як назіральнік трапіў Жылка і на

Першы Усебеларускі кангрэс. Але прадстаўнічы (1872 дэлегаты) форум апынуўся пад прыцэлам гарматаў бальшавіцкага бронецягніка, што падаспеў у Менск акурат да адкрыцця кангрэсу і прытаіўся на вакзале. Адчуваючы за спінай гэткую магутную падтрымку, бальшавіцкі вайсковы аддзел дзейнічаў нахабна. Салдаты ўварваліся ў залу гарадскога тэатра, дзе праходзіў кангрэс, пачалі збіваць і арыштоўваць ўдзельнікаў... Уладзік вярнуўся дамоў уражаны, узбуджана расказваў сямейнікам пра разгон. Гэта было ці не першае знаёмства паэта з беларускім нацыянальным рухам.

Жадаючы дапамагчы бацьку здабываць хлеб надзённы, Уладзімір Жылка ў 1918 годзе пачынае працаваць аграномам у адной з дзяржаўных гаспадарак у прадмесці Менска. Ездзіў ён туды на пару з Міхасём Чаротам, які лічыўся упаўнаважаным і з мандатам дэмабілізаванага прапаршчыка ўзяўся кіраваць сканфіскаваным маёнткам. Па дарозе з працы і на працу гаварылі яны, мусіць, не толькі пра гаспадарчыя справы — і той, і другі пісалі вершы. У Менску Жылка пазнаёміўся з Ядвігіным Ш., Змітраком Бядулем, Ігнатам Дварчанінам, Леапольдам Родзевічам. Неўзабаве наладзіліся і асабістыя стасункі з Янкам Купалам, які пачаў наведвацца ў хату Жылкаў, вёў зацікаўленыя гутаркі з бацькамі Уладзіка. Гаворкі з Янкам Купалам, праходкі са старэйшым паэтам па гарадскіх вуліцах, бясспрэчна, наклалі свой адбітак на фармаванне светапогляду Жылкі. Пра адну такую памятную сустрэчу з Купалам Уладзімір падрабязна расказаў брату Барысу. Вось што ўспамінаў малодшы брат амаль праз паўвека, у тым самым лісце да У.Калесніка: «Уладзік расказваў, што зайшлі на скверык, што проці губернатарскага дома на Саборнай плошчы. Там стаяў сляпы жабрак з лерай. Вось яны з ім пагутарылі, далі яму грошай, а пасля сталі прасіць, каб ён зайграў «Лявоніху». Лернік доўга аднекваўся, але пасля таго, як Купала раскашэліўся, сыграў «Лявоніху», а пасля і польку. Засталіся ўсе вельмі задаволеныя — і жабрак, і Купала з братам».

Па словах У. Калесніка, Уладзімір Жылка радасна вітаў абвяшчэнне 25 сакавіка 1918 года Беларускай Народнай Рэспублікі. Пра тое, як блізка да сэрца прымаў паэт незалежніцкія ідэалы, сведчыць і першы надрукаваны 25 студзеня 1920 года ў газеце «Беларусь» верш «Покліч»:

> Пад штандар бел-чырвона-белы
> Гартуйся, раць, адважна, смела,
> Адважных, храбрых ваяроў!
> . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Пад знак Літоўскае Пагоні —
> Абараняць краіны, гоні,
> Народ забраны вызваляць...

У лютым 1919 года Ул. Жылка захварэў. Пайшла горлам кроў, паэт ляжаў прыкуты да ложка, а лекар усё не мог паставіць правільны дыягназ. Прахварэў ён тры месяцы і да таго аслабеў, што ў траўні

без староннняй дапамогі не здолеў хадзіць. Трохі ачуняўшы, паэт падаўся да сваякоў на вёску. Некалькі месяцаў пажыў у бацькавых крэўнікаў у Клецішчы на Случчыне, потым перабраўся да матчынай радні ў Падлессе. Як піша У. Калеснік у кнізе «Ветразі Адысея», «у Падлессі Уладзімір Жылка сустрэў шмат сваяцкай цеплыні, і гэтае адчуванне звычайнай бяспекі і клапатлівасці для яго, хворага і непрактычнага, значыла вельмі многа. Тут ён акрыяў душою, тут мог пасядзець над кнігамі любімых паэтаў — Лермантава, Міцкевіча, Ібсена. Пераклады іх твораў умацоўвалі адчуванне сэнсу жыцця...». Яшчэ з вясковай глушы Уладзімір пачынае дасылаць свае паэтычныя практыкаванні ў віленскую перыёдыку, ягоныя вершы і пераклады былі прыхільна сустрэтыя ў «Нашай думцы» Максімам Гарэцкім. А калі Падлессе ў выніку падзелу Беларусі ў 1921 годзе апынулася пад Польшчай, паэт пераехаў у Вільню.

Як у свой час Максім Багдановіч, Уладзімір Жылка быў зачараваны хараством Вільні. Нібы супольнае імя па бацьку — Адамавіч — служыла ім тым звенчаком-злучвом з назапашанай за вякі агульначалавечай культурай, ад першачалавека да дзён сучасных. Вільня акумулявала ў сабе, не растраціла спрадвечны дух беларускасці, на яе пагорках ацалелі муры, што памяталі вялікіх князёў і Францішка Скарыну. Старэйшы Адамавіч пасля наведвання Вільні мстварыў паэтычныя шэдэўры «Пагоню» і «Слуцкіх ткачыхаў», малодшы — не менш значныя «Палімпсест» і «Уяўленне». Збройны рыцар на кані з віленскай Вострай Брамы «срэбнай збруяй далёка грымеў» у дынамічных радках Максіма. «Шпаркасць коняў Пагоні» надавала імпэту эпічным строфам Уладзіміравага «Уяўлення». Праз колькі гадоў нават злата Прага не здолее прыглушыць у Жылкавай душы віленскіх уражанняў, і паэт створыць велічны хваласпеў месту сваёй любові — «Вершы аб Вільні».

Сярод віленскіх знаёмцаў Уладзіміра Жылкі трэба назваць і імя Ігната Канчэўскага, чыя невялікая кніжачка «Адвечным шляхам: даследзіны беларускага светагляду» (1921), чыталася і абмяркоўвалася ў рэдакцыях «Беларускіх ведамасцяў» і «Беларускага звону», з якімі Жылка наладзіў сталае супрацоўніцтва. І хоць сведчанняў блізкага сяброўства паміж імі не засталося, у некаторых творах Жылкі (верш «Мы любім даўнія паданні...») уплыў філосафа на паэта прыкметна адчуваецца. Ігнат Канчэўскі таксама захварэў у маладым веку, немач збліжала іх, падсвечваючы смутна-трывожным святлом іхнія думкі. І Жылка, пэўна ж, знаходзіў сугучныя сваім подумкам ноткі ў развагах Канчэўскага: «Душа чалавечая, што прыходзіць у свет падзівіцца з яго хараства, што прыходзіць адзін раз у свет, ні да каго не падобная і адзіная на сваім шляху і назаўсёды выходзіць з матар'яльнага жыцця, такая душа чалавечая павінна чуць сваё права жыць і тварыць, як кажа яе сумленне...Чалавечая душа, што прыйшла ў свет адбіць радасць ігры жыццёвых косаў, напаіцца іх цяплом і ласкай, павінна развярнуць усю моц свае творчасці, каб зліцца ў

творчасці, каб зліцца ў творчым тэмпе сусветнага дыхання, сусветнай гармоніі, прысутнасць якой адчувалі зорныя душы піфагарэйцаў, каб потым у жыццёвым стамленні схіліцца ўзноў на ўлонне вялікай Маткі-Матэрыі, Маткі-нявыразнасці, Маткі-непачатасці, поўнай сілы і моцы, поўнай смутку і нераджонага жыцця». Якія блізкія па настрої, па імкненні спасцігнуць патаёмны свет чалавечай душы да гэтых развагаў дзённікавыя запісы Жылкі!

Не мог не пабываць Уладзімір Жылка і ў Віленскім Беларускім музеі, сабраным рупнасцю Івана Луцкевіча. Пад час Жылкавага побыту ў «крывіцкай Мецы» стваральнік музея ўжо спачыў вечным сном у Закапаным, але музей працаваў. Гэта пасля захопу Вільні савецкімі войскамі ў 1940 годзе многія каштоўныя экспанаты зінікнуць у невядомым кірунку, узбагацяць чужацкія калекцыі, і толькі нязначная частка дакументаў апынецца ў Беларусі. Магчыма, верш «Палімпсест» акурат і з'явіўся на свет пасля наведвання Жылкам музея Луцкевіча. У ім паэт правёў трапную аналогію паміж старым рукапісам, першапачатковы сэнс якога схаваны ад чытача, і Беларуссю. І тут і там патрэбна ачысціць праўду ад пазнейшых ілжывых напластаванняў.

У Вільні Уладзімір Жылка блізка сышоўся з Антонам Луцкевічам, які займаў пасаду старшыні Беларускага нацыянальнага камітэта і якога паэт у пісьмах з Прагі будзе называць «даражэнькім дзядзькам». Ратуючы паэта ад польскіх вышуковых службаў, Луцкевіч пасылае яго з даручэннем у Коўна, дзе на той час знаходзіўся ўрад БНР. З Коўна Жылка накіраваўся ў Біршtаны — падлячыцца ў санаторыі, адпачыць там ад надакучлівай палітыкі, якая апошнім часам спрабавала залучыць паэта ў свае цянёты. З Бірштанаў Жылка трапляе ў Дзвінск, дзе спрабуе скончыць апошні клас Беларускай гімназіі. Жыве там ён на кватэры дырэктара І. Краскоўскага. Але неўзабаве, стаўшы ахвярай паклёпу, пакідае Дзвінск і вяртаецца ў Вільню, дзе на кватэры Л. Родзевіча перажывае яшчэ адно абвастрэнне сваёй хваробы.

У 1923 годзе, пры спрыянні Леапольда Родзевіча, Жылка выехаў на вучобу ў Пражскі універсітэт — як стыпендыят чэхаславацкага ўрада. Тагачаснае кіраўніцтва Чэхаславакіі прыхільна ставілася да эмігрантаў з паслярэвалюцыйнай Расіі, запрашала на вучобу прадстаўнікоў іншых народаў. У Празе перад прыездам Жылкі навучалася некалькі тысяч замежных студэнтаў. Беларусаў сярод іх, праўда, было няшмат — каля паўсотні чалавек. Выхадцы з паняволенай Заходняй Беларусі, яны прагна здабывалі веды, спадзеючыся, што калісьці змогуць паслугаваць сваёй Бацькаўшчыне. З часам у Пражскім універсітэце беларускіх студэнтаў пабольшала, але гэта не спрыяла іхняй кансалідацыі.

Уладзімір Жылка спрабуе адразу акунуцца ў студэнцкае жыццё — рэдагуе часопіс «Перавясла», арганізоўвае літаратурныя вечарыны, але хвароба і тут дае пра сябе знаць, і ён вымушаны доўгі

час праводзіць у санаторыях. Пра павагу, якой карыстаўся Жылка ў прыналежных да розных груповак беларускіх студэнтаў, сведчыць ліст М. Чарноцкага, напісаны паэту ў лістападзе 1923 года ў санаторый Квасы: «Браце! Ты просіш, каб я пісаў табе аб тутэйшым жыцці? Але каб ты толькі пабачыў, як яно ідзе — проста жахнуўся б. Нагаворы, плявузганне, лаянка, — куды толькі ні павернешся! Усе як бы згаварыліся, адзін на другога што-небудзь выдумоўваюць! І заўваж да гэтага, пры табе было ўсё спакойна, па-людску. Паехаў ты — усё паехала...». Сябра турбуецца, што санаторый, у якім лечыцца Жылка, не зусім дастасаваны да яго хваробы: «Слухай, браце, што б ты сказаў і як аднёсся, каб тутака распачалі акцыю аб пераводзе цябе ў іншую, добра пастаўленую санаторыю? Кажуць, што праз Чырвоны Крыж гэта мо і ўдасца ўладзіць».

Але сябры найперш бачаць у Жылку абранніка Апалона, у справах літаратурных аўтарытэт ягоны непахісны. Жылка неўзабаве бярэ пад сваё апякунства і наваствораны часопіс «Прамень» — ужо больш паважны, выдаваны друкарскім спосабам. Але чарговае абвастрэнне хваробы — і зноў толькі лісты аднадумцаў бадзёраць, не даюць цалкам зняверыцца ў сваіх сілах. «Моцны, браце, маеш дух, калі жартуеш у час, як кроў з горла ідзе. Добры ты хлопец — маю да цябе асабістую цягу-пашаноту. Але ўсё-ткі, літаратурны конь, — чапляйся за жыццё, беражы жыццё: творчасць тады патрэбная, магчымая, прыгожая і карысная, калі яна родзіцца ад здаровага бацькі (ён) і музыкальнай, у разуменні Блока, маці (яго душы)», — пісаў Жылку яго даўні сябра Леапольд Родзевіч.

Ды човен Харона неадступна плыў наўслед Жылку — па Свіслачы, Нёмане, Дзвіне, Віліі. Кінуў ён злавесны цень і на хвалі Влтавы. Пад час аднаго з прыступаў хваробы Жылка трапіў у больніцу. Часта губляў прытомнасць, трызніў, аднойчы лекары канстатавалі клінічную смерць...Толькі назаўтра санітары выявілі, што ў адным з нябожчыкаў нібыта цепліцца жыццё. Патроху Жылка ачуняў (у адным з тагачасных вершаў апошні радок прагучаў роспачна-пераможным клічам: «Не я — пад тым крыжом!»).

Змучанае хваробай цела адратоўвала родным словам узвышаная душа.

Пры спрыянні Антона Луцкевіча ў 1924 годзе ў Вільні выходзіць Жылкаў зборнік «На ростані». Ягоны лейтматыў — мяжа, скрыжаванне, «капцы канцовыя». Паэт нашуквае свой шлях, упэўнена вызваляючыся ад уплываў (найперш Блока, ягонай «Незнаёмкі», чые парфумныя пахі адчувальныя ў паэзіі Жылкі гэтага перыяду). Яшчэ паэт на раздарожжы, яшчэ не ступіў і кроку ў абраным кірунку, а ўжо цень крыжа кладзецца яму пад ногі:

> На ростані дарогаў многа,
> А лучнасць іх — пахілы крыж.
> І вецер лёгкі на разлогах,
> І неба яснасць, шыр і выш.
> . . . . . . . . . . . . . . . .

І торба вось, і кій дарожны:
Пара ў пуціну мне даўно...
А я — нясмелы і трывожны,
А я — на ростані адно.

*(«На ростані»)*

Зборнік прыхільна сустрэлі пражскія паплечнікі Ул. Жылкі. Не было ўжо тых даўжэзных спрэчак-дыскусій, якія даўмеўся раней навязаць хвораму сябру ў лістах адзін з лідэраў беларускага студэнцкага зямляцтва Тамаш Грыб, разбіраючы Жылкаву паэму «Уяўленне».

Схварэлы і знясілены (стыпендыі не заўсёды хапала, а падзарабляць капаннем бульбы ў прадмесцях Прагі, як іншыя, Жылка не мог), паэт ўсё ж знаходзіць у сабе змогу займацца грамадскай дзейнасцю. Восенню 1924 года ён дэлегуецца на міжнародны студэнцкі з'езд, які праходзіў у Варшаве. У Дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва сярод мноства дакументаў аб пражскім студэнцкім побыце захоўваецца запіска Жылкі з польскай сталіцы «калегу з Прагі»: «Аб'яднанне нацый утварыць можна. Прысылайце мандат мне і ўстаў аб'яднання. Ужо бачыўся ў гэтай справе з украінцамі і грузінамі. Талкавалі і прыйшлі да вынікаў, што аб'яднанне трэба». Плёнам Жылкавай паездкі ў Варшаву сталася прыняцце беларускіх студэнцкіх суполак Прагі і Вільні ў Студэнцкі саюз.

Кажуць, што хворы чалавек бліжэй да Бога. Калі гэта сапраўды так, Уладзімір Жылка амаль увесьчасна знаходзіўся перад Гасподнімі вачамі. Ягоныя вершы да Усявышняга — гэта прызнанні пілігрыма, што выправіўся ў далёкае падарожжа да святога месца, але не ведае, ці хопіць сілы дайсці да запаветнай мэты:

Падарожным, Божанька,
Ды не лёгка йсці:
Не відаць дарожанька —
Цяжка ў беспуцці.

Нашы сёстры, мацеркі
Сэрцам у жальбе,
Пацеры у пацеркі
Ніжуць да Цябе.

*(«Падарожным, Божанька...»)*

Які змястоўны, сапраўды беларускі вобраз: «пацеры ў пацеркі». Малітваператвараецца ў пацеркі, што нагадваюць ружанец, слова малітоўнае ўвечніваецца ў бурштынавыя каралі, жаль людскі набрыньвае слязой беларускай сасны. Ды нават у гэткім выглядзе не заўсёды даходзіць да неба найшчырая малітва, і Жылка, прыгнечаны чарговым прыступам хваробы, загаворвае да Бога ціхмяна-даверліва, як да суседа на прызбе: «Божанька, я так утаміўся, такі цяжкі быў мой шлях, такі пакутны, што я ўтаміўся. Мне скарэй хацелася б памерці. Хутчэй

адпачыць. Я ж маю права аб гэтым марыць, як працаўнік, натаміўшыся за дзень, мае права, павячэраўшы, легчы спаць...»

Але ж паддавацца роспачы і беспрасветнаму смутку паводле хрысціянскіх канонаў — вялікі грэх. І Жылка шукае больш дынамічных інтанацый, спрабуе знайсці ў сваім гукавым арсенале бунтарскія ноты:

Мы мацнеем што ні раз,
Чуюць моц чужы і свой.
Жджэм: надыдзе грозны час —
Будзе радасць, будзе бой.
*(«Толькі той, чый вольны дух...»)*

Паэт вызначае дакладна, у імя чаго ўзводзяцца барыкады, што і ад каго трэба бараніць:

Губляць жа болей немагчыма
І зносіць болей немага:
Народ, Свабода і Радзіма, —
На ўсё прыйшла адна чарга.

Найдаражэйшае, святое —
Ўсё, чым натхнялася душа,
Чужою збэшчана рукою,
Сваволяй скута палаша.
*(«Наш лёс, бы кат з рукой забойнай...»)*

Словы ўдыхтаваныя ў радок, як патроны ў патранташ, гучаць адрывіста-трапна, нібы вайсковыя каманды. Уладзімір Жылка быў не толькі самотнікам, што вечна жаліцца на свой змарнаваны лёс. Калі небяспека навісала над Радзімай, свабодай і народам — гэтай святарнай трыядай, без якое жыць на свеце было б «немага», — ён гатовы быў стаць у змагарскія шыхты. Рука паэта гатова была трымаць і ваярскі меч:

Абцёр пабожна ржу часу благога,
І заблішчаў старых стагоддзяў сон,
І надпіс на клінку, нібы закон, —
«Дарэшты бой!» — зірнуў загадам строга.

І вось няма нясмеласці, разваг.
Для сэрца вернага — чужынцам страх:
Радзімы схоў вартуйце, маткі, сёстры!

Я з грамадой іду па шчасце Вам.
Мой меч зіхціць, непераможны, востры.
Змагуся сам — дык сотням перадам!
*(«Меч»)*

Гэткія вершы ў савецкай Беларусі не карысталіся вялікай пашанай.

З Менску ў Прагу даляталі гукі «Інтэрнацыянала» — і гімн сусветнага пралетарыяту гучаў па-беларуску. Таму не дзіўна, што многія беларускія дзеячы пачалі больш пільна паглядваць у бок Беларусі, а Вацлаў Ластоўскі нават назваў Менск беларускім культурным цэнтрам. Пачынае думаць пра вяртанне на Бацькаўшчыну і Уладзімір Жылка. Напрадвесні 1925 года «даражэнькі дзядзька Антон» прачытае ў чарговым Жылкавым лісце: «Адважуся звярнуцца да Вас за радай у справе чыста асабістай. Чым далей, тым цяжэй падупадае маё здароўе. Варункаў для гэтага аж зашмат: і паганы чэшскі клімат, і заводская Прага, і матэрыяльныя (атрымваем дапамогі самы minimum) абставіны, і, можа, далёка падступіўшая хвароба. Жыццё чым далей становіцца балейшай пакутай. А я маю «на тым боцы» родных, бацьку і матку: жывуць у ціхім, зялёным засценку. І хацеў бы «пад крыжам бацькоўскім сканаць», — прыемней, калі блізкі зачыніць вочы, прыемней гнаіць родную зямлю, і любоў да яе, здаецца, дае ці можа даць права на гэта. Што ж, не аб гэтым летуцелася, але не жалюся. Толькі хацеў бы чуць, як Вы думаеце? Што можаце закінуць проці?».

«Закінуць проці» ў дзядзькі Антона нічога не знайшлося. А тут яшчэ брат даслаў выразку з «Савецкай Беларусі», дзе Жылка называўся «адным з найвыдатнейшых прадстаўнікоў нашых маладых парнаснікаў...». З усіх сяброў адзін Тамаш Грыб выступіў супраць Жылкавага намеру. Больш за паўтара года паэт рупіўся, пісаў сябрам і знаёмым, каб дапамаглі з выездам.

І вось у першым нумары студэнцкага часопіса «Новы прамень» за 1926 год у хранікальным раздзеле з'явілася інфармацыйнае паведамленне: «Ад'езд Ул. Жылкі ў Менск. У пачатку лістапада г.г. выехаў у Менск член рэдакцыйнай калегіі, сябра пражскага «Маладняка», вядомы беларускі паэт Ул. Жылка. Адначасна Ул. Жылка прыме ўдзел у Акадэмічнай канферэнцыі (*па рэформе беларускага правапісу — М.С.*) у Менску, як прадстаўнік рэдакцыі «Праменя».

У Менску Жылка прымае савецкае грамадзянства, працуе літсупрацоўнікам у «Звяздзе», перакладчыкам на Белдзяржкіно, выкладчыкам у музычным тэхнікуме. Пры газеце, дзякуючы Жылку, пачынаюць гуртавацца маладыя таленавітыя пісьменнікі, перыядычна з'яўляецца літаратурная старонка. На Белдзяржкіно паэт перакладае фільмы на беларускую мову. У гэтай афіцыйнай структуры, якую таксама закранула беларусізацыя, не заўсёды ягоная праца знаходзіць поўнае разуменне. Напрыклад, адзін з герояў фільма «Вінаваты» з падказкі Жылкі гаварыў не зусім зразумелую для чыноўнікаў фразу: «Ён дажывотна пасаджаны ў турму». Паэт мусіў даваць тлумачэнні. У музычным тэхнікуме ён знаёміцца са студэнткай Рымай Маневіч, якая неўзабаве стане ягонай жонкай. Апеартыўна выходзіць з друку і новы паэтычны зборнік Жылкі «З палёў Заходняй Беларусі». Здавалася б, жыццё пачынае ўваходзіць у патрэбную каляіну.

Але эстэцкая паэзія Уладзіміра Жылкі не магла прыйсціся да двара савецкаму крытычнаму афіцыёзу, для якога ўзорам у

вершапісанні былі радкі накшталт броўкавых: «Я хачу, каб слова падносіла цэглу, а вершы ў альбом і хто іншы напіша».

Асабліва вызначыўся крытык Тодар Глыбоцкі. У рэцэнзіі, апублікаванай у другім нумары часопіса «Полымя» за 1928 год, ён добра-такі патаптаўся пралетарскімі ботамі па далікатнай паэзіі Жылкі, ніцавока аглядаючыся на бакі. Папракнуўшы паэта за «архаічную» мараль, «паганую» мову, высунуўшы яму абвінавачванне ў апяванні «бел-чырвона-белага сцягу», крытык зрабіў безапеляцыйную выснову: Жылка «чужы нам па форме і ідэёваму зместу».

Гэтае прачытанне, пэўна ж, не дало вялікай радасці паэту. Неўзабаве ён быў вымушаны паехаць, як патрабавалі дактары, на беразе старажытнай Таўрыды, у прытульна-страхотлівую для ўсіх сухотнікаў Ялту. Блукаў па схілах Аўцкіх могілак, шукаў магілу Максіма Багдановіча, прыгадваў любімыя радкі: «У родным краі ёсць крыніца...» Ці даўно і ён гэтак думаў, спрабуючы выбрацца з Прагі... Але на радзіме ў крыніцы з жывой вадою падчашыя ад савецкай літаратуры цэбрамі лілі ідэалагічную цыкуту.

Пакуль Уладзімір Жылка папраўляў здароўе ў Крыме, у роднай сталіцы наспявалі вялікія падзеі. У лісце ад 15 сакавіка 1930 года стрыечны брат паэта, супрацоўнік рэдакцыі «Беларускай вёскі» П.Рагачэўскі з іроніяй паведамляў у Ялту, што на радзіме не змаўкаюць класавыя баі з кулакамі і з усімі астатнімі рэшткамі капіталізму, ідзе штодзённае клеймаванне замежнай буржуазіі і фашыстаў розных масцей і колераў. Апісваючы літаратурнае жыццё, сваяк цытаваў «неабуржуазнага паэта» Уладзіміра Дубоўку:

Не кліч на спрэчкі думнае грамадства,
Бо спакайней ты пражывеш на свеце.
Для справаздач хапае ў нас мастацтва,
І вершы ў выпісах чытаюць дзеці.

І не кажы, што ціха на Парнасе:
Трашчыць і верашчыць — без скуры лезе.
Сядзяць там у нязнанай апранасе,
Быццам гомо ці люпусы дзе ў лесе.

І сапраўды, падгасподнікі Парнасу часам забываліся на чалавечую чуласць і спагаду да бліжніх, нібыта насамрэч кіраваліся сумным лацінскім выслоўем: Homo homini lupus est.

Для пацвярджэння інваліднага пасведчання Уладзіміру Жылку спатрэбілася нейкая даведка. Хворы паэт у лісце з Ялты папрасіў П.Рагачэўскага наведацца ў адпаведныя ўстановы. Вось як апісаў стрыечны брат сваё няўдалае хаджэнне: «Я накіраваў амерыканскія наскі сваіх чаравікаў на парнас «Узвышша». Там сядзелі ў задуме два сучасныя і найбольшыя «ўзвышаўскія» багі — Крапіва і Глебка. Багі ўпарта думалі і нешта паміж сабою рахаваліся. Хоць, кажучы напраўду, мне і не хацелася парушаць іхнія вялікія думы рознымі драбніцамі, але я

быў вымушан... Я прыйшоў па даведку...Бровы багоў падняліся і насупіліся, ілбы наморшчыліся. Выгляд іхніх абліччаў абярнуўся ў пытальнік: — Для каго? — Я здэтанаваўся. — Божа збаў, толькі не для мяне... Для Жылкі... Для Уладзіміра Жылкі, што ён нікога не эксплуатаваў, не эксплуатуе і не збіраецца эксплуатаваць...

Аблічча галоўнага бога расплываецца ў вясёлую ўсмешку:

— Адкуль мы, — кажа ён, — калі разважаць прынцыпова, ведаем, што ён нікога не эксплуатаваў?»

Па вяртанні на радзіму Уладзімір Жылка ўжо нідзе не працуе, яму наклалі пнеўматоракс, штодзень ён павінен наведвацца ў лякарню для адпаведных працэдураў. Але для «люпусаў» з чырвонымі зоркамі на аколышах не існавала падзелу на здаровых людзей і інвалідаў — усіх лічылі ворагамі народа...

Паэту Уладзіміру Жылку першаму з «Узвышша» выпаў «гонар» прымераць церневы вянок пакутніка — яго арыштавалі 18 ліпеня 1930 года. Праз два дні ў Маскве, проста на службе ў Крамлі ўзялі Уладзіміра Дубоўку. Яшчэ праз чатыры дні ступілі на крыжовы шлях Язэп Пушча і Адам Бабарэка...

Жылка адмовіўся падпісаць акт абвінавачвання аб сваёй прыналежнасці да міфічнага Саюза вызвалення Беларусі. Пасля медыцынскага агляду чэкістам стала зразумела — у турэмных умовах падследны можа не дажыць да абвяшчэння прысуду. Праз месяц пасля арышту Жылку вызваляюць з-пад варты. У. Калеснік у сваёй апошняй прыжыццёвай кнізе «Усё чалавечае» прыводзіць тэкст падпіскі аб нявыездзе, напісаны рукой паэта:

«Я, нижеподписавшийся, Жилко В.Адамович, даю настоящую подписку Государственному Политическому Управлению Белоруссии в том, что я обязуюсь:

1. Никуда без ведома означенного выше управления из города Минска не отлучаться;

2. По первому требованию являться как по вызову ГПУ, так и судебных органов;

3. Хранить в строжайшей тайне сущность моих допросов следствия и вообще все то, что мне стало известно за время моего пребывания в ГПУ;

4. Проживать буду по ул. Чичеринской, дом 7, кв.1 или на даче в д. Боровое у гр. Толстика.

В случае перемены адреса немеденно обязуюсь известить об этом ГПУ...».

Лішне казаць, з якімі адчуваннямі і прадчуваннямі апынуўся Уладзімір Жылка на часовай волі. Сябры — за кратамі, цэлы мех ягоных рукапісаў знік у нетрах ДПУ. Па Менску адна за адной пракочваюцца хвалі арыштаў. Жах і ўсеагульнае падазрэнне нявечаць людскія душы, сусед абгаворвае суседа, брат паклёпнічае на брата. Асабліва варожае стаўленне да тых, хто прыехаў з Заходняй Беларусі, ці, крый Бог, яшчэ з далейшага Захаду. Усе яны маглі быць шпіёнамі, засланымі ў краіну саветаў замежнымі разведкамі...

Калі Жылка яшчэ ўтрымліваўся ў бальшавіцкай вязніцы, сябры вырашылі хоць неяк яму дапамагчы. Лукаш Калюга звярнуўся да Кузьмы Чорнага, і паважаны пісьменнік адказаў, што грошай не шкада, але боязна.

Брат паэта Барыс Адамавіч у цытаваным вышэй лісце да У. Калесніка прыгадваў і такі эпізод: «Уладзік сустрэў Купалу, яны прыселі і пачалі гутарыць, да іх падышоў Колас, і гутарка зацягнулася надоўга. Пасля Колас усхамянуўся, падняўся, падышоў да Купалы і Уладзіка (яны сядзелі поруч), абняў іх, кожнага пацалаваў і сказаў: «Як я вас, браткі, люблю»».

На волі паэту пабыць давялося нядоўга. Неўзабаве яго зноў арыштавалі і 10 сакавіка 1931 года абвясцілі судовы вырак — пяць гадоў высылкі ў горад Уржум Кіраўскай вобласці.

Акурат у тым самым месяцы другі савецкі арыштант Уладзімір Дубоўка перакладаў у турме «Шыльёнскага вязня» Байрана. Гэта быў не проста пераклад, гэта быў нібы роспавед пра іх, зняволеных паэтаў-узвышаўцаў:

> Нас разлучыў, скаваў ланцуг,
> але злучыла сэрца, дух.
> Для нас зняволены былі
> акрасы неба і зямлі,
> ды вораг мову ўзяць не мог,
> яна лунала праз астрог,
> нясла уцеху, песню, сказ,
> надзеі кволіла для нас...

Магчыма, перакладаючы наступныя радкі, Дубоўка ўяўляў сабе бледнае аблічча свайго схварэлага сябра, якому яшчэ ў 1926 годзе зрабіў гэткі надпіс на зборніку «Трысцё»: «Брату і другу Уладзіку Жылку. З любоўю Ул. Дубоўка».

> Ён спатыкаў свой цяжкі лёс
> пакорна, ціха і без слёз.
> Ён сумаваў па тых, мой брат,
> каго кідаў тут, каля крат,
> і кпіў са смерці ён самой,
> нібы ружовасцю сваёй.
> Ружовасць ад ягоных шчок
> знікала паступова ў змрок,
> нібы ў вясёлкі прамяні...

Цікава, што і Уладзімір Жылка ва ўржумскай ссылцы, засведчыць пазней Мікола Улашчык, таксама перакладаў з нарвежскай мовы верш пра зняволеных сяброў, якія паміралі адзін за адным...

Ва Уржуме паэт уладкаваўся выкладчыкам расійскай літаратуры і загадчыкам гаспадарчай часткі (па сумяшчальніцтве) у мясцовым медтэхнікуме. Нягледзячы на тое, што стаўленне да Жылкі з боку адміністрацыі тэхнікума, выкладчыкаў-медыкаў і гаспадароў, дзе ён

кватараваў, склалася паважлівае, ён усё больш занепадаў, часта тэмпературыў. Сябры, што адбывалі высылку ў навакольных паселішчах, стараліся падтрымаць паэта духоўна, а аднойчы прапанавалі яму пакінуць непасільную працу і жыць на таварыскія складкі. Жылка адмовіўся. Таварышы на волі таксама шукалі шляхоў дапамагчы згасаючаму паэту. Фелікс Купцэвіч звярнуўся з лістом да Янкі Купалы (захаваўся не датаваны чарнавік):

«Паважаны Іван Дамінікавіч!

Неабходнасць ратаваць жыццё чалавека прымусіла мяне звярнуцца да Вас па дапамогу. Рэч ідзе пра Уладзіміра Жылку — беларускага паэта і грамадзянскага дзеяча... У дадатак да хваробы, якая, відаць зусім дабівае яго, ён застаецца абсалютна адзін. Няма каму нават падаць шклянку вады. Жонка яшчэ летам уцякла, адмовілася ад яго, кінуўшы на волю лёсу хворага і непрыдатнага да работы.

Просьба мая будзе ў тым, каб Вы самі, альбо праз некага знайшлі патрэбным сказаць у Менску нашым кіраўнікам пра лёс гэтага няшчаснага чалавека. Больш за ўсё хацелася б дабіцца пераводу Уладзіка ў той горад, дзе былі б свае людзі, якія маглі б хоць збольшага за ім даглядаць. Такім найбліжэйшым горадам у адлегласці якіх усяго 60 км ад Уржума будзе Налінск. Тамтэйшая беларуская калонія з радасцю бярэ яго на свае рукі. Астаноўка толькі за адміністрацыйным дазволам на пераезд. Калі б Вы дапамаглі дабіцца гэтага дазволу, то гэтым многа палепшылася бытаванне аднаго з неапошніх сыноў Бацькаўшчыны» (ліст выяўлены ў архіве КДБ Рэспублікі Беларусь У. Міхнюком і М. Клімовічам.)

Невядома, ці дайшоў ліст-просьба да адрасата і якім было рэагаванне народнага песняра. Але сёння вядома, што і Янку Купалу інкрымінаваўся ўдзел у міфічным Саюзе вызвалення Беларусі, што і яго змусілі пісаць пакаяльныя і нават перадсмяротныя лісты. Тым не менш напрыканцы лютага 1933 года Жылка атрымаў дазвол выехаць на поўдзень. Але бальшавіцкая літасць запазнілася — 1 сакавіка паэт памёр. Човен Харона, заплыўшы ў раку Вятку, усё ж дапільнаваў сваю доўгачаканую ахвяру.

Уладзімір Жылка так і не пабачыў сваёй трохгадовай дачушкі Беаты, якую выхоўвала бабуля Таццяна Ануфрыеўна. Як найдарагую рэліквію да самой смерці захоўваў ён дзіцячую цацку-бразготку і кудзерку яе валасоў, перавязаных тасёмкай.

Пройдзе час і Беата — Наталля Уладзіміраўна Лазарава супольна з дзядзькам Барысам зробяць усё магчымае, каб ушанаваць памяць бацькі і брата. Імі будуць напісаны сотні лістоў у Браціславу, Ленінград, Маскву, Мінск, Уржум з адзінай просьбай — захаваць кожнае каліва ўспамінаў пра Уладзіміра Жылку. Барыс Адамавіч наведае месца апошняга спачыну паэта і паставіць сціплы помнік на ягонай магіле. З іхняй перапіскі з У. Калеснікам відаць, як паступова, крок за крокам, памяццю дзесяткаў людзей, аднаўляўся жыццёвы шлях Уладзіміра Жылкі. Не заўсёды знаёмыя і сябры паэта пасля

безлічыператрусаў маглі дапамагчы ў пошуку згінулых кніг і рукапісаў. Дрыготкай рукой 86-гадовага старца напісаны ледзь чытэльны ліст ад 24 снежня 1966 года на слуцкі адрас Б.А. Жылкі з Саратава — ад Язэпа Дылы: «Калі ў 1931 годзе я быў пазбаўлены Бацькаўшчыны і выехаў на Урал, я не мог нічога з беларускіх твораў узяць з сабою і ў мяне асабіста зараз нічога няма з выдадзеных твораў Вашага брата. Я магу Вам дапамагчы толькі ў чым? Дам Вам бібліяграфію...»

У каляполацкую Палату, дзе жыла Наталля Уладзіміраўна, ішлі лісты з Масквы, напісаныя імклівым почыркам Уладзіміра Дубоўкі: «Дарагая Наташа! Атрымаў Ваш ліст. Пабываю ў Ленінскай бібліятэцы і даведаюся наконт зборніка «З палёў Заходняй Беларусі». Калі зберыцёся ў Маскву — заходзьце... Дасылаю Вам праект ліста ў газету — па гэтым жа пытанні. Праўда, такія лісты павінен даваць Саюз пісьменнікаў, але паколькі яны не дадумаліся — зрабіце Вы. Карысць можа быць вялікая — у сэнсе адшукання матэрыялаў... Я так і не ведаю, ці былі Вы ў Мінску, ці бачыліся з кім па справах літаратурнай спадчыны свайго бацькі: Якія вынікі? Калі будзеце мець часу — напішыце мне пра гэта. З вялікаю пашанаю да Вас — Уладзімір Дубоўка»(ліст ад 4 студзеня 1964 г.).

Бацькава калыханка лунала над немаўлячай калыскай Беаты-Атачкі, бацькава слова вечна гучыць і над апошнім прытулкам Наталлі Уладзіміраўны — на могілках у Палаце на белай мармуровай пліце выбіты родны радок: «*У маім маленні адзіная ты*». Адышоў у лепшы свет наўслед за братамі і Барыс Адамавіч — руплівы летапісец немалога роду Жылкаў.

Доўгі час вяліся дыскусіі вакол апошняга твора Уладзіміра Жылкі «Тастамента». Многіх літаратуразнаўцаў насцярожвала яго першапублікацыя ў «Беларускай газеце» (Мінск, 1942), у некаторых выклікаў сумнеў занадта пафасны ўступ, нібыта не характэрны для творчай манеры паэта, а нехта ўвогуле лічыў твор падробкай. Нават найдасведчаны У. Калеснік выказваў некаторыя сумненні, шкадуючы, што аўтарскі арыгінал «Тастамента» незваротна страчаны. Але ж рукапісы не гараць! У архіве Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку перахоўваецца аўтограф «Тастамента», уратаваны для нашчадкаў у страшныя 30-я гады гэткім жа ссыльным Яўхімам Кіпелем.

Уся творчасць Ул. Жылкі — своеасаблівы тастамент нашчадкам пра веліч Прыгажосці, пра яе ратавальную місію сярод зямнога непрывабнага жыцця. Паэт ішоў наўслед за еўрапейскімі рамантыкамі, пераствараў іх па-беларуску, працягваў распачатую Багдановічам справу. Потым з падказкі таго ж А. Луцкевіча за творцамі падобнага кшталту замацуецца вызначэнне «песняры чыстае красы» — але ці бывае краса мурзатая? Пасадзіў жа Ул. Жылка «лілею між балот». І яна пасярод «ціны бруднае і плесні» змагла захаваць сваю адпрыродную чысціню (верш «Душа мая тужлівая»...). Ул. Жылка сваёй

творчасцю як бы паспрабаваў падвесці рысу пад даўняй нашаніўскай дыскусіяй, якая акрэслівалася багдановічаўскім радком «кінь вечны плач свой аб старонцы». Тэма гэтая, аднак, і ў 20-я гады не атрымала свайго канчатковага завяршэння. Цэлая літаратурная арганізацыя паспрабавала не словам, а чынам пацвердзіць слушнасць багдановічаўскіх пачынанняў, але сузіранне і спасціжэнне красы — занятак не гуртавы. У творчых адносінах кожны з сяброў «Узвышша» быў сам па сабе. І наўрад ці Ул. Жылка, прыехаўшы з Прагі, шукаў паэтычнай гаманкой сябрыны, наўрад ці быў ахвочы па-«маладняцку» спяваць у хоры. Праблемы прыстаць да якога рая для яго ніколі не існавала, хутчэй самі раі навыперадкі стараліся залучыць таленавітага паэта да сябе.

Сёння ўжо відавочна, што савецкі перыяд у творчасці Ул. Жылкі не вызначаўся асаблівым плёнам. Паэт, творчым крэда якога былі напісаныя ў Празе радкі «няма збавення апроч пекнаты», вымушаны быў пісаць газетныя артыкулы пра Горкага і Някрасава, рыхтаваць святочныя паэтычна-партыйныя літстаронкі ў «Звяздзе». Часам не хапала «высокаідэйных» твораў, прыходзілася пісаць самому. Напэўна, Жылка разумеў, што «Песня дзесятых угодкаў» — здрада самому сабе, сваім эстэтычным прынцыпам. А лірычныя вершы пісаліся ўсё радзей і радзей. Ды наўрад ці хто ў ахопленай сацыялістычным шалам Беларусі заўважаў трагедыю яшчэ аднаго паэта-мройніка. Наадварот, сябры нязлосна пакеплівалі з ягоных ранейшых вершаў. А Жылка наіўна спрабаваў дастасаваць уласныя высокія крытэрыі ацэнкі мастацкага твора да ўсяго тагачаснага беларускага пісьменства, ушчуваў калегаў за моўную неахайнасць, незнарок ублытваўся ў гарачыя спрэчкі, далекаватыя ад сапраўднай літаратуры.

Яшчэ ў Празе Ул. Жылка як бы прадбачыў сваё жыццё ў сталіцы савецкай Беларусі. У адным з лістоў да Антона Луцкевіча ён супакойваў самога сябе, палагоджваў уласныя сумневы: «Я хачу сказаць, што маю права пісаць не толькі ўра-патрыятычна-пралетарскія рэчы, але й заставацца ў самотным ціхім храме Хараства». Паэт марыў напісаць і выдаць кніжку з матывамі кахання, смерці, прыроды, дзе б не было ніводнай рыфмы «гэй, наперад», спасылаўся на французаў і немцаў, якія выдаюць кніжкі такога кшталту штодня.

Паэт з еўрапейскай адукацыяй, ён і тварыў у рэчышчы еўрапейскім — у ягонай творчасці натуральна глядзеліся пентаметры і гекзаметры, санеты і вірале, верлібры і белыя вершы. Жылка напісаў першы ў беларускай літаратуры верш з кансананснай рыфмоўкай, спрабаваў стварыць новыя вершаваныя формы. Веданне антычнай літаратуры, класічнай французскай, нямецкай, чэшскай, польскай паэзіі, пэўна ж, падвышалі Жылку ў вачах былых студэнтаў педтэхнікумаў і рабфакаў. Мо хто і паглядаў скоса, але куды больш было захаплення і таварыскай спагады. Зычліўцы залічылі паэта да бясспрэчных мастакоў слова, называлі ў друку новым Багдановічам.

Ул. Жылка ведаў пра сваю хваробу, ўспрымаў наканаваны лёс спакойна, нават такую непаэтычную з'яву як смерць не цураўся пускаць на цвінтар свайго ціхага храма. А як жа — спрадвеку ў храме не толькі благаслаўлялі на новае жыццё, але і адпявалі. Смерць мелася быць адным з матываў задуманай ім кнігі. Яе, каго паэты звыклі маляваць кашчавай і бяззубай, паэт называе жаданай госцяй. Ягоная цудоўная элегія «Смяротны пах» гучыць як прычашчальная малітва. Напярэдадні з'яўлення на Беларусі новай літаратурнай плыні вітаізму (што абазначыцца творчасцю Я. Пушчы, Ул. Дубоўкі, А. Бабарэкі) Жылка як бы пачынаў ад адваротнага, спавядаючы *мартызм*. Паэт знаходзіў хараство ў букеце завялых кветак, у гаснучай восеньскай прыродзе.

Уладзімір Жылка усведамляў, да чаго пакліканы і стараўся як мага менш збочваць з раз і назаўсёды абранае сцежкі. І акурат гэтая сцежка за ягонай спінай ператварылася ў шырокі гасцінец, прайсціся па якім светла і радасна, бо вядзе ён да вымраенага паэтам храма.

Як сведчыць Дубоўка, Уладзімір Жылка, часта паўтараў лацінскае выслоўе: «Vivera memento!» — «Памятай пра жыццё!». Ён да апошняга дня верыў, што яму ўдасца выехаць з гіблага Уржума ў сонечны Крым, акрыяць і пісаць, працаваць дзеля светлага рання Беларусі. Але уласныя вершы, нібы зачараваныя ў шчадроўскую ноч на варажбітным стале рэчы, рабіліся непаслухмяныя, паказвалі на іншае. Яшчэ ў 1931 годзе Уладзімірам Жылкам быў напісаны своеасаблівы подступ да «Тастаменту» — «Верш развітання» з прысвячэннем: «Феліксу Купцэвічу, сэрцу, раздзертаму болем па Бацькаўшчыне»:

Мо затым, каб навек непарушна,
Каб навек зліўся з краем мой дух,
Маё вернае сэрца, ты слушна
Закавана ў пакуты ланцуг!..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Дык бывай жа здаровы, каханы,
Зацвітай і красуй у вякох!
Скажуць людзі: як ліст адарваны,
Па табе я ў чужыне засох.

Верш-рыданне, верш-супакаенне...

Паэт выкарыстаў лермантаўскі вобраз адарванага лістка, пэўна, ажывіўшы ў памяці свае юначыя пераклады паэзіі вялікага бунтара.

Сэрца Уладзіміра Жылкі таксама кроіў пякельны боль па паняволенай Бацькаўшчыне. Ды яно, знясіленае, поўнілася мужнасцю і ахвярнасцю, праменілася любасцю да высокай горняй красы і зямнога дольняга жыцця. Паэт не пражыў і трыццаці трох гадоў, вершам жа ягоным наканаваны нашмат даўжэйшы век.

*Міхась Скобла*

## ЗГІНЬ, НЯДОЛЯ

> Згінь, нядоля. Ідзі, прападзі!
> Хай адпадзе ланцуг твой ад нас.
> Ветрам-бурай змяці, адыдзі!
> Ўжо даволі накпіла ты з нас.
> Дык ідзі ж, прападзі, каб цябе не было,
> Ўжо даволі і так ўсё слязьмі заплыло!
> Ох, даўно агонь шчасця пагас.
> Дык жа згінь, не пануй ты між нас!
>
> *Янка Магутны*[1]

Многа мі́нула год,
Як завём свой народ,
Як мы клічам яго
Панам стаць сваяго.
Песням, казкам уняць,
Старадаўні тон ўзяць, —
Тую славу ўскрасіць,
Што ў капцах ціха спіць.
Путы, ёрмы пазбыць,
Вольна й шчасна зажыць.
Ды не ўчуў наш народ
Гэты кліч з году ў год.
А ў суседніх краёх
Падымаўся, хто мог:
І стары, і малы
Йшоў на зоў грамавы,
Новы шлях пракладаў,
Будучыню каваў,

Неумоўчна званіў,
Што не ўмёр, яшчэ — жыў!..
Чаму ж ты не ўстаеш,
К волі светлай не йдзеш?
Ці ты волю забыў?
Ці ўжо выбіўся з сіл?
Ці напасці цябе
Не завуць к барацьбе,
Што цярпіш многа год,
Мой гаротны народ?!

*1918*

## БЕЛАРУСЬ

Беларусь, Беларусь — гэты зык
Паліць душу маю, як агнём.
Я не ведаю, чым ён вялік,
Але думак не змог я аб ём.
Як пачую яго, задрыжыць
Маё сэрца, заные ў грудзях,
І балюча так робіцца жыць,
І шукаеш чагосьці ў людзях.

Беларусь, Беларусь... гэтых слоў
Пойме музыку, хто ўсёй душой
Іх магутны, тужлівы іх зоў
Зловіць думкай сваёю жывой, —
Затрапеча, бы ранены, ён,
Задрыжыць пад навалаю дум:
Гэткі страшна-пакутны іх стогн
І аб волі бязмерны іх сум.

Беларусь, Беларусь — гэта дзей
І разумных, і слаўных прыклад;
Край вялікіх і дум, і людзей,
І бяздольна схіліўшыхся хат,
Дзе нядоля і гора спрадвек
І беднота сярмяжных жывуць,
Крыўда дзе, паняверка і здзек
Краскай макавай ярка цвітуць.

Беларусь — край замчышч, курганоў,
Дзе таяцца страхоцці і звод,
Дзе русалкі выходзяць з віроў
І начніцы вядуць карагод,
Дзе пад шум каласоў ведзьмары
На палетках заломы кладуць
І ў купальскую ноч у бары
Забабоны ў пацёмках снуюць.

*1920*

## ПОКЛІЧ

Пад штандар бел-чырвона-белы
Гартуйся, раць, адважна, смела
Адважных, храбрых ваякоў!
І ўспомняцца старых вякоў
Паходы мужныя у славе,
Часы Альгерда[1], Ізяслава[2],
Грунвальдскі з немцам бой!
І боек даўні цяг з Масквой!

Пад знак Літоўскае Пагоні —
Абараняць краіны гоні,
Народ забраны вызваляць,
Ісці к святлу, святлом палаць —
Спяшайся той, хто к волі рвецца,
Ў кім беларуса сэрца б'ецца!
Збірайцесь — ўсе, як бы адзін, —
Арлы радзімых пушч, нізін!

Не плач, не плач па сыну, маці, —
Сягоння сорам быць у хаце,
Бо ўзнят за волю грозны меч,
Бо хутка будзе злая сеч,
Няхай і ён, юнак адважны,
Ідзе туды, дзе б'ецца кажны
За волю новую без слёз,
За лепшы Бацькаўшчыны лёс.

Пад штандар кожны здатны, гожы,
Досць нас наезнікам варожым
Трымаць ў прыгоне, беднаце,
Смяяцца нашай цемнаце,
Багацце краю нішчыць, пляжыць —
Чужынцу годзе намі княжыць
І карыстацца з нашых плеч!..
Мы к волі йдзем — з дарогі прэч!..

*1920*

## Я КАХАЎ

Я кахаў... Ах, калісьці даўно я кахаў!
Аж тады, калі моладасць ззяла ў вачах,
Калі гора і смутку я, дужы, не знаў
І адвага кіпела ў грудзях, —
Шчэ тады, аж тады я кахаў!..

Але збег і загінуў, як мара, той час:
Пагубляў я ўсе радасці год маладых
І сябе, і жыццё праклінаю не раз...
А цяпер, як у небе пас зор залатых,
На шляху маім свеціць той час.

*1920*

## МАТЫЛІ

Помню — хлопчыкам маленькім
Падабаў я зелень ніў
І на пожні, каля рэчкі,
Матылёў лавіць любіў.

Так у гульнях і забавах
Дзень за дзень міналі ўслед,
А у ночку на Купалле
Ў лес шукаць бег агняквет.

А цяпер, калі шукаю
Праўды, шчасця для людцоў,
Ці не тое ж дзіцяня я,
Што лавіла матылёў?

*1920*

* * *

Мы любім даўнія паданні,
Быліцы сівых песняроў.
Няхітры іх апавяданні
Аб справах мінулых часоў.

Нам даспадобы чэрпаць веду
Гісторыі з пажоўклых кніг;
З рукóпісаў пра быт прадзедаў
Даведацца, што сведчыць мніх.

Прыемна нам дзядоў надзеі,
Іх тайны думы адзначаць,
Вялікія ў мінулым дзеі,
Дзе й як змагалась наша раць.

Шануем мы бацькоў імёны:
Навука й прыклад нам яны;
І помнім мы і веча звоны,
І вольнасць роднай стараны;

І нат мамэнты заняпаду —
Ў далёкім сумныя лісты —
Распазнаваць нас вучаць здраду
І родзяць помсты гнеў святы.

Але нам будуць ўсё ж мілейшы
Часы, калі з нізін, балот
З надзеяй ў шчаснасць дзён святлейшых
Устане ўзбуджаны народ.

Не відна йшчэ у завірусе,
Куды ляжыць ягоны шлях,
Але дух творчы ў Беларусі
Жыве й змагае долі жах.

І, можа, толькі той збаіцца
Падзей вялікіх нашых дзён,
У кім жыцця не б'е крыніца,
Хто спіць і здолець недуж сон.

*1921*

## ЗАМЧЫШЧА

Наўкола роў, травой паросшы і шырокі,
За ім астача сцен зруйнованых замковых...
Тут князь калісьці жыў багаты, ганаровы,
І слава-чутка йшла аб ім у свет далёкі.

Цяпер жа сумна мур глядзіцца адзінокі,
Ў праходах вецер рве, здзьмухае пыл вяковы,
Ўначы стагнаннямі і плачам страшаць совы,
І кажаны лятуць на дзень ў цвілыя лёхі.

А ў вёсцы блізкай дзед старэнькі бае, сівы,
Пра страхі розныя, што там таяцца, й дзівы
Начніц, што пацеркі нанізваюць з расы

І на шляху снуюць і сеюць спеў жуды;
Ды аб княжне дзіўной, нябачанай красы,
Ў замковай вежы век згубіўшай малады.

*1921*

* * *

Вельмі шаноўны пан Рэдактар![1]
Дару Вас крэйзаннем сваім.
А гэта досі важны фактар —
Павінны вы згадзіцца з тым, —
Каб не пісаць звычайнай прозай,
А ўціснуць думку ў гучны «мэтр»,
Хоць розум кажа мне з пагрозай —
Ад дурня я на сантыметр.
Ды ўсё ж хацеў бы мець надзею
(Мо шчырасць гэтка пану ўперш),
Што добрым будзе пан суддзею
І не асудзіць гэты верш.
А прачытаўшы ўважна тыя,
Што я пры гэтым дадаю,
І прысудзіўшы: «не благія»,
Ў газету змесціць іх сваю.
Калі ж і ў мілы панскі кошык
Перападзе якая рэч, —
Не будзе крыўдна ні на грошык,
Хоць стоража шкадую плеч.
А нумар з творам маім першым
Сюды дайшоў — прыемны яў.
Але пара мне кончыць з вершам.
Калі ж што лішняе сказаў,
Хай мне даруецца абмылка.
Затым з пашанай застаюсь
Ўладзімір, сын Адамаў, Жылка,
Па волі лёсу беларус.

*1921*

* * *

Люблю, не знаючы пуціны,
Ісці праз лес, балота, гаць,
Мінаць квяцістыя нізіны,
Пад грушай ў полі спачываць;

Спаткаць між жыта крыж пахілы
І старца з хлопчыкам малым,
Звыча́й шануючы мне мілы:
«Дабрыдзень!» — прывітацца з ім;

Прайсці ўздоўж вёскі беднай, шэрай
З панурым радам сумных хат,
І думаць: як ты тут ні мерай,
А ў беднаце гаруе брат;

І напаткаць руіны ў полі,
Дзе мох на рэшце сцен узрос,
І занудзіцца мімаволі,
Згадаць замчышча сумны лёс;

Не зразумець, чаму руіны
Ў сабе таёмны тояць жах,
І ці не светлы для Краіны
Відаць наперадзе ўжо шлях?

*1921*

## КАХАННЕ

З'явілася, і чую сіл крыніцу,
І думы незвычайныя мае, —
То боль жыцця, то лёгкасць смерці сніцца,
І сэрца незнаёмае пяе.

Яна ж красой варожыць, чараўніца:
Як гады, віснуць косы з плеч яе,
А вочы з-пад павек — з-за хмар зарніца,
І тайнасць складак вопраткі заве.

Атручан хмельным соладам кахання,
На кліч таёмны йду без дум, пытанняў
Вітаці светлавокую Лауру.

А з вуснаў шчырых рвецца ўжо санет
Гучны́, нібы віхор свавольны ў буру,
І радасны, бы ўлюблены паэт.

*1921*

## ДЗЕД

Патухшымі вачыма
Глядзіць на божы свет
Стары, у крук сагнуты
Як голуб, белы дзед.

Пражыў на свеце многа:
Без нечага сто год,
За век пабачыў гора,
Нямала вынес слот.

Калісьці, да паўстання,
Рабіў, цярпеў прыгон...
К нямцом не раз віціны[1]
Ганяў па Нёмне ён.

Меў сілу непамерну,
Здаровы быў, як мур,
Таму так жыва, з песняй
Арэ сын родны шнур;

Таму так — шчыры ў працы —
Будуе Край унук,
Адважны і бясстрашны,
Не пакладае рук.

А дзед жыве мінулым,
Таемным і глухім,
Гаворыць-бае казкі
Аб даўнім і сівым:

Пра войны. панства, войтаў,
Русалак і начніц. —
І хараством чаруе
Няхітры склад быліц.

Ды часта паглядае
За вёску ён... туды,
Дзе між бяроз пад крыжам
Спачыне ад бяды.

Ды хоць стары, а думку
Гадуе ўсё адну:
Хоць перад смерцю ўбачыць
Свабоднай старану.

*1921*

## ПРАЛЕСКІ

Маці-зямля радзіла іх
Ад першых пацалункаў сонца.
Між зёлак леташніх, сухіх
Яны ў бары ўзышлі ў старонцы.

Шумяць штоазу весялей
Над імі хвоі аб прадвесні,
І вецер штодня ласкавей
Іх песціць і пяе ім песні.

І хоць зімы відаць сляды,
Яшчэ марозіць часам ночкай,
Ды больш не страшаць халады.
І верыш мілым сінім вочкам;

І любы так бясконца мне
Яны, з усмешкай ціхай дзеці...
Пара іх, кволых, праміне,
Прайдуць яны, як ўсё на свеце.

Але ўжо мкне душа мая
У сіню даль, за пералескі,
І ў сэрцы ўсходзяць — чую я —
Тугі вяснянае пралескі.

*1921*

## НЕЗРАЗУМЕЛАЕ

О, как убийственно мы любим[1]...
*Ф.Цютчаў*

Як малой-ты хапала агонь,
І казала з трывогаю маці:
«Гэта жыжа, дзіцятка маё!»
Ты спяшалася ручкі прыняці.

А цяпер вось кахання агню
Аддаеш пачуццё ты і сілы,
А заўважыць хто гэта табе —
У адказ ты смяешся так міла...

*1921*

## СКАЖЫ

Гэтых вочак ясны свет,
Постаць і аблічча —
Ах, зрабілі, што няслед:
Мучаць, вабяць, клічуць.

Як русалка, ўся яна
Праменна, квола:
Вось зіяе, як вясна,
Раптам — невясёла.

2 Зак. 2780

Часам гутарку зачне
Ці пяе няспехам,
Потым гляне на мяне
І абдорыць смехам.

Яе ж погляд, яе смех...
Дзе ад іх мне дзецца?
Любіць сэрца... як на грэх,
Птушкай б'ецца ў клетцы.

Чую, кажа: не блажы,
Пакінь, міла, кпіны,
Калі любіш, дык скажы,
А не муч хлапчыны.

*1922*

* * *

Чырванее заход ад марозу,
Пад нагамі парыпвае снег;
Быццам чорная думка, з пагрозай
Змрок паўзе, выглядае з-пад стрэх.
К ночы вецер падняўся у боры
І бушуе з канца у канец,
А на вокнах з'явіліся ўзоры...
Гэй, пара запаліць каганец!
Доўгі вечар зімовы, без меры,
Песням ветру ўважаць немага...
Слізкай гадзінай, вузкай і шэрай,
Аблягае ля сэрца туга...

*1922*

## ПАЛІМПСЕСТ

Ёсць рукапісы, змест якіх сцярты, ледзь знаць,
Ці нат другі напісан сэнс бязбожна.
Іх палімпсестамі[1] прынята здаўна зваць,
І першы іхні змысл пайме не кожны.

Краіна родная! Так сталася й з Табой.
Багацце й хараство твае прыроды
І прошласць слаўную змяшаў чужак з гразёй
І словы вывеў гідкія для зводу.

Але народны дух, разбіўшы мур турмы,
Здалеў вяковы бруд паганы змесці.
І з дзіўнай любасцю чытаем тое мы,
Што захавалася на палімпсесце.

*1921*

## ВІХОР

Гасцём і мараю трывожнаю
Зляцеў да нас з-пад самых зор.
Краінай любаю разложнаю
Імкне, гудзе, шуміць віхор.

І не, не злы, але бушуючы,
Ў шалёным імпэце ўвесь ён,
Ваду азёр і рэк хвалюючы,
Пусціў па пушчах п е с н ю - з в о н.

Грыміць, гудзе ўсё недарэчнае,
Штораз віхор гучней, прудчэй.
Услухайся, паймі адвечнае —
І гімны вырвуцца з грудзей.

Пара, пара дазнацца, зверыцца
Сваіх магутных сонных сіл!
Адважны хто спыніць намерыцца
Размах жыцця і творчы пыл?..

Дзе йдзем? І дзе капцы канцовыя?
Дзе ходу нашаму мяжа?..
Ў адказ віхор пяе ўсё новае,
І лязіво блішчыць нажа!

*1921*

* * *

Душа мая тужлівая —
Лілея між балот.
Яна ўзрасла, маўклівая,
Між багны сонных вод.

Ёй сніцца неба сіняе,
Дзе сонечна вясна,
І песняй салаўінаю
Атручана яна.

І нешта патаёмнае
Шапоча родна ціш,
І ў ночы цёмна-цёмныя
Чаруе зорна выш.

Наўкол жа ціна брудная,
І плесня, й гідкі пах,
Чыесь уздыхі трудныя,
Нуда і нейкі жах.

І штось незразумелае
Шуміць-пяе чарот,
Чаго не пойме белая
Лілея між балот.

*1921*

## СЁМУХА

Начыста змецены і вуліца й двары,
Ля ганка і варот паўбітыя бярозкі —
Сягоння Сёмуха, сягоння свята вёскі,
І весялейшае не знойдзецца пары.

Пагодны, ясны дзень. У полі і ў бары
Паветра хмельны пах, смяюцца сонца коскі,
А ў хаце бел абрус, падходны блін — дар Боскі
І шчасцем свецяцца мужычыя твары.

І веру радасна я болей, чым калі,
Ў вялікі лёс і шлях Радзімае зямлі:
Абуджаны народ быліц дазнае сказ —

Узрушыць як адзін пры свеце бліскавіцы.
Прыйдзі хутчэй! Я жду цябе, жаданы час.
Дай думам сёмушным і казкам дай здзяйсніцца.

*1921*

## ЯК ЎСЁ Ў ЖЫЦЦІ...

Як ўсё ў жыцці, яшчэ вясна
Мінула ў вечнасць назаўсёды.
Памножыла тугу й нягоды,
Як ўсё ў жыцці, яшчэ вясна...
Душы ж як бы чагосьці шкода,
А думка за адной адна:
Ў тваім жыцці яшчэ вясна
Мінула ў вечнасць назаўсёды.

*1921*

## ПРАДЧУЦЦЁ

Неба пахмурае... ймгліць невясёлае...
Нібы ў бяздоллі сумуе...
Нечым стрывожана сэрцайка кволае.
Чым? — адказаць не магу я.

Можа быць, гэтая даль непагожая
Крые у хмарах няшчасці?
Можа, збіраецца сіла варожая
Новы наслаці напасці?

*1921*

## ВЕЧАРАМ

Вось і паў ужо змрок,
Ды заціх дзённы рух,
А агонь ў аблакох
Дагарэў і патух.

На лістох, на траве
Заблішчала раса,
І ўзышла, і жыве
Ў небе зораў краса.

Ціха ночка брыдзе —
Поўна чараў і сноў;
Смех чутны ў грамадзе,
Што вяртае з палёў.

Пасля працы цяжкой,
Дзень правёўшы ў касьбе,
Песняй сумнай такой
Нехта цешыць сябе.

І плыве яна ўдаль
Над разлогам палёў,
Чуцен гора ў ёй жаль
І надзея без слоў.

А ў адказ на яе
То цішэй, то мацней
Пяе песні свае
У гаі салавей.

Іх пачуеш, і ўраз
Дзіўны сум агарне,
І згадаеш ў той час
Аб сваёй ты вясне.

*1921*

## ВЕЦЕР

Вецер ўварваўся праз весніцы,
Пыл на двары крутануў.
«Вер, што жаданае здзейсніцца»
Ласцячы вуха, шапнуў.

Шпаркі і смелы ў захопленні,
Лёгка праскочыў праз плот,
Штось зашумеў між каноплямі,
Борзда мінуў агарод.

Там жа, дзе жыта з пшаніцаю
Спеляць свае каласы,
Блытаў, віхрыўся дурніцаю
І перабег на аўсы.

Лесу пабачыўшы цёмнага
Хмура-задумны аблік,
Быццам спужаўся таёмнага,
Сцішыўся, зменшыўся, знік...

*1922*

## ТУМАН

Навіс пасцілкаю туман,
З імглы сатканы густа-густа,
Заслаў лес, поле і курган,
Паўзе да хат, як смоўж той тлусты.

І, быццам цяжкі грэх жыцця,
На сэрца шэрай лёг жудою,
І яснасць дум і пачуцця
Прыкрыў, халодны, ён сабою.

*1922*

* * *

Толькі той, чый вольны дух
Застаецца ў бойках квол,
Толькі той, хто творыць рух
Беларускіх мест і сёл,

Толькі той, хто вера ў цуд —
Лепшу долю курных хат,
Толькі той, хто любіць люд,
Толькі той — мой любы брат.

Брат — бо думкі ў нас адны
І адзін злучае лёс,
Бо для роднай стараны
Долі хочама без слёз.

Мы мацнеем што ні раз,
Чуюць моц чужы і свой.
Жджэм: надыдзе грозны час —
Будзе радасць, будзе бой.

Пагалоска здзівіць свет,
Заварожыць песняў тахт, —
Бо значон дзядоўскі след
І вядзе у далі шлях.

А мо спыніць які кат?
Мо спужаемся чагосць?
Калі трэба, ўмерці нат
Нам не страх, а шчасце ёсць.

*1922*

## РАНІЦАЮ

Бывайце! Ізноў мне ўсміхаюцца далі,
І сонца ў крыві і пястуе валоссе.
Забыўся я дома нудоту і жалі,
І ў свеце — мне сніцца — ліхое звялося.
Чароўнасцю веюць хмурынак румянцы,
І з цішаю звонкасць цалуюцца ў губы.
0 ветрыку свежы, скажы там каханцы,
Які гэты свет — і салодкі і любы!
Іду я па росным зялёным каберцы,
І песня ад шчасця ў знямозе нямее,
І сэрца, як сонца, і сонца, як сэрца,
Сусветнае сэрца гарыць, палымнее!

*1922*

* * *

Ізноў пытанні... З глуму,
З бяды ўстаюць ў кляцьбе.
І не магу не думаць,
Край родны, аб Табе.

Дазнаў кахання й мушу
Дзяліці лёс благі,
І знак кладуць на душу
Твае мне ланцугі.

Я звону іх цяжкому
Склаў песню не адну —
І не аддам нікому
За ўсякую цану.

Выходжу з хаты рана,
Каб стаць за азярод
І першаму з туману
Пабачыць сонца ўсход.

Каб на ўзрунелых рытвах
Усцешыцца цяплу
І раннія малітвы
Паслаць яму — Святлу:

«Спалі, калі так трэба,
І пожні, і пале,
Пашлі грымоты з неба,
Віхор пашлі, але

Хай пройдзем праз напасці,
І дачакаю хай —
Убачыць ў новым шчасці
Мужычы Край[1]».

*1922*

* * *

Л. С.[1]

Тваё пісьмо... Пасля даўгіх гадоў
Расстання, сноў благіх, надзей абманных.
З трывогаю ў радкі ўглядаю слоў,
Рукою пісаных каханай.

Абуджаны дзіўныя пачуцці,
Узрушаная мысль ўяўляе жвава,
І абразы, што зніклі ў забыцці,
Ўстаюць у памяці яскрава;

І твой аблік ласкавы, мілы,
Пастаць і пасмы светлыя валос,
І к перамогам з новай клічаш сілай
Мяне, знямогшага ад слёз;

І радасць светлая з радкоў цячэ
І абнаўлення чары ў сэрца сее...
Нібы не ўсё загублена яшчэ,
Нібы магчымы йшчэ надзеі...

*[1923]*

* * *

Все поют и поют вдалеке...[1]
*А.Блок*

Нікне ў імгле старана...
Пільна сачу праз туман...
Нечая песня чутна,
Нечы зыбаецца стан...

Лёс даручыў палашу,
Моўчкі, даўно сцерагу...
Песня трывожыць душу,
Слоў зразумець не магу...

Існасць не ўнятна праяў:
Загадкай дрэмле разлог,
Тайнасці лёс захаваў,
Далі сцяною аблёг...

Буры пара б нагадаць
Шэрасць дакучлівых хмар.
Сэрца прыстала жадаць,
Гасне паволі пажар.

Сны на павеках маіх:
Згіну без сіл, небарак...
Толькі вось спеў не заціх —
Словаў не ўцямлю ніяк.

*1922*

* * *

Дарма, што значны раны,
Праз небагаты ўбор
І тужны, праз туманы
Відаць вачэй дакор, —

Яе аблічча светла,
Узорны — тканы пас,
І летуценні ветлы
Аб недалёкі час.

Між пушч Яе сяліба,
Дзе хіліцца асець,
І там, дзе цьмяна скіба,
Прыходзіць песні пець;

І там, дзе над балотам
Кудлачыцца туман,
К густым рачным чаротам
Мільгае лёгкі стан;

І дзе над даўным сумна
У неба крыж ўстае,
Падгледзеў я задумнай,
Маркотнаю Яе.

Аддана, кім — не знаю,
Душа ў Яе палон,
Але няма адчаю
Ў марудным бегу дзён.

Надзеюся і веру
Патайнаму сляду, —
Нясе ў самотнасць шэру
Яна маю гвязду.

Малюся Ёй, упарты,
Палону тайна рад:
— Хай, верны, буду варты
Тваіх жабрачых лат.

Дазволь з Табою разам
Спаткаць нядзельны час,
Каб новай песні сказам
Хваліці Твой абраз!

*1922*

* * *

Устае туман бялявы
Над балотным імшаром,
Дагарэўшы, дзень ласкавы
Змрок ахінвае крылом.

На заходзе ў шэрых клубах
Дагарае светлы пас.
Я цябе чакаю, люба,
Ў гэты ціхі змрочны час.

Я чакаю, я гатовы,
Слоў нанізываю ніць,
Каб істужкай брыльянтовай
Пасмы светлыя абвіць.

*1922*

* * *

Нібы вялізны чорны птах,
Заслала хмара зорны шлях;
Ды не пасвежала прырода,
Не пала ў полі прахалода.

Ў паветры мляўка пасля спекі,
І душна, і трывожна ноч...
Вось хтось магутны ўзняў павекі —
І свет мільгнуў агніста з воч.

Ўрачыста-грозным, гулкім смехам
Загрукатаў пярун ў адказ,
І загукала згодна рэха,
Грымотны зразумеўшы сказ...

І змоўкла ўсё, на час знямела,
Прыціхла ноч і жджэ нясмела...
Ша! хтось застукацеў аб дах,
Нібы ў бяссіллі чорны птах.

*1922*

## ДЗІЦЯ

Са смехам па пожні так жвава
Бяжыць, матылька даганяе
І топча і кветкі, і травы
Дзяўчынка, нябога малая.

Дзіця, супыніся часіну!
Ў жыцці без патолі і ласкі,
Як злыдні й нягоды ахінуць,
Ці ўспомніш стаптаныя краскі?

Пад сонцам вясняным і шчасным,
Ў вясеннюю светлую пору
Стаптаныя, ссохнуць заўчасна
Яны без тугі і дакору...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дзіця, супыніся і далей
Бяжы па зялёнаму долу...
Такія блакітныя далі,
Так проста і ясна наўкола!

*1922*

## НА РОСТАНІ

На ростані дарогаў многа,
А лучнасць іх — пахілы крыж.
І вецер лёгкі на разлогах,
І неба яснасць, шыр і выш.

Ранейшай працы дасяганні,
Наўкол — зялёныя жыта;
І свежасць росаў светлых рання,
І траў высокіх любата.

І так прывабны далі, далі
Ў задуме вечнай і смузе,
За той смугою думкі ў жалі,
Нязрадна, вечна у тузе.

І торба вось, і кій дарожны:
Пара ў пуціну мне даўно...
А я — нясмелы і трывожны,
А я — на ростані адно.

*1923*

* * *

Бясспынна, глуха процьма часу
Глытае хараство і моц.
Заход бяздушным, светлым пасам
Адзначыў свежае дзярмо[1].

На могілках ўдыхаю цішу,
Адзін жывы паміж крыжоў,
А смутак дзіўны сэрца крышыць,
Без назвы смутак і без слоў...

І раптам стала зразумелым,
Што маладосць прайшла мая,
Што я астыў, калісьці смелы,
Калісь гарачы, яркі я.

Стаю разважны і халодны,
Як сутуняючая даль,
І толькі сум сябруе згодна,
І толькі жаль, балюча й жаль.

Вось крыж і новыя балясы,
Грудок, абложаны дзярмом...
Бязлітасная процьма часу,
Не я — пад тым крыжом!

*1923*

## НАПЯРЭДАДНІ

Ружовая стужка на ўсходзе,
Як сцяг пераможнага дня;
І мроіць аб светлым прыходзе
Пярэдадня змрок-цішыня.

Халодныя, светлыя росы,
Спакой, нерухомасць і сон;
Здаюцца траве ўжо пракосы
І касаў сярэбраны звон.

Ў амшарах, балотах, лагчыне
Бялявы, празрысты туман;
А неба — глыбока і сіне,
А неба — бязмежны дыван.

І лес у чаканні бязмоўным
Зялёнай жывою сцяной
Стаіць, маліцвеннасці поўны,
Ўрачыста, як на мшы святой.

Зацвіркала першая птушка,
І ветрык павеяў свяжэй.
Ружова-ядвабная стужка
Палае ярчэй і ярчэй.

*1923*

* * *

Ляпей жабрачы лёс,
У рукі кій, за плечы торба;
Ляпей страха нябёс,
Бясконцы шлях і леры корба;

Ляпей чужыны золь,
Сцякаць ад чорнай працы потам;
Ляпей, не змогшы боль,
Сканаць самотнаму пад плотам, —

Але не лёс раба
З бязволля ўласнага й бяссілля;
Не гэтая жальба,
Не скутыя рабамі крыллі.

Хто волю верна сніць,
Працят лятункам аб вялікім,
Таго не спакусіць
Ні ўладай, ні дабром бязлікім.

І хай прысуд гняце
І нікнуць вербалозы ніца, —
Душы аб пекнаце
Непераможна-думных сніцца.

*1923*

## СМЯРОТНЫ ПАХ

Ёсць боль затоенай тугі
У кволым паху звялых кветак,
Нібы ў канання час благі
Ім родны марыцца палетак.

Нібы шчэ вераць — вось дыхне
Паветра хваляю гаючай
І з хаты верне іх вясне,
І знаюць — згуба немінуча.

Людская жорсткая рука
Іх, далікатных, ў поўным квету,
Там, дзе прастор, палі, рака,
Сабрала рупна да букету.

І на маім стале зямлі
Краса, найвысшая аздоба,
Яны цвілі і адцвілі —
І тайнай іх была жалоба.

Ў самотнасць невясёлых дзён
Яны ўвівалі летуценні
І згадкі лёгкія, як сон,
Аб сонца радасным праменні.

І раніц звонкіх галасы,
І чуласць ветру незвычайна,
І хараство густой расы
Прачыстай валадалі тайнай.

І не дазнаў ніхто б яе,
Калі б не гэты пах смяротны,
Што дымам кадзіва ўстае,
Такі тужлівы і маркотны...

*1923*

* * *

Я люблю густыя шумы,
Перагуд высокіх хвой.
Ў цень і ціш лясной задумы
Я люблю прыйсці вясной.

Спачываючы ад болю,
Ад няпраўды і маны,
Пазнаваць чужую волю,
Дыхаць пахам сасніны.

І, спусціўшыся лагчынай
У заросшы дол сыры,
Між бяроз, густой ляшчынай
Заблудзіцца ў гушчары.

Дзе таёмна, сцішна, змрочна,
Дзе вільготны мяккі мох,
Дзе ўзіраецца ставочна
Збуджаны Перапалох.

*1923*

* * *

Насоўвае пушча
Магутнай зялёнай сцяной.
Ўваходжу у гушчу
Высока узняўшыхся хвой.

Павага й зацішша,
Прасветы ў павеці жывой.
І вецер калыша
Страмкіх верхавін галавой.

Салодка паверыць
Ў разложысты шум над табой
І, сцішаным, мераць
Пуціну павольнай ступой.

І слухаць бязмоўна
Чароўнасць трывожнай душой,
Грудзямі да поўна
Ўдыхаці стыхіі спакой.

*1923*

* * *

Векавечны хмуры бор
Горда ўзносіцца высокі.
Моцна пахне хвояў смоль
Ад пякучай ліпня спёкі.

Сонцам спалены чабор
І густыя смягнуць травы,
Гарачынню з блізкіх поль
Тхне ў паветры нерухавым.

Ў небе яснасць і прастор,
Даль празрыста і бясхмара;
Мляўкасць, парнасць і бязволь,
Думкі вялыя ад жару...

Ах, знайсці б між дрэў ля гор
Ручаінкі бег самотны,
Супыніць бы смагі боль
І спачыць на ймху вільготным.

*1923*

## ЗІМОВАЕ

Снег, завея; вецер вее,
Круціць, дзьме.
Віхар гонкі, гучны, звонкі
Ў белай цьме.

Комам ліпка, снегам сыпка
Сее сеў.
Носіць тайны, спеў адчайны,
Смерці спеў.

Я трывожны... ў бездарожжы,
Ў беспуцці
Воля-вехаць. Як даехаць?
Як дайсці?

Сівер злосны, вее млосна,
　　　　　　Міма ймкне.
Дзе прыпынак, дзе спачынак?
　　　　　　Блукаць мне.

Холад, сцюжа... Сцежка вужай
　　　　　　І размах.
Стыне сэрца ў паняверцы,
　　　　　　Множыць жах...

Гнецца ніжай, к долу бліжай
　　　　　　Галава...
Лёс нямілы: крыж пахілы
　　　　　　І жарства!

*[1923]*

## МАРТА

Апратка проста і будзённа,
Сабраны ў косу валасы,
Снуе задума звольна, сонна
Убор звычайнае красы.

Нібы ў гадзінніку пясковым,
Плыве цурок драбніц-клапот,
Жаданні цюцькаю вартовым
Не адбягуцца ад варот.

Бяздум'е броваў непрывабна,
І на твары спакой цяжкі,
Пастава пруткая нязграбна,
Нязграбны рух яе рухі.

Імя, як ноч, глухое — Марта[1]
Не зачаруе чулы слух,
Пагляд прыцішаны, упарты
Лятункамі не ўскрыліць дух.

Вось гэткую, Хрысце, ў Бетане[2]
Ты знаў, як я, ў сваю пару,
Марыі, ўзвышанай каханнем,
Затурбаваную сястру.

І Ты, калі ад воч Марыі[3]
На Марце супыняў свой зрок,
Ты сілы знаў яе зямныя,
Няўдалы, цяжкі бачыў крок.

І Ты пад лёгкаю тканінай
Грудзей заўважваючы спель,
Ты чуў, як кроў стае няўпыннай,
Як захмяляе цела бель.

І дума здрадная самоты
Ўзнікала іскрай між другіх:
Ці гэткім аддаюць пяшчоты?
Ці льга кахаць такіх брыдкіх?..

Прайшлі вякі... Яна ж адвечна
Ўсё тою ж буднасцю цвіце,
І я на думцы недарэчнай
Лаўлю сябе, як Ты, Хрысце.

*1923*

* * *

Крыху ўзрушаны і рады,
Спатыкаюся з табой,
І цвітуць твае пагляды
І ўва мне і нада мной...

Ты варожыш, ты чаруеш,
0 чароўная, бы світ,
Абяцала — падаруеш
Губ вясёлых аксаміт.

І вясною веюць пасмы
Хмелю светлага валос;
Уступаем ў светлы пас мы, —
З намі, з намі светлы лёс.

З намі кволасць, з намі казкі,
Летуценняў лёгкі лёт.
Пацалункаў плюскат, ласкі —
Ўсё ў адзіны карагод.

Толькі мовіць мне нясмела
Ўсё пабожна, што таю,
Толькі ўзяць рукой знямелай
Руку дробную тваю...

Ды, халодны і стрыманы,
Не скажу патрэбных слоў,
Адыду ў мае туманы,
Ў неазначнасць белых сноў.

І адтуль, як сказ балады,
Сутуняючай парой
Будуць згадвацца пагляды,
Дараваныя табой.

*1923*

* * *

Зацвілі твае вочы між тлуму,
І, здаецца, твой стан мільгануў,
Перарваліся ніткаю думы,
Даўны смутак ціхутка крануў.

Быццам ветрык, збудзіліся згадкі,
Ў жыце ветрык драмаўшы між хваль;
Закружыліся лёгка, без звадкі,
І памкнулі ў блакітную даль.

Стала дзіўна, што годы так шпарка
Прашумелі, бы ўвосень лісты,
Жоўтым лісцем алеямі парку
І ляглі, як смуга, на кусты.

Нагадалася даўняя казка...
Збаіў нехта дарэшты яе.
Але з попелу дзён кволай ласкай
Памяць даўняга міла ўстае.

Нібы сонцам зямля пасля буры,
Я асвечан маім пачуццём,
Нікне хмарнасць на твары панурым,
І вясёлкай я звязан з жыццём.

Як вясенняе ранне без суму,
Далікатны настрой агарнуў...
А ўсяго: твае вочы між тлуму
І твой стан, мне здалося, мільгнуў.

*1923*

* * *

Не трывож мае самоты,
Не збуджай пазбытых мук:
Не адкрыю я вароты
На твой позні, слабы стук.

Не скажу: «Ўвайдзі» — як ра́ней,
Як даўней, калісь даўней,
Сэрца голас твой не кране,
Не абудзіць больш надзей.

Я забыўся слоў-любошчаў,
Далікатных кволых слоў,
Там, дзе вецер свішча, хвошча,
Я аселішча знайшоў.

Там, дзе ў горах снежных, стромых
Толькі песні завірух,
Дзе шляхі адно свядомых,
Там мацнее мужны дух.

І даведайся: салодка
Закаханасці палон
Замяніць на бур паводку,
На віхур свавольны звон.

*1923*

## ХАРАСТВО

Няясны і трывожны сны людства,
І блудны цёмныя яго дарогі,
Але па-над будзённыя трывогі
Узносіць нас туга да хараства.

Так дробная вясковая дзятва
З-пад курных стрэх (прытулак іх убогі)
Да рэчкі бег кіруе на разлогі,
Дзе яснасць вод і золата жарства.

І верым мы, што злучны дух і маса,
Гармонія ў жыцці і сэнс-акраса;
Прытулак ёсць, дзе адпачыць ільга,

Дзе дасканаласці чаруе ўсмешка.
Ды дзіўна неяк: хістка сцежка
І да яго вядзе людство туга.

*1923*

* * *

Да Пятра зязюленька
Ў лесе кукавала;
Да шлюбу Гануленька
Весела спявала.

Ды гуляла, цешылась,
Не хапала ночы,
Ой, вячоркі-веселасць,
Ой, гады дзявочы!

Мінула зязюленькі
Ў лузе жыраванне.
Сцішала Гануленькі
Пры бацьках спяванне;

Не цвіці ты, зеллейка —
Рута-мята ў садзе;
Ўбралі Ганну ў беллейка,
Садзяць на пасадзе.

— Ой, каханы татачка,
Нашто ж рыеш яму —
Выдаеш дзіцятачка
За нялюба замуж?

— Ой, матуля родная,
Чым табе не міла,
Ці была нягодная,
Ці не дагадзіла?

Чула сэрца чулае,
Не паможаш просьбай...
Выдаюць патулае
Татка з мамкай грозьбай.

Пойдзе кветка польная
Ў свет чужы за светы
Праклінаць бяздольныя
Маладыя леты.

*1923*

* * *

Я — грамнічная свечка прад Богам.
Ціхай, ціхай згараю малітвай
За блакітную к небу дарогу,
За ўзрунелыя зелена рытвы.

Ўсемагутны! Вось сэрца паэты —
За народ Твой Крывіцкі ахвяра!
Дым кадзільны — жар вершаў — прад светам
Узнашу да Цябе па-над хмары.

Мы абвеяны злой сухавеяй,
І балот душыць ліпкая плесня,
І дарма зацвіталі надзеяй,
І дарма снілі сны напрадвесні.

Ў бездарожжы зблудзілі глыбока,
Пацямнеў цёмны шлях наш цярновы...
Не адмоў нам паслаці прарока
З цвёрдай верай і словам агнёвым!

Цішу досвіткаў цьмяных
Абуджаю жальбою вялікай:
Расчашы ты сівізну туману,
Празіяй жыватворным Аблікам!

Да Цябе уздыхаюць са мною
Капытом здратаваныя нівы,
На аблогах — бадыльнік з лазою
І чарот па-над ставам шумлівы;

Уздыхае кароўка-худоба,
І авечка на голым папары,
А каняка схіляе з жалобай
Галаву пад нязмерным цяжарам.

Узгляніся!.. Злітуйся над ніцым!..
Маё гора усёды, усёды:
Мае слёзы — ў дажджах навальніцы,
Мае енкі — у стогне народу.

І туга мая — з ветрам на полі,
Мая смага — гаючай крыніцы:
Няхай будзе і праўда, і воля,
Твая Воля на роднай зямліцы!

*[1925]*

* * *

Тваё блакітнасці нязменны,
Нязменна хараство тваё.
А я атруты келіх пенны
Разліў якраз ў жыццё маё.

Душа, адданая прынадзе,
Цяжкой і горкай, як палын,
Забыўшыся ў карчомным чадзе,
Ўбірае пах густы нізін.

Мяцеліцы ў жмут пасплятали
Без падзялення ночы й дні;
І брудна-жоўтай плямай сталі
Святло й электрыкі агні.

І нецвярозы і распусны,
Забыўся я тваё імя,
І не адны галубіў вусны,
І не з адной схадзіўся я.

Хоць праўда (мо і выпадкова),
Ўстаюць няясна інады,
Як скарбы патаёмных сховаў,
Даўно забытыя гады.

Мільгне праз хмельныя туманы
Жыцця разбаенага сказ, —
І маладасць, і сны, і раны,
І любы, любы твой абраз.

І нагадаю маліцвенна,
Ў збавенне ўверыўшы сваё:
Твае блакітнасці нязменны,
Нязменна хараство тваё.

*1924*

## МАЁЙ МАЦІ

### I

Выпраўляла маці сына
На чужую старану,
Бласлаўляла ладам-чынам,
Каб шчасліва павярнуў.

Ды наказвала хлапчыне:
«Доля прыйдзе ці міне —
Помні, сыне, на чужыне
Аб Айчыне, аба мне!

Не запамятай ніколі,
Будзеш бедны ці багат,
Нашай долі і нядолі,
Нашых пожняў, нашых хат».

«Ой, матуля, ой, кахана,
Не забыцца думкам, не!
Ці то позна, ці то рана
Люты смутак душу тне.

А ўспамянеш, бы ў тумане,
Бацькаўшчыну і цябе,
Сэрца звяне, сіл не стане
Біцца ў смутку і жальбе».

### II

Ты чакаеш сына, ведаю,
З гора, ведаю, з тугі
Ўпалі вочы, губы бледныя,
Старыць, сівіць лёс благі.

І нястрымнае, і лютае
Не пазбудзешся нуды;
І клапотамі, пакутаю
Гнуць суровыя гады.

Як бярозка тонкім веццейкам,
Ў сум прыбралася сама,
Бачыць сонца ясным лецейкам,
Што табе пацех няма.

І падслухвае пшанічанька,
Як на постаці адна
Ты ўздыхаеш, і крынічанька
Жалю ўскіпвае да дна.

А зімою ноч падглядае
Доўга, сцішна пад акном,
Як прадзеш, прадзеш, не радая,
Не пазбудзеш думак сном.

Як праз ветру спеў з трывогаю
Ловіш з снегавых далін,
Ці не едзе хто дарогаю,
Ці не стукне ў дзверы сын...

Маё сэрца поўна любасці
Да радзімае мае,
Паміж тлумам у загубнасці
Песні помняцца твае.

І калі лучыць нягодная
Доля згінуць ў чужыне,
Не ўздыхне душа ніводная,
Не ўспамяне пра мяне.

Толькі ты згаворыш пацеры
Над нядоляю маёй,
Толькі вочы мае мацеры
Затуманяцца слязой.

*1925*

* * *

Ўзысці на вогнішча натхнення,
Над тайнаю вякоў гадаць;
Валодаць воляй да здзяйснення
І ўмець, безмежна ўмець жадаць;

Перадбачаць далёкім вокам
І з нестрыванай яснатой;
Над хаосам і ночы змрокам
Ўладаць гармонні глыбінёй;

І немым быць, і быць бязгучным,
І не знайсці патрэбных слоў,
Ні абразоў, ні рыфмаў лучных,
Не выказаць тамячых слоў;

Чуць за плячыма пару крылляў
І сіл не мець зрабіць узмах...
О боль смяротны, боль бяссілля!
О жах бясплодства, бляды жах!

*1924*

## ХЛОПЧЫК

На дубец ускочыў конна:
«Косю, косю, стой жа, стой.
Вось удаўся конь нясонны —
Не пастоіць пада мной».

Хлопчык ладзіцца ў дарогу.
«Ты ж куды?» — «Далёка, проч!»
І, махнуўшы пугай строга,
Шпарка ён імчыцца ўскоч.

Ах, свавольнік мой, патвора,
Бегай, смейся і гуляй.
Не дакучу я дакорам —
З год дзіцячых карыстай.

Што ж, жывучы потым ў свеце,
Нагадаецца якраз,
Як скакаў к далёкай мэце
На дубцы вярхом падчас...

## БЯССОННЕ

Смяротнае, глухой тугі
Зіяе чорнае бяздонне...
О час запынены, благі!
О ноч жахлівая бяссоння!

Не сплюшчыць высахшых вачэй
І пустаты не здолець немай.
Душа ў пацёмках, без надзей
Стаіць над нейкаю дылемай.

Тупы, халодны шчэміць боль,
Плывуць бязвольна думы роймa,
І жах цячэ праз сцены, столь
І песціць ў абцугах-абоймах...

Адна-аднюсенькая грань
Да новай, дзіўнае свабоды:
Ўстае у жоўтым, здрадным здань
І ледзянячы вее подых...

Рукой нячутнай Шал кране,
І вернай не мінуць загубы...
Малюся — ратуй мяне,
Спакой адвечны, мілы, любы!

*1924*

## МЕЧ

Яго ў зямлі знайшоў маёй разлогай,
Аручы прадзедаў вузкі загон.
Вясёлым звонам аказаўся ён,
Калі чапіў канцом майго нарога.

Абцёр набожна йржу часу благога,
І заблішчаў старых стагоддзяў сон,
І надпіс на клінку, нібы закон, —
«Дарэшты бой!» — зірнуў загадам строга.

І вось няма нясмеласці, развагі.
Для сэрца вернага — чужынцам страх:
Радзімы схоў вартуйце, маткі, сёстры!

Я з грамадой іду па шчасце нам.
Мой меч зіхціць, непераможны, востры.
Змагуся сам — дык сотням перадам!

*1924*

* * *

Хто мужны, хто смелы, хто дужы,
Хто цэлем працят залатым,
Над тым неўладарныя сцюжы,
І лёс не ўладарны над тым.

Хто к страху глухі, безразважны,
Хто з воляй каванай, як сталь,
Той хмелем трывогаў адважны,
І шлях яго толькі у даль.

Ёсць радасць у ярасці бою,
Ў змаганні скрыжованых сіл, —
Спаткаць сваю волю з чужою,
З гарачнасцю іншай свой пыл.

3 Зак. 2780

Не бледнуць, у час небяспекі
Стрымаць неслухмяную кроў;
Прад вокам упартым павекі
Не хінуць ганебна далоў.

І ведаць — у бойцы зацятай
Пагібельнасць жджэ ваяка,
Ледзь сумніў кранецца шурпата,
Ледзь крыху аслабне рука.

Так досць наракаць на нядужнасць,
На горкія долі свае.
О думнасць! О смеласць! О мужнасць!
Вам песні і песні мае!

*1924*

* * *

Над нядоляй Тваёй не заплачу
І на свой не пажалюся лёс,
Хоць і ведаю — доля лядача
І балюча, часамі, да слёз.

Хоць і ведаю сум і утому
І не раз давяраўся мане,
Ды ці ж мне выгалошваць жывому,
Запяваць паніхіднае мне?

А ніколі, ніколі, ніколі:
Мы — не вецер распачны зімой;
Ты — застанешся верная волі,
Я — на варце нязменна з Табой.

Ні часіны не кінем змагання;
Не аслабне, не здрадзіць далонь:
Хто заквечаны кветам кахання,
Той нянавісці знае агонь.

Чым гусцей над Табой пацямнее,
Чым цяжэй будзе крыж Тваіх плеч, —
Тым запальней здымацца ўзмацнее
Мой кароткі караючы меч.

*1924*

## ВОСЕНЬ

Глухой, таёмнай сцежкай
Падкралася за летам,
Уселася на ўзмежку
І занудзіла светам.

Няўпынна, безнадзейна,
Слязьмі, як мак, драбнютка
Заплакала нявейна,
Маркотна і няхутка.

І з ёю разам хмары
Заплакалі дажджамі,
Навіслі шопай[1] чмархнай
Над вёскамі, палямі.

І то ж бо: неласкава,
Пустэльна поле, гола,
Ў стагах стаіць атава,
І пушча жоўта-квола.

Ў паветры мятульжыцца
Убор вясны раскошні,
Кружляючы, лажыцца
Бясшумны ліст апошні.

Рабіна ўжо чырвона,
Не чуць птушых спяванняў, —
І ў мяккіх шэрых тонах
Настрой ціхі канання.

І на кустах, на руні,
На йржанні-павуценні;
І за гумном, за пуняй
Дрыжаць даўжэй суцені.

І сонца слаба ўсмешка, —
Як хмара, небарача,
Бо восень вось на ўзмежку,
Бо восень плача, плача...

*1924*

* * *

Нашы тайны й жаданні, як рэчы, як кветы,
Маюць водар і якасці фарб.
Іх багацці і тонкасць — цудоўныя светы,
Іх калёраў нязлічаны скарб...

І калі ты прыціхнеш, дзяўчына, няждана
І замысліцца воч ясната,
Хараство летуценняў тваіх незраўнана,
Незраўнаная іх любата.

І здаюцца мне раніцай снежныя горы,
Там нічый непракладзены шлях,
І альпійскай фіялкі ў празрыстым прасторы
Ледзьве чутны чаруючы пах.

Але ўсенька, сяброўка, усенька гавора:
І румянец, і грудзі, і стан —
Ап'яніць і ўзбунтуе галаваньку скора
Ружаў вакхавых млявы туман.

*1924*

* * *

Хто там паклікаў? Спяшаю за кім?
Хто так ўладарна й нячутна?
Ты, незнаёмая, правам якім,
Сілай якою магутна?

Доўгі з пытаннем супынен пагляд,
Чорныя вочы — вуголлі.
Кроўю і крозай закляты — ўжо фат,
Следам імкну мімаволі.

Ўсё заўважаецца — шэрасць, туман,
Людзі, рух вуліцы хуткі.
Гнуткі, паветравы ўслізгвае стан,
Крок яе лёгкі і пруткі.

Вось азірнулася — полымя з воч,
Профіль спакойны ж і тонкі.
Профіль... І бегчы?.. як смешна!.. А, проч!
Боль, як і радасці, — звонкі!

Сэрца, замоўкні, ўзрушэнне, адрынь!
Дзіўна мне мерай ты мерыш.
Біцца, маё неразумнае, кінь!
Як немагчымаму верыш?

*1924*

## НА ПОСТАЦІ

Сумнай песні голас,
Бы ў цудовым сне..
Жыта спелы колас
Жнейка хутка жне.

Сонца жар. Знямога.
Спёка, гарачынь...
Пачакай, нябога,
Крыху адпачынь!

Выпрастала спіну, —
Шчок палае мак,
Стала на часіну
І знямела так.

Задуменне пала,
Пазірае ўдаль.
Мо аб чым згадала?
Мо кагосьці жаль?

*1924*

* * *

Месячыку-месяц,
Срэбненькія рожкі
З-за хмарынкі, месяц,
Выглянi хоць трошкі.

Бедная галоўка,
Што не мае долі:
Дажынаць свякроўка
Кінула на полі.

Супраць ночы цёмнай
Ледзь дамоў вяртаю,
Цішынёй таёмнай
Цемната пужае.

Мгліца ў вочы лезець,
Не відаць дарожкі,
Месячыку-месяц,
Срэбненькія рожкі.

*1924*

## ВІНО ЗВІНІЦЬ

Адно для нудных рэзанёраў
Віно разбаўліваць вадой.
Я светам недасяжных зораў
Гару іскрыста прад табой.

Я ў патаёмным церпкім хмелі
Падзіўна-весела таю
Табе, што завірухі пелі,
Надзею пэўную тваю.

У келіху, да краю поўным,
Чырвона-цёмнае, бы кроў,
Я клічу бачаннем чароўным
Да нездзяйснёных думных сноў.

Прыйдзі і пі!.. Ўваччу памершым
Зайграю бліскам маладым,
Каханнем незраўнана першым
Узрушу ў сэрцы залатым.

Праз лёс крывавы і лядачы
Я прывяду цябе к вясне...
О, ўсё згубіўшы да астачы,
Ты знойдзеш радасці ў віне!

*1924*

* * *

Давно завидная мечтается мне доля...[1]
*А.Пушкін*

Прытулі, сястра, слабога,
Прыгалуб, каханка-смерць.
З гэткай шчырасцю нікога
Не прасіці мне, не смець, —
Прытулі мяне, слабога.

Ўсё кахаў на гэтым свеце
І адбіў паэт ў сабе.
Пад далёкія павеці
Закаханы йду к табе, —
Ўсё кахаў на гэтым свеце.

Песні ўсе мае дапеты.
Да цябе апошні верш:
Абдары мяне прыветам,
Пашкадуй, як маці, перш...
Песні ўсе мае дапеты.

Ў ціхі, змрочны час змяркання
Заручы душу з сабой.
З тайнай радасцю спаткання
Жджэ нязрадны, верны твой,
Ў ціхі, змрочны час змяркання.

Ад цяжкіх нягод зямелькі,
Ад дакучных, крыўдных слоў
З ласкі смерці-збавіцелькі
Я прыйду ў палацы сноў —
Ад цяжкіх нягод зямелькі.

Будзе добра, лёгка, ціха,
Супакойна, люба мне.
Не стрывожыць цішы ліха,
Гора сэрца не пратне.
Будзе добра, лёгка, ціха...

*1924*

* * *

Усе мы страчаныя,
Нібы ў траве сляды.
Пражыць прызначаныя
Спяшаемся гады.
Шляхі нямераныя
Цярэбяць нам віхры,

А мы, зняверaныя,
Пільнуемся нары.
Рабы прыгнечаныя,
Ледзь-ледзь мы жывямо,
Душой скамечаныя,
Валочыма ярмо.
Жыццё драбязгавае,
Нібы асенні дзень,
Мы перабразгаем
І пройдзем, быццам цень.
І нат успамінамі
Не ўцешымся падчас,
Вятры над комінамі
Не нагадаюць нас.
Ды вам, узрушаныя,
Што ўчулі звонаў медзь,
Душа не змушаная
Не кіне славу пець.

*1924*

## ПРАМЕТЭЙ[1]

О няволя... нясіла... Ды не!
З гордых вуснаў не вылеціць стогн!
Пакарацца, хіліцца не мне!
Гнеў, як полымя, мора імкне,
І ў вякі, і ў вякі мой праклён!
Мой праклён, мой пратэст — нібы гром,
Хай пачуюць, хто думаў, хто смеў,
Хто маім прасвятляўся агнём.
Ганьба! Вечная ганьба багом,
Чый магутны, няправедны гнеў!

*1924*

# ЭКСПРЭС

«Маладняку»[1] да 3-х угодкаў яго існавання

Едуць, едуць паязджане[2].
*Я.Купала*

Сёламі, доламі, борам, прасторам
Стукаты, грукаты, звон.
Збуджаны, знуджаны, зморааны горам,
Зможаны змора і сон.

Скогатам, рогатам рэжа паветра.
Супраць карагі, ламы...
Бурнасцю ветра з панурага нетра, —
Хто гэта? Хто гэта? — Мы!

Ад спанку, з паўстанку мы рушыма ранкам,
Выраю высіцца зык.
Рэха, грымоты, разводдзе-заранка,
Наш бліскавіца-цягнік.

Мі́нуты міма жальба і жалоба,
Жорсткае джала жалю.
Радасць буялая, радасць-аздоба
Зяблую зябіць зямлю.

Верыма, верым вясёлаю верай,
Лёсам даверана нам:
Шлях нам — бясконцы, нямераны мерай,
Шлях нам заказаных брам.

Мкнем напярэсціг, навысціг удалей,
Вечнасці наперарэз...
У далі ўсё далей і далей для далей
Рушыць і крышыць экспрэс.

*1925*

# ВЕРШЫ АБ ВІЛЬНІ

## I

Калі сябры нас гу́дзяць згубаю
І ворагі прарочаць скон, —
Тады к Табе, о Вільня любая,
Прыводзяць згадкі у палон.

Ў маіх лятунках ты — ўладарная,
Пануеш ты, харашыня:
Завулкаў сон і ціш кляштарная,
Віллі празрыстай глыбіня;

Вялікай вуліцы экзотыка,
Тэатры, кіно, шпіталі:
І маліцвенна ўзносіць готыка
Да неба тонкія шпілі;

Святая Ганна[1] — спеў, напеўнасцю
Салодка ўзрушаны ўсягды;
А поруч з бізантыйскай пэўнасцю
Царква прысела ля вады;

Увечар за гарой трохкрыжнаю
Палае захаду пажар,
Як знак, што веліччу аблыжнаю
Яна не выкліча ахвяр;

І плюск Вілейкі, хвалі ветрыка
Люляюць Бернардынскі[2] сад;
І мільгаціць праз ноч электрыка
Ў зацёмкаў мескіх шалы чад;

Плыве па вулках пыха панская,
Распуста, блуднасць і мана;
І ярасць жорсткая, паганская
Бліскае ў вочах літвіна.

У жыдоўскім гета дробязь, клопаты
І аб Сіёне сны ў туман,
І гэткі ж сум, і тыя ж допыты
Вядуць таполі базыльян.

А там, па-над мурамі даўнымі,
Дзе места ўсенькае відно,
Руіна думамі дзяржаўнымі
Гадае нам: чыё яно?

Але ўжо лёс рукой няўхільнаю
Загад вызначвае з вякоў:
Усё магутней б'е пад Вільняю
Прыбой нямоўкнучы з палёў...

Ўсё пераможней нестрыманае
Стыхіі шум і бурны круг...
О, места роднае, каханае,
Цябе залье крывіцкі рух!

II

О, Вільня, крывіцкая Мекка![3]
О, места, — ўсё цуд, хараство!
Дзяржаўная думнасць павекаў,
Узнята рашуча брыво!

Абліччам пад ветры і буры,
Туды — у разлогі палёў,
Дзе гоняў рунелыя суры[4],
Ўзіраешся, поўная сноў.

Чытай жа,чытай жа праз цемень,
Праз гэты бяздолля туман, —
Там дзеці жаданнем, бы крэмень,
Кляліся на новы каран.

Там дзеці (твае яны дзеці!)
З-пад слепых, закураных хат...
Вітай жа — ў часы ліхалецця
Змагарскі іх блішча пагляд.

Ім кажуць прапасці са свету,
Ў парожнасць рассеяцца, ў дым;
Ды думкай, бы выш мінарэту,
Стаяць яны ў ветрыску злым.

Ім доля дала паніжэнне,
Ды Бога крым Бога няма;
І Бог іх адзін — вызваленне,
І зненавісць іх да ярма.

Руіна замчы́шча — Кааба[5] —
Ім прошча ўздыханняў і дум.
Салодкіх лятункаў — прываба,
Ў сваім запусценні — іх сум.

У крыўдзе і горы пякельным
Пагудкі, як клічы адны,
Чакаюць наўкол непадзельна,
Каб рушыць разводдзем вясны.

Ўжо ў песнях звініць перамога
І крокамі курыцца шлях...
Але ці там чуеш святога?
Ці вее пракорокавы сцяг?

А ён, паганяты, няўзнаны,
Душой шчэ згарае між нас, —
Хоць месяц мінуў Рамадана[6],
І вызначан тэрмін і час.

Ці сэрца гартуе да чыну?
Ці ў модлах да Бога свайго?
Між тых, хто ўцяклі да Медыны[7],
Ці бачыш, ці бачыш яго?

І ты ці чакаеш пад здзекам,
Што бомкне ўрачыстая медзь?.
О, Вільня, крывіцкая Мекка!
Ці варта прарока ты стрэць?

*[1925]*

* * *

Наш лёс, бы кат з рукой забойнай.
Бязлітасней рука каго?
Ды ўмее вой адзін спакойна,
Без роспачы прыняць яго.

І ўмее вой цвёрдакаленна
Ўстаяць перад навалай злой
І ўсё губляючы, нязменна,
Данесці абавязак свой.

Губляць жа болей немагчыма
І зносіць болей немага:
Народ, Свабода і Радзіма, —
На ўсё прыйшла адна чарга.

Найдаражэйшае, святое —
Ўсё, чым натхнялася душа,
Чужою збэшчана рукою,
Сваволяй скута палаша.

Але пад лобам хмурым гэтым,
У гэтай думнай галаве
Імкненне да апошняй мэты
Непераможнае жыве.

Непераможнай волі шалам,
Перамагаючым і лёс,
Звініць душа з былым запалам,
Звініць без су́мніву і слёз.

І покі пруткі шчэ цягніцы,
І покі ў жылах точыць кроў, —
Ніхто не ўбачыць голаў ніцы,
Пакорлівых не ўчуе слоў.

І покі сэрца поўна гневам,
І гнеў драпежней крумкача, —
Вітаю бой ваяцкім спевам
І звонам вострага мяча.

Калі ж нараз ад лучнай раны
Звалюся, сходзячы крывёй,
І вораг, перамогай п'яны,
Накпіць нягожа нада мной, —

Я і тады здалею гарда
Стрымаць гадзін апошніх золь,
Мая нянавісць і пагарда
Не ўдасць, не здрадзіць люты боль.

*1925*

## ЛЕТНІ ВЕЧАР

Дзень хустачкай чырвонай захаду выцер пот.
Дзень утаміўся і ў клунак змроку
Звязаў неспакой, клапоты
І пазяхнуў ветрам — лёгка, летункова.
Сутунелым крылом
Туліцца к вёсцы ціша
І пахціць скошаным сенам
І кароўім сырадоем.

Зараз прыйдзе Матка-Ноч,
Добрая, такая пяшчотная,
Пакрые коўдзеркай-цемнатой,
Заплюшчыць дню вочы:
«Спі, натомлены!»

*1925*

## ВОСЕНЬ

О хараство асенніх дзён празрыстых,
Бязгутарнасць прыроды і спакой.
Ўрачыста полем з пушчаў залацістых
Прыйшла туга і пала над вадой.

А там застыла яснасць даляў чыстых
Над цёмнай рунню й чорнай цалінай,
І холад лёгкі ў косах прамяністых
Разліла сонца хваляй нежывой.

Наўкол сляды павольнага канання
І веліч нетутэйшага маўчання.
Прымаю корна сон зямлі азурны.

І летуціцца сцішанай душы
Такі ж спакой, халодны і бязбурны,
І адцвітанне яснае ў цішы.

*1925*

## ГЕКЗАМЕТРЫ

*

Смутак пахмуры чала не замрочыць спакушаных, мудрых,
Цяжкі панурасці грэх не зачэпіць ніколі разважных,
І абурэнне іх дух з раўнавагі не выведзе раптам —
Дзева Палада спакой іх і ціхую яснасць вартуе.

*

Сябра, зірні — вось палёў хараство праміне і загіне,
Але вясёлай вясной красаванне іх поўна і светла.
Можа, таму ты й жадаеш быць толькі малюсенькай кветкай,
Польнай сцяблінкай слабой, каб пражыць
беспасрэдна і проста.

*

Звозячы ўвосень плады, што паспелі на дрэве і ў полі,
У тайны прыроды ўнікаючы, я памятаю няўхільна —
Яркіх маланак агні і грымотаў працяглыя гукі,
Рэху, ўздыханні зямлі, ім адгучную гулка і згодна,
І дабрадзейных зямельцы дажджоў, навальніцы і бачу
Мудрасць у гэтых праявах, у гэтым суладдзі адвечным.

*1925*

## ПЕНТАМЕТРЫ

Келіхі, сябры, паўней! Асыпаюцца яблыняў кветы,
Гіне вясны хараство — бела-ружовы убор,
Дзеці ўздыхаюць па ім, але мудрага яснасць няўзрушна;
Там, дзе распукваўся квет, к восені выспее плод.
Келіхі, сябры, паўней! Час прызначаны кожнай праяве:
Моладасць прочкі імкне. Сталасці прыйдзе чарга!

*[1925]*

## VIRELAI[1]

Я бачыў сум ваш і жалобу,
Ды сэрцу шкода не было.
Вачэй былі магутней чары
І хараство святлей на твары.
Тугу прымаю, як аздобу,
Мадонны ўбраўшую чало.
Я бачыў сум ваш і жалобу,
Ды сэрцу шкода не было.

*1925*

* * *

Божа, не шмат засталося[1]
Піць мне з келіху дзён.
Восень, як жменю калосся,
Скосіць жыцця майго сон.

Скосіць халодна, дазвання,
Ў сэрцы насмешлівы здзек:
Сумна тваё адцвітанне,
Кветце зямлі, чалавек!

Вось і згарэў даастатку
Ў вогнішчы горкім жыцця, —
Ўсё ж навакола — загадка,
Чым жа пацешуся я?

Цёмна светабудова,
Мглiста i глуха за мной.
Не чуўшы сапраўднага слова,
Польнай хiлюся травой.

*1925*

* * *

О, гэта аповесць звычайна й каротка
Аб долі жахлівага зместу.
Спавіла, залюляла салодка
І выйшла на места.

Дзіцятка? Хто вінны? — ды згадваць дарэмна,
Клясьці — яшчэ марней.
На вуліцы ночнай і дрэмнай
Спынілася, жджэ пад ліхтарняй.

Ў свядомасці горкай — гарчэйшая згадка,
І вочы блішчаць нехароша:
Выгналі з фабрыкі матку —
Ўбогім кахацца раскоша.

Бяздушны муры, і сірэнаў пагудка,
Дражняць убранні багатых.
Навошта ж спынілася тутка,
Ці не крыўду сваю прынясла ты?

Спяшаюцца людзі, у кожнага дзела.
— Чаго ж ты чакаеш, жанчына?
— Змяняць сваё цела
На хлеб для сябе і для сына...

*1925*

# ВЕРШЫ
# СПАДЗЯВАННЯ

## I

Ля ног тваіх маўчаць трывогі
І думкі маліцвенна-строгі,
Як мнішкі белыя гурбой
Ў цішы пуціны лесавой,
О, соладка ля ног тваіх,
У плашч чароўнасці адзеты,
Схіляюцца красою кветы.
І вецер сіверны заціх.

Бязбурны дзень — вачэй затокі,
Яны празрысты і глыбокі,
І ясны, як вясны палон,
Іх лёгкі, ціхамірны сон.
Мне люба сніць (бязбурны дні!)
Аб шчасці гэткім квола-крохкім
І веславаць лятункам лёгкім
Па крышталёвай глыбіні.

О мармур светлага чала
Пад пасмамі глухой завеі!
О тонкіх рук, о рук лілеі,
Што не чынілі справы зла!
О хараство зялёнай пальмы!
Ты ўся звініш напевам псальмы,
І росных траваў родны пах
Кадзіць на твой азурны шлях!

Якая слабасць і спакой,
Якая дзіўная суточнасць —
У свет нясці адну пяшчотнасць
І ўсё змагаць адною ёй.
А мне маліць — мая Марыя,
Прымі малітвы маладыя
І яснасцю душы тваёй
Маю пахмурую напой.

## II

### Яна пяе

Ах, што ведаю я, што змагу, —
Чую ў сэрцы вясёлку-дугу;
А дзявоцтва гады, як прадвесне, —
Як крыніца, звіняць на лугу,
Разліваюць вясёлыя песні.

Ах, што ведаю я, што пачну, —
Мляўкі пах ап'яняе вясну, —
А ў садку маладых летуценняў
Усё кветы, куды ні зірну,
Усе кветы ў вабоймах праменняў.

Ах, што ведаю я, што ільга, —
Гэта сэрца стрымаць немага,
Ў ім і кадзіва сноў, і ўздыханні,
А ружовая хмарка-туга
Росціць любыя ружы кахання.

Ах, што ведаю я, што зраблю,
Не схаваць мне таго, што люблю,
Не ўтаіць сарамязліва-квола,
І хацела б згубіць, не згублю...
Сэрца, сэрца, не біся вясёла!

## III

Жыццём, жыццём, як хісткай кладкай,
Бурліцца, пеніцца вада...
Ты нада мною вееш згадкай,
Мая ж няроўная хада.

Як месяц, воблік гэны бледы,
І жах бязлітасна жане.
Куды? Навошта? — скуль мне ведаць?
Мой лёс злажылі без мяне.

Пусцілі — йдзі (жыццём, бы кладкай!),
Пакутуй гэтта, хоч не хоч.
І вось, нядужы над загадкай,
Я паклякаю ў цемру, ў ноч.

І каб не сны ў душы прапаснай,
Які б ён — сэнс таго быцця,
І каб не ты з усмешкай яснай,
Усмешна-ясная мая!

## IV

Ты спыніла мяне каля дзвераў,
Ўзнікшы ў памяці зоркаю вернай.
Я ў збавенне маё не паверыў,
І спусціўся па сходах таверны.

На абрусах тут брудныя плямы,
І сумота ў піяцкім аблічча:
Мне не выпаўзці з гэтае ямы,
Не паслухаць далёкага клічу.

Ты жыццём, нібы жытняй мяжою,
Пакупаеш свабодна і пэўна,
Я агорнуты снежнай імглою, —
На шляху маім вее завеўна.

Над табою блакітнасці келіх,
І ў вачах тваіх ціхая яснасць,
Я прыношу апошні мой шэлег,
Каб заліць гэту злую напаснасць.

Не схаваю свядомасці млоснай
Ад цябе, незраўнанага, баю:
Раскрыжованы доляю злоснай,
Як жа душу маю захаваю?

## V

Памятаеш ты помны той вечар?
(Я яго захаваў назаўсёды.)
На трывогу здзічэла дзьмуў вецер,
І крывавілі раны заходу,
Нібы волата сэрца прабіта
І крывёй яго неба заліта.

Я казаў аб зямным бытаванні...
О, так горкай свядомасці мова!
0 духота, глухія ўспрыманні!
Яно грукае, цяжкае слова,
Як віхура аб шыбы, завейна,
Як цвікі да труны, безнадзейна.

Вечар доўгі згараў хваравліва,
Доўга падалі словы-каменні,
Ты ўважала спакойна й маўкліва
І няўзрушна была у цярпенні.
І як сціх я, была бестрывожна,
Як шляху свайго пэўны дарожны.

Падышла і схілілася: «Годзе!
Супакойся, маё небарача,
Гэта толькі тваё ліхагоддзе
Усміхнулася дзіка й лядача».
Ціхамірнага часу над намі
Спеюць радасці светлымі днямі.

VI

Маіх надзей вясёлых кветы
Паталі з горыччу на дне
У бурным, як юнацтва леты,
Ў глухім віне.

І вось, здаволены сабою,
Здаволіў я маю душу,
І ні збавення, ні спакою
Я не прашу.

Няхай для іншых сны аб шчасці,
Няхай збаўляюцца, чым хоч,
Віно — мне ўцехай у няшчасці
І маткай — ноч.

Нашто ж хадой прыйшла ўрачыстай,
Нашто ты, светлая, прыйшла
Ў сваёй апратцы снежна-чыстай
Ў прытулак зла?

Ты ззяеш яснасцю і светам,
Тваё няўхільна хараство.
Нашто ж табе піяк адпеты
І гэткі во?

Нашто хвалюеш і трывожыш?
Нашто заве пагляд святы?
Ў жаноцкай кволасці што можаш,
Што можаш ты?

Нашто спяваеш так высока?
Аб недасяжным спеў нашто?
Перад прысуду страшным вокам
Ці ўстоіў хто?

Нашто спынілася на шляху
Маіх трывог, маіх завей?
Зямных загуб, зямнога жаху
Ці ты дужэй?

VII

Ледзь знаёмы пачуецца гук,
І туга, і хаўтурнае змоўкне галошанне.
О лілеі пяшчотныя рук,
Мая радасць і дзень уваскрошання!

Спадзяваннем апошнім ты так неспадзевана
Зазіяла ў маёй цішыні.
А я думаў, што ўсё пераспевана
І даспеваны гэтыя дні.

Варажы ж, варажы невымоўнае бачанне!
Мне звінець і звінеці мацней.
Будзе ноч немінучая — страчанне
Тваіх рук незраўнаных лілей!

VIII

Няма збавення
Апроч пекнаты.
Ў маім маленні
Адзіная ты.

Адной між дзеваў
І верных жанок
Высокіх спеваў
Адвечны зарок!

Прамень світання
І сонечны госць,
Людзей вітання
Ты вартая ёсць!

О, будзь хвалёна,
Вялічана будзь! —
Табой збавёны
Не вызнае жудзь.

Малю й гукаю
Ў няўхільную сінь:
— З тугой адчаю
Мяне не пакінь!

Ў баі жыццёвым
Адвагі прыдай,
Надзеі словам
Мяне прывітай.

Пакліч павеўна
І радасць разлі,
Дазволь мне пэўна
Ступаць па зямлі.

IX

Калі змрочнасць ахутвае цьмяная
Ціхавейнаю хусткай утомы
І рука яе, ў суцень прыбраная,
Зацірае ўсе рысы й зломы;

І калі ціпыня нерухомая
Заплятае на сон свае косы
І на кветках красой невядомаю
Заблішчаць пераліўныя росы, —

Я хачу вам сказаць далікатнае,
Што, як вашы лятунні, — люботна
Уздыхнуць і згадаць невыдатнае,
Што гучыць без тугі, бесклапотна.

Як дзяцінства гады незваротныя,
Тыя гукі, што родзяцца ў цішы;
Як вады плюскатанні пяшчотныя,
Чараванне тых слоў закалыша.

І ушчэнт закаханасці поўныя
І таго, што не выкажаш мовай,
Мы пяройдзем мяжу ў невымоўнае,
За рубеж чалавечага слова.

Блізасць гэткая шчэ не запісана,
Хоць для сэрца ад веку радзіма.
Немагчымасцю сэрца ўкалысана,
Немагчымае блізка й магчыма;

Калі росы, як пэрлы срабрыстыя,
На лістках і на травах так густа;
Калі змрочнасці ціхай празрыстая,
Легкавейная, кволая хуста;

Калі мяккасцю фарб незвычайнаю
Задрамала лагоднасць над светам;
Калі сувяззю вечара тайнаю
Ноч суточана з днём яснакветым.

X

Апошнія косы,
Халодны — «бывай!»
Пасеялі росы
І зніклі за гай.

Як сум без імені,
Па твары зямлі
Пабеглі паўцені
І смугай ляглі.

А ноч, чараўніца,
За днём па сляду,
Далёкай зарніцай
Мільгнула — «іду».

Ад сонца цалункаў
Зямелька п'яна,
І змрок падарункам
Прыняла яна.

І радая ночы,
Што паліць агні,
Ледзь чутна шапоча:
«Вазьмі, палані!»

І тайнасць прасторы
Завесіць імглой,
І дальнія зоры
Засвецяць над ёй...

XI

Ў прыродзе так светлы
Змярканне й рассвіт,
Так просты, так ветлы
Спатканне й развіт.

А нам з табой смутна
Ў каханні сваім,
І радасць магутна
Не ўзлеціць над ім.

Палючы і хмуры
Агонь нас апёк,
І палкасць натуры
Хавае наш зрок.

«Умерці» — мы тоім
Ў глыбі нашых воч.
«Умерці абоім
У гэтую ноч».

І моцы жадання
Асіліць не нам;
Ахвяру змярканню
Людскую аддам.

Хоць спуджаным будзе
Крык з вуснаў тваіх,
Як любае грудзі
Прытуліць жаніх.

Зашэпча прастача
Шаўкоў тваіх бель,
І будзе гарачай
І душнай пасцель.

А белая рожа
У пасмах валос
Самоты не зможа
І звяне без слёз.

*1924— 1925*

## ДА ПЕРСІ ШЭЛІ

### I

Сваё жыццё паклаў на шалі,
А будучыня — цёмны лес.
Згадаўся думцы кволы Шэлі[1],
Ягоны светласпеўны лёс...

Іду няроўным, хібкім крокам,
За мной пануры іншых рад,
І боль на сэрцы крука крыкам,
І фарбіць горкім смехам рот.

Пажарам спаленыя далі,
І над мінулым чадны дым...
Хто ж верыць шчэ кахання долі?
Хто ж захаваў з нас яснасць дум?

Яго ж праз век нязменны белі,
Ён для народаў ясны сон.
І я ім палагоджваў болі,
Я — год жахліва-шалых сын...

Дзіцяча-мудры, кволы Шэлі,
Дажджом блакіту сэрца злі,
Майго жыцця гайдае шалі,
Рагочучы і мсціва-злы.

II

Як магло бы дзяўчо без люстэрка
Кволых вёснаў пазнаць хараство?
Што было б к параўнанню ёй мерка
І прыбрацца было б якаво?

Ці Нарцыс[2] ганарыўся б з уроды,
Ці дазнаўся б ўладарства свайго,
Каб не светлыя ціхія воды,
Што адбілі ў глыбінях яго?

І струна, каб не роднае рэха,
Каб не гэты ўзрушаючы гук,
Ці дрыжала б салодкай уцехай,
Ці гаіла б нястрыманасць мук?

І ад багны, ад рудага зрэб'я
Ці лілея б цягнулася ўвыш,
Каб не сонца прыветнае ў небе,
Не святло яго ў зяблую ціш?

І куды б мае думкі ляцелі,
І над ставам схілялісь якім?
Што пазнаў бы ў нябесным касцеле,
Каб не ўверыўся песням тваім?

О, чароўнасць! О, сонца! О, Шэлі!
О, ні з кім не зраўнаны, ні з кім!

*1923—1925*

## АЛЬБІГОЕЦ[1]

Прыйшоў ка мне той, раскрыжаваны, здань,
Што сном несмяротнасці мучыць стагоддзі,
Быў твар яго ясны, як летняя рань,
І йшоў ён, як дзень светлакосы прыходзе.

Пастукаў: «Каханнем сваім надары!»
Ды толькі стрывожыў у сэрцы дакуку.
Штурхнуў я праклёнам яго па твары
І высыпаў лаянку ў руку.

«Ізноў ты гукаеш? Манюка, ізноў?!
Ды маем тваіх абяцанак даволі.
Збавенне суліў ты, збавенне людзёў,
А ў нас, як адвеку, пакута і болі.

Пакінь, не дратуй мяне! Ў чорнай душы
Нянавісці келіх хвалюе няўпынны.
Ты зло — дабрадзейнасць маю — не глушы!
Хвалюся — я дрэнны, я злосны, злачынны!

Высокае праўды й збавення твайго
Даражэй зямля мне з грахом і аблудай.
І шчасней ад раю і ўцехаў яго
Мне ночы з апошняй паскудай.

Мой востры за працай не хібіць штылет,
І, славай крывавай, разбойствам вядомы,
Я ўсенькае нішчу, дзе толькі твой след,
І чыну свайго я свядомы!

Паслухай! Святое у справах тваіх
Даводзіць мой сум, маё гора к адчаю.
Дарэмныя ружы ад ранаў святых,
Дарэмны твой шлях крыжавы — пагарджаю!

Якая пацеха — другое жыццё?
Пацеха нябескай заплатай даброты?..
Як смерць, неадлучна мае пачуццё,
Мой рогат з авечае цноты.

Не хочу нябёсаў!.. Людскога ты — кат!
Ў цябе мая ярасць і злосці каменні,
Я — багна, смурод; я поўзаю — гад, —
Цябе ж праклінаю ў маім паніжэнні!

А можа, блюзнерства даруеш? А мо?..
Ты, поўны пакоры, кахання без зыску.
Ды толькі нашто мне здалося. Дармо!
Плюю табе ў ціхую пыску!»

А ён усё тут, і ўжо ява, не здань,
Што сном несмяротнасці мучыць стагоддзі,
І твар яго ясны, як летняя рань,
Як вечнасці дзень, што гарыць, не праходзе.

*1925*

* * *

Не кляні, о анёл-абаронца!
Вартаўнік маіх спраў, не кляні.
І самому мне нудна бясконца
Валачыць мае чорныя дні.

У змаганні ганебным няўзнаны
І самому прывабны не раз
Ў цьмяным дуле кавал алавяны, —
Як збавенне і пэўны адказ...

Твая ж мова спакусаю поўна,
Ты далей паглыбляеш адчай,
Але не — не патрэбна... ўсё роўна,
Але не — пачакай, пачакай!

Дачадзіць і сама гэта свечка,
Недалёка сумотны канец:
Скончыць смерць падрахунак і спрэчку
І задзьмухне жыцця каганец.

*1926*

## ПЕРАЙМАННЕ[1]

Ледзь лятункі ўздыхнуць аб каханку
І да сэрца прылашчыцца сум,
Ў амазонцы вы выйдзеце з ганку,
І каня патрымае вам грум[2].

Прачакалі трывожнае ранне,
Не было і сягоння ліста.
Ах, што значыць даўгое маўчанне,
А на сэрцы такая слата.

І лягчэй у блакітнай паветцы,
Дзе жальбуе сумота цішэй,
Калі конь, нібы вецер, нясецца,
Калі вецер звініць ля вушэй.

Імчыцеся вы шпарка палямі,
Упіваецца далямі зрок,
А наводдалі скача за вамі
Тонкі грум, шчэ дзіця, дзецючок.

Нібы неба, ягоны пагляды,
І танчэй, чым у дзеўчыны, пас.
Ён пацешыць вас быў бы так рады,
Ён маліцца гатовы на вас.

Ды, як мовіць, малы неразумны,
Што на сэрцы салодка цяжыць.
Толькі бровы танклявыя думны
І нямота на вуснах ляжыць.

*[1926]*

## ПРЫКЛЯТЫ

Нявесты вусны шчыльна сцяты.
Не пасміхнецца жаніху.
Але не лічыць сэрца страты
І верыць даўняму шляху.

Апошні тэрмін ўжо на сходзе,
І час здзяйснення настае,
Гадзіна вешчая надходзе,
І вось для верных знак яе.

Праз ноч жаніх мячом пазвоне —
Хвалёна будзь святое імя! —
І ўчуўшы тупат ад пагоні
Здалёк, за рэчкамі дзвюма.

А ўсход ружова-светлы будзе,
Скудлачыць вецер пасмы хмар,
Калі пры звонаў перагудзе
Нявесты праяснее твар.

*1926*

## ІРОНІЯ

Аздобленае ў мудрасць сэрца
Стае, здаволена малым,
Дабро жыцця ў найменшай мерцы
Удзячнасцю сугучна ў ім.

Ды хто ляпей (хоць мо і люта)
Нас вучыць шанаваць дары,
Як не хвароба і пакута?
Як не блізняты — дзве сястры?

Шмат дзён ляжаў я непрытомны,
У цяжкай немачы слабы,
І варажыў мой лёс таёмны,
Паўнюткі горкае жальбы.

Знясілены, худы, без ежы
Чакаў я — стухне воч святло,
І дух слабеў на цёмным ўзмежжы, —
Але жыццё перамагло.

І як не правы ты, Дэкарт![1]
Далі мне есці, я каштую
І чуюся, што нешта варт:
Я ем, і я — ужо існую.

*1926*

## НА ЭМІГРАЦЫІ

Даўно ўжо тыя ж дні й не тыя,
І я, патрэпаны, не той.
Як жудасна вятрыска вые,
Нібы над згубаю маёй.

Там за акном глухая восень
І ноч лягла стаццём глухім.
Не ведаю, нашто здалося
І што пачну з жыццём сваім.

Якую дам сабе я раду
І накіруюся куды,
Калі віхор гудзе без ладу
І к радасці замёў сляды.

Мае пакрадзеныя скарбы —
І звонкі смех, і зрок жывы,
І дум вясёлкавыя фарбы,
І песні — дзе цяпер? Дзе вы?

Ад жахаў долі чалавечай,
Што не сціхалі на мамэнт,
Душа зрабілася старэчай
І апарожненай ушчэнт.

Няўтульны мой пакой, бы з дошчак
Непагаблёваных труна.
Застылым поглядам — нябожчык —
Дзіўлюся ў шчыліну акна.

Там душыць ноч, як камень муру,
Але тугі мацней цяжар.
А маладзік — плывец у буру —
Кіруе човен свой між хмар.

Мне ўсё часцей радзіма сніцца...
Там рух і песні аб вясне,
Там працы творчая крыніца,
Там мо знайшлося б месца й мне?

Дый там патрэбна маладое,
Ў кім гарту, палкасці не брак,
Нашто ж прыдамся, на якое,
Спарожнены, разбіты гляк?

Убогі стаў я, й страх за тое,
Што ўбогасць бачыць госць не госць,
І перад рэчамі ў пакоі
Сутулюся, дрыжу чагосць,

Нібы і ім вядомы страты,
І бачаць, глянуўшы ў душу,
Якой назолай я працяты,
Якія думы я нашу.

І нават месяц бледна-срэбны
Смяецца рогам за акном:
— Ты больш нікому не патрэбны,
І сам сабе ты цяжаром!

*1926*

* * *

Летунковасць, нерашучасць,
Мая вясна, твае удаласці
Дзён плывучых немінучасць
Змяняе ў лета пэўнай сталасці.

Сёння я не той, калішні,
З вачыма— ціхімі заранкамі;
Вусны ўжо не тыя вішні,
Як некалі вясны світанкамі.

Юнаку было прынадна
Раскідваць звонка і не лічачы.
Сэрца мудрае ашчадна
Збірае, дробкамі вялічачы.

Дзе кахаў нацяк, павеўнасць,
Сугучнай збежнасці магутнасці,
Дзе шукаў адно напеўнасць, —
Шукаю сёння іншай сутнасці.

І дзе біўся, плакаў моўча,
Дарма вымольваў з малітоўнікам,
Там з мячом іду станоўча
Я — пераможны — заваёўнікам.

Ду́мны з натаўпам на пляцы
Мой пруткі крок на стромасці,
Час упартай, жніўнай працы,
Вітаю час мае свядомасці.

А калі пяшчот прынадства
Мне бліснe ў будняў сцюжнасці, —
Гэта васілёк юнацтва
На слуцкім пасе кутай мужнасці.

*1926*

* * *

Перайманне[1]

Запытаў я морскі хвалі:
— Дзе пазбыцца думак хмурых?
І ў прыбой яны сказалі
— Радасць — толькі ў бурах!

Запытаў я ветра ў полі:
— Адкажы мне, калі можаш,
Як пазбыць жыцця нядолі?
І пачуў: «Змагайся — зможаш!»

Запытаў я ў небе Сонца:
— Як рассеяць змрок імглісты?
Не прамовіла мне Сонца,
Ўчула ж сэрца: «Будзь агністы!»

*1926*

* * *

Каму жыццё — атруты келіх.
Хто спаняверany, як я,
Хто ўжо не сніць аб далях, белях
Пад ветру свіст і шум быпля;

Каму спакой душы няшчаснай
Нездавальнення точыць крот;
Каму дакучыў жонкі ўласнай
На ўласным ложку пешчаў мёд.

Каму распачна ноч пустую
Спакусным смехам цешыць сук;
Каму ўсё роўна, бы якую
Сціскаць пярсцёнкам млявых рук;

Хто сэрца — поўную амфору —
Нясці стараўся й не данёс:
Хто патаёмных мукаў хвору
Гаіў расою начных слёз;

Хто душу чорную, як вугаль,
Злачынствам цешыў і крывёй;
Хто п'яніца, разбой, зладзюга
З мізэрнай, дробнаю душой;

Каму распусты жах прынадны,
Хто гора топіць у віне, —
Маім абдоймам тыя жадны,
Прыходзяць тыя да мяне.

Я ўсіх вітаю ветла, рада, —
Хто б ён ні быў, хто ён ні ёсць, —
Мае жаночыя прынады
За плату мае ўсякі госць.

Я імітую ім каханне,
Ім не суджонае праз лёс,
Нясмелыя дзяцей спатканні
І палкасці глухі наркоз.

Змушаю верыць мімаволі
І жар збуджаю малады,
Сама няўзрушная ніколі,
Сама халодная заўжды.

Ў душы адзін, адзін лятунак,
Глыбока схованы на дне, —
Далёкі, любы мой пястунак, —
Той, хто кахаў калісь мяне.

Які не смеў, не смеў ні разу
Свае мне пешчы даравaць,
Якога мела за абразу
Ў дзявочых думках цалаваць.

Цяпер і ён такі ж прапашчы,
Ланцуг жыцця цягае ледзь;
Ніхто, ніхто яго не лашчыць, —
Лёс прысудзіў яму гібець.

Цяпер, як кожны ён, як кожны —
Будынак знішчаны, пусты;
Час папаліў усё, што можна,
З кута прыбраў абраз святы.

Ды сэрца сніць пад шум асенні,
І сну мне не мінуць таго,
Ў маім найбольшым паніжэнні
Сустрэну незнарок яго.

У сэрцы будзе боль і горыч,
І мы два целы, дзве труны,
Мы рукі сціснем, ляжам поруч.
І аб мінулым будуць сны.

Як вербалозы нікнуць веццем,
Так нізка схіліцца ўспамін
Над нашым страшным ліхалеццем
І над канцом далёкіх дзён.

*1926*

* * *

Не складаць мне болей песняў,
Не будзіць у пушчы рэх,
Перад сонцам напрадвесні
Не рассыплю срэбрам смех.
Стала госця ля парогу,
Белым вабіць рукавом:
— Выйдзі, любы, у дарогу,
Новы дам начлег і дом.
Пашкадую дарагога,
Суніму ягоны боль,
Толькі слухацца дазволь,
Ледзь схіліцца мне дазволь.
Што ж, спакойны і гатовы,
Я й адклікнуўся на кліч,
Адчыню дзвярэй засовы
Я без радасці, без мук.
Ў невядомую пуціну
Немаведамы парог
Перайду...
Без клапот і без трывог.
Толькі, госця, няма веры,
Не мані, не абяцай:
Я зямныя бачыў меры
І зямны я ведаў рай.

*1926*

## ЦЯЖЭЙ ЛАНЦУГОЎ

Цяжэй ланцугоў летуценні,
Іх знішчыць мне сіл не прымець.
Як вязень у доўгім вязенні,
Ўтаміўся я песняй звінець,
Як горыч атруты пякучай,
Як тонкая злая страла,
Так горкая радасць сугуччаў
Смяротна мяне працяла.
І вось ужо блытана споведзь
Заўсёды хвалюе ў грудзях,
І нельга няшчыра прамовіць
У верша нязвязных радках.
І вось ужо ў дзеях, і чынах,
І справах будзённых, людскіх
Я ўзрушаным сэрцам няўпынна
Шукаць хараства не прыцiх.
І сэрцу не ймецца, што трэба
Хаваць аб высокім тугу,
І родныя кветы і неба
Ніяк раскахаць не магу.
І блізкае гэтак далёка,
Са мной не па сіле цяжар, —
Як вецер дыхлівы, жарстока
Смяецца мне розум у твар.

*1927*

## МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

Так зайздрасна: насіць вянок паэты
І мець імя задумнае Максім,
Кахаць зямлю з яе жыццём глухім
І песняй перавіць юнацтва леты;

Ад хараства не ведаць іншай мэты
І адшукаць, што горда поўны ім,
І родны люд у руху маладым,
І зачараваных палеткаў кветы.

Ды тым цяжэй ў краі чужым заўжды
Счыняць павекі й ведаць, што сюды
Не даляціць зязюлі голас летам,

Ні песня беларуская ў жніво,
І прыгадаць няраз, што мо і ў гэтым
Трагічнае схавана хараство.

*1927*

## ХВОРАМУ

У змаганні дзікім змогся ты
І выпляваў дарэшты грудзі.
Надзей няма ў цябе й не будзе,
І ў сэрцы холад пустаты.

Ляжыш худы — сухая жэрдзь, —
І шчокі — яркія півоні.
І вось у галавах на ўслоне
Яна — збаўляючая смерць.

Запамятаць ты быў бы рад
На ўсё, што сэрцу гэтак міла,
На ўсё, чым сэрца гэтта сніла,
На ўсё, што цешыла пагляд.

Ды памяці снавацьме ніць,
І розум яснасць не пакіне,
І караблямі ў далі сіняй
Ўспаміны будуць плыць і плыць.

Згадаеш цёплы сум начэй,
І светлы дзень, і дзень твой чорны,
І гэты свет наш непаўторны
Прынадней здасца і мілей.

Наўкола ж будзе той жа рух —
І слёзы, й смех жыцця зямнога,
І думка, што табе нічога
Не трэба болей, сцісне дух.

І зразумееш ты суздром,
Што ні адна людская немач
Не ззяе гэткай мукай немай,
Жахлівым гэткім хараством.

Таму ў апошні час цяжкі,
Ў тваю апошнюю часіну
Прысніш ты слодыч адпачыну
І пешчы добрае рукі.

*1927*

## АНТОНУ НАВІНЕ[1]

Так шукальнікі новых прастораў,
І знаходцы краёў невядомых,
З безжахліваю, мужнаю думкай
І нязломнай, сталёваю воляй;

Падарожныя ў тайнасці ведаў,
Неспакойны чый розум, як шруба,
Што без нехаці ў несыці вечнай
Зашрубоўвае ўдаль і глыбіні;

Заваёўнікі мечам і духам,
Для якіх у запале адвагі,
Падбіваючы сэрцы й дзяржавы,
Не існуе ні меж, ні запынаў.

Песняры, мастакі і музыкі,
Хараства і сугучнасці слугі,
Закаханыя ў буру і громы
І з душой, як збаночкі лілеяў;

Будаўнічыя вежаў і гмахаў,
Падпіраючых неба і неба;
Ўсе, хто прыйдуць па нас і за намі,
Каб тварыць, дасягаць і імкнуцца, —

Ўсе яны мімаволь пазайздросцяць
Нам, абветраным воляй прадвесня
У напоеным поўняй паводкай,
Крышталёвай вызвольнага руху,

Бо у кроку паўстаўшых працоўных
Свецяць новыя творчыя далі
І цвітуць невядомыя скарбы
У душы беларускага свету.

І музыкі не чулі матываў,
Задумёней і чулей ад нашых,
І збудаваны чорнаю косцю
Непаўторны наш храм адраджэння.

Ды і кожны, паверыўшы казцы
І гартуючы сэрца да чыну,
Нагадае і нашу сучаснасць,
Уздыхне аб часах прамінулых.

І імя аднаго не забудуць,
Хто маяк быў і бераг далёкі —
Узрушаючай весткаю будзе,
Будзе вабіць заўжды Навіна.

*1927*

## ПЕСНЯ ДЗЕСЯТЫХ УГОДКАЎ

Спявайце, браты мае, нашае Ўчора:
У ім Рэвалюцыі полымя, ў ім мы
Спалілі азырклае, чорнае гора,
У працы свабоднай прапелі мы гімны.
Ніколі тых дзён не забыцца вялікіх,
І помнім: на зломе крывавым стагоддзяў
Як вецер туліў нас прарэзліва-дзікі,
Як золь рагатала: «Аслеплыя, годзе!
Куды вы?» І скаліўся голад пагана:
«Паноў ім не трэба, дык буду іх панам!»
А нас не стрымаў ані штык, ані холад,
Ішлі мы напорна і кожны быў волат.

Ўзняліся магутна ў віхрах непрыветных,
Каб скінуць вяковыя рабскія ёрмы.
Нянавісцю горкай, каханнем сусветным,
Запалам мяцежным сягалі да зор мы
І ў бойках дужэлі, хмялелі без хмелю
І гэткім агнём непаўторным гарэлі.
Спявайце, браты мае, нашае Сёння:
Ў ім творчыя высілкі, творчыя будні,
Вялікае спее ў ягоным узлонні!
Хоць крок наш павольней, хоць крок і марудней,
Ды пэўны і сталы, і поўны надзеі —
Хто змог руйнаваць — будавацца умее.
Будуем няўпынна і працу вялічым,
І ўсе мы і кожны — тварэц-будаўнічы.
Спявайце, браты мае, годы паўстання,
І працы пчалінай, плановай вітанне!
Радзіма нам — буры ўчарайшай паводка,
І сённяшнім трудным мы поўны да краю.
Але гэта песня дзесятых угодкаў
Няхай будучыні красу прывітае,
Няхай наша Заўтра вітае ўрачыста,
Дзеззяе маяк перамогі агністай.
Бо веру ўсёй шчырасцю словаў паэты,
Ўсёй вольнасцю думкі пяснярскае веру:
За труднымі днямі —канцовая мэта
І бераг абецаны, родны наш бераг.
І там справядлівасцю сэрцы напоўнім,
Там сонца і кветы Камуны працоўных.

*1927*

* * *

Свядомасці горач мацней алкаголю,
Ўжо чарка распутала дзікую волю,
Ўжо мэрам бурштыны у чарцы налітай,
Нраякавасць гіне, і гора пазбыта.
Свабодны — і згадкі няма аб ўстрыманні
Бяссорамней рухі, крыклівей жаданні,
І штосьці язык недарэчнае плешча, —

Чужая ж кватэра і куплены пешчы.
І хочаш апошнія сцерці румянцы,
Часцей і няпэўней схіляешся к шклянцы.
А памяць, знібеючай горычы поўна,
Заўважвае ўсенька, халодна й пунктоўна, —
І рух мой найменшы, і кожнае слова,
І голас сяброўкі мае прыпадковай,
І гэту бяздушнасць на згамтаных тварах,
І холад абоймаў разлічана-скнарых,
І наша ганебнае ложка супроці,
Як скрыню грахоў, уздыхаўшых па цноце.
І сэрца заныла смяротнаю ранай,
І крыкнуў я, крыкнуў у роспачы п'янай:
— Паслухай! Я слухаў аб дужым і мужным,
Я чуў аб цвярозым і думна-натужным,
І песні былі з незабыўнай адною,
Што песняй ўладала і доляй маёю.
Паслухай! Дык як жа? Дык як жа, калішні...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Спыніла каротка — ты выпіў залішне!
Пад чаркай усе вы героі ды палкі!
— Падай мне, вунь там — цыгарэты й запалкі.

*[1927]*

## КУРКА-РАБКА

З народнага

Жылі дзедка з бабкай.
Мелі курку Рабку
Слаўнага заводу,
Важную на ўроду.
Баю-байкай байка:
Знесла курка яйка
Не абы якое,
Але залатое.

Выняўшы з падпечка
Дзіўнае яечка,
Кажа бабцы дзедка:
— Гэта штука рэдка!
Трэба нам, канешне,
Зласаваць яешню!
Бабка не пярэча,
Тупае ля печы:
Радая, вядома,
Дагадзіць старому.

Вогнік на камінку
Развяла ў часінку,
Ўстанавіла спраўна
Дзве цаглінкі слаўных,
Зверху ж скавародку.
Узяла са сподку
Лыжку масла жыва,
Каб была пажыва.

Біць яечка стала,
Ды бяда спаткала,
Біла яго, біла,
Ніяк не разбіла.
Біў і дзедка ладна —
Няма рады жаднай.
Сталі — развражаюць,
Што рабіць, не знаюць.

Ў часе гэтых гадак
Здарыўся прыпадак.
Мышка — Доўгі Хвосцік,
Бегла шпарка штосьці,
Мо па важнай справе,
Просценька па лаве.
Ды нібы праз зводы,
Нарабіла шкоды.
Паспяшала трошку,
Паслізнула ножка,
Хвосцікам махнула,
Яйка паштаўхнула,
Незнарок скаціла
Вобземлю й разбіла.

Дзедку з бабкай страта:
Плачуць на ўсю хату,
Як дзіця якое,
Слёзы льюць абое:
— Гэткая прыгода!
— Вось яечка шкода!

Курачка ж кудахча:
— От старым няўдача!
Ды й бяды ўжо тое —
Плачуць, як малое.
Я ж знясу другое,
Хоць не залатое!

Гэту казку спатайку
У дзіцячым нейк садку
Прачытаў я, як на грэх,
Двум сябрам-кастрычаняткам,
І дастаў ад іх парадкам,
Паднялі мяне на смех:

— Тут павінна быць памылка,
Ці зманіў нам дзядзька Жылка.
Бо, як кажа нам навука,
Немагчыма гэта штука,
Хоць шукай у дзень са свечкай,
Курка каб знясла яечка
Не прастое, залатое,
Ды і моцнае такое,
Што і дзед, і бабка білі,
Білі-білі — не разбілі
І на лаву палажылі,
Мышцы страху нарабілі.
Гэткай рэчы з нас усяк
Не паверыць аніяк.

Гэтак мне сказаў Рыгорка,
Падтакнуў яму Зыдорка:
— Але знаем мы даўно,
Што з яечка, хоць прастога,
Для дзяцей пасілку многа,
Тым каштоўнае яно.
І таму вось залатое
І для дзетак дарагое!

І на гэты іхні сказ
Мой такі быў ім адказ:
— Ад пачатку да канца
Вы, браткі, казалі трапна.
Не што іншае, як вапна —
Лушпавінка ад яйца.
А ў яйцы спажытку шмат,
Таму кожны з'есці рад.

Дык прашу вас, калі ласка,
Прыгадаць, што гэта казка
І пра дзедку, і пра бабку,
І пра курку Рабку.

*1928*

* * *

Млынар заставіў застаўкі,
І ледзь плюскочацца рака.
Стралой крыла чыркаюць ластаўкі
Люстранасць ясную стаўка.

Блакітнаплашчы з захаду
Дзень хіліць русу галаву
І ў спрат ссыпае скарбы-знахады —
Залатапромені ў ставу.

І вее яснавокаю,
Шыракакрылай цішынёй,
І ціш, як неба, безаблокая,
І ясна на душы маёй.

І ў душу палі знахады
(Залатапромені ў ставу).
Адрынь, пясняр, згрызоты, захады,
Ўзнясіся песняй к хараству.

*1928*

* * *

Р.М.[1]

Каханню нічога не трэба,
Каханне нічога не просе, —
Так радуе сіняе неба,
Так цешыць валошка ў калоссі.
Каханне, як песні пра зоры,
Лятункам заўсёды высока,
І шчасцем у свет, у прасторы
Каханкі расквітвае вока.
І нат у затоенай скрусе
Тваіх неразздзеленых пешчаў
К жалобе ніхто не прымусе
Надзею, што зрушана плешча.
Каханая, любая, квеце!
Ў палоне вясёлае долі
Ёсць песняй аб кім летуцеці,
І сэрцу даволі, даволі.
І сэрца бясхмарнае ясней
Схіляецца постаццю спелай,
Хоць сэрца яшчэ было б шчасней,
Каб дбаці аб кім яно мела.

*1928*

* * *

Будзь бласлаўлёна, мая маладосць!
Кроў неслухмяная, цьмяная млосць!

Радасці дужыя крылы
Кануць у сіні нябёс;
Песні ласкавае мілай,
Песні мае незабылай,
Поўныя снення і кроз.
Вецер разводдзем паводкі,
Як яе вусны, салодкі,
Вецер вясняны прынёс.
Сэрца ад млосці без сілы
Светлае штосьці прысніла,
Хоча і смеху і слёз.

Ў гэтым узрушаным сненні,
Ў сонечным гэтым прамені
Песень яе маладых —
Шчасны я шчасцем-маленнем
І, ад жыцця ў захапленні,
Хочу і паху й каджэння
Кветаў уцешных зямных,
Сцежкам паверыць вясеннім
І заблудзіцца на іх.

Будзь бласлаўлёна, мая маладосць!
Кроў неслухмяная, цьмяная млосць!

*1928*

## РАЗВІТАННЕ

Пара! Не моўкне хваль гамонка,
Спявае вецер свежа, гонка
    І ветразь плешча — адплывай!
Цалуй ў апошні моцна, звонка —
Мой сум, як золата пярсцёнка,
    На сэрца лёг і цісне ўкрай.
Але трывог не ўбачаць вонках,
Хоць вочы — светлая палонка, —
    У іх адно, адно чытай.
Насупраць мне з імглы пялёнкай
Паўстане бур атхлань — прадонка
    І бура выпесціць адчай.
Але хай машта квіліць тонка,
І ўспамінаецца старонка,
    І мора пеніцца няхай, —
Затым, што мужны буду, жонка,
Вярнуся я, а ты ў ваконка
    Цікуй і цноту ткліва дбай.
З далёкіх падарож, мая сасонка,
Я прывязу суровых вод звычай,
І сэрца вернае, і ў тронках
    Вось гэтых — гэты нож... Бывай!

*1928*

## НАД КАЛЫСКАЮ

Маё дзіця, маленькі мой...
Якое шчасце — маці ты
Сцяблінкі кволай і слабой
І воч нябеснай яснаты.
Заводзіць, зводзіць пачуццё,
І летуценні завялі,
Нялёгка жыць, гняце жыццё,
Гняце і хіліць да зямлі.
Зґрызотамі аб чорны хлеб
І працай чорнай смычуць дні,
І на абліччы смутку крэп
Без глыбіні, без вышыні.
А я усцяж пяю — дармо,
Па-за дзвярыма сэрца — жах!
І ў паўнаце душы такая моц,
Мой сын — і зброя мне, і сцяг!
І хай не раз, нібы штылет,
Пратне душу ці злосць, ці ноч, —
Збавенне мне ласкавы свет
Дзіцячых ціхіх, ясных воч!
Надзей няздзейсненых з вякоў,
Усмешлівых маіх часін,
Ўсіх уздыханняў, гордых слоў
Вясёлы, гучны бераг — сын!

*1928*

## ВЕРШ РАЗВІТАННЯ

Феліксу Купцэвічу[1],
сэрцу, раздзертаму болем па Бацькаўшчыне,
прысвячаю

О, мой Край, — раздарожжы з крыжамі,
І разоры разворвае жудзь!..
Люты боль працінае нажамі,
Што мне песень тваіх не пачуць.

О, мой Край, ў яснавейнае ранне,
Калі твой пахапляў я намер,
Быў ты першым, дзіцячым каханнем,
Мне й апошнім застанься цяпер.

Думаў я, што не будзе выбоін,
Не наважацца стрымваць хады,
Што мінуўшчыны крыўды загоім
Буйнай хваляй вясновай вады.

Але не... хмуры твар майго люду
Кажа зноў аб нядобрай сяўбе.
І мяне, як злачынцу-прыблуду,
Павядуць сумаваць без цябе.

Не спытаю, чаму і завошта
Адрываюць ад бацькаўскіх ніў —
Я юнацтва і радасцяў коштам
За каханне сваё заплаціў.

Што зраблю я вось з гэтакім сэрцам,
Яно зранена дзідай завей,
Мо затым, каб не быў спраняверцам,
Мо затым, каб любіў я мацней!

Мо затым, каб навек непарушна,
Каб навек зліўся з Краем мой дух,
Маё вернае сэрца, ты слушна
Закавана ў пакуты ланцуг!

О, мой Край, злога ветру пагудкам
Не заліць твайго шчасця зару!
Гэты верш развітання і смутку
Ты згадай ў залатую ґару!

Дык бывай жа здаровы, каханы,
Зацвітай і красуй у вяках!
Скажуць людзі: як ліст адарваны,
Па табе я ў чужыне засох.

*1931*

# *Вершы невядомых гадоў*

## ГІМН БЕЛАРУСКІХ ПАЎСТАНЦАЎ

Час, Беларусы, ўжо час —
Маці-Краіна нас кліча.
Устанема дружна, ураз —
Сіл нашых вораг не зліча.

Рушыма ў бой
Усёй грамадой —
За люд працоўны,
За волю і роўнасць!

Грозны надходзіць мамэнт,
Бой пачынаем рашучы:
Скрышым старое ушчэнт,
К волі змагарна ідучы.

Рушыма ў бой
Усёй грамадой —
За люд працоўны,
За волю і роўнасць!

У песнях бязудзерж таім;
Вецер штандарамі вее.
Прысягу складаема ім
Родных не здрадзіць надзеі.

Рушыма ў бой
Усёй грамадой —
За люд працоўны,
За волю і роўнасць!

Бурны нас радуе дзень,
Кліч агалошвае полі,
Сонца вітайце прамень
Праўды мужыцкай і волі.

Рушыма ў бой
Усёй грамадой —
За люд працоўны,
За волю і роўнасць!

Дружная моц — грамада
І перамозе зарука,
Больш нас не чэпіць бяда,
Годзе напасцяў, прынукаў!

Рушыма ў бой
Усёй грамадой —
За люд працоўны,
За волю і роўнасць!

Край абаронім грудзьмі
Ад панавання палацаў.
Вольнай, працоўнай сям'і
Ўспор красаваціме праца!

Рушыма ў бой
Усёй грамадой —
За люд працоўны,
За волю і роўнасць!

## КАВАЛЬ

Горан мехам раздзьмухаю,
Палажу на горан сталь.
Што рабіць, я знаю, знаю,
Нездарма куе каваль!

Падзялілі чужаніцы,
У няволі старана.
Не скую у плуг паліцы —
Не прыдасца мне яна.

Закаваны люд мой, волат,
Крыўд нязлічаных цяжар.
Вышай, вышай, верны молат,
Нестрыманы ў сэрцы жар...

Хлопцы, хлопцы, — на змаганне!
Гэй, крыўдзіцель, вораг, — прэч!
Нездарма каваў я зрання,
Недарма навостран меч.

* * *

У сэрцы нязрадна туга аб адной,
Нязнанай, адзінай, вяльможнай,
А колькі было іх у далі маёй,
І сэрца ўзрушалася кожнай.

* * *

І ў сэрцы (Божа, якаво!) —
Якія спевы і маленні.
О, як ні раніць хараство —
Яго туга, яго баленні,
Нібы празрыстых тайн пітво, —
Не весць хаўтур, а знак збавення.

* * *

Ясната, пекната,
Неба сінь — любата,
Вось дзянёк!
Цёмны гай, неўнарай,

Быццам казачны рай,
Вабіць нас у цянёк.
Згода, ціш, не ляціш
Вольнай думкаю ўвыш
Ад зямлі.
Добра тут. Верыш ў цуд.
Свет, цяпло — родны кут
Спавілі.

## БЕЗНАДЗЕЙНАСЦЬ

Ноч стушыла агні, пад акно
Падступіла й цікуе жахліва.
Што пачну выглядаць? Не відно,
Не відно — за акнамі маўкліва.

Без зары, без агню немага,
Немага, калі ноч — як магіла.
І чаго спадзявацца ільга,
Калі змроку крыло атуліла?

На душы пустата, немата,
Не ўзрушае ні песня, ні дзейнасць.
Толькі сум, як увосень слата,
І спакой, і спакой — безнадзейнасць.

* * *

Падарожным, Божанька,
Ды не легка йсці.
Не відаць дарожанька —
Цяжка ў беспуцці.

З тропу, сцежкі роднае
Збіліся дзяды,
І гады нягодныя
Замялі сляды.

А душа мужычая
І да гэтых пор
Па старому звычаю
Моліцца да зор.

Нашы сёстры, мацеркі
Сэрцам у жальбе,
Пацеры у пацеркі
Ніжуць да Цябе.

Над мінучай славаю,
Гучнаю, як звон,
Над вялікай справаю,
Кінутай ў палон.

* * *

Нягоды твой не зменяць крок,
І ты пяшчотная ўсё тая ж,
І радасці жыцця ў вянок,
Як і калісьці, завіваеш.

Я ж лёсу не асіліў жудзь
І небыцця спужаўся плоймы,
І страшны, палахнечы пуць
Мяне вядзе ў твае абоймы.

Прыходжу, як даўней, к табе,
Але ўжо з іншым, горкім сказам,
А ты уваж маёй жальбе
І пасядзі са мною разам.

Кажу, а голас мой, як брэх, —
Ну што, мы толькі снім аб шчасці,
Звініць дачасны рады смех,
Каб абарвацца і прапасці.

І мой жа праз вякі цяжар,
І свет нікім не перайначан,
І кожны новы людскі твар
Пячаткаю трагічнай значан.

А ты кажы, што любы хвор
Ці нейкім чорным спален сонцам,
І што адвечна ззянне зор,
І б'е жыццё цурком бясконцым.

## ДЗЕНЬ І НОЧ

Ў раскошы пераможнай дня,
Ў святле і яснасці ўрачыстай,
Ў яго апратцы залацістай —
Жарстокая харашыня.

Праз сонечны яго пагляд
Душа заўважае халоднасць,
І дзіўную трывог нязгоднасць,
І у цвярозасці разлад.

Праходзіць ён па-над зямлёй,
І да зямлі самой бяспечнасць.
І ўсё ж глухая бессардэчнасць
Да працы й клопату людзей.

І, стомленым, здаецца нам:
Пад бліскам гэтага каберца
Другога свету б'ецца сэрца
І тайна бытавання там.

Завянуць, збледнуць фарбы дня,
Прысуд не знаючага, помсты, —
І невядомыя таёмствы
Уявіць цемры глыбіня.

* * *

Маіх радасцяў лісце спадае,
Нібы лісце пажоўклае дрэў.
Эх, карчомная доля благая,
Патапіў бы цябе, каб прымеў.

Па-за воканню вецер галосе
І скавыча, паганы і злы,
Незадачная гэткая восень,
Незадачная радасць імглы.

І натрапіш на гэткую нетру,
Бы ў прадонную чорную цьму.
Не, я толькі ад лютага ветру,
Я ад ветру схаваўся ў карчму.

А калісь было неяк іначай
І хапала цяпла без таго,
Горкай памяці дробнай астачай
Да дзяцінства кульгаю свайго.

Але й тут жа на розум мужычы,
Як і ўсюды — жывыя людцы.
І ў маім мо чытаюць аблічы,
Што не звёў я з канцамі канцы.

* * *

Ночка марозная,
Пад нагой сняжок.
Да цябе, няжданая,
Я прыйду здалёк.

І рукою, белая,
Стукну пад акном,
Гордая і смелая,
Увайду ў твой дом.

І цябе, слухмянага,
Павяду упроч,
Ад завеі п'янага,
Скрозь глухую ноч.

* * *

На жвіровыя ставіў я карты,
Хоць прыйшла рызыканту напасць,
Ды не брак рызыканцкага гарту,
Так і стаўлю на чорную масць.

І пад нос пасміхаюся крыва,
А кажу, каб не выдаць, што слаб, —
Што ж, на слодыч і шчасце мы хцівы, —
Вось з гарчэчай ужыцца патрап.

* * *

А ты кажы, што радасць ёсць,
Што слодыч збаўчая ў пакоры,
Я толькі занядужаў штосьць,
Я толькі недаўменнем хворы.

А ты цалуй, сціскай мацней,
Ён людскі, немінучы жэраб,
З-пад тонкіх броў, з арбіт вачэй
Рагоча мне твой бледны чэрап.

* * *

З дзяцінства фіялкавых раніц
З юнацтва лілейнага дзён
Малітваў не знала, ружанец,
Нясла слугавання закон.

Ў вянкі завівала лятункі,
Аквечвала ж кроплямі слёз,
І ў ночы прыносіў дарункі
Ласкавы, салодкі Хрыстос.

Ні з кім не дзяліла пасцелі,
Нявехну туга праз гады,
Каб вернай дзявоцкасці белі
Нязгаматна ўзяў малады.

## ПРЫКЛАДЗІНЫ

Пераймание Гарацыя[1]

Паставіў я сабе прыклад навек трывалы,
Выносісты вышэй за валатовак вал,
Не скрышаць мне яго ні ўлевы, ні навалы,
Ні часу, дзён і год бурлівы перавал.

Увесь я не памру, нястленнымі дарамі
Найлепшае з мяне запоўніць мой працяг,
Пакуль Пагоні меч зіхціць на Вострай Браме
І рух нясе наш бел-чырвона-белы сцяг.

І скажуць пра мяне, дзе ціхаводны Нёман
Абняць хутчэй імчыць вірлівая Вялля,
Што, цалкам кволы, я на духу быў нязломан
І ўсё насіў нашы да роднага вулля.

Бо быў між першых я, што летуцелі палка
Пабачыць, як муры залье крывіцкі рух.
Мае заслугі ўзваж, сялянская Купалка[2],
Валошкавым вянком аздоб чало сукрух.

# З накідаў

## НАРОДНАЕ

Я ішоў уздоўж доўгае вёскі,
стомлены гарачынёй падарожны;
я даўно мучыўся ад смагі,
было жніво, і людзі працавалі ў полі, —
і таму зрадзеў,
калі ў пахкім маленькім агародчыку
ўбачыў дзяўчыну,
якая палівала кветкі перад хатай.
Я папрасіў піць.
Дзяўчына ахвоча падала мне
конаўку халоднае празрыстае вады,
а сама лагодна следкавала,
як смагла я піў.
Яна была моцнай, чырванатварай
і не мела нічога нябеснага, узносячага,
тонкі капоцік прыкрываў
прудкія малыя грудзі —
як з абразоў галандскіх майстроў, —
якія абяцалі цёплыя зямныя радасці.
Я падумаў:
як добра пакінуць неазначаныя летуценні
і гэтую кволую закаханасць, а вось пакахаць
губамі, рукамі, усім целам
вось такую здаровую, цёплую, як гэта.
Забыцца на ўсё містычнае,
а песціць у вясковым агародчыку
перад хатаю з вокнамі на вуліцу
чырвоныя зямныя адцвітаючыя ружы.
Вечарам жа пасля потнае працы
памыць рукі і ўсесціся

ў коле сям'і за агульную міску
пахучай вячэры.
Так я думаў, калі піў,
і таму на развітанне
пажадаў ёй здароўя
і прыгожага жаніха.
І пайшоў далей, сумуючы, што мой шлях
цяжкі і самотны
і ніколі не быць мне
простым[1].

## БЕЛАРУСКІ АДДЗЕЛ

Прысвячаецца беларусам[1]

На сёлеташнім курсе
Іх дзесяць чалавек;
Народ ўсё спраўны, зухі
І не дадуцца ў здзек.

За словам у кішэню
Не сунецца, нябось.
Для першага знаёмства
Тут іх партрэты вось.

I

Заўжды каўнерык чысты,
І з выгляду bon ton[2],
Хаця не так па роду —
Ў манерах шляхціц ён.

II

А з гэтым ну і гора,
Ну й мнімы гаспадзін,
Убіў сабе, што хворы,
А дуж, як не адзін.

III

Разумная галоўка —
Ён, беларус і «патрыёт»,
Ад табліцы вяртае
І чуе «ідыёт!».

Як «партыйку» здае,
Каб больш было унятна,
Ён не шкадуе слоў
Усім «общепонятных».

IV

Шэсць год вучыў французскі
І ў толк ўсё не бярэ:
Ізноў на сёмым годзе
Berlitz premier livre[3].

А гляньце: назвалок,
«Культурай» пераняты,
A la français pince-nez[4]
Ўздзяе на нос дзюбаты.

V

Маленькі і пузаты,
Паважны і жанаты,
Ды лепш яго не знаць.
Падслухаўшы размову,
Даўно яму не нова
Другіх «інфармаваць».

VI

Кумпанаў іншых двух
Ў Расошках[5] субпакой,
Ды целам толькі тут,
А палкаю душой
На Бацькаўшчыне, з Ёй...

VII

І першы з гэных двух,
Хоць ростам невялікі,
Магутны мае «глас»,
Дарма што крыху дзікі.

VIII

Прылгаць умее спраўна,
Ды гэта шчэ не брак,
Здаровы, сэрцам моцны,
Чырвоны, як... бурак.

## IX

Таварыш добры й нават
Крыху ў душы паэт,
Адно злуецца часта,
Калі яно й не след.

Дзесяты ж аўтар гэтых
Удалых абразкоў,
Пра ўласную асобу
Ён з ветласцю паэты
Зусім змаўчаць гатоў.

## ДА ЗОСІ[1]

Сінявокая ноч, мост між светам і нашай зямлёй...
Дзень нарадзіў нас, але ноч вучыць мудрасці.
Так мудры ў смазе па адвечным (і глыбокім)
спяшаецца ад вернай цёплай Зосі
Прыпасці да крыніц няўзрушаных і ясных Зофіі.

## ПРЫ ROENTGEN

Не Фаўстава гэта хата, душа з праклёнам тут не ўваходзе,
Не, гэта Рэнтгена[1] прылада ў магічным харастве XX стагоддзя.
Ультраліловыя коскі працінаюць тут мяса.
Людское цела тут адчыняецца, як ліст зашыфраваны.
Пане доктар, неякава мне,
Бы ў грудзях маіх волава й гадзіна тне.
Прасвяціце мне грудзі вы коскамі тымі
І скажыце, што бачна між імі.

* * *

Ганебны назаўсёды дзень,
Праклятая ў вяках гадзіна...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зганяюць люд сюды сілком
Хрысціць на бераг рэчкі.
Пакорна йдуць чужым багом
Служыць слухмяныя авечкі.

Чакаюць іх, як крумкачы,
Ксяндзы з крыжамі над вадою.
Да Вільні зграю іх з Пальшчы
Прывёў Ягайла-князь[1] з сабою.

Ягайла, здраднік веры дзедаў,
Ці думаў, князь, над тым,
Што чыніш ты, ці добра ведаў,
Каб знаў ты, што гатуеш дым.

Разбураны святыняў сховы,
Патух, разбуран Зніч[2] святы,
Зняважаны чужым дубровы...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пачуй мой голас грэшны, слабы,
Пярун[3], я твой слуга [illegible] святар,
І мне цярпець далей нягожа,
Чаму не шлеш маланкі з хмар,
Чаму маўчыш ты, Божа?!

* * *

Не памятаю: дзень быў ці ноч,
Я спаў, як усе, салодка, бесклапотна,
І сны былі вясёлы і ружовы,
бы дзеўчынкі маёвы лёгкі ўбор.
І самаўпэўнены, што я
верх дасканаласці і цар стварэнняў,
і быццам не гучыць нічога так прыгожа
і горда, як імя: чалавек.
Не ведаю, ці другі быў бы сон,
але ў самую блажэнную мінуту
самаздаволенасці —
штурхач, у меру лёгкі і ў меру
непрыемны, разбудзіў мяне.
Салодка пазяхаючы,

5 Зак. 2780

прачнуўшыся нагэтулькі,
каб разбіраць наўкол сябе прадметы,
убачыў юнака, нібы знаёмага,
але калі і дзе было спатканне
і як яго імя —не памяталася.
«Bonjour»[1],— схіліў ён з лёгкаю
усмешкай галаву.
Я адказаў з дасадаю: — «Па-перш,
даволі рана шчэ, каб з днём вітаць,
затым, па-другое, я заняты спаннем
і не прымаю,
нарэшце, — які няверны спосаб
разбуджвання...

* * *

Ну хай жа, ну хай жа, пакінь,
Навошта трагедыя, поза.
Мы самі патрапілі ў згубную плынь,
Так прымем загубу цвяроза...

* * *

Як тастаменту новага Бог,
Сваёй смерцю ён смерць перамог.

Варажы, варажы, варажы,
Раскрыжуй на ружовым крыжы,
На ружовым крыжы сярод рож,
Варажбою мой боль упрыгож.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як праб'е немінучая чвэрць,
Ах, якая прыгожая смерць.

# УЯЎЛЕННЕ

Пасвячаецца Л. Родзевічу[1]

## I

Радасць мая велікодная —
Сына, пазнаўшага Маці,
Песняй прадвесня лагоднаю
Ўсіх я пачну абдараці.

Знаю — крыніцы гаючыя
Ёсць на радзімай зямлі.
Даллю захоплен бліскучаю,
Выслаў ёй дум караблі.

Брацці, зраблю вас багатымі,
Зорамі высаджу край.
Сонцам заззяе над хатамі
Словаў маіх каравай.

Сэрцы пратну заранiцаю
Новых надходзячых дзён;
Выпішу сказ бліскавіцаю,
Выяўлю дзедаўскі сон.

Гэй, гаруны[2], і бядулі[3], і сумныя[4],
Ваш гэта чуецца плач?
Годзе! Бяседа ў нас шумная,
Ў хаце сялянскай Багач[5].

Змрок заняпаду кудзеляю
Выпрадзе ўвесь яго світ.
Будзьма вясёлымі: бель Яе
Неба аздобіць блакіт!

II

Сапраўды,
Радасць — рацыя:
Бацькаўшчына-Беларусь
Ёсць
Наймалодшая нацыя.
З будняў блядых
Чорная косць
Раздзьмухала рух
Стараны,
Вёсак і сёлаў.
Перуны завірух
У захапленні
Грымяць аб адным:
Паўнагучна Адраджэнне!
Бачу за ім
Бязмерныя далі
І
Вялікія вартасці.
Божа! У сведкі:
Працоўных голаў,
Знаны ўпартасцю,
Разбух.
Абрадзініцца ён
Новых дзён
Папараць-кветкай.

III

А было пагана як —
Ветры дзьмулі лютыя,
Спалі паслухмяныя
Вёскі, сцюжай скутыя.

Горш былі за ворагаў
Ёй сыночкі родныя —
Ждалі скону скорага,
І слязы ніводнае.

Але што да гэтага
Мне, ад руху п'янаму?
Чую спеў няпетага,
Музыку нязнаную.

Вінны я, віну ўшчыню.
Я ні ў чым не каюся —
Небыцця мінуўшчыны
Тройчы раз зракаюся!

IV

Між пушчаў,
У гушчах
Лясоў,
Ў балотах
Ад слоты
Без слоў,
Без рыс
Выразных твару,
Без жару
У сэрцах-горнах,
Пакорна,
Як хмыз
Ці гной
Чужога поля,
Гібеў, як стой
Ў бязволлі,
Ў няволі,
Ў нядолі
Мой люд.
І кожны тут
Сусед наш ласы
Нагадваў з часам
Меці дзель.
Але наш Дух,
Даючы рух,
Жыццё,
Праз крыўду, здзекі
І забыццё,
Спрадвеку,
З гадоў старых,
Быў захаваны.

І вось — нязнаны —
Сягнуў тварыць.
І з першых дзён
Змог сну палон
І ночы глуш.
Мужычых душ
З'явіў красу
І бель.

V

Мячы маланак пелі,
І навальніцы йшлі,
І гром вясняным хмелем
Паіў абшар зямлі.

А вечарам на небе
Хтось пеўня выпускаў,
І аб штодзённым хлебе
Там праўды ён шукаў.

І да глухой паўночы
Вылізваў цемнату.
Сачылі з верай вочы
Пажараў яснату.

Ды «пяты» коўдрай чорнай
Прыкрыла ноч сама,
Каб зноў былі пакорны,
Каб зноў... Але дарма!

Дзірван узрылі буры
Шматкамі жорсткіх слоў, —
Чакаюць вёскі — Юры[6]
З вясной затрубіць зноў.

VI

Нашая ніва...
Сейбіт зары
Сее маўкліва
Сум аб дабры.

Жменяю семя,
Дужы узмах.
Ў золаку дрэме
Сонечны шлях.

Дзевы-дзянніцы
Кленчаць на ўсход
Ў кроплях расіцы
Буйны ўмалот.

Ўсюды прароцтвы...
Хто ж іх пайме?
Розум-убоства
Верыць зіме.

Вецер слязліва
Ўторыць яму;
Лозы жахліва
Вяжуць думу.

Толькі ж без меры
Слёзы чаму?..
Хто у зняверы
Плача на цьму?

Мудрасцю сівы
Сейбіт зары
Сее на нівы
Сум аб дабры.

Ўзыдуць зярняты —
Ліху канец.
Весткі крылатай
Жду — пасланец.

VII

Песняў, песняў, скочных чынаў:
Выцвіў ночы аксаміт!
Перад скрыняй будучыны
Я — юнак Давыд[7].

Сэрцам верным
Сею лерна
Вешчы вершаў мак.
Над табой, Сіёне[8] родны,
Перад світам зоры згодна
Сталі ў тайны знак.

І святлей за крыж
Ён азначыў выш.

Каб жа Бог
Дапамог!..

VIII

Сняжок напрадвесні
Вуркоча, бяжыць,
Зацвілае плесняй
Не здолее жыць.

Дарма свае сілы
Збірае зіма, —
У друзгах няміла
«Народаў турма».

Пракляцце «Расея»
Прапала навек,
Не страшыць завея
Бліскучых павек.

К трывогам знявага,
Раздзёрта імгла,
І творчасці смага
Агнём праняла.

Шырокаю тропай
Ў час гэты «спакус»
На мапу Еўропы
Ўзышоў Беларус.

У лапцях лазовых,
Па світцы ручнік,
І светам Хрыстовым
Зіяе аблік.

IX

Нябескіх трамаў
Звісае край, —
Віхура браму
Зламала ў рай.

О, Божа, позні
Твой голас слаб:
На райскай пожні
Ў сярмязе раб.

Збірае зораў
Гарох ў палу,
Каб імі гора
Гаціць імглу.

Ў крывіцкіх вёсках
Узняўся гуд,
І ў адгалосках
Зрастае цуд:

Гаўядзе вашай
Сыцець чарод:
Буяе паша
Маіх балот.

X

Ой, не белыя галубы
Раніцою ране́нька
У блакіт шыбалі.
— Чаго рады быў?
Ці сапраўды да́лі
Вабілі ясненька?

Не драпежныя крумкачы,
Не чарнюськая хмара
Нам нанесла гора —
Вамі, Крывічы,
Завалодаў вораг,
Насмяяўся з мараў!..

## XI

Ноччу, ах, ноччу
Хтосьці шапоча!
Голас прарочы...
«Ганьба, о, ганьба над намі,
Сорам сябруе з сынамі.
Ныюць так раны.
Слёзным туманам
Засцяцца вочы.
Ні праўды святое,
Ні волі тое.

Чужынцы, напасці,
Пакута падзелам.
Па беламу целу
Знаком ад нажа
Крывавіць мяжа.
Толькі — не,
Не пазбыць...
Не міне,
Чаму быць!

Мой дух не патух,
Не пагас праз вякі,
Паходняю свеціць.
Пад хмараў павеццю
Гарыць і іскрыцца
Агнём-бліскавіцай.
На родных узлоннях
Натхнёная сіла
Мазольных далоняў
Разбіла, знішчы́ла
Ярма ланцугі;
Спаліла, скрышыла
Урокі благіх.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Выходзяць дзяўчаты
Выгукваць вясну...
Я славу вам, хаты,
На дзідзе вярну!»

Голас яе...
Бурай пяе...
Я ж вачэй не ўзніму, багавіца,
Толькі ўзрушаны думкі чамусь.
О, як соладка сэрцу маліцца:
Беларусь, Беларусь, Беларусь!

XII

Народы! Прадбачу:
Шпаркасць коняў
Пагоні
Суліць удачу.
Вам на пасадзе
Пакутніцу
Нявехнай бачыць.
З доляй-закутніцай
Ў ладзе,
З ясным аблiччам,
З глуму, з нягодаў,
Слову заручана,
Кліча
Да брацтва, згоды.
Раны змучанай,
Дым пажараў —
Ахвяра
За вашу злачыннасць,
Народы.
Ды ведайце толькі:
Ёй
Над «сёння» золкім
Будучына
Квяцістай пуцінай
Сцеле вясёлкі.

*1922*

# ТАСТАМЕНТ

1

Няхай жыве крывіцкі люд!
Няхай квітнее край крывіцкі!
Я гэты свет убачыў тут
Дзіцём ля матчынае цыцкі
І рос, вясёлы шалапут,
З дзядоў, з прадзедаў сын мужыцкі,
На ёміне з яго палёў,
Здабытай з працы, з мазалёў.

2

Пад гэтым небам, так каханым,
Я пастушком ганяў у бор,
І тут, прыроды сын аддany,
Кунежны стаў яе сябёр.
Яна ж паглядам незраўнаным
Зірнула ў вочы мне ўсупор
І, сэрца ранячы вяскоўца,
Шапнула таямніцы слоўца.

3

Яно было пра тое, як
Прыгож бязмерна свет дзівосны,
Які жыцця зайздросны смак,
Як босы йдзеш па сцежках росных
І хлыне ў грудзі поўна так
Птушыны шчэбет шматгалосны,
Шырокі гоман гонкіх хвой
І неба сінь над галавой.

4

Якія раніцы я ведаў!
Якія ўсходы спатыкаў!..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

5

І ўцяміў я (о, смех і плач!)
Паўней, чымся калі, й суцэльней,
Што я, малюсенькі таўкач, —

Быцця сусветнага удзельнік
І з'яў сусветных суглядач.
І вось і слодыч, і пякельня
Мяне палонілі ўсуцэль
І абвілі, як ліпу хмель.

6

Былі ў душы і шчасце, й млосць,
Бы лёгкі сон упаў на вейкі,
І я пабачыў прыгажосць,
Што па-над спевы салавейкі
Зачаравала маладосць.
І стаў я пець... Мае жалейкі
Звініць матыў, і кожны тон —
Сусветнай пекнаце уклон.

7

Мой край!.. Ужо малой дзяцінай
Паўнюткім радасці вядром
Адной шчасліваю гадзінай
Напіўся смагла я нагбом
Ад пекнаты яго жанчыннай,
І п'ян адвечным харашством,
І закаханы ў ім без меры, —
Там быў пачатак мае веры.

8

Яна была мне праз гады
Хлапцу і сталаму спамогай,
Хоць і губляў свае сляды
Я у завеях ветру злога,
Але сярод згрызот хады
Я ведаў, меў адну дарогу:
Яна, як промень да святла,
Да краю роднага вяла.

9

Усцяж свяціла мне нязгасна
Мая праводная звязда,
Таму ні мужнасць і ні яснасць
Не залілі слата й жуда.

Мая бясцэнная уласнасць —
Са мной мой край, яго бяда,
Са мной праз горы і каменні
Высачыня майго натхнення.

10

І мне здалося неаднойчы,
Што ў тайне радасных хвілін,
У момант паўнаты станоўчай
Ў маім узлонні быў зачын,
І зблытаў я, мой краю-войча,
Хто бацька быў, а хто быў сын,
І, поўны любасці вялікай,
Не ведаў, як яе мне клікаць.

11

І часта, бы ў дзівосным сне,
Я пачуваў под сэрцам ношу,
Чароўны голас да мяне,
Пачуццяў матчыных раскошу,
Трывогу ў сэрцы дзесь на дне,
І быў — пагодлівы, харошы! —
Мой край мне лёсам і жыццём,
Маім распешчаным дзіцём!

12

Няма за што на лёс мне плакаць,
Знайсці шчаслівейшы мне дзе б?
Бядняк, я быў багат, аднака,
Не знаў збытэчных я патрэб,
Зацірка мне была прысмакам,
І смачны быў разовы хлеб,
Хоць соляй, а не маслам тлуста
Была прыкрашана мне луста.

13

Мне хата з нізкаю страхой
Была мілей за ўсе палацы
І над пакоямі пакой.
Я тут вучыўся не паддацца

Галечы з нэндзай і бядой,
І тут пазнаў я радасць працы,
І атрымаў сталёвы гарт,
І стаў мужык, мужчына ўпарт.

14

На гонях бацькаўскіх далёкіх
Я ўчуў пад спелы жыта шум
Дзівосных сіл жывыя токі
І спеў, што я ў сабе нашу,
Зямных глыбінь густыя сокі
І з промняў сонечных душу.
І люб мне чалавек бясконца,
Высокі плод зямлі і сонца.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

15

Цяпер жа сілы сталі дрэнь,
Сівая ймгла мне засціць вочы,
І кліча ноч на свой пругмень,
І дні жыцця прыйшлі да ночы,
І хоць змагарна жыў я дзень,
І хоць яшчэ я светам крочу, —
Тугой выгнання збіты ўшчэнт,
Пішу я гэты тастамент.

16

З прыродай зліцца я гатоў,
Хай прыме дол худое цела,
Але прашу яе вятроў
Мой запавет, як плод даспелы,
Да родных данясці палёў,
І любасці, і боль знямелы
Хай рыне там у будні скрух
І жыватворны ўздыме дух.

17

Ўсім найдарожшым прысягаю —
Сваіх грахоў не утаю,

І любасць гэтую да краю,
І гнеў, і ненавісць сваю,
І што набыў, усё, што маю,
Што долю цешыла маю, —
Ўсе скарбы, ўсе свае багацці
І песні ўсе — крывіцкай хаце.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

18

Даруйце мне, людцы, цяжкія
А мімавольныя грахі,
Часы бяспутныя, ліхія
Не раз садзілі на штыхі.
Хто плыў у раз'юшанай стыхіі,
Калі бушуе шквал ліхі, —
Той ведае, як хібы блізкі,
Як залівае човен хісткі!

19

І хто сягаў выходзіць з дому
За будны круг штодзённых праг,
Каму, няўтомнаму, вядомы
І чорнага прадоння жах,
І верхавіны гораў стромых,
Той, пэўна, скажа: — Цяжкі шлях
Яшчэ не ёсць яго памылка,
Ён нёс і жарсць і дух асілка!..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

20

Спявай, зямля, упіся сонцам,
Абмыйся чэрвеньскім дажджом,
Расці, пладзі, буяй бясконца,
Пладоў, зярнят насып каўшом.
Уцехай будзь маёй старонцы,
Дары красой, дары дабром!
Вітай! — Цябе у сіле поўнай
Я аддаю сям'і працоўнай!

21

У вольнай працы рупных пчол
Яны пальюць шчаслівым потам,
Абсемяняць прастор наўкол,
Канца не будзе іх клапотам,
Садамі высадзяць твой дол,
Як жонку, будуць песціць потым,
І будзеш ім святою ты,
І кожны плод твой — ім святы.

22

Ў цудоўнай сіле ўроды й моцы
Прадбачу я твае палі;
Праз забабоны, гніль, суроцы,
Праз звады зла ўсе караблі
Маіх надзей і дум к затоцы
Вялікай прышласці плылі,
Дзе будзе смех звінець вясёлы
І радасцю квітнецьмуць сёлы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

23

Ў імя людства, людскога шчасця
І духу творчага зямлі —
Праклящце шэршню ўсякай масці
І панству — ўласніку раллі!
На новы лад мы свет аснасцім,
Перааром без меж палі,
І будзе ўсё дабро агульна,
І ўсім ў краі маім утульна.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

24

А каб ні злодзей, ні тыран,
Ні чалавек ліхі, праклятый
Не скралі вольнасці і ў зман
Не завялі сляпыя хаты, —
На варце стаўлю гнеў зацяты
Тваіх рабочых і сялян.

Калі між імі будзе еднасць —
Ліхое згіне у бясследнасць.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

25

Я пакідаю з дзіўным сумам
Маю дабродзейку зямлю.
Я голад знаў, душыўся глумам,
Ды імі сэрца не кармлю.
Яна ўсяго, як толькі ўздумаць,
Дала, й такой яе люблю:
З бядою, з ліхам, з посным квасам
І з радасцю кароткай часам.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

26

Бывай, надзей сардэчны ўздым!
Бывайце, сны і слодыч веснаў!
І вы, снягі, завеі зім!
На зломе дзвюх эпох злавесным,
У неспрыяльным ветры злым
Сваё жыццё прайшоў я чэсна:
Пясняр, змагар, бядняк праз век —
Быў перш за ўсё я чалавек!

27

Бывай, мой ранак срэбраросы!
Бывай, мой дзень клапот, пакут!
Прайшоўшы свет раздзетым, босым,
Пара падумаць і пра кут:
На могілках зацішных Росы
Хачу спачыць ад каламут.
Сачыцьмуць мой спакой найпільней
Муры старой, каханай Вільні.

*[1932-1933]*

## ВЫПАДАК

**Апавяданне**

> Дети — странный народ,
> они снятся и мерещаться.
> *Ф.М. Дастаеўскі*[1]

Часам здараюцца такія маленькія, нязначныя выпадкі. Так сабе — глупства, драбніца, і толькі. Драбніца, якіх на кожным кроку, кожную гадзіну спатыкаецца вялікае мноства, на якія не звяртаюць увагі і праходзяць міма і якімі запоўнена наша штодзённае існаванне. Праўда, мы і над большым чым не прывыклі запыняцца і задумвацца, калі яно не таркае нас асабіста. Увага лёгка, як лыжы па зляжаламу снегу, слізгае паверсе, не пытаючы — як ды чаму. Хіба што збоку ткне пальцам, тагды азірнешся, запынішся. Ды ці надоўга?

Але вось інады такое пустое і дробнае і кінецца чамусьці ў вочы. Ды яшчэ як кінецца! Узрушыць усяго, скалане тваю духоўную істоту да апошняга глухога куточка, як нейкая бура з маланкамі і перунамі. Доўга не можаш прыйсьці да сябе. Думкі раз-пораз вяртаюць да яго, нібы знойдзена штосьць галоўнае і самае патрэбнае ў жыцці, нібы ведаеш, што вось гэта і ёсць тая маленькая, але важная і неабходная шрубка, без якое не можа адпаведна працаваць такая складаная і велізарная машына, як людства. Ды не толькі ў людстве, але і ў сусвеце не можа быць без яе гармоніі і дасканаласці. Зрабіце шрубку такою, як мусіць быць, пастаўце на належнае месца — і машына рушыць гладка і роўна, без жадных перабояў, і тагды будзе добра і хораша і табе, і блізкім, і ўсім, усім на свеце. Такі выпадак блісне як нейкі адказ на тайну нашага цёмнага, блуднага

бытавання, як адзіная, пэўная разгадка на ўсё, над чым стамілася сэрца і высахлі вочы. Блісне — і стане яснай мэта і не саб'ецца са шляху. Так раптоўна мігаючы аганёк далёкай сялібы засвеціць заблудзіўшаму падарожнаму знакам і надзеяй скорага цёплага кута і супакойнага адпачынку.

Памятаю ясны, пагожы дзень. Ранняя вясна. Толькі што зышоў апошні снег, і першыя цёплыя дажджы і маладыя вясёлыя грымоты разбудзілі да жыцця чорную, яшчэ мяккую зямлю. Я сядзеў на лаўцы ў мескім садзе — выйшаў адпачыць і падыхаць свежым паветрам. Хораша, светла і цёпла! На чыстым блакітным небе — ні хмарынкі. Яскравае шчодрае сонца сыпле і сыпле нязлічаныя снапы сонцаў, але яны не гарачыя і не пякуць, як летам, а квола песцяць і прыграюць. Тонка і ўзрушаюча пахне перакопаная глеба клумбаў. І пах прыгрэтае зямлі соладка мяшаецца з смольным пахам набраклых пупышак на дрэвах, што пакрысе ўжо пачалі разбульвацца. Хмеліць гэты пах і ўкалыхвае чалавека і абуджае ў соннай галаве нейкія далёкія, даўныя ні то згадкі, ні то сны. Уверсе ж, на высокіх, стромых дрэвах, беладзюбыя гракі мосцяць гнёзды і паважна, нізка пераклікаюцца між сабой. Часам зляціць адтуль падломаная імі ці ўпушчаная галінка і ўпадзе на чыстую, падмеценую і пасыпаную жоўтым жвірам сцежку. А праз чыгунныя балясы, што агароджваюць сад, відаць шырокая брукаваная вуліца. Снуе і некуды спяшаецца, бяжыць густы людскі натаўп. Мільгаюць, як на экране, аўто, шпаркія легкавыя звозчыкі, затарахціць рэдкая сялянская падвода, ці прагрукоча ламавік. Даносіцца няроўны нервовы гук места, гукі сірэны, паасобныя, нязвязныя галасы. Але ўвесь гэты гоман бяжыць паўз цябе. На сэрцы ціха, хораша, спакойна, нібы купаешся ў паху і сонцы вясны.

Доўгая лаўка, на якой я прысеў, шчыльна занята. Поруч са мною — невялікі, тоўсты чалавечак у «кацялку», паклаўшы на вялікі жывот пухкія, з кароткімі пальцамі рукі, ціха і глыбока дрэмле. Далей якісь гладка аголены, у акулярах, чытае газету. Мне кідаецца ў вочы вялікімі літарамі — апошняя прамова Лойд-Джорджа. Той, што за ім — худы, з вострым абліччам, — задумлена і ўважліва выводзіць кійком па зямлі. А там і яшчэ нехта. Публіка — чыстая, «прылічная».

Ад суседняй лаўкі падышоў і запыніўся супроць нас невялічкі, гадкоў пяці-шасці, хлопчык. Быў ён у старой зімовай шапцы, што налазіла яму на вушы, у замусоленай, абдзёртай салдацкай «целагрэйцы», сягаўшай яму да пят, падперазаны

тоненькім брудным матузком. З правага, закасанага, рукава выглядала дробненькая ручка, а левая звісала і целяпалася. На нагах меў стоптаныя, адзетыя ўбасанож, апоркі, якія нельга было разабраць, што яны зваліся калісь чаравікамі. Пры хадзе яны ёмка шлёпалі і заміналі руху. Маленькі дзіцячы тварык абветрыўся і быў цьмяна-жоўклы, нездаровы. Выгляд рабіў нудны, убогі. Але вялікія круглыя вочы пазіралі сур'ёзна і спакойна, свяціўся ў іх, глыбока-сініх і ясных, ранні клопат і дзіцячая думка. Абвёў усіх сядзеўшых доўгім поглядам і ціха, нясмела, тоненькім галаском папрасіў:

— Падарыце, калі ласка.

І працягнуў ручку.

Пару чалавек зірнулі ўбок хлопчыка і зноў адвялі вочы. Рэшта як бы і не чула гэтае дзіцячае просьбы. Мне чамусьці пачулася як бы не па сабе, непрыемна. Хлопчык жа падышоў бліжэй да процілежнага краю лаўкі, запыніўся ля якогасьці хмурага чарнявага пана і доўга, маўкліва пазіраў на яго, просячы ўзнятымі ўгару вачыма. А той, адвярнуўшыся, нерухомы, уставіўся ў якісць далёкі пункт, як бы нічога не заўважаючы перад сабою. Але я памячаў напружанасць твару і лёгкую, як цень, дасаду і нуду. Хлопчык пастаяў, пераступіў з нагі на нагу, яшчэ крыху пачакаў і, мусіць, зразумеўшы, што тут нічога не дапросішся, глянуў на пана ў акулярах, што чытаў газету. На часіну задумаўся і нібы што ўспомніў і здагадаўся. Потым борздка падбег, злаўчыўся і звонка пацалаваў ляжаўшую на калене руку, абцягнутую жоўтай рукавіцаю. Пан паважна апусціў газету, незадаволена глянуў на хлопчыка ў акулярах і строга запытаў:

— Табе чаго?

— Марачку падарыце! — прапішчаў той спужана і пазіраючы ў старану.

Я пільна сачыў за кожным рухам малога, і, неспадзявана, нашыя пагляды сустрэліся. Сінія вочы глядзелі так сумна і мудра, так верна і проста. І было ў іх нешта большае, нешта такое, чаго нельга выказаць і што не дазваляе спакойна глядзець у іх. Але не было ў іх ні гора, ні жаласлівасці, бо не спогад чужой пакуце ахапіў мяне, а нейкая калючая жуда. Дзіўна — я люблю дзяцей, люблю іх кампанію, забаўляцца з імі і песціць, але не адно ніколі не абуджала такога пачуцця, як гэты чужы, незнаёмы хлопчык з сінімі вачыма. Можа, гэта яны сваёй чыстасцю і глыбінёй пужалі? А можа, кантраст між абшорпаным, мізэрным хлапчуком, што бадзяецца і просіць на

хлеб штодзённы, і тымі чужымі чыстымі, паважнымі і спакойнымі людзьмі, што адпачывалі тут? А вочы? Вочы толькі падчыркнулі кантраст.

Пан жа гэтым часам дастаў з кішэні пальта тоўсты капшук са скуры, парыўся ў ім, дастаў нейкую паперку і палажыў яе на выцягнутую ручку. Звярнуўшыся да суседа, сказаў:

— Колькі гэтай дзятвы тут лазіць. Не прыбярэ іх адсюль ніхто. Злачынцы растуць.

Немага было ўседзець. Я ведаў, што хлапчынка зараз падыдзе і запыніць на мне свае адкрытыя, шчырыя вочы. Будзе чакаць, каб і я даў што-небудзь, і будзе глядзець бязлітасна ў самую душу. Ды страшней за пагляд стане тое, што я перамагу сапраўднае пачуццё, захаваю спогад і, надворна спакойны, паглубаюся ў кішэні, каб падарыць дробяззю. Ён жа, слабы, кволы, пойдзе далей перад другімі стаяць і прасіць. А там з'явіцца сторож і прагоніць з саду. Прыстрашыўшы, каб не бадзяўся. А там?! Што там?

Стала зразумелым — не падарыць трэба, а нешта іншае, больш важнае, дзеля чаго ў мяне не хапае ні рашучасці, ні нат умення. Ускочыўшы з места, я кінуўся бегчы, нічога не бачачы перад сабою. Было да болю сорамна і крыўдна і за сябе, і за тых сытых, культурных людзей, што кінуў на лаўцы, і за веснавы дзень, такі ўрачысты і светлы, нібы на зямлі не было ні гора, ні слёз, ні сумных дзіцячых воч.

## ДЗЁННІК

1923

*15 сакавіка*

Смерць саўсім не страшыць, нават больш: яна жаданая госця. Пужае жах жыцця — жорсткі і няўломны, няўмольны. Я баюся пустаты і хаосу, а яны паўнаўладны. Песні хаосу заўсёды з намі, чортавы, праклятыя песні. Толькі на час праяснее неба нашага духоўнага свету, і здаецца (здаецца толькі) гармонія. Ах! Як цяжка жыццё, які велізарны цяжар. Б'ешся ў ім, як муха ў павучэнні, і, мітусячыся, толькі больш заблытваешся... Але я ўсё ж адчуваю, што няшчасце і пакута заложаны не ў рэчах, а ў нас саміх. «Я», яго перажыванні твораць у нас і радасці і пакуту. Ды ад такога ўяўлення не лягчэй. Безумоўна,

гаспадару трудней, як парабку. I не пазайздрошчу я Богу. З сабой найцяжэй уходацца, утрымваць сябе і кіраваць.

Раб не ведае любові — ён пахатлівы. Мы — дзеці рабоў, атручаныя рабствам і зняверай.

*1 мая*

Хлопец старанны — у 1,5 месяца раз ледзь сабраўся заглянуць сюды. Але цяпер пастанова: пісаць кожнага дня і не менш дзвюх старонак. У гэтым свая пэўная мэта, якую покі што захаваю. Галоўнае ж заданне, каб найменш аб глыбакамудрых рэчах, а болей чаго іншага. Тады можа будзе больш смеласці брацца за гэты спытак.

Такім чынам — першае: канстатую, што Валодзя страшэнны лянцяй і паважанаму пану Ул. Жылцы тым дастаўляе столькі непрыемных мінут і наводзіць на горкія сумныя развагі: ці гэта хвароба вылечваецца, ці не застарэлая вельмі хворасць? Развагі, якія могуць і не такога чалавека кінуць у холад і ў жар. Другое: я зусім даўся духоўна, чарвяточына ўсярэдзіне, ад якое нудзіць светам цяжка. Але аб гэтым лепш і маўчаць: не чапай ліха, як спіць ціха! Ляпей я раскажу аб сваім каханні, апошнім каханні. Каханка гэтая... і хто б мог падумаць... Хараство. Я хацеў бы зусім, як гімназіст 5 класа, без пavароцця ўкахацца. Мне здаецца, што мая Каханка нязрадная, нязменная... Хаця, што з гэтага: я — Янус[1], я — нясталы, няпэўны. Колькі было раней падобных «каханняў». Але, можа, таму і кахаў — і Беларусь, і барацьбу, і буры, і вясняныя громы, і палі, і сенажаці, што ва ўсім гэтым свяціўся Яго свет. (Цікава, што па-беларуску Хараство, як і Неба, як і Сонца, святло, цяпло — ніякага роду.) I чым грубей і недалікатней штоўхае цябе жыццё, чым яго ўсмешкі больш жорсткія, чым балючай жыць, — тым больш хочацца Яго — Хараства. I чым яго менш становіцца ў табе, тым дужэй жаданне, прага да Яго. Я нат не ведаю, што яно такое. Мне хочацца думаць, што Яно і ёсць вялікая сапраўдная рэальнасць, якое няма нат у навуцы. (Вось бы здзівіліся вучоныя аўтарытэты, каб чулі гэтую ерась: у навуцы няма рэальнасці.) Жыццё так шмат разбіла найдарожшага, што нічагусенька не засталося — адзін «правал», нейкае чорнае бяздонне, якое ўсё часцей аскальвае сваю жахлівую зяпу... Брр! Страшна! Зямля ўцякла з-пад ног. А так бы хацелася ўчапіцца за штонебудзь моцна-моцна, прутка стаць на нейкую «сваю зямлю», на рэальнасць. I калі Хараство і ёсць Абяцанкай, блакітнай затокай... Хоць я не ведаю, што я заву гэтым імем.

Мне здаецца, што я Яго толькі адчуваю, толькі лаўлю Яго сляды, Яго ўсмешкі, і, здаецца, скарб Яго рассыпаны ўсюды, усюды, як юр'еўская раса на травах і лістах. Душа так сквапна ловіць Яго перлы-расінкі. Пералічыць іх не можна, бо Яго, як зор у небе (у кожнай зорцы Яго свет), як кропляў у моры, як лісткоў на дрэвах, як... Але і Брыдкасць уродства магутнае і ліпкае, як паганыя думкі ў хворага. А я ці не хворы? І ліпне, паскудзіць яна істоту Божую. Цяжка ад яе дыхаць, бо і ўсярэдзіне, у самым сабе яна. Песняры, музыкі найбольш адчуваюць гармонію, сугучнасць, таму ім найболей знаёма і агармонія, чорнае. І якое заўзятае змаганне ідзе. У маёй памяці цэлы рой гэтых пакутнікаў-мучальнікаў. Усе яны рыцары Святла, змагары з цемрай: трагічны Гогаль[2], парадаксальны Оск. Уайльд[3], святы Гл. Успенскі[4], хворы Дастаеўскі, мудры Ібсен, заблудзіўшыйся Ніцшэ[5]. І ўсім жорсткі, у жоўтым Жах скрывіў болем рот. Сын Цемры — Шал — перамог!

Толькі дужыя, здаровыя ходзяць без кія, а слабому трэ падперціся, трэба дапамога. Мо таму я так упарта шукаю падпоркі... Я ніколі не быў атэістам, але і ніколі не ўдзяляў справам веры вялікай увагі. Я быў захоплены жыццём, яго шумам, ахмялеў ад яго. А цяпер, калі праходзіць першы чад, звяртаюцца вочы мімаволі ў нейкія нябачаныя туманы, хочацца чуць нешта. Пытанне веры становіцца на чаргу. Але адно: Хрыста, светлага Ісуса я заўсёды любіў. Знаю яго боскасць (хоць Богам ён мог і не быць) і знаю яго чалавечнасць. Знаю яго магутнасць, калі забараняў мору хвалявацца, але знаю і яго малітву слабасці «Хай міма пройдзе келіх гэты»[6] ў садзе. Бачу яго ўладаром, як едзе ў Ерусалім[7], і паніжанага, зняважанага воямі. Люблю яго, як маладасць сваю, як казку, як легенду, як лёгкі сон, як летуценне, але люблю і як сімвал мае трагедыі, люблю яго за вялікі трагізм, за мукі яго, за раны, за крыж яго. Без гэтага казка была б не поўная, легенда ўтраціла б сваю цудоўнасць, спагаднасць-прывабнасць, сон згубіў бы сваю чароўнасць. Я не ведаю нічога болей харошага, вялікага, як неўміручы (ляпей сказаць) памершы і ўваскросшы Хрыстос.

*2 мая*

Ну і сягоння крыху мазну. Мне сапраўды ўсё болей хочацца зямнога, простага, вясковага жыцця: любіць зямныя рэчы. А добра знаю, што гэтага доўга, доўга няможна спадзявацца, нават думаць. А добра было б адпачыць дзе-не-

будзь на святой Беларусі, у якім-небудзь прыгожым куточку сваёй хатай, сваім ладам. Вось буржуйскія думкі і прэтэнзіі, але спяшаюся апраўдацца: толькі адпачыць у ціхім куточку, паправіць здароўе, а там, далей, у буры з галавою. А бывае, адчуваеш страшэнную змору, і здаецца, што ты шмат, шмат гадоў жыў, усё бачыў, усюды быў і так стаміўся ад нейкага доўгага жыцця, што Супакой вабіць цябе як нешта найлюбае, найжаданае. Не хочацца нічога думаць. Ні аб чым летуцеці, акрамя як аб Адвечным Сне. Але думкі такія паганыя, як гразь асенняя, ліпкая. Абрыдзелі яны мне. Я калісьці быў светлы і белы, як анёл, і думкі былі, як бель вішнёвага цвету, як крылы лебедзя.

*5 мая*

Пачынаю лепей чуць сябе фізічна, і як бы крыху супакойваюцца нервы. А разам з гэтым і вясна робіць уражанне, і ў мяне з'яўляецца надзея на лепшае, хоць мяркую, што, стары дурань, яшчэ раз горка памыляюся. Але хочацца верыць, што буду зусім здаровым, што буду магчы шмат, шмат працаваць. Што ж, я хачу быць карысным свайму краю. Ох, якія часам прыходзяць гордыя думкі ў галаву, і абы здароў быў, то я чую ў сабе здольнасці і сілу выканаць іх. Маё «адступленне» (толькі не ад ідэі, а ад працы) толькі тактычнае, каб нарэшце перайсці ў наступ і да перамогаў, абавязкова да перамогаў. Які ж я быў бы крывіч, каб не спадзяваўся на гэта. Так — я крывіч і хачу, каб была на свеце крывіцкая нацыя. У гэтым «хачу» мая нязломная воля. Для гэтага ёсць адпаведныя варункі, пэўны грунт. На ім можна шырока і поўна выявіць сваю індывідуальнасць. Ва ўсім гэтым ёсць доля шалу, але ён адчуваецца нібы ў светлым полымі святасці. Але «думкі, думкі — звадыяшкі»[8]... Ша!

Мае адносіны да паэзіі: яны глыбокія і інтымныя, але і тут нейкая хворасць. Трэба самавызначыцца ў гэтым напрамку. Што ж: паэт я ці не? Не і але, але і не! А нарэшце я нічога не знаю. Я люблю Яе. Але маё гора, што я не ўмею рабіць нічога вольна і звонка; ёсць у маёй істоце нешта цяжкое, панурае. Каханне ў мяне вядзе не да радасцяў, а да канфліктаў; і не вышэйшую гармонію адчуваеш, а халодны подых хаосу. Я калісьці чакаў уваскрашэння ад звычайнага кахання са смяротнаю і чакаў яе. А затым у мяне не хапіла нат эстэтычнага пачуцця. Дурань я, дурань! А паэзія — яна ж таксама не аднакавая, няма пастаянства.

Аб ёй заўтра, а сёння пара спаценькі.

Пазаўчора пісаў ліст Тамашу[9], таму не заглядаў сюды. Можна даравапь. Учора паленаваўся — штраф: тры бачынкі больш напісаць заўтра.

*6 мая*

Дзейнасць, праламаная цераз прызму рамантызму, ужо не ёсць дзейнасць (карыстаючыся словам у разуменні рэальнасці), але «сутнасць рэчаў сама ў сабе невядомая» па Канту[10], а таму чым маё рамантычнае ўяўленне горшае за дзейнасць, уяўленую здаровым змыслам. Чаму, зусім не разумею, ганяць рамантызм, насміхаюцца над ім? Рамантызм, ідэалізм — гэта тое, чым трымаецца наша зямля, тое, без чаго немагчымы быў бы жаданы поступ, без чаго існаванне стала б немагчымым, цяжкім і чадным.

*10 мая*

Дзе ляжыць залог катастрафічнай (праўдзівей, трагічнай) развязкі «Дэмана» ў Лермантава[11]? Ці ў ім, якому «зло наскучило», ці ў ёй— Тамары. Я гатоў тыкнуць пальцам у Тамару, бо гэта яна «не создана для мира». Яна і ад ласкаў князя «извяла б, ссохла наконец» (Цютчаў)[12]. Уся абмылка Дэмана, што ён выявіў сябе вельмі палкім, гарачым палюбоўнікам. Усе яго маналогі — магутныя гімны каханню. Безумоўна, у сваім каханні ён «неизменен и велик», і ў гэтай памылцы яго спасенне.

*17 чэрвеня*

Як пагана чуць сябе хворым, слабым, няпрудкім на нагах. Ходзіш, хістаешся, і ўсё ў нейкім тумане. І нічога, нічога не ведаеш, што дабро і што зло і куды ісці, калі ноч і бездарожжа? Калі цёмна і холадна! А галава як волавам налілася, і думка такая тупая і непаваротная. Цяжка не жыць, а па-скацячы бытаваць...

Чырвоныя ружы — крывавыя і палкія. А іх пах мляўкі, аслабляючы волю, грахоўны і распусны. Удыхнуў яго раз і чуеш, што ўжо атручаны на ўсё жыццё, што летуценні твае ўжо не будуць чыстымі і светлымі, як звонкая гаманлівая крынічка, і такімі халоднымі, як яна. Быць ім ужо ахварбаванымі ў чырвоны палкі колер, быць ім прывaрожанымі і неспакойнымі. І ты, які ўпадабаў свет, створаны ўласнымі летуценнямі, які ад гэтай безгалосай будзёншчыны, як ад дакучнага авадня, хаваешся ў бязмежныя, цудоўныя палацы свае фантазіі, якому прыкра бачыць звярыныя морды на дзвюх нагах, які ўкахаўся ў блакітныя прасторы, у зялёныя сенажаці і прывабныя далі — ты сумуй няўпынна. Бо гора

табе! Усе колеры адцвілі і палінялі, у вачах чырвоная хварба, і праны пах крыкам працінае кроў.

І калі не стане змогі працівіцца ці паху, ці мо ўжо самому сабе (адкуль ведаць?), калі воля, як пабіты бураю квет, ціха, бяссільна [*неразб.*] дзесь, у далёкім куточку, то гэта настане час твайго паніжэння, падзення, ганебны час. І ці можна быць светлым, калі тваё жыццё як хаўтурны матыў?

*2 жніўня*

Той месяц такі і нічога не пісаў. І ён патануў у працы і занятках зусім незаўважаным — борзда і, на маю радасць, даволі цвяроза. Нягледзячы на працу, я пачынаю чуць сябе крышку лепш фізічна, а разам з тым і духова. Мне здаецца, што каб я быў здаровы, то мог бы быць карысным і блізкім сваім і свайму народу. Разам са здароўем прыходзяць здаровыя творчыя думкі, у галаве варушацца і спеюць новыя тэмы. Я б цяпер з вялікаю радасцю аддаўся літаратурным заняткам. Прызнаюся — я люблю пісьменства. І, мусіць, мне не развязацца з ім ніколі. Маюцца ў думках некалькі новых планаў. Усе цяжкія і патрабуюць грунтоўнай падрыхтоўкі. Хацеў бы ў форме паэмы выказаць глыбіню, уменне думаць нашага селяніна, яго нахіл да містыкі і любоў да зямлі, да працы на ёй. Хацеў бы змаляваць нашага масавоза Янку[13] і гэну паэму назваць яго імем «Янка» і давесці, што яго містыка і сквапнасць да працы робяць з яго элемент, годны для дзяржаўна-нацыянальнага будаўніцтва. І, мала таго, робяць яго самога будаўнічым... Усё покі што ў праекце яшчэ вельмі чарнавым. Усё мусіць быць, напрыклад, пабудавана на фоне народнай творчасці, і хацеў бы нават — народным вершам беларускіх песень. Але гэта тонкая, не лёгкая задача.

Другая сур'ёзная непакоячая рэч прыблізна мусіць быць такая — псіхалогія лжэпрарока. Чалавек, які адчувае, што каб нешта яшчэ меў у сабе, то мог бы быць правадыром свайго народа, які любіць гэты народ, адчувае яго паніжэнне, гаруе над ім — герой задуманага. Дзеянне адбываецца ў Іудзеі, перад прыходам на свет Хрыста. Мусіць, схілюся да таго, каб прыбраць твор у драматычную форму і пяцістопавы ямб... Але, калі тое будзе. І часу брак, і варункі далёка не спрыяючыя працы літаратурнай. І дурань я, дурань!.. [Чаму б не згадзіцца, што я маю крышку волі, а таксама маю права думаць аб літаратуры і сам пісаць. Сумненне і знявера, як атрута, душаць людзей.]

У чым паратунак людскі і што значыць знайсці самога сябе? А быць такім, як ты ёсць, — найцяжэй, а мо зусім немагчыма. Якім [*неразб.*] самога сябе? Такі і свет. Дзівішся, а ён «странный, в цветной закутанный туман»[14].

*6 кастрычніка*

Такім чынам, я зноў саджуся пісаць. Баліць і гарыць галава, баляць грудзі. Дактары кажуць, што ў мяне вельмі сур'ёзна ў лёгкіх, трэба лячыцца. Але, божанька, я так утаміўся, такі цяжкі быў мой шлях, такі пакутны, што я ўтаміўся. Мне скарэй хацелася б смерці. Хутчэй адпачыць. Я ж маю права аб гэтым марыць, як працаўнік, натаміўшыся за дзень, мае права, павячэраўшы, легчы спаць. Мой дзень быў кароткі, цяжкі (нат больш — жахлівы) і шэры. Такія бываюць у Піліпаўку[15], развідніцца і зноў пачынае сутонець, ні сонца, ні блакітнага неба, ні светлых даляў. Развіднелася і сутонее, а дня ў не было. Няможна ж так жыць: заўсёды хворы, заўсёды павышаная тэмпература, безнадзейнасць, бяссілле. Душыць і самотнасць — ні родных, ні блізкіх сяброў і прыяцеляў. Я на ўсім сваім кароткім шляху — адзін. І ў час, калі падымаюся на *свае* горы і калі валюся, зніжаюся на *сваю* зямлю. Адзін ускіпваю радасцю, адзін халадзею тугой. Я досыць скора і моцна прывязваюся да людзей, але сапраўднага таварыства не ведаю.

...Так, безумоўна, так — памерці радасць, але страшна падумаць, што прыходзіцца (а мо й далей прыйдзецца) жыць кульгаючы, хвораму і разбітаму. Так часта прыходзіць здрадная, салодкая думка — прыскорыць канец. Гэта найлепшае выйсце, але... але я дурань і слабы, бязвольны. А мо хапіла б сіл, а пераконанасці ў гэтым няма!

Ну як жа ты праводзіш свае дні?.. Думка падказала — валяй храналогію. І маланкай пратэст: нашто храналогія!

— А Вы мяркуеце, што імпрэсія каштоўней? — Ах, я нічога не знаю! Заўважаю: каравы мой язык — і стыль.

...Са мною заўсёды: бяруся за пяро, адлятаюць думкі. Нейкую адчайную лёгкасць (не разбяруся, як Хлестакоў: лёгкасць думак ці лёгкасць ад думак), і нічога не пішацца.

...З доследаў над сабой: зусім не цікавы, аднастайны, нудны, ні яркасці, ні колераў. Апошні да гэтага часу не выяснены. Вялікая цікавасць — о, якая вялікая! — да ўласнай асобы. Пры нецікавасці цікавасць — знак эгаізму (а не каламбур). Таму зусім нецікава заставацца з самім сабой, нудная, дакучная кумпанія.





Будынак Дзвінскай беларускай гімназіі. Сучасны выгляд

Хата ў Макашах (уверсе злева)



Пражскі універсітэт



Уладзімір Жылка з сябрам падчас вучобы ў Багародзіцкім аграмічным вучылішчы



Уладзімір Жылка. Дзвінск, 1922 г.



Антон Луцкевіч.
Здымак з фамільнага альбома
І. Краскоўскага. 1923 г.



Дырэктар Дзвінскай
беларускай гімназіі
Іван Краскоўскі. 1924—1925 гг.



Тамаш Грыб.
1930-я гг.



Леапольд Родзевіч.
Пачатак 1920-х гг.



У доме выкладчыка Мінскага музычнага тэхнікума Юльяна Дрэйзіна.
Злева направа: Ігнат Краскоўскі, Вера Дрэйзіна, Юльян Дрэйзін, Уладзімір Жылка, Валянціна Краскоўская, Сяргей Дрэйзін, А. Дрэйзіна. 1927 г.



Брат паэта
Кастусь Жылка.
1940 г.



Маці паэта Таццяна Ануфрыеўна
з унучкай Беатай
і незнаёмай дзяўчынай. [1929]



Сябры і цёзкі: Жылка і Дубоўка.
1927—1928 гг. Здымак з архіва М. Лужаніна



Людміла Краскоўская прыгадвае часы пражскага студэнцтва.
Брацілава, 1997 г. Фота М. Скоблы.
На зборніку "З палёў Заходняй Беларусі" (1927), дасланым у Прагу, паэт напісаў: "Людміле Краскоўскай, ціхаму і "короткаму" сябру майму на добрыя ўспаміны, з прывітаннем сардэчным і шчырым аўтар Уладзімір Жылка. 6 чэрвеня 1928 г. Менск, БССР"



Да хворага паэта прыехала жонка. Ялта, 1930 г.



Пісьменнікі-узвышаўцы.
Першы рад (злева направа): Сяргей Дарожны, Максім Лужанін;
другі рад: Адам Бабарэка, Кандрат Крапіва, Андрэй Мрый,
Кузьма Чорны, Змітрок Бядуля, Васіль Шашалевіч, Язэп Пушча;
трэці рад: Пятро Глебка, Уладзімір Дубоўка, Фэлікс Купцэвіч,
Тодар Кляшторны, Лукаш Калюга, Уладзімір Жылка,
Антон Адамовіч. 1929—1930 гг.



Яўхім Кіпель.
1944 г.



Уржум, вуліца Ёлкіна, 33. На другім паверсе гэтага дома была апошняя кватэра паэта



Дачка паэта Наталля Лазарава з мужам Уладзімірам



Магіла паэта
на Уржумскіх могілках



Брат паэта Барыс
з унукам Уладзіміра Жылкі
Валодзем Лазаравым. 1970 г.


Верш развітання

Аўтограф «Верша развітання». 1931 г.

Але вось — што значыць: быць самім сабой. Не ведаю. Пакуль што дайшоў да дзвюх магчымасцяў. Быць самім сабой — значыць быць нейкай закончанай канкрэтнасцю, яснай для сябе. Другое: рух фізічны абавязкова адбівае праяву «Я» духовага і на кожны злом яго — правідлова адбітая рэфлексія.

Так, аканчальна: я не ўмею апавядаць аб сабе. Помню дзіцячыя гады. Я быў старэйшы ад брата, але гэта не шкодзіла яму за якую-небудзь дурніцу добра мяне адчубіць. Калісь мой твар быў, як пасля воспы: ён драпаўся, як кот, і яшчэ меў звычку кусацца, не разбіраючы, што кусае. Помню, раз уцяў зубамі за жывот. І здарылася так, што, пабіўшы мяне, бяжыць жаліцца маме ці тату: мне яшчэ і ад іх пападала: «Ты старшы і мусіш прыклад даваць!» «Эх, гараць з Валодзі свечкі», — казаў бацька. У мяне не знаходзілася слоў і здольнасці давесці, што я найменш вінен. Хоць часта чуў усёй істотай, што я нявінны, што мне ўжо ад брата дасталося, і бацькі хочуць пакараць другі раз. Было балюча да слёз, і я плакаў. Праўдзівей, скавытаў, бо плакаць моцна, як плача большасць дзяцей і кабеты, я не ўмеў. Залезеш у кут (памятаю — часцей у спальні на куфар, што стаяў ля печы), слёзы пальюцца, уздрыгваеш плячыма, крыўдна, горка, але стараешся, каб плачу не было чутна. Гэта, відаць, спадчына па маме — і яна ніколі не галасіла, хоць і не лёгкае было жыццё і слёз нямала выліла, але ціхачом усё, далей ад людскога вока. Значыць, мая каснамоўнасць з дзіцячых часоў: такім удаўся.

Наогул я не заўважаю за сабой жадных «талентаў», каб хоць адзін — а ні-ні! Чым пахвалюся: памяць, здольнасці да навукі, мастацтва, вялікая воля, здароўе — нічагусенькі няма! Асабліва — адсутнасць слыху. Вельмі цяжка не чуць. Горш за адсутнасць здароўя.

Думаю — імажынізм[16] — паэзія глухіх. Там галоўнае «абраз». Пака што гэта школа мае найбольш зрокавых абразоў. Аб музычных, гукавых не чуў. Вось Тычына[17] — іншае. Ён мне падабаецца. Блок таксама музычны, болей, ён — музыка. Яго загад: «Слухайце музыку... усёй душой, слухайце!»[18] Але аб Блоку лепш маўчаць: такі ён вялікі, такі вялікі, што каля яго чуеш сябе ніякава. А калі яшчэ гаварыць аб ім — канфуз.

N.B. Што такое точка? Я не знаю здавальняючага адказу; у іх (адказах) чуецца (баюся смеласці) метафізіка! Да душы...! А «точка» — печ, ад якое скача ўся геаметрыя. А???!

7 Зак. 2780

1925

*31 ліпеня*

Хто кажа, што ноч *чорная*? Што можа быць хібней гэтага погляду. Зямныя хмары, зморшчыны зямлі — чорныя хмары робяць яе чорнай. Ноч сіняя, як Мудрасць і Адвечнасць. Ноч мудрэй дня. Ноч — глыбіня. Кожная жанчына стае цяжарнаю ноччу. Мы ўсе пачатыя ўначы.

*[1923— 1926]*

## КРЫЎЯ

Бацькаўшчына для мяне — гэта памяць дзяцінства, імкненне да добрае, цёплае мамы, яе песні, увесь боль мой і радасць.

Бацькаўшчына — музыка, гамы гукаў, свету, колераў і пахаў (абавязкова пахаў!), адчутая, адбітая і прынятая сэрцам.

Таму гэта тэма можа быць вырашчана толькі ў плошчы сэрца і волі.

Матэрыял геаграфіі, гісторыі, сацыялогіі — яны могуць як матэрыял служыць толькі як струны ў скрыпцы, як тычкі на шляху нашага недасканалага мышлення. Але не болей.

Самыя па сабе яны без сілы што-небудзь вырашыць, бо асяродак вагі па-за імі.

Таму асцерагаем добразычлівых суседзяў, паважаных прыват-дацэнтаў і бібліятэчных пацукоў — гэта не для іх смаку і высокіх ілбоў.

Таксама і не для нацыянальных эратаманаў.

Вы чуеце ману, як зыблае балота, у гэтым слове (Б[еларусь]), пакуль мы белар[усы] — мы не будзем сапраўднымі мы. Мы толькі частка, толькі галіна, адлом. А наша жаданне быць сапраўдным арганізмам. Мы хочам творчасці. Для яе трэба індывідуальнасць. Мусіць быць самавызначэнне. Іншым яно не можа быць як — крывіцкім.

Беларусь — гэта толькі магчымасць, паўсвядомасць дзіцяці, нацяк на гісторыю, але яшчэ этнаграфія. Паўразвітасць, недаразвітасць нацыянальнага жыцця — нарадовая імпатэнцыя, не меней агідная ад нацыянальнай эратаманіі.

Крыўя — гэта творчасць і форма, сутнасць якое — нацыя. Змест — кожнае дасягненне — новы верш, новы навуковы твор... ёсць Крыўя.

Мы прысутнічаем пры цікавым з'явішчы — як растуць і фармуюцца ідэі. Крыўю мы мусім вітаць як новы крок у нацыянальным самаўсведамленні. Нацыянальнае «Я», адраджаючыся, паглыбляецца ў самапазнанне. Беларуская свядомасць*, захаваная ў мутным «тутэйшым», мусіла прайсці рад [мытарстваў. *Закрэслена.*] блуканняў, каб дайсці да паўнаты і канчатковай усвядомленасці. Такім этапам і была Беларусь. Розніца паміж «тутэйшымі» і «Бела[русамі]» як між этн[аграфічнаю] цікавасцю першых да канкрэт[нага] «людзьмі звацца». Мы хочам, каб слова было эквівалентна зместу.

Для нас сёння Б[еларусь] не толькі этнаграфічная цікавасць, але і актуальная праблема для вырашэння грамадскіх, сацыяльных, эканамічных, рэлігійных і інш. узаемаадносін у нашым шматмільённым Краі. Так усвядомленая Бел[арусь] можа быць толькі Крыўяй.

*[1923— 1926]*

## ПРАКЛЯТЫЯ ПЫТАННІ

Вырашэнне нейкіх праклятых пытанняў ці шчыт ад іх дакучнасці! Я не прымаю іх як адкравенне, але люблю іх і часта чытаю пра сябе, як пабожны мніх святыя модлы. У іх няма праўды, а салодкая, светлая мана, і ўпіцца ад яе часамі хочацца... Знаеце, цяжка хадзіць з мянушкай паэта і нат абразліва. Я ніколі не пачуваў сябе гэткім і хвалю Бога, што ён не стварыў мяне ім. Я пачуваю ў сабе шмат здаровага мяшчанскага і цешуся гэтым, і толькі няшчасце, што хворы, што нездароўе нішчыць... Не, я не мешчанін, ані паэт, проста хворы, хворы і яшчэ раз хворы чалавек. А таму вельмі жаласны, і гэта самае паганае — мужчына не можа быць жалкім і няма большай абразы для мужчыны, як сказаць, што яго шкада. Такія — мае найгоршыя ворагі. Я ніколі не звярнуся да доб-

* Яна была вельмі затушавана, заценена доўгімі гадамі рабства і пад уладаю братніх культур, каб зразу выбіцца на пэўны шлях.

рага сэрца, нат найбліжэйшага сябра. Няхай найгорш будзе, найбалючай, трэба ўмець сціснуць зубы і быць хмурным і гордым! Самае важнае захаваць спакой, калі над табою... [*Тэкст абрываецца*].

*[1923—1926]*

## ХАРАСТВО

Вячэраючы сёння ў сахарні[1], бачыў перад сабой букецік руж: дзве ружовых і чырвоная. Кожная пахла па-асобнаму, але так далікатна і строга. Чаму харастао заўсёды пабожнае? Чаму дагэтуль няма рэлігіі хараства? Харaство — стымул праўды, волі і веды. Укараніся культ Хараства, і людзі былі б шчаслівымі. Калі пачынаўся культ зямлі «фізіёлёгі», хрысціянства — духа — праўды захмарнай, — то рэлігія Хрыстова мусіць быць сынтэзай, злукай. Людзі жадаюць Хрыста новых высот, новага неба! Хрыстос Хараства прыйдзе хрысціць у імя Хараства формаў і духа, і ім спасемся!

Безумоўна, не пашлю гэтага ліста на адрас! Хараство і гармонія ці не адно і тое ж?!. Але захавай, захавай ад людскога вока. А людзі такія паганенькія, дрэнныя, няўжо ім быць у царстве Хараства?

Але даволі, даволі...

Ці не заўважае хто, што я трохі «тае», не ўсе дома? А гэта даўно ўжо, даўно. Бр-рр! Дурань!.. Хто? Хто? Жах... Даволі... [*Тэкст абрываецца*].

*[1923— 1926]*

## З ЖЫЦЦЯ Й ПІСЬМЕНСТВА

За бягучы год у віленскай беларускай прэсе з'явілася і паспела збольшага сябе выявіць некалькі новых літаратурных імяў.

З іх часцей спатыкалася й найбольш звярнула ўвагі імя Наталлі Арсенневай[1].

Вершы яе вельмі лірычныя, сардэчныя. Яны чаруюць нас свежасцю, праўдзівасцю натхнення.

Н. Арсеннева знае мінуты творчасці, мінуты, «калі душа гарыць, расце».

Змест яе паэзіі — ці асабістыя перажыванні, ці малюнкі з прыроды. Настроі яе элегічныя, засмучоныя.

Наогул трэба адзначыць як характэрную рысу, што ў паэзіі Н. Арсенневай мала сустракаецца сацыяльных элементаў. Мы гатовы гэта тлумачыць як змогу ад сучасных падзей і натуральную супроць іх рэакцыю. Пяснярка хоча забыцца, не думаць «аб тым непрыхільным, нямілым, сумным жыцці астатніх гадоў».

Арсеннева асабліва любіць прыроду, любіць «песні ветра ў полі», яе «завець сіняе неба», вабіць «вольны прастор». Але прырода ў яе не мінеральная, не «раўнадушная», а жывая, поўная таёмных сілаў. Таму зоры ў яе «бачаць», «неба будзіць зямлю ад доўгага сну», вясна йдзе «княгіняю».

Вельмі прыкметна для творчасці Арсенневай балада «Балотніца». Тут мы бачым спробы падысці да народнай творчасці (прычытанні балотніцы). Нам вельмі падабаюцца такія звароты:

> Не спякло мяне ясна сонейка,
> Не зламаў віхор у асеннюю ноч, —
> Загубіў мяне чарнабрывы мой.

Ці вось:

> Не ў царкве з папом паніхіда йшла,
> Матка плакала над дачушкаю...

Цікавым ёсць таксама жаданне выявіць фізічна аблічча балотніцы. Гэтая самая тэндэнцыя відаць і ў вершы «Лясун». Асоба лесуна выяўлена рэльефна, але, на жаль, ён мала нацыяналён. З папярэдніх песняроў толькі ў Максіма Багдановіча спатыкаем спробу ў гэтым кірунку («Вадзянік»).

Шкада толькі, што вершам Арсенневай шкодзіць часам слабая апрацоўка. Пяснярка мала працуе над шліфоўкаю верша, таму поруч з сапраўды добрымі рэчамі, як «Красавік», сустракаем даволі цяжкія, як, напрыклад, «Сняжынкі».

Ці ў вершы «Вясна» такое месца:

> Маленькія яблынак рожкі (?)
> Нібы рвуцца да сонца лугоў.

Няўжо не знайшлося іншай рыфмы да слова *дарожкі*, апрача *рожкі*?

Няможна рыфмаваць таксама *гукі-мукай*.

Шкодзіць вершам тое, што рыфма не заўсёды вытрымана.

Кідаецца ў вочы беларускі слоўнік, якім валодае пяснярка. Да прыкрасці часта сустракаюцца словы *галубы, празрысты*.

Досыць часта спатыкаюцца й маскалізмы: *лучы, давяць, на рукі, прабудзісь*; чуюцца й паланізмы: *бляск* і інш.

Нядобра гучаць скарочаныя дзеяслоўныя формы на «*ся*», ды асабліва калі яны рыфмуюцца. А такія выпадкі ў вершах Н. Арсенневай бываюць:

*забыліс — заіскрыліс,*
*загарэліс — глядзеліс,*
*спляліс — прабудзіс,*
*круціцес — прытуліцес,*
*схіліліс — збіліс*
і многа іншых.

Падобныя дзеяслоўныя формы не прызвычаены беларускай мовай і іх трэба высцерагацца. Стараюцца не ўжываць іх Янка Купала, Бядуля і інш.

Але ўсе гэтыя заганы дробныя й пры большай уважнасці і вымаганні ад сябе іх лёгка мінуць.

Н. Арсеннева яшчэ толькі пачынае, яна маладая й здольная, талент яе заметна буяе, толькі сур'ёзней і стражэй трэба адносіцца да сваіх твораў, толькі больш вымагаць ад сябе, і мы пабачым многа-многа каштоўных і сапраўды мастацкіх рэчаў нашай пяснярці.

*1921*

# АНТОН ЛЯВІЦКІ (ЯДВІГІН Ш.)

24 лютага ў Вільні памёр, на пяцьдзесят шостым годзе жыцця, адзін з слаўных беларускіх пісьменнікаў — Антон Лявіцкі, творы якога друкаваліся пад псеўданімам Ядвігін Ш.[1] Ён быў між нас апошнім з тых, якія ў найгоршыя часы царскай рэакцыі, многа гадоў таму назад, паверылі ў свой светлы ідэал Адраджэння Беларускага народу і панясці на яго алтар і свае здольнасці, й маладыя сілы, й сваю веду.

Смерць Антона Лявіцкага не была для нас неспадзеўнаю. За апошнія гады здароўе пісьменніка зусім надламалася, й ён хварэў усё часцей і часцей.

Пісьменнік радзіўся ў 1866 годзе ў двары Карпілаўка пад Радашкавічамі. Малога хлапца вучыла чытаць і пісаць дачка паэта В. Марцінкевіча[2]. Сярэднюю школу скончыў Лявіцкі ў Менску, а пасля паехаў у Маскву здабываць найвышэйшую асвету.

У той час, калі паяўляецца ў Вільні беларуская прэса («Наша доля», «Наша Ніва»), Лявіцкі прыязджае ў Вільню і тут супрацоўнічае ў гэтых часопісах. Пасля на некаторы час застаецца літаратурным кіраўніком сельскагаспадарчага месячніка «Саха» ў Менску.

Як пачалася вайна, Лявіцкі пераехаў у сваю родную вёску Карпілаўку. Тут ён папраўляе сваё здароўе і вядзе ціхае самотнае жыццё. Аднак у той час, калі на небасхіле Бацькаўшчыны на кароткі момант бліснула надзея лепшай будучыны, ён пакідае вёску і прымае ўчасце ў грамадскай і палітычнай працы.

У асобе Лявіцкага мы страцілі пісьменніка, вялікага мастака слова. З маладых гадоў узяўся ён за пяро і цешыў нас сваімі здольнымі апавяданнямі. Змест для іх Лявіцкі бярэ з народнай творчасці, і ў гэтым іх вялікая вартасць. Яшчэ студэнтам у 90-х гадах перавёў ён на беларускую мову апавяданне Гаршына[3] «Сігнал». З гэтай пары пачалася яго літаратурная праца.

Пасля 1905 года з'яўляюцца кніжкі яго твораў: «Дзед Завала» (1909 г.), «Бярозка» (1914 г.). Зборнікі гэтыя звяртаюць увагу беларускага грамадства, і Лявіцкі займае паміж беларускімі пісьменнікамі пачэснае месца.

У прыгожым вершыку ў прозе, ахвяраванаму памяці С. Палуяна[4], гаворыць пісьменнік аб ранах. Найвялікшы боль адчуваецца ад ранаў на душы, гаворыць ён, бо глыбока і балюча нядоляй беларускай ранена была душа яго. Нядоля народа і вялікая любоў да яго адбіваецца ў лепшых творах А. Лявіцкага. Таму апавяданні яго такія сардэчныя, лёгкія і шчырыя («Гаротная», «Бярозка», «Зарабляюць»).

Зачараваны беларускай прыродай, ён знаходзіць прыгожыя, ёй адной характэрныя рысы, свежыя фарбы («Дзед Завала»). Добры баечнік, А. Лявіцкі заставіў нам таксама цыкл казак-алегорыяў. У гэтых творах ён паказаў нам каштоўныя скарбы беларускага гумару і асвяжыў заняпалую галіну творчасці («Вучоны бык», «Што сказаў певень», «Рабы» і інш.).

Успамінаюцца яго хаўтуры. За возам з труной ціха йшла грамада людзей. Дзень быў шэры й ветраны. Пад нагамі рыхлы, набухшы, як мокры цукар, снег. Звінелі і шпарка беглі па вуліцах ручаі. Гэта зямля абуджвалася да нечага новага, пачынаўся веснавы рух. А калі апускалі ў яму труну, вецер рваў і кудлачыў валасы сабраўшыхся і грозна трос галінамі дрэваў.

І думалася чамусь, што і там, у родных вёсках, якія раскінуты на бязмерных разлогах і загубленыя між пушчаў, таксама пачынаецца Веснавы рух, і ім пачаты, і ім твораны... І думалася, што адроджаны народ не бярозцы пойдзе расказваць радасці свае вясны, бо яму ёсць да каго прыйсці і ёсць каму расказаць іх...

*1922*

## РЭЦЭНЗІЯ НА ЗБОРНІК ЛЕАПОЛЬДА РОДЗЕВІЧА «БЕЛАРУСЬ»[1]

Для тых, хто ведае Л. Родзевіча як аўтара вясёлых, смяхотных п'есаў як «Пасланец», «Конскі партрэт» і падобных іншых, азначаная кніжка будзе прыемнай неспадзеўкай. Тут сабраны не патрыятычныя песні, якія славяць выдатныя падзеі гісторыі або сучаснасці, не нацыяналістычныя поклічы, не палітычныя і нацыянальныя лозунгі «ў рыфму». У вершах Родзевіча ёсць нешта большае, што прымушае ўважліва і даўжэй на іх запыніцца.

Невялічкая кніжыца ў 32 старонкі месціць у сабе цыкл вершаў на блізкую і такую важную для адраджоных братоў тэму — выяўленне істоты Беларусі, тых вартасцей, якія нясе ў сабе беларускі рух. Увесь захоплены паводкай адраджэння паэт — глыбокі думаннік — мучыцца жаданнем выявіць любы і бясконца дарагі Аблік, дазнацца «тайну тайн Яе», той новай праўды, якая можа шмат дзеля каго яшчэ не відна, але якую адчувае пясняр сваёю творчаю інтуіцыяй. А раз сапраўдны паэта адчуў, падгледзеў штонебудзь, ён не можа не сказаць аб сваіх віджаннях свету. Вось най-

больш характэрны для зборніка верш, дзе так яскрава выказаны адносіны аўтара да Бацькаўшчыны.

Мукі — церні, яд;
Боль пячэ, бы жар;
Кроў, душу даю —
Як ахвяру, дар
Не за твой абшар,
Гаспадарскі лад,
А за моц сваю,
Тайну тайн Тваю,
Праўду сельскіх хат.

Падобныя вершы надоўга застаюцца ў памяці і з'яўляюцца вартымі кожнай літаратурнай анталогіі. Не абшар, не «гаспадарскі лад» чаруе і вабіць аўтара, бо гэта толькі надворнае, толькі форма, за якой маецца вялікі змест, бязмежныя далі. Важны руху не дамаганні аўтаноміі без сойму ці з соймам, у Менску ці Вільні, або незалежнасці. Самі па сабе яны маюць знаную цану. Важна — «незалежнасць яе Духу» і творчасць Духу, а рэшта — прыйдзе сама, як неабходнасць. Народ гібеў і зносіў нядолю і здзек таму, што Дух часова адляцеў ад яго, а разам з ім і Слава, бо не дарма гаворыцца ў Е[вангеллі] Яна, што Бог ёсць Слова. Але аўтар зноў адчувае жыццёдаўчыя павевы Духа і Слова белым галубом з радаснай весцю, што злятае з вуснаў Любае:

Бач, світанне напрадвесні,
Ўсюды гоман, льюцца песні,
Ўсход шырэе, цемра тае...
Эх, жыццё, святло буяе.
*(Адраджэнне)*

П'ючы асалоду Адраджэння, чуючы «песні крылляў — то водгук прыходу», не дзіва, што розум хмялее, калі «Вераб'я»[2] танцуе сэрца.

Новым днём з новай праўдай паэта, як першыя хрысціянскія мучальнікі, аддае самаахвярна сваю істоту, губляецца і расплаўляецца ў Руху свайго «Я», і сам ён болей не належыць самому сабе. Але рэлігійныя адносіны і бязмежная любоў да роднага робяць яго індывідуальнасць яскравай і магутнай і надаюць яму такое моцы і сілы, што ў адным мейсцы ён гаворыць:

Дзеля мільёнаў я — надзея,
Сонца прада мной бляднее.

І разумеючы сам крыніцы сваёй моцы, далучае:

Бо люблю Цябе я.

І падобныя заявы нам ні трошкі не здаюцца дзіўнымі.

Саўсім інакш за сваіх папярэднікаў уяўляе паэт сучаснасць. Ён ні адным радком не звязвае сябе з нашаніўскай слязлівасцю.

Пакінуты нудны ненатуральны плач аб старонцы, хоць і ён бачыць усю нядолю, пакуту, усе здзекі, глум, бяспраўі, што чыняцца над родным краем. Жудасны абраз дае паэта:

*У гразь утоптана ляжыш,*
*Зыходзіш кроўю з свежых ран.*
*Няволі неўразумелай крыж*
*І непраглядпасці туман —*
*Крыніцы страшных мук Тваіх,*
*Мук затаёных і нямых.*

Але яго не страшыць будучыня, не трывожыць думка: «*Ці зможам грамадскае гора*»?[3] І наша гора няўжо толькі грамадскае? Ці не глыбей прычыны? Падобнае пытанне немагчыма для паэты, ведаючага магутнасць Руху. Няма месца беспатольнай роспачы. Сіла і бадзёрасць б'е праз радкі:

Дрэнь — жыццё, жыццё старое,
Неўдалое і худое,
У дрыгву яго з імпэтам
Чабулдыхнуць перад светам.

Безумоўна, палон Любае, нядоля, якая ціснс Край — часовыя напасці, хвароба, хварэць на якую астаецца нядоўга.

Падзеі гістарычнай вагі і варункі, выклікаючыя іх, у нашы ўзбураныя часы хутка мяняюцца. Мы будзем сведкамі светлага прыходу.

Але дзе адзнакі? Хто падгатоўвае прыход? Хто будзе спатыкаць і славіць яго? Адказ адзін — селянін, «рабачай вясковы — бацька нараджоны». Ён па волі гісторыі абуджаецца ад векавога сну, скідаючы ёрмы прыгону, становіцца ў аграрных краёх галоўным і творчым фактарам жыцця. У сваім поступе ён не абмяжоўваецца пытаннямі класавай зацікаўленасці. Ён, нічога не адкідаючы, прымае як спадчыну усе духовыя вартасці мінулых пакаленняў і вякоў. Гістарычная роля селяніна для нас ясная, і падзеі паказваюць месца яму на авансцэне. Як бы ні стараліся ідэолагі шляхотнага рамантызму (а іх, дзякаваць Богу, хапае ў нас) давесці, што беларускі рух ёсць справай не класавай, — гэта ім ніколі не ўдасца, як і марксістам давесці яго нібыта буржуазную істоту. Нацыянальная справа толькі ў тым характары, які надалі ёй Ф. Багушэвіч[4] і несвядомы адраджэнец Паўлюк Бахрыма[5] з інш., набіраецца той магутнасці і размаху, які мы бачым. Беларускі нацыянальны рух арганічна звязаны з зямлёй, несучы ў сабе эканамічнае адраджэнне краю праз радыкальныя змены сацыяльных адносін на карысць 95% сялянскай большасці, такі рух непакананы. Таму так устрывожаны ўсе тыя, што гнусавяць «урачыстыя гамы ў чэсць сытага супакою»,

таму такія напасці і шалёная злосць, бо беларускі рух ёсць разам і мужычым рухам. Тайная і інтымная сувязь Беларусі і мужыка для Л. Родзевіча зразумета і адбіта ў вершах:

> Разсвяткуйся, неба, выбухні зарніцай,
> Памажы сярмяжным шумна весяліцца,
> Бо з зямелькі-маці мае адрадзіцца
> У кашульцы шчаснай Беларусь сінявока...

Адгэтуль зразумелы для нас эпітэты: *мужыцкая, несмяротная, юнацкая*, якія надаюцца Л. Родзевічам Беларусі. Пастаноўку і вырашэнне Родзевічам пытання аб адносінах нацыянальна-беларускага да сацыяльна-класавага мы лічым глыбока праўдзівымі. Іншага вырашэння не можа і быць, і залатыя словы Багушэвіча «дзякуй Богу, што мужык»[6], хочацца перафразаваць і сказаць: «Дзякуй Богу, што беларускі рух ёсць мужычы».

Канчаючы свае разважанні, мы адзначаем, што «Беларусь» Л. Родзевіча варта сур`ёзнай увагі і дае нам права аднесці аўтара да ліку найбольш выдатных нашых песняроў і ідэолагаў.

*[1922—1923]*

## У СПРАВЕ АЦЭНКІ БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭННЯ

Часта здараецца чуць, а часам і чытаць, што праца беларуса-адраджэнца мусіць вясціся ў нацыянальным кірунку. Паводле гэтага вышэйшым ідэалам ёсць — каб усе паны, князі і ксяндзы гаварылі па-беларуску за ўсялякі кошт з боку дэмакратыі, бо, ведама, «нацыянальныя інтарэсы» вышэй усяго. Пакуль нацыянальна-прыгнечаны, мы не павінны адчуваць іншыя крыўды, апрача нацыянальнае, не можа быць іншага ворага, апрача нацыянальнага, іншых дамаганняў, апрача нацыянальных. І калі сялянска-рабочыя колы звязваюць з нацыянальным вызваленнем і сацыяльнае — гэтым робяць злачын.

На першы погляд слушныя і нібы праўдзівыя падобныя заявы ў сваёй істоце глыбока памылковыя, плыткага зместу, а ў беларускай дзейнасці — варожыя нацыянальнай стыхіі. І мы хацелі б збольшага разабрацца ў сутнасці падобных заяваў, і якога зместу па праўдзе павінна быць адраджэнская праграма беларуса.

Па-першае, не можа існаваць асобна «нацыянальнае справы» паміма іншых балючых справаў нашага часу. Нацыянальнае справы няможна выдзеліць і паставіць асобна ад са-

цыяльных, класавых, надрэлігійных пытанняў. Наадварот, само разуменне нацыі і нацыянальнага пытання, на нашу думку, лучыць у нацыянальнай справе ўсё тое, што характарызуе сучасную нацыю, а ў першай меры класавую і сацыяльную няроўнасць.

Нацыянальная справа, пакольку яна творыцца прадстаўнікамі нацыі, не можа быць некласавай. І буржуазія, стараючыся звярнуць увагу працуючых на сацыяльную барацьбу, ведае, што робіць. Гэтым яна аслабляе ўвагу працуючых да класавых справаў і пад шумок спяшаецца адрабляць уласныя інтарэсы. Кінуўшыся выключна ў нацыянальную барацьбу, працуючы мусіць прызнаць хоць часова існуючы сацыяльна-эканамічны стан рэчаў добрым ці хоць цярпімым. Мусіць стаць на бок пануючых, г.зн. паноў (якія на Беларусі амаль што выключна палякі) і жыдоўскае зрусіфікаванае буржуазіі. Забыўшыся на існуючы сацыяльны лад, ён, працаўнік, тым самым выпускае з вока галоўнага ворага нацыянальнага вызвалення. Становіцца на бок тых, хто і з'яўляецца прычынаю кожнага ўціску — значыцца, паноў і буржуазіі. І калі гавораць выключна аб нацыянальнай справе прадстаўнікі буржуазіі, дык нам зразумела, аб чым ім ходзіць — аб замацаванні класавае зверхнасці і абдурэнні працуючых. Але гэткія заявы з боку працуючых ёсць глыбокая памылка, калі яны думаюць сумленна. Памылковасць гэтая робіцца асабліва яснаю пры правідловай ацэнцы адраджэнскавызвольнай барацьбы паняволеных нацыяў і асаблівае яскравасці набіраецца, калі дапасоўваюць яе да Беларусі.

18-е стагоддзе аканчальна закінула беларушчыну пад мужыцкую саламяную страху. Вышэйшыя станы апалячыліся і выракліся свайго народу. Культурныя і матэрыяльныя скарбы цяклі да Варшавы — на ўзмацаванне польскасці ў Краі. Усё беларускае зневажалася і пагарджалася. Яно ўважалася як нешта ў іншых выпадках патрэбнае «на будзённы дзень», ніжэйшае, горшае, не вартае ўвагі. Так было да падзелу Польшчы, гэтак пайшло і пасля падзелу, калі Беларусь апынулася пад зверхнасцю Маскоўшчыны. І толькі сялянства ды местачкоўцы захоўвалі беларушчыну. Але ні беднае, галадаючае ад недародаў сялянства, ні абяднеўшае і змарнеўшае мяшчанства, дзякуючы розным акалічнасцям, не маглі падняць яе на належную вышыню. Беларушчына гібела, як гібеў і мадзеў увесь народ і ўвесь Край.

Падупаўшае нацыянальна-беларускае злілося з этнаграфічна-беларускім і існавала як апошняе. Дый этнаграфічныя адзнакі пад уплывам места і русіфікацыйнае палітыкі з адна-

го боку і апалячванне з другога драбнелі і станавіліся штораз менш яскравымі і, на першы погляд, здавалася, мусілі згінуць пад націскам маскоўскай і польскай навалы. Ды гэтага не магло стацца і не сталася. Беларускі селянін выказаў вялікую жыццёвасць. Супраць дэнацыяналізуючых захадаў здолеў вытварыць дысімілюючае проціваатруцце. Непарушнымі данёс да нашых часоў скарбы свайго самабытнага, арыгінальнага «Я» — сваю мову, песню, быт, звычаі, сваю псіхалогію.

Год 1861-шы — знясенне паншчыны — ёсць зваротным у гісторыі сялянства. Нягледзячы на тое, што рэформа не здаволіла сяла, нязначны надзел зямлі за велізарную плату, гэты год прынёс дадатнае: селянін вызваліўся асабіста. З гэтага часу, перамагаючы цяжкія эканамічныя злыдні, сялянства культурна і гаспадарча патроху адраджаецца. З'яўляецца пакрысе мужычая інтэлігенцыя, шчыльна звязаная з вёскаю, сялянская моладзь. З вялікімі высілкамі кончыўшы сярэднюю, а часам і вышэйшую школу, і выйшаўшая, казаў той, «у свет», не парывае з роднымі гонямі — застаецца вернай жаданням і надзеям вёскі. У яе асобе селянін зразумеў годнасць свайго мужычага «Я» і запатрабаваў, каб яно шанавалася. Мусіць быць ушанавана мова ў першую чаргу, песня, праца. З гэтай першай сялянскай інтэлігенцыі на мяжы 19-20 стагоддзяў выходзяць актыўныя змагары і нацыянальныя ідэолагі з пераможным поклічам: «Людзьмі звацца»[1], творацца першыя рэвалюцыйныя грамадкі і арганізуюцца працоўныя масы. Сваё этнаграфічна-беларускае даводзіць да годнасці нацыянальна-беларускае і вымагае да сябе адносін як да нацыі і гэтым надае арыгінальнасці і самабытнасці на ўсю далейшую духова-нацыянальную творчасць. Беларуская культура носіць яскравыя адзнакі сялянскага. Мужык — творца, і не мог выявіць сябе іначай, чым ён ёсць. Гэта асабліва відаць у літаратуры. Нашы песняры, па паходжанню сяляне, астаюцца такімі і ў сваіх творах. Сялянскае жыццё, яго злыдні, сялянскі быт, думы і летуценні селяніна знайшлі ў іх выключнае месца.

Адраджаючыся, беларускае сялянства выставіла цэлы шэраг сацыяльных, класава-эканамічных і культурных дамаганняў. І, як іх сінтэз, з'явілася палітычнае дамаганне незалежнасці. Незалежнасці ад пана і ксяндза, урадніка і папа, «казёнкі і рэстаўрацыі», ад расейскай і польскай школы, што не шануюць і даводзяць нягоднасць нацыянальнага.

Незалежнасць — гэта значыць: новае жыццё і наша культура, зямля і воля, праца і роўнасць у багацці. За такую незалежнасць змагаюцца працоўныя масы, і такой, а не іншаю, яна мусіць быць і будзе. Усякая падробка, фальсіфікат напе-

рад прызначаны на загубу. І пад гэтым светлым штандарам вядзе сваё змаганне працуючы народ.

Толькі тады, калі беларускі рух набярэцца вагі, значання і глыбіні, мы бачым далучэнне да яго дробна-буржуазных і дробна-шляхоцкіх групаў. Гэтыя групы робяць спробы адабраць ад працуючых рэвалюцыйна-нацыянальны сцяг і накіраваць іх сілу супраць іх саміх. Гэтыя групы з'яўляюцца творцамі ідэалогіі выключнасці «нацыянальнае» справы.

Канчаючы гэтую заметку, мы яшчэ раз хочам падчыркнуць свае асноўныя думкі:

1/ нацыянальна-вызвольнае змаганне няможна адасобіць ад сацыяльна-эканамічнага і класавага;

2/ беларускі рух ёсць вынікам адраджэння сялянства;

3/ буржуазныя і шляхоцкія групы ў істоце варожыя беларускай нацыянальнай стыхіі.

*[1922—1923]*

## ДА 400-х УГОДКАЎ ДРУКУ НА БЕЛАРУСІ

На 1925-ы год прыпадаюць вялікія ўгодкі. Яны маюць такое вялікае значэнне для Беларусі, што ўжо пара нагадаць аб іх нашаму грамадзянству і зараней падумаць, каб справіць належныя абходзіны. Роўна 400 гадоў таму назад ад гэтага часу была выдрукавана беларускай мовай першая друкаваная на Беларусі кніжка. Друкаром яе быў наш слаўны гуманіст Францішак Скарына. Сваю друкарскую дзеяльнасць распачаў ён у 1517-ым годзе ў Празе Чэскай, дзе выдаў беларускаю моваю Біблію. З 1525-га года асядае ў Вільні[1], дзе меў уласны дом, і тут не спыняе працы. У нашай Вільні (пад той час сталіца В. К. Бел-Літоўскага), вялікім беларускім культурным месце, не забракавала мецэнатаў і фундатараў, якія дапамаглі грашыма добрай культурна-прасветнай справе Ф.Скарыны. З іх асабліва ведамы сваім «хрысталюбствам» Багдан Онкаў[2], «радца места Віленскага», і Якуб Бабіч[3]. Друкарня была пастаўлена ў доме пачцівага мужа Якуба Бабіча, найстаршага бурмістра слаўнага і вялікага места Віленскага, як сведчыць аб гэтым сам Скарына. У гэтай друкарні ён друкуе «Апостала» (1525) і «Малую падарожную кніжыцу». На жаль, выдавецкая справа на гэтых выданнях спынілася. Прычынаю была канфіскацыя маёмасці Ф.Скарыны і вялікі пажар у 1530 г., які знішчыў амаль не ўсю Вільню. У часе яго загінула і друкарня.

У асобе Ф.Скарыны мы маем вялікага грамадзяніна-патрыёта, адданага свайму краю і народу, сейбіта, які поўнай жменяй у тыя далёкія часы сеяў прасвету беларускім словам, найболей з тае прычыны — «іжэ мя міласцівы Бог з таго языка на свет пусціў»[4].

Тут не месца запыняцца над значаннем Ф.Скарыны, але ўсе вучоныя і даследчыкі той эпохі згодна прыходзяць да вынікаў, што яго значэнне не абмяжоўвалася адной Беларуссю, але сягала на славянскія землі (Украіну, Маскоўшчыну, Чэхію) і далей на Нямеччыну, Румынію і нават Вугоршчыну. Мы маем шмат імёнаў, якімі слушна гардзімося, і імя першага працаўніка на ніве народнай прасветы, доктара Ф.Скарыны, найбольш значнае паміж імі. Пакуль мы пераджывалі пару занядаду і да гэтага часу не змаглі ўшанаваць як трэба свайго народнага героя. Надыходзячыя ўгодкі найбольш адпаведны дзеля гэтага моманту. «Паспалітым дабром» кіраваўся Ф.Скарына ў сваёй кніжнай працы, і ўвесь народ, нават усё «паспалітства» мусіць прыняць у гэтым удзел. Добра было б, каб Беларускае Навуковае Т[аварыства] ў Вільні зараз жа пачало да гэтага рыхтавацца і ўзяло на сябе вярхоўнае кіраўніцтва па ўлаштаванню Скарынаўскага свята. Гэтая роля яму надаецца, як нікому лепей. Першым заданнем Т-ва ёсць, на нашу думку, гэткае: адчыніць падпіску на помнік Скарыну ў Вільні, месцы яго друкарскай працы; абвясціць конкурс на помнік; вызначыць прэміі за лепшы гістарычна-навуковы твор на беларускай мове з тых часоў; выдаць для народа рад папулярных кніжак аб Скарыне; назваць яго імем адну з старых беларускіх гімназіяў ці адчыніць новую. Нарэшце і палачанам варт нагадаць свайго слаўнага земляка і зрабіць усё, што магчыма, каб памяць аб ім жыла ў народзе.

Спадзяёмся, што наша згадка не будзе каменем, кінутым у ваду, бо ходзіць аб тое, ці варт народ сваіх геніяў.

Адказ можа быць толькі — але.

*[1922-1923]*

## НАРОДНАЯ АДУКАЦЫЯ НА БЕЛАРУСІ

Цяжкія нечалавечыя ўмовы, у якіх апынулася Беларусь пасля вайны і рэвалюцыі, не могуць не перашкаджаць развіццю народнай адукацыі. Ваенныя падзеі, якія ўвесь час разгортваліся на тэрыторыі Беларусі, паменшылі яе насельніцтва на

3.000.000 чалавек, 2.000.000 з якіх былі сасланыя на тэрыторыю Расіі і да цяперашняга часу не маюць магчымасці вярнуцца дадому: гарады і вёскі спалены, масты знішчаны, палеткі перакапаны траншэямі.

Насельніцтва Беларусі, якое перад вайной складала 13.000.000, паменшылася ў 1919 годзе да 10.783.000. Лічбы, якія прыводзіць У. Студніцкі[1] у сваёй кнізе «Каланізацыя і развіццё нашага Усходу» (Варшава, 1921), красамоўна гавораць пра страты насельніцтва Беларусі. У кнізе аўтар у асноўным называе паветы, якія найбольш пацярпелі. Студніцкі канстатуе памяншэнне насельніцтва на 68%. У Гародні перад вайной было 66.000 жыхароў, а ў 1919 годзе іх засталося толькі 28.000. Насельніцтва Смаргоні паменшылася з 35.000 да 154 чалавек. Толькі ў Заходняй Беларусі (Віленская, Гарадзенская губерні і частка Мінскай) колькасць разбураных дамоў дасягнула 500.000. Разбуральныя сілы вайны ў гэтай краіне далі адчуць сябе больш, чым у якой-небудзь іншай. Як мы добра памятаем, Рыжскі мір, што падзяліў Беларусь на часткі, меў на мэце знішчыць беларускую нацыю. На шчасце, гэта не ўдалося. Беларускі народ прадэманстраваў сваю жыццёвую сілу.

У сваіх агрэсіўных намерах акупанты відавочна імкнуліся дэнацыяналізаваць Беларусь, і іх галоўныя намаганні былі накіраваныя на тое, каб перашкодзіць беларускаму руху за культурнае адраджэнне і інтэлектуальнае развіццё нацыі. Сярод іншых краін у гэтых намаганнях асабліва вылучаецца Польшча. Яна амаль не хавае сваёй ненасытнай прагнасці, якая асабліва праглядаецца ў заявах першага міністра Скульскага[2]. Ён абяцае, што праз 15 гадоў у Польшчы не застанецца ніводнага Беларуса. Гэты факт быў даказаны большасцю беларускіх паслоў Варшаўскага Сойма. З прычыны таго, што на тэрыторыі Польшчы наш культурны рух душаць усё мацней і мацней, 3.500.000 беларусаў пазбаўлены магчымасці наведваць не толькі вышэйшыя, але і сярэднія навучальныя ўстановы. Беларускі пасол Адам Станкевіч[3] у сваёй прамове, якая прагучала на Сойме 1 жніўня 1924 г., праясніў сітуацыю, у якой апынулася сярэдняя адукацыя. Ён адзначыў, што пад час польскага панавання ў Заходняй Беларусі было зачынена 400 пачатковых і 6 сярэдніх школ, створаных у розны час і пры розных уладах, якія існавалі на тэрыторыі Беларусі перад прыходам палякаў.

15 лістапада 1921 г. спецыяльным законам беларуская мова была забаронена ў школах не толькі як мова выкладання, але і як дапаможная мова (Srokowski St. Sprawa Narodowościowa na Kresach»)[4]. Частка беларускіх выкладчыкаў (250 чалавек) была

накіравана на польскія курсы ў Кракаў і ў далейшым адлучаная ад беларускай школы. Дадзеныя статыстыкі 1923— 1924 гг. дэманструюць становішча адукацыі ў Заходняй Беларусі, дзе існуе 20 пачатковых і 3 сярэднія школы, якія не субсідуюцца ўрадам і пазбаўленыя ўсякіх правоў. У адносінах да колькасці жыхароў (3.500.000), колькасць беларускіх школ проста нікчэмная.

Не засталося зусім беларускіх вышэйшых навучальных установ: адзіны універсітэт у Вільні — польскі. У ім да выкладання беларускай мовы, мовы карэннага народа ставяцца больш чым абыякава: няма нават адпаведнай катэдры. Раней катэдра беларускай мовы існавала, але загадваў ёю польскі навуковец, які не ўмеў нават як след размаўляць па-беларуску. Дзверы гэтага універсітэта, як і іншых польскіх універсітэтаў, зачынены для нашых суайчыннікаў. Беларуская ступень бакалаўра лічыцца тут недастатковай, а «кваліфікацыйная камісія», створаная польскімі студэнтамі, выключае тых, каго ўжо прынялі, з прычыны таго, што яны не служылі ў польскай арміі ў якасці добраахвотнікаў пад час польска-бальшавіцкай вайны 1919 — 1920 гг. У выніку такога цяжкага становішча колькасць беларусаў, прынятых у польскія вышэйшыя навучальныя ўстановы, зусім нязначная.

Вялікая колькасць беларускіх студэнтаў параскідана па польскіх універсітэтах. Найбольш іх у Вільні, дзе існуе Суполка беларускіх студэнтаў, якая налічвае каля 100 чалавек. У 1922 годзе гэта Суполка выдавала газету «Наш шлях». Яшчэ адна шматлікая і актыўная арганізацыя беларускіх студэнтаў створана ў Варшаве. Неспрыяльныя ўмовы палітычнага і нацыянальнага жыцця прымушаюць нашу моладзь эміграваць. Эмігранты накіроўваюцца ці ў Савецкую Беларусь, ці ў Заходнюю Еўропу. У Еўропе нашых студэнтаў можна знайсці ва ўсіх больш-менш паважных універсітэцкіх гарадах. У Чэхаславакіі знаходзіцца 120 беларускіх студэнтаў, арганізаваных у тры розныя студэнцкія асацыяцыі. Дзякуючы ўраду і народу Чэхаславакіі, студэнты забяспечаны матэрыяльна і могуць прысвяціць увесь свой час і сілы навучанню. Толькі невялікая колькасць не атрымоўвае стыпендыі і вымушана звяртацца па дапамогу да сваіх калег або ў дабрачынныя арганізацыі. Група беларускіх студэнтаў у Празе выдае дзве газеты: «Перавясла» і «Беларускі студэнт».

У Савецкай Беларусі, як здаецца на першы погляд, пытанне народнай адукацыі вырашана крыху лепш, чым у Польшчы. Афіцыйная савецкая статыстыка паказвае, што толькі на тэрыторыі 6 паветаў Мінскай губерні знаходзіцца 1981 школа, 9 гімназій з 7 гадамі навучання і 34 змешаныя гімназіі, у якіх 110.262 вучням выкладаюць 2584 настаўнікі. Дзейнічаюць

таксама 4 вышэйшыя навучальныя ўстановы, у якіх займаюцца 6.000 студэнтаў і працуюць 350 выкладчыкаў. 2 з гэтых установаў — дзяржаўныя універсітэты Беларусі, трэцяя — Мінская Вышэйшая аграрная школа. Беларускі Нацыянальны Універсітэт быў створаны ў Мінску ў 1921 г. Пад час навучальнага 1923/1924 года у ім налічвалася 4000 студэнтаў.

З мэтай абароны сваіх акадэмічных інтарэсаў і супольнай працы на карысць нацыянальнай культуры студэнты Заходняй Беларусі і эміграцыі стварылі Суполку студэнцкіх арганізацый Заходняй Беларусі і эміграцыі, выканаўчы камітэт якой часова знаходзіцца ў Празе.

Самая надзённая патрэба беларускай моладзі зараз — гэта стварэнне ў адным з гарадоў Заходняй Беларусі (акупаванай палякамі) беларускага універсітэта, дзе беларускія студэнты маглі б атрымоўваць вышэйшую адукацыю на сваёй роднай мове.

*[1924]*

## ЯНКА КУПАЛА

**К юбилею 20-летней литературной деятельности**

Янка Купала, настоящее имя которого — Иван Луцевич, является одним из наиболее ярких и глубоких представителей модерной белорусской литературы и верным выражением чаяний и самых сокровенных надежд белорусского мира. Он же пользуется широкой популярностью и любовью всех слоев белорусского народа.

В доме Ядвигина Ш. Купала познакомился с белорусской книгой. Это знакомство произвело на него большое впечатление и воодушевило к собственным опытам на белорусском языке.

В творчестве Ян. Купалы преобладают два момента — национальный и социальный. Сам крестьянин, сын деревни, белорусских лесов и болот, с детских лет запомнивший картину нужды, горя, полуголодной жизни, потного труда, беспросветной темноты и пьянства, поэт несравненно художественно, реалистически и правдиво изобразил это в своих произведениях. Если для читателя нужны мерки из русской литературы для оценки Ян. Купалы как народно-крестьянского поэта, то критика может указать на родственных ему Кольцова[1], Никитина[2], Некрасова[3]. Купала не уступает им ни по силе своего таланта, ни по умению его использовать, но он вернее русских народников в

*О, господи, вот бы хорошо было».* І гэта пісаў Горкі ў 1910 г., калі Купала меў «Жалейку» і «Гусляра», а Колас толькі «Песні жальбы». І тады ўжо на першых кроках волатаў беларускага слова ён іх здолеў ацаніць.

А ў яго кніжцы «О писателях-самоучках» (Птр., 1914 г.) мы чытаем наступнае: *«Я обращаю внимание скептиков на молодую литературу белорусов — самого забитого народа в России, — на работу людей, сгруппировавшихся вокруг газеты «Наша нива», слова, написанные белорусским поэтом Янком Купалой:*

А кто там идет по болотам и лесам
Огромной такой толпой?
— Белорусы.

А что они несут на худых плечах,
Что подняли они на худых руках?
— Свою кривду.

А куда они несут эту кривду всю,
А кому они несут напоказ свою?
— На свет божий.

А кто ж это их — не один миллион —
Кривду несть научил, разбудил их сон?
— Нужда, горе.

А чего ж теперь захотелось им,
Угнетенным века, им, слепым и глухим?
— Людьми зваться.

*Чтобы уяснить глубокий смысл этой песни, — которая, может быть, на время станет народным гимном белорусов, — читателю следовало бы посмотреть «Нашу ниву» — она много интересного скажет ему».*

Ідэі Горкага аб вольным супрацоўніцтве народаў Усходняй Еўропы здзейсніліся толькі ў 1917 годзе, калі новы чалавек, пралетарый, стаў на чале ўлады. «Все поровну» прынёс народам былой імперыі Кастрычнік, мудрае вырашэнне нацыянальнага пытання камуністычнаю партыяй.

Беларускі чалавек, які на працягу вякоў быў быдлам і пагноем для культуры сваіх гістарычных суседзяў і ў якога паверыў, нараджэнне якога прывітаў Горкі, зараз будуе сваю чырвоную Бацькаўшчыну — БССР, давёўшы перад светам свае права на годнасць «людзьмі звацца». Горкаму ў дні яго юбілею ён шле гарачае прывітанне.

*1928*

# ПЕРАМОГА БЕЛАРУСКАГА МАСТАЦТВА

Да пастаноўкі «Фаўста»
Беларускім дзярж[аўным] музычным тэхнікумам

— Што? Беларуская опера? «Фаўст» Гуно[1] на беларускай мове і сіламі музтэхнікума? Ах! Ці не праўда, гэта мусіць быць вельмі весела!

Гэтак скажа не толькі зацяты беларусажэр, а і кожны скептык у адносінах да беларускай культуры, а іх... Так, іх у нас хапае, іх, з тонкай саркастычнай усмешкай: «Ах, ці не праўда?» і з вузкім лобам (вузкі лоб псіхалагічна, ад вялікадзяржаўнасці: спадчына царызму).

Але якая справа да іх прафесару і слухачу тэхнікума. Яны маюць свае мэты.

— Мы не хочам быць толькі выкладчыкамі, мы не хочам быць толькі слухачамі. І мы па меры нашых сіл арганізатары і творцы. Мы хочам быць удзельнікамі нашага вялікага будаўніцтва.

Вось тое, што акрыляе і дае пафас скромным работнікам музтэхнікума.

Беларускі музтэхнікум існуе толькі чацвёрты год. Час, як бачым, кароткі. Ды не ў гэтым жа, нарэшце, сіла!

І таму патэтык і энтузіяст беларускае музыкі Юльян Мікалаевіч Дрэйзін[2] бярэ французскі арыгінал лібрэта «Фаўст» і перакладае на беларускую мову.

— Ведаеце, — кажа ён (сам маленькі, галава закінута, вочы крыху ўверх), — расійскі пераклад такі далёкі ад першатвора. Я дбаў аб дакладнасці і блізкасці. Некаторыя месцы мне асабліва ўдаліся, здаецца.

Прафесары таксама задаволены перакладам.

— Пераклад добры, вельмі добры. — Гэта кажа прафесар класа спеваў Цвяткоў[3].

Вы ведаеце Цвяткова? — сівы, бахматы і здаравенны, голас густы:

— Беларускае слова больш прыдатнае для спеву, як расійскае і хвалёнае ўкраінскае. Гэта характэрнае беларускае «а» — адкрытае, шырокае, такое спеўнае...

Слухачы, спевакі і спявачкі рады паслухаць свайго прафесара, але ці час для тэарэтычных разваг? Ім трэба вывучыць паасобныя партыі з оперы, яны павінны будуць прадэманстраваць з эстрады, як гучыць гэтае роднае беларускае «а». А

гэта ж не жарцікі! І дагэтуль трывога, хваляванне — моладзь, і няма ўпэўненасці:

— Ну, а што, калі раптам... спалохаюся, сарвуся...

— Бррр.... жудасна... прэч, паганая думка!

А ў тав. Гітгарца[4] ці мала клопатаў? Ён дырыгуе аркестрам, аркестр мае 36 чалавек — усе вучні музтэхнікума і...

— Вы ж разумееце? — оперны спектакль трымаецца на дырыжору! Вы разумееце?

Гэта гаворыць тав. Гітгарц. У яго такія вялікія рагавыя «амерыканскія» акуляры, а за імі ўпартыя вочы. Вы разумееце, што такім вачам, безумоўна, можна даручыць лёс оперы. Гэта разумее добра дырэктар тэхнікума т. Бяссмертны[5]. Гэта ён арганізатар і застрэльшчык усяе справы. Ён спакойны і мужны, як капітан вялікага карабля. Так, ён нагадвае мне тых капітанаў, што вынаходзілі новыя землі. Ім не трэба зямлі — яны для чалавецтва. Тав. Бяссмертны абрадуе беларускіх працоўных беларускай операй.

Нельга не згадаць і Вастокава[6]. Яму мы абавязаны пастаноўкай. Масавыя сцэны праведзены ім асабліва ўдала, ярка, калярова. Спектакль аформлены са смакам і веданнем справы.

Мы былі 26 сакавіка на першым закрытым спектаклі «Фаўста» (N.B. 26 сакавіка 1832 г. у Веймары памёр вялікі Гётэ, опера Гуно на сюжэт гётэўскага «Фаўста» датуецца 1859 г., яна кангеніяльна несмяротнаму тварэнню Гётэ, аб гэтым любяць гаварыць французы, 29 сакавіка, г. зн. сёння, адбудзецца першы адкрыты спектакль оперы на беларускай мове. Гэта ўсё для памяці).

А цяпер... што сказаць аб уражаннях ад закрытага спектакля. Што да сябе, то мы перажылі рэдкія светлыя мінуты ў сваім жыцці. Няхай было шмат шурпатасцяў у выкананні спевакоў, няхай. Няхай Цюрэмнаў[7] (Мефістофель) не да канца прадумаў сваю ролю, няхай ён не да канца дэманічны, няхай трошка вялы Валодзька[8] (Фаўст), няхай яму бракуе тэмпераменту — гэта ж драбніца. Трэба не забывацца, што мы маем справу з вучнямі, а для вучняў такое выкананне, якое мы бачылі, больш чым удалае. А Александроўская[9], гэтая спявачка з рэдкімі данымі, дала бадай закончаны вобраз Мальгрэты. І ўсё гэта моладзь, маладосць падкупляе свежасцю, юнацтвам, надзейнасцю. Аркестр (гэта аб Гітгарцу) гучаў у меру моцна, каб не глушыць спевакоў, і бездакорна чыста. І трэба было чуць, як маладосць (тэатр быў да адказу напоўнены студэнцкаю масай) вітала маладосць, якімі бурамі воплескаў шумеў і бушаваў тэатр.

— Ну, а як пераклад, як з гэтым... «люди разных каст и стран...» і іншым падобным? — спытае чытач.

— А вось пачуеце сёння вечарам, шаноўны. Пачуеце з вуснаў Мальгрэты (Александроўская) песеньку аб каралю:

Дзесьці быў адзін кароль, —
Ён да самай смерці чэснай
На ўспамінак аб каханцы
Келіх залаты хаваў...

Пачуеце і Мефістофеля, яго жудаснае:

Каб пашану даць куміру,
Усе народы наўздагон
Карагод шалёны водзяць
Пад злавесны грошай звон.

Пачуеце і мілага Зібэля са шчырай і пахкай, як гатовая расквітнець ружа, песенькай:

Краскі любай мае,
Скажэце ёй,
Каб ведала яна,
Як я кахаю яе,
І адвагі няма
Сказаць — мая.

Пачуеце, дарагі чытач, і тады самі скажаце сваю думку. Вы не скептык, вы працоўны БССР, вы верыце ў моц беларускіх працоўных, у іх здольнасць тварыць сваю беларускую культуру, вы самі творца новага жыцця. Вы застанецеся задаволеным.

І яшчэ pro domo sua[10]. Я чуў «Фаўста» на шмат якіх сцэнах, на шмат якіх мовах. Я помню толькі зачынены спектакль 26 сакавіка, яго маладых выканаўцаў, яго маладую аўдыторыю.

*1928*

## З Г. Ібсена

* * *

Я ветразь свой у свет вялікі
Пакіраваў і, як арол,
Ляту, і мора б’е наўкол,
І чаек ўслед чуцён крык дзікі.

Развага тут і асцярожнасць
Мне не патрэбны паміж хваль,
І хоць гатуе мелі даль,
Ляту я... покі можна!

## З А.Олеся

* * *

Я болей не плачу... Я муку сваю
Навек ланцугамі скую.
Народ мой закуты, забраны,
Гараць яго раны...
І душу сваю
Я ранам яго аддаю.

Я больш не спяваю: ў змаганні ўначы,
Спяваюць жалезны мячы.
Маланкамі ў цемры лятаюць,
Да бою склікаюць, —
Няхай ў барацьбе
І мой меч пяе аб сабе.

Даволі маўчаці. Нямыя рабы
Паднялі штандар барацьбы;
Народ загукаў мой: «Да бою
За землю, за волю!»
І ў помсце святой
Крычу я: «За волю, на бой!»

## *З А. Міцкевіча*

### АКЕРМАНСКІЯ СТЭПЫ

Ўязджаю на прастор сухога акіяну.
Воз гіне ў зелені, як чайка на вадзе;
У хвалях шумных траў, між кветкамі брыдзе,
Мінаючы кусты калючага бур'яну.

Змяркаецца. Не знаць ні шляху, ні кургану.
Гляджу на небасхіл: мо зорка блісне дзе...
Вось хмарка там — на ёй свет водбліскі кладзе:
То за Днястром маяк мігціць ля Акерману.

Спыніліся. Плыве крык жураваў у ці́шы,
А іх і сокала не згледзіць быстры зрок.
Чутно, калі матыль сцяблінкі траў калыша,

Як слізкі вуж паўзе і крыецца у змрок.
Таю спакой, што, каб паклікаў хто ў Літве,
Пачуў бы я... Дарма! — Ніхто не пазаве.

## *З І.Волькера*

### ПЕСНЯ КАХАННЯ

Кажаш, што толькі ў тваіх вачах — цэлы свет,
Што для мяне няма нічога па-за імі.
Хмурынкі плывуць вачыма тваімі,
Белыя яблыні цвітуць,
Птушкі лётаюць, пяюць.
Я веру —
І не веру.

З вялікім болем вочы твае ламаю на часці,
Каб ізноў абвіў мяне ланцуг вясёлкі.
Скажы мне, маё каханне,
Калі ўвесь свет
Ў вачах тваіх змясціўся,
Чаму дапусціла толькі,
Каб рабочы раніцай сёння ўпаў з рыштавання
І на маіх вачах
Забіўся.

* * *

На шпітальнай пасцелі праменні падуць,
А трывогу іх чую ў абвязах, тканіне...
Там сябры на змаганне за праўду ідуць,
На змаганне ідуць, і ніхто не запыне!
На шпітальнай пасцелі праменне гарыць,
Але смерць патыхае з закуткаў напасцю...
О, чаму не магу ісці з вамі, сябры?!
Чаму мушу ўміраць, калі прагну упасці!

## ПАКОРА

Зраблюся меншым, яшчэ найменшым,
каб стаць найменшым на цэлым свеце.
Ранкам, на лузе, ў леце
да квета схілюся найменшым.
Шапну, калі з ім абдымуся:
«Хлопчыку босы,
нябёсы далонь аб цябе абаперлі
кропелькай роснай,
каб не упасці».

## ВЕЧАР

Жанчына кінутая можа плакаць,
але пакінуты хлапец ніколі.
Увечары найбольш баляць нявыплаканыя болі
і каханне,
калі сем гор яно сустрэне,
сем гор ды з цвёрдага камення.
Я маю два малых акны,
я маю два вялікіх вока,
але не маю жаднага ліста,
які на мой бы стол спусціўся ў змроку,
падобна беламу аблоку,
і мовіў бы:
— Людцы кахаюцца,
мой чалавеча.

## *З Ш. Бадлера*

## ЧАЛАВЕК І МОРА

О, вольны чалавек. Заўжды любіцьмеш мора.
Яно — адбітак твой; твая душа — паглянь! —
Ў разгортванні валы бясконцае прасторы,
І розум твой не менш тужлівая атхлань.

Ты любіш патанаць ў яго туманныя дарогі,
Ахопліваць яго істотаю сваёй
І сэрца ўласнага рассейваеш трывогі
Пад гэты гук жальбы, някорнай і дзікой.

Абодва хітрыя, вы так маўкліва-стрыманы.
О чалавек, ніхто не змераў глыб тваю!
О мора, не злічыў ніхто твой скарб інтымны!
Так тайну ўкрылі вы зайздросліва сваю!

А вось між тым вякі, вякі без падзялення,
Зацята йдзе наш бой бязлітасна-люты.
Так закаханы вы у бойку і знішчэнне,
О вечна змагары й нягодныя браты!

## *З Б. Ясенскага*

### СЛОВА ПРА ЯКУБА ШЭЛЮ[1]

Паэма

#### ПРАДСПЕЎ

Ў белы ночы з іржышч і гумнаў,
Што аквечаны мохам, імжой,
Я збіраў словы песні той сумнай
І прыношу скрываўленай, злой.

Ужо восень пахілыя вербы упарта
Расцінае ў такт жабіных гам.
Вось з апошняй фальшывай чырвовай картай
Граю ў дурня са смерцю я сам.

Можа, заўтра праедзе ўжо трактар
Па тых гонях з убогіх лат.
Прыйдзе змрок — барадаты пактар[2] —
Возьме поле у чорны пакт.

І на дзесяць ці сто некіх міль наўкола,
Дзе лажылася жыта ўпакат,

Ўздыме места вялізнае голаў —
Камяніцаў шумлівы сад.

І як зноў ступіць ноч на ўзмежак
Ў белай туніцы месячных плям,
Звіснуць цяжка над польнай сцежкай
Яблыкі электрычных лямп.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У белы ночы з-за купаў ажыны,
Дзе сонца хавала свой зад,
Выла песня на месяц няўпынна
Як сабака, гадзінамі ўрад.

І сланялася ў полі, слалася пластам,
Уставала, дрыжала, як звялы ліст,
Калі ж ранкам спужаў яе пастыр,
Кроплі крыві ў разорах былі.

Гэта песня нейк раз мяне высцігла ў полі,
Паваліла, сцяла, загадала: служы!
Адарвала язык — пустазелле так полюць —
І замест яго уваткнула нажы.

Прыйшла ўзімку самлелай, скалелай; я змоўчаў!
Папрасіла: дай словаў! дай цяжкіх, як сноп!
І ў грудзі ўрасла з прагавітасцю воўчай,
Наелася сэрца, дайшла да вантроб.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калісь лета адчыніць нам дзверы
Сэрцаў збітых, прыбітых на дол.
Сядзем усе за адной вячэрай,
Уся зямля за адзіны стол.

Спыніць дзень той свой лёт пераможны,
Як гукнуць яму: стой! не заходзь!
Прынясе ўсё найлепшае кожны,
Будзе свет весялейшы стакроць!

К тому дню, што румяны, напорны,
Што абецаны шквaлaмі бур,

Сядзем ўсе — і чырвоны, і чорны, —
Змыем фарбы са сцягаў і скур.

К тому дню — сёння заўтрае ўзвысім! —
Што трапеча ў крыві, нібы карп,
Вам прыношу на глінянай місе
Злую песню — найбольшы мой скарб!

ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Танцавалі хата, стол,
Танцавалі коні, вол
І каровы у аборах,
Як няхват было танцорак.

Танцавалі хата, зруб —
Як бяда — дык, гэй, пад шлюб!
З коньмі — вёдры, з людзьмі — кубкі,
У танок ішлі залюбкі!

Танцавалі бас, кларнет,
Белы шлях у ясны свет
Выкідаў бярозаў ногі
На гасцінцы на аблогім.

Танцавалі хата, вёска —
Як бяда — дык кожны цёзка!

*

Крапаў дождж. Плакаў дождж.
Зацярушваў шыбкі.
Завадзілі, лабузілі
Ў цеснай хаце скрыпкі:

— Ой, Марылька, да чаго та,
Што ў вачах тваіх маркота,
Што сляза збягае з вочак,
Слова вымавіць не хочаш?

Ці ўраклі цябе, нябожа,
Ці шкадуеш сваіх ножак,

Што не скачаш, як другая?
Сёння шлюб твой, маладая!

*

Крапаў дождж. Плакаў дождж.
Злосна вецер гасаў.
Задзіўляўся пруткі бас,
Мармытаў ён басам:

— Ці ж твае, Марыля,
Былі вочы ў бельмах,
Што цябе прывабіў
Гэты чорны стэльмах?

А дзе ж ты, Марыля,
Мела вочы-бровы,
Што цябе натрапіў
На малое ўдовы?

Ці ж твае, Марыля,
Усе сцежкі сцерты?
Загубіў тры жонкі,
Згубіць і чацверту.

Будзеш выці-плакаць,
Будзе біць, бязбожнік,
Спакусілася, Марыля,
На загон той пожні.

Марыля, Марылька,
Ці ж табе не люба,
Што гуду, бы ў дуду,
Што гуду так гр-р-руба.

*

Крапаў дождж. Плакаў дождж.
Кропляй кроплю зметаў.
Усміхаўся, заліваўся
Тонкі піск кларнету:

— Так, Марылька, табе збрыдла,
Што не хочаш пасвіць быдла,

Што не хочаш гнаць гусей?
Ну, дык замуж, ну, хутчэй!

Дурань дурня не аб'едзе,
Любы ўдовы? — дзецца недзе!
Не крыўдуй, што злы, лядач, —
Сама выбрала — ну й плач!

Стала з Шэлем заручонай,
Год пятнаццаць не было нат.
Раіў дзядзька, раіў ксёндз:
— Пачакай шчэ, не выходзь!

Адказаць не мела спрыту:
— Ідзі, Шэля, мне стары ты!
Маеш больш за трыццаць тры,
Іншым голавы дуры!

Крапаў дождж. Плакаў дождж.
Раўчакамі сцекаў.
Танцавалі цэлай вёскай —
Брыль задзёрся стрэхаў.

*

Грай жа, Іцка, грай жа, Бэрка!
Вось гарэлкі паўкватэрка!
Вось гарэлкі цэла кварта, —
Шлюб чацвёрты — выпіць варта!

Гэй, Марылька, йдзі ў таночак.
Мне тваіх не ўкрадуць вочак,
Ўжо са мной твой кожны подых,
Ўжо мая ты назаўсёды.

Стаяць вербы паўз плот Шэлін, —
Прыйшлі глянуць на вяселле.
Йдзі, Марылька, кліч у хату —
Пітва-ежы ў нас дастатак.

*

І было ж табе, Марылька,
Трэба урачы так,

Што магу табою толькі
Ўцішыць ненасытак.

І было ж табе мне даці
Дзіўнага любістку,
Што ўва мне палае ўсенька,
Хоць нажом скрабі стуль.

І было ж табе ўрасці так
Моцна, як галінцы,
Што ўсяго, здаецца, хочаш
Выпіць па крывінцы.

Аніяк цябе не вырваць,
Хоць сячы вантробы.
Удавіўся я табою,
Як асцём нядобрым.

Без цябе мне дом не домам
І няўцешна памяць —
Толькі мне зірні у вочы
І абві рукамі.

Агарнула хвор-нядужасць,
Ёю дзіўна так стрывожан,
Што хацеў бы, як зямелька,
Парасці увесь я збожжам.

Што стаяць хацеў бы ў садзе,
Як вулей, вулей пчаліны,
Каб гулі наўкола пчолы,
А не гэты боль няўпынны.

Мусіць, штось ва мне даспела,
Заліло, як шыр паводкі,
Што, як сноп, валюся сёння
Пад сярпом тваім салодкім.

Мусіць, штось ва мне бушуе,
Нібы ў піве саладзіны.
Пакаштуй яго, Марыля,
Асалі слязой адзінай.

Ой, ва мне, старым, распусным,
Ўзбушавала дзіўна слодыч.
Што гусцей, чым сок маліны,
І салодшая ад мёду.

І утульна ж я атулен,
Як кажухам, той дабротай,
Каб магла прыгубіць к вуснам
Ты ўсяго мяне, дурноту.

Дык схіліся ты над ёю,
Пі а пі — а колькі хочаш.
А пасля расплёскай рэштку
Праз сваволю праз дзявочу.

Але перш мне асалоду
Вымер вуснаў меркай спеўнай.
Жоўты колас спее ў сэрцы —
Ты яго саб'еш, напэўна.

*

Танцавалі хата, двор
Ажно пяты дзень да зор.
Процьму пілі ў гэткім русе,
Заскакаў ў гняздзе нат бусел.

Танцавалі, спаць пайшлі,
Ўзняўся месяц край зямлі.
Ледзь устаць на небе здолеў,
Зблытаў цені ўсе на доле.

Тоўкся небам ўздоўж і ўбок,
Не мог трапіць, як знарок.
На касцёл узбег, няўпыннік,
Паў на вежу, збіў гадзіннік.

А ў кустах папаў сабакам —
Было брэху, пераляку.

*

А й, дурны ж ты, Шэля, дурня горай,
А і добры ж з цябе, Шэля, муж.

З кірмашу навёз дабра-убораў,
Зараз гал саўешся, нібы вуж.

А й, дзівак жа ты, дзівак няшчасны!
А і дзе ты гэткі, Шэля, рос?
За пагляд вачэй Марылькі ясных
Цэлы б рынак ёй скупіў-прывёз.

Хоць, бы яблыню, яе ўбяры ты,
Хоць сябе ты жменькай рві а рві, —
Не змагчы ніяк дабром не бітай,
Смаглай прагі бабскае крыві.

А не чуеш жа ты, Шэля, плётак
І не бачыш, хоць шчэ зрок не стух,
Што ў авёс Марыля ходзіць потай,
З ёю гнуткі Вінцусь, твой пастух.

А спытаў бы ты хоць сена гэта
І снапы ў гуменцы, з дзвюх старон,
Колькі раз з іх сходзіла сагрэтай
Ў асцюках Марыля, ну, і ён.

*

Ў карася пашчэнкі чорны,
Шчупаковы — сівы.
Не ручыла табе, Шэля,
З тым каханнем тклівым.

*

У гумне паўзмрок і свежасць,
Сена соладка кунежыць.
У гумне нат жорсткі лубін
Мяккі з тым, якога любім.

— Ўкрый мяне сабой, Вінцэсік!
Лепей сонейка, чым месік.
Я, кахана, млосцю п'яна,
Ляж, як ліст, на млосці раны.

— Дай, Марылька, дай мне бліжай
Кратавінне персі хіжай.

Дай мне скібы твайго ўзлоння
Плугам выараць сягоння.

*

Ці ж зайшло за хмару сонца,
Як за дрэва дзяцел,
Што ясноту сонца гэту
Чорны цень так гаціць.

Ой, не хмара, не аблокі
Абляглі шырока —
Гэта злосны Якуб Шэля
Стаў пасярод току.

*

А як выцяў Шэля раз,
Вякнуў Вінцусь, звіўся ў пас.

Як другі цяў Шэля коса —
Два цуркі пабеглі з носа.

Як жа выцяў вышай броў,
З горла Вінцусь выплюў кроў.

А як цяў чацвёрты проста,
Тут Вінцэсю — аман, ростань.

*

Выцер Шэля, выцер кроў:
— Ну ты, шлюндра, марш дамоў!

Зашчапіў яе ў хаціне,
Ў поле выйшаў млявы, сіні.

Кончыў бомкаць звон і змоўк.
Паў над полем сівы змрок.

Ў злітым кроўю йшоў адзенні,
Сум па полі кідаў жменяй.

Устаў на небе месяц — кныш,
Калі дурань — дык цярпі ж!

*

Як хавалі у нядзельку
Шэліных Вінцэся,
Шкадавалі ўсе на вёсцы,
Што лёс гэткі стрэўся.

Цэлай вёскай выхадзілі,
Хоць з парога, з ганку,
Толькі Шэліных ніводзін
Не падняў фіранку.

I было навошта красці
Мёд з чужога вулля?
Ўжо цябе зямелька толькі
Да сябе прытуліць.

I было ж табе навошта
З чужой жонкай сорам?
Не скруціў бы цябе гэтак
Нават сам аконам.

А і дзе ж твая Марыля,
Ці ўжо ў гэткім смутку,
Што не выйшла за труною,
Што не відна тутка.

Што адзін, як палец, едзеш,
Што так цяжка скаран?
Ой, загінуў жа ты, Вінцусь,
Ой, загінуў марна.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

Па-над полем узвіхраных грыў дым
Кропіць мжой, як з вымя, там уверсе.
Мае смак перапаленай крыўды
О, зямля, малако твае персі.

Дзе напала на тлустыя скібы,
Апляла амяла цябе густа.
Накарміла, зямля, ты усіх бы
Свае глебы разоваю лустай.

Але шалі дрыжацімуць, покі
Руху к мэце стаяць перашкоды:
Вісне двор, як павук шклянавокі,
Ў павуціне разлогаў выгоды.

Роніць чорныя слёзы ажына,
Плачуць гонейкі жальбаю горкай, —
Закруціліся ў нітках пуцінаў
Мухі нэндзных сялянскіх падворкаў.

Прыйдзе серп, заскрыгоча саломай,
Тваіх сокаў удоем іскрыстым.
Заглынулася жытняя строма
Кропляй зерня твайго залацістай.

Зноў на спелую постаць ледзь золак
Вылезь з возам, з сярпом, чалавеча.
Зложыць сноп свой пакутніцкі голаў
На мужычыя рукі, на плечы.

Ўлетку цела счарнее і скволіць,
Ногі спекае прысак загонаў.
Мяккай ранаю ятрыцца поле,
Здрасаванае лапай баронаў.

Ціша лубіны лушчыць з лушпінаў
І ў вантробах, зямля, табе коле.
Згорла ў фасках убогах хацінак
Сыракваша твае меланхолі.

Ноччу вечнасць спаляецца ў людзях,
Штось іх цягне за далі, ў імгліцы.
Сеў на месяцы д'ябал і юдзіць,
Чарвяка ўніз спускае на нітцы.

Водзіць з зазубнем ніць над зямлёю,
Нізка так, што зубамі хапіў бы.
Ў кожным з нас з глыбіні дзесь гурбою
Усплываюць бліскучыя рыбы.

Месяц гноем смярдзіць з абораў,
Дрэмлюць коні ў зацішку стаень,

Сівым лесам, вільготным борам
З кожным днём дзень павольней світае.

Дзень паўзе з кожным днём больш аслабла,
Хутка ж змрок, і наш скон ці ж не бліжай?
На мільгаючай вудзе д'ябла
Сэрца ў муках звіваецца сліжам.

*

Ой, нікому гэтак,
Як прыгонным людзям, —
Мусіш быць вясёлы,
Хоць смыліць у грудзях.

Ой, нікому гэтак,
А зрабі што-небудзь, —
Звозяць збожжа пану,
Нібы так і трэба.

У людзей прыгонных
Аніколі свята, —
Што надкусіць пан той,
Скончаць паняняты.

Мужыку Бог шэнціць,
Хоць ён не старанны, —
Бацька быў хамула,
Сын удаўся ў пана.

Ўлетку перад жнівам
Кожны ў карчму вінен, —
Хам, як пёрка лёгкі,
Сам за ветрам плыне.

Ў корчмах перад жнівам
Напавер нікому,
Пан чаго не з'есць сам,
Кіне цюцьку тому.

Гасіць цюцька полем,
Хам пакліча: — На, цю!
Уварве хваста ён,
Скорам мае ў хаце.

*

Лётала, крычала
Гусанька над ставам:
Вашы змовы ў корчмах, людзі,
Не мужыча справа.

Сцепануўся, кудахнуў
Чорны кур у градах:
Кіньце змовы вы, мужчыны,
З іх не будзе ладу.

Ты, гарэлка, — зводнік,
Чортава спакуса,
Не наводзь ты на ліхое
Чорным хлеба кусам.

Хай табе, гарэлка,
Тых паноў расперці.
Як захопіць нас аконам,
Дык прыб'е да смерці.

*

Чуць не хочуць людзі
Той развагі словы.
У карчме прамовіў неяк
Куба з Гажаёвы[3]:

« — І чаго ж ты, сонца,
Ходзіш, як за ценем?
Ой, відаць, забыўся нешта
Цар пра нас у Вене.

Ці спароць нам сонца,
Ці мо больш падперці?
Ужо, мусіць, нам, сялянам,
Толькі й ждаць, што смерці.

Хто пра крыўду нашу
Там яму замовіць?
Хіба, можа, пан намеснік*
У высокім Львове.

---

*Намеснік —начальнік краіны ў б[ылой] Аўстрыі, прыблізна як генерал-губернатар у б[ылой] Расіі.

9 Зак. 2780

На паноў не мае
Пан намеснік вока,
Адно з думак, каб з сялянства
Скінуць пана-цмока.

Да мужычай жальбы
Мае ён увагу,
Хай адно калі прачуе,
Дзе пад панам блага.

Як яму скуль вёска
Пашле скаргу — ліст той,
Яго зараз прачытае
У залі залацістай.

Толькі з поштай нешта
Ліст мужычы гіне.
Нехта свой ад цэлай гміны
З ім ісці павінен.

Маем шмат мы крыўдаў,
Бы к сяўбе гароху, —
Хай загад хоць нейкі выдасць,
Каб паволіць троха.

*

Паскраблі людцы́ галовы.
Затаіла ціша словы.
Каго ліха пхне й чаго
Ў свет за вочы — о-го-го!

Як захопяць на шляху дзе,
Смерць таму, напэўна, будзе.
Лепш у хаце гора, крыж.
Не парушыў жадны ціш.

Як праліўся ціўцы келіх,
З-пад сцяны падняўся Шэля,
З плеч зваліў ён слова-куль,
Ўзняў кругі адгэтуль, стуль:

— Што ж, панам на нас і ехаць?
Штосьці, хлопцы, ў свет нам нехаць?

Лепш бяды — нядолі косць,
Чымся ўводзіць пана ў злосць?

Час ключы браць ад абораў.
Вока пана коні пора.
Пад сякерай хмуры лес
У зямлю да пасу ўлез.

Як карась, купайся ў поце,
Але пану не стань проці.
Гніся ў працы дзень у дзень,
Пану зерне, нам — асцень.

Больш клясці за вуглам годзе, —
Як ніхто, дык я йсці згодзен!
З вёскі ў свет шлях просты лёг,
Ногі звыкшы да дарог!

Вылі ў сэрцы жаль і мука,
Йшоў дахаты, цяжка грукаў.
Цвіў на небе месяц-квет,
Як выходзіў, быў ўжо свет.

*

Ой, бясконца далёка дарога!
Ой, не блізка пуціна-дарожка!
Колькі верб і альшыны — нябога,
На плячах неба цяжкая ношка.

А праз гоні бяжыш праз чые ты,
Што цябе не засек пан дазвання?
А і ўешся, дарога, ты светам,
Як бабулькі трухлявай літанне.

На гары ўвесь у лісці бярозак,
Пакі холадам лісце не сцята,
Сушыць цэркаў мужычы мозак,
Долю вёскі, як мокрую шмату.

Ой, ні выплыць, ні згінуць той долі,
Сінім вуснам не змоўкнуць ад гліны,

Даўгарукі вятрак-сваволя
Разграбае нябёс шумавіны.

Не балеў мне, дарога, твой смутак,
І табе мне ўжо скардзіцца позна ж!
Белым крыжам цярпення й пакуты
Залягла ты, дарога, пад воз наш.

Хай жа больш будзе воз наш нагружан,
Сваім потам сальем яго кола!
Ты слязьмі зелянкавых калюжын
Пазіраеш падслепа наўкола.

Ўжо цябе нам не выспеваць крыкам,
Лепш згандлюема боль твой не крыты,
П'яным старцам падслепаю пыкай
Валачэшся з карчмы да карчмы ты.

Сонца здасца то бутляй, то шклянкай,
Яго гоніць вятрыска-аблуда, —
Падманула мяне, ашуканка,
Не вядзеш ты, дарога, нікуды!

*

Ў месце Львове людна, тлумна,
Лямп, як тых зярнят у гумнах,
Па баках, як лялек, гмахаў,
Пасярод дарога — свахай.

Ў месце Львове, белым месце,
Ў кожным доме вокан з дзвесце,
Ў кожным з вокан ясна пані,
Шыты золатам убранні.

І як толькі вокам скінуць,
Кожны дом, як сот пчаліны:
Сам пляскаты, зверху гладкі,
А пакоі, як шуфлядкі.

Ў месце Львове сцежкай чыстай
Ходзіць панства ганарыста,

А паненкі, нібы павы, —
Не падымуць ножак нават.

З вуліц люд плыве разводдзем,
І жандар між люду ходзіць, —
Хто ісці у такт не згодны,
Таго зараз да халоднай.

Ў месце Львове адной меры
Растуць дрэвы гнеда-шэры,
Як буслы там на пярэсце,
На адной яны назе спяць.

На іх лісце — арнаменты,
На іх жменяй — дыяменты,
Вартаўнік стаіць над кожным,
З іх сарваць — ані не можна.

Ў месце Львове ксяндзоў плойма,
Ў рад касцёлы стаяць стойма.
У касцёлах мша штодзенна,
Ззянне ўбораў неацэнна.

У касцёл у жар ці ў хлюпу,
Хто бяднейшы — няма ўступу.
Едзе панства — шнур карэтаў, —
Як цары да Назарэта[4].

Сядзяць старцы пад касцёлам,
Сядзяць, свецяць целам голым, —
Пад рыззём палічыш косці,
Просяць, шэпчуць, мымраць штосьці!

З кім бяда — да іх ты проша.
Прыйдзе пані — кіне грошык.
Прыйдзе стражнік з тоўстай мордай —
Каму арышт, каму горай.

Ў месце Львове гмахаў розных:
З боку — шкля́ны, сам — парожны,
З-за вакон, шкляных тых скрынак,
Як у полі мэндляў, — шынак.

Люд з бяднейшых тут ўсялякі
Пхнецца глянуць на прысмакі,
Кожны тут палкае сліну,
Гарляк бегае без спыну.

Там, дзе ежы ажно копы,
Ходзіць ноччу вёскі клопат.
Стукне ў цэглу, гляне вокал,
У палацы кіне вокам.

Раніцой на ўсіх заводах
Зык, як сотні баб пры родах,
Аж дрыжаць муры, панове,
Ў белым месце, месце Львове.

*

Дні аскубаюць з дрэў лісце чыста,
Мацнейшае яшчэ ліпіць да часу,
Цікавіць львоўскіх тых канцылярыстаў,
Ці зможа ўпор мужычы перагасу.

Лягчэй той кроплі праз сцяну пралецець,
Чым тут без хабару дайсці парадку.
Што гэта за мужык праз месяц трэці
Сцірае ва ўстановах пыл азадкам?

На двор к дурному з возам едзе шчасце,
Ніхто не згледзіць нат, з якіх там весніц
На мужыка найшоў (было ж прыпасці!)
Ў пакоях урадовых сам намеснік.

На злы настрой яму — дык лепш не лезці,
На добры трапіш — дык адразу згода!
Сказаў намеснік мужыку прысесці,
Ўсё выслухаў: якая ў чым прыгода,

Штосьдоўга разважаў, нібы з амбону,
Ўздымаў руку, як той артыст зацяты.
«Ўсё, — кажа, — сам разгледжу па закону,
Махай цяпер на паншчыну дахаты!»

Ледзь давалокся Шэля да варотаў.
Зірнуў за мур — збудован моцна майстрам.

Далёка ў свет, шчэ далей з паваротам
З жабрацкім медзяком у сэрца кайстры.

*

Восень ідзе ўжо з хмараў пампрокай,
Ўсіх нас пазметае безліччу стрэл.
Певень бляшаны на вежы высокай
Спевам і лопатам крыл яе стрэў.

Збожжа гніе, не агрэтае спёкай,
І ноччу ваўкі ўжо абвылі стог.
А дождж спацелы вільготным крокам
Месіць і месіць цеста дарог.

Атручаны булкай сонца з закальцам,
Здыхаюць змрокі пад лямант верб.
Дрэў схудалых касцістыя пальцы
Асыпаў ужо вераб'іны сверб.

Хутка ўжо, сэрца, загінуць нам трэба,
З градаў душы павыполваць дзядкі, —
Нябёскі бондар у бочку неба
Уночы зор забівае цвікі.

Ці ж вечна вам віцца ў турме той,
Жмутам скрываўленых рук і ног?
З цёплай крыві нашай, болем сагрэтай,
Мацу выпякае цадык — Бог.

Скаргаю слёзнай разліся, як ставам!
З роспачы хоць галаву растарошч!
Змоклым крапілам панскай забавы
Збожжа згнаіў нам у полі дождж.

Модлам крывым у дзяўках векавечыць.
І іншых вучоных прымае як след.
Толькі мужычыя ліха-галеча
З торбаю мусяць цягнуцца у свет.

Лепш чымся выць і да Бога скаголіць,
Лобам пакорна схіляцца ніжэй, —
Лепш зямлю, не сваё гэта поле,
Зубы зацяўшы, ары і сей.

Ды хоць крывёю зямлю ты напоіш,
Потам сальеш яе кожны кут, —
Не тваё ўзыдзе жыта — чужое,
Як чужынец, прыблуда з прыблуд.

Сучцы хапіла б гайні з адной вёскі,
Ёй жа не злічыш ахвяраў-згуб,
Спяць, дрэмлюць скібы на сонцы ўроскід,
Тысячай чорных саромных губ.

Дарма яе за вяскоўца пан выдаў,
Цяжка жыць далей з адной удвух, —
Тры немінучыя пальцы вілаў
Цэляць у панскі касмічны трыбух.

*

Ў ахмістрыні дабра скрыні,
Дываноў, тканінаў.
Ой, вярнуўся Шэля з Львову,
Толькі дзе ж загінуў?

Ой, загінуў, загубіўся,
Але блізка дзесьці, —
Сёмы тыдзень з панскіх лёхаў
Пра яго ні весці.

Як прылецеў ён з усходу,
Як той сокал з далі,
Аж да чорна яго білі,
Ў ланцугі скавалі.

Ён сядзіць, вясны чакае,
Дзён прыгнуты ношай.
Еў памыі ў шчодры вечар,
Разгаўляўся вошай.

*

У садзе дрэва тоўста,
Шчэ таўсцейша ў лесе,
З мужыка жыцця не выбіць,
Хай як хочуць месяць.

За гумном у полі
Гурбы снегу ў сцену.
Выпушчаюць з лёхаў Шэлю,
Куды зараз дзенуць?

Кажа пан да служкі:
— Суніму раскола!
Павядзеце вы яго мне
На мшу да касцёла.

Не давайце есці,
Хай тры дні папосціць,
Каб быў пострах цэлай вёсцы,
Як зірне на косці.

То не змрок карчомны
Схоплен шалам полькі,
То найшло ў касцёл народу,
Ажно дзіва колькі.

Навaліла тлуму,
Ані ўткнуць далоні.
Аж запах касцёл галечай,
Церпкай, як амоні.

Як у дзверы ўходзіў
Шэля з вартавымі,
Скалыхнуўся люд усенькі,
Расступіў прад імі.

Навакол тры крокі
Шлях лёг, як абрусам,
Ўсіх прыгнула наглай цішай,
Як вялізным брусам.

Стаў з парога Шэля,
Вартаўнік пхнуў далей.
Меў сіняк страшны пад вокам,
Ледзь у твар пазналі.

Калі ксёндз набожна
Ўзняў угору келіх,
Не укленчыў ён на пліты,
На гнілую бель іх.

Высіўся над людам,
Як нязломны камень,
І ў адказ на звон касцёльны
Бразнуў ланцугамі.

Як яго на посмех
Вяла босым варта,
Выйшла вёска ўся напроці
Без усмеху-жарту.

Толькі з лесу вецер
Разам з бурай рушыў.
Танцавалі ў панскім садзе,
Вывернулі грушу.

А як месяц толькі
Ўзлез на неба гожа,
Загарэўся дворскі свіран
З усім панскім збожжам.

Снег засыпаў студні,
Не стушыць пажару, —
Тры дні сажа чорным снегам
Церусіла з хмараў.

*

Нос у пана, нібы свечка,
Каля носа — болькі.
Не дазволіў згінуць Шэлю
Той староста* толькі.

Не хацеў пан слухаць-ведаць,
Сёння — хоць да раны:
На чацвёрты госць высокі
Завітаў да пана.

Як вітаўся, запытаўся
Ціха і не груба:
— А ці ёсць у вас на вёсцы
Гэткі Шэля Куба?

---

* Староста —адміністрацыйна-паліцэйскі чын у былой Аўстра-Венгрыі (Галіччыне) і сучаснай Польшчы, адпавядае іспраўніку за царом у был[ой] Расеі.

Пан намеснік, у якога
Люду, як мурашак,
Прывітаць казаў, спытацца,
Ці здароў ён, вашаць?

Як пусцілі з лёхаў Шэлю,
Прывялі, як ценя,
Галавой круціў староста,
Ўспамінаў аб Вене.

Доўга лаяў па-нямецку
І па-польску чысціў,
Аж дрыжалі ў доме шыбы,
Як асіны лісце.

Як садзіўся, шчэ сварыўся,
Вецер зметаў голас:
— Каб мне гэтаму вяскоўцу
Не ўпаў нават волас!

Бо вам двор з зямлёй зраўняю
І пасыплю вапнай!
І ў старую шапку Шэлі
Срэбны гульдэн капнуў.

*

І куды ты, Шэля, ходзіш
Раз на тыдзень, раз на два?
Ці купіць на рынку што-дзе?
Ці штомесяц прадаваць?

Не на торг па абаранкі,
Толькі, мусіць, дзесьць важней,
Бо ў карчме аж да заранкі
Вёскай ждуць цябе усей.

*

Ад Смажовы да Тарнова,
Як страла, пуціны-сцежкі.
Там трава ўзрасла нанова,
Дзе хадзіў ты пешкі.

*

У Тарноў дарога проста.
Кажа Шэлі Бройнль-староста:
— Год за годам — мінус-плюс —
Крыўдзе вёсак скора шлюз.

Пала панству думка, й баста —
Хочуць знішчыць усіх нас тут.
Маюць пораху там з фунт —
На цара рыхтуюць бунт.

І які ты, кажуць, цар нам?
Толькі кроў з нас п'еш пачварна.
Сему скуру з нас бы здзёр,
З мужыком адно дабёр.

Замест выбіць з хама мухі,
Толькі шырыш ты парухі,
Мужыкі ўздымаюць гам:
Тут ім крыўда, кепска там.

— З кім дзяліць нам грош мужычы?
Правіць Польшчаю мы зычым!
Хто сялянскі муціць лоб,
Дык таго па лобе — цоп!

Кажа цар: — Мне досць аблуды!
З імі біцца сам не буду!
Маюць людзі на іх злосць,
Дык няхай паўстануць вось!

Досыць слёз лілі няўпынных.
Ў іхняй крыўдзе я не вінны.
Так зраблю, каб бунт той сціх:
Панству скон, зямелька — іх.

За табой ідуць сяляне.
Ты хадзіў у Львоў, мой пане,
Дык зрабі ты так і так —
Прыйдзе момант — дай ім знак.

Ў вашай жмені лёсу вобраць.
Што кажу, разваж ты добра.

Тым зямля, а тым труна,
Табе сцежка тут адна.

Устаў Шэля — быў ён бледы:
— Зверым вёскаю як след мы,
Кожны локаць, кожну чвэрць —
Каму воля, каму смерць.

Ідзі, Шэля, чухай карак.
Што пачуў, узваж ты зараз.
Ходзіць лесам воўк, — але
Думаць думкі ў лесе лепш.

Ноччу холад стукне, ляпне.
Пні ў снягу стаяць, бы ў вапне.
Ў лесе трэск, як трэск сарок.
Сцежка — неба — снег і крок.

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

Не ўставала сонца — квола
Не рассыпала шчэ косак, —
Выйшаў Шэля ледзьве золак
Да суседніх вёсак.

Сеў у полі перабуцца,
Рушыў далей па аблоне,
Аж Хрыстос яму насустрач
На смажоўскіх гонях.

Як пазнаў, здзівіўся Шэля,
Схінуўся да паса:
— І куды ж пан Бог нацэліў,
Што меў тут папасак?

То не слова усё мёдам,
Як капэлы флейта,
То, схіліўшыся лагодна,
Кажа Езус гэтак:

— Не змарудзела дарога,
Хоць іду я зблізка.

Ці не чуў ты тут, нябога,
Вёска дзе Сядліска?

Там, дзе мост мінаў праз рэчку,
З крыгаю пад мостам,
Мужыкі паноў калечаць,
Б'юць і рэжуць проста.

Ўжо мне ў ножках тнуць, бы восы,
Болькі ран, цвікі дзе, —
А крыві там аж задосыць,
Як яе абыдзеш!

Нам дарогі Бог прызначыў,
Не йдзем імі часта, —
Адкажы ты мне, бядача,
Ці паспею ў час там?

То не топаль ў неба стрэліў,
То не гук савіны,
То Хрысту гаворыць Шэля
Горда і з прыцінам:

— Добра, мусіць, хто скрывіў дзе,
Паслы шляхты знаюць,
Калі слух аб іхняй крыўдзе
Ўжо на небе маеш!

А й вялікі з таго вецер
Дзьме, ўздымае гоман,
Што аж сам Хрыстос па свеце
Ім бяжыць на помач.

А не бегаў, калі нашых
Кроў лілася кварта!
Мусіць, гарца панскай кашы
Наша кроў не варта.

Больш сутану падымі ты
І ступай няхутка,
Бо крывёю нашай зліта
Кожная тут грудка.

Не цаніў крыві сялянскай
На шчарбаты шэлег!
Чаму ж зараз крыўды панства
Гэтак забалелі?

Тое станецца, што стане.
Раз хоць дзень наш вытык,
Але лепей сёння, пане,
Не хадзі туды ты.

І нашто з мужычым горам
Твар сустрэцца з тварам?
Сёння там з крыві той мара
Хмельна піва варыць.

Нам свайго не рай ты раю —
З нашых слёз ён злеплен!
Хай табе іх пазбіраюць,
Каб убраўся лепей!

Схавай рук сваіх далоні, —
Іх не спляміў працай.
Гэткіх хлопцы вяжуць сёння
Толькі дзе пабачаць.

Хутка з жальбай тут на «хама»
Злезуцца, як вусень.
Ты ідзі, прыладзь мне браму,
Ў рай прымі у скрусе.

Прыгатуй ім там пачостку
І спаткай, як трэба.
Завярнуўся Шэля ў вёску,
А Хрыстос — на неба.

*

Там на раздарожжы,
Каля валатовак,
Дамаўляліся з сабою
Хлопцы з Гажаёвы.

Быў пастух там Янка —
Ўзімку бегаў боса,

Ён сякерку меў за дзяжкай,
Падпіраўся коскай.

Як зірнулі хаты,
Што яны там недзе,
Падаткнулі лахі-сцены,
Бегучы па снезе.

Разагнаў вятрак іх,
Бег ён праз аблогі,
Ў нестрыманы рушыў танец,
Пырснуў дым з падлогі.

*

Танцы йшлі чатыры дні,
Ані больш, ні менш ані.
Танцавалі пяту ноч —
Рынуў двор, бы вецер знёс.

Танцавалі тах-тах-тах
Па дарогах, па палях,
Танцавалі, дзе хто мог,
Рыпаў, сыпаў снег з-пад ног.

*

Сыпаў снег.
Браў мароз.
Збеглы збег,
Ў сцюжу ўрос.
З вуснаў кроў —
Жах, праклён.
З-над палёў
Мжа, сутон.

*

Танцавалі — ў грыву, ў хвост! —
Хто па лёдзе, хто праз мост.
Ад Сядліска да Смажовы
Йшоў у скокі сук яловы.

Танцавалі з хамам пан
Скокам-бокам без заган,

Танцавалі войт, аконам,
Не марудзілі прад сконам.

Танцавалі зуб аб зуб —
Праз акно палаца труп.
Танцавалі ў лад, без ладу,
Штораз нехта ў танцы падаў.

Танцавалі раз у раз.
З вёскі косы, панскі пас.
Ў агародах плытка-мелка
Кроў цякла ў рышток гарэлкай,

Танцавалі з панам пень.
Ноч была, як белы дзень.

*

Дзе канец быў скокам, —
Двор ляжаў упокат.
Паноў бралі ранкам,
Клалі перад ганкам.

А пад вечар сонны
Ехаў месяц конна, —
Ў срэбных ботах ногі,
Сівы пад ім вогір[5].

Дзе быў двор-выгоддзе,
Папушчаў паводдзе.
Дзе кроў бегла спадам,
Прыдзіўляўся ладам.

*

Ой ты, воля раскілзаная, гарачая,
воля вольная,
воля польная!
Пакацілася ты, воля, ды па полі тым,
снегавой прасторай, ночкай чорнаю,
куляй снежнаю — нязморная.
Ты расла, дужэла на выбоінах,
ў ціхім полі ды нястрымана,
шэрым зайцам па азімінах.

Закруцілася ты птахам-бухалам,
ветрам спушчана ў пераменнасці
на шпагаціне штодзеннасці.
Разлілася ты разводдзейкам-паводкаю,
навакол сівой адлегаю
аж на край нябёс з кунегаю.
Рушыш вышай гурбаў, завеяй навіненых,
полем тым, завузкім, захмурым,
танцам-ламаннем — віхурай-лавінаю!
Ох ты, воля!
Карэньчыкам ніклым, што холад задушыць,
З хмызу узняў цябе страх.
А нас голад твой цяжка ўспушыў,
Выбрыняў, выспеў і — трах!

*

Па зялёным адхонку
Агонь скача у маёнтку.
Сыпле іскры абцасам,
«Гоп!» — пакрыквае часам.

Ступіць ледзь па пахоце,
Дык і покатам коце,
Так і косіць ён з раду
І падспеўвае к ладу.

— Ой, смажоўскія людзі
Ля агню не марудзяць, —
Каб хутчэй усё згасла,
Дык затушваюць маслам.

— Ну, а хлопцы з Сядліска
Мяне рвуцца запырскаць, —
Аж з чацвёртага броду
Возяць кошыкам воду.

*

Досць нам дадзелі
межы й капцы —
Знішчым іх чыста,
гэй жа, людцы!

У полі даволі
дарма гнуць карак,
Кінем, адрынем
страх прад жандарам!

Галаву вышай,
вылезь з нары!
Гады звяліся,
чорт іх бяры!

У працу з палацу —
вецер аж рэхча! —
Пана у шоркі[6],
войта прыпрэгчы!

Ўвішна з зацішкаў, —
ну ж, ты там гэй!
Панства, манаткі
вывозь весялей!

Злота, набыткі —
ў вёсцы пакласці!
Ў рукі матыкі,
свет цэлы насцеж!
Разам у рэй!

*

Ці ж то там з усходу змрок нахмурыў?
Ці курыным пер'ем сыпле з хмар?
Шлях заслалі чорныя мундзіры,
Конскі тупат, грукат, вар.

То не змрок вылазіць з верасоў там,
Не сабачы ў неба чуцен брэх.
Гэта крочыць войска ў пыле жоўтым —
Ў госці да сялянскіх стрэх.

Не казаў шлях, скуль ён стрэў іх.
Пнямі вербаў бег у свет, угрунь.
Пастаўлялі ў вёсцы ў козлы стрэльбы —
Новы рад шчыкецін каля пунь.

Паляцела вестка вокамгненна,
Б'ецца лапай да сялянскіх брам:
Цар прыслаў загад свой з Вены,
Каб дзяліць зямлю! Зямелька — нам!

Ўстаў адзін тут, пёрка — дуба,
У руках паперка: што і як.
Затрашчаў трашчоткай бубен,
Сыпле з бубна ціша-мак.

«Мы, кароль, манарха з боскай ласкі
Немцаў, венграў, чэхаў, палякоў,
Кажам мы сялянам кінуць фрашкі[7],
Ў двор ісці на працу зноў.

Хто ж не будзе слухацца загаду,
Хто падпаліць двор, залье крывёй,
Дасць капрал такому майстру раду,
У салдаты пойдзе той».

Доўга шчэ бубніў, гудзеў, як дуднік,
Доўга вецер зносіў словы гэт.
А ўжо вёскай ціша йшла, як з студні,
Алавянай хмарай крыла свет.

*

Калі выйшла з вёскі войска —
Ёмкія хлапчыны —
Невядома дзе знік Шэля,
Два дні ў прочках гінуў.

Толькі ў ноч, апоўнач, цемень —
Шчэ й не ўсходзіў месяц! —
Гаварыў да дрэваў штосьці
Ў Камянецкім лесе.

Як на трэці дзень вярнуўся,
Меў старэчы выраз,
Але быў зацяты моцна
І бы думна вырас.

Там, на ростані, ля крыжа,
Дзе, як мак, галоваў,
Шапкай круг абмёў з паўнеба,
Мовіў гэткім словам:

— Ой, дарма, вятрак, махаеш
Нам рукою крылаў!
Мусіць, доля селяніна
Быць пад панскай сілай.

Мусіць, Бог не Бог яму ўжо,
І той цар — не царам.
Не абцерці хусткай неба
Нашых слёзаў-хмараў.

Царскім словам мужык верыў,
Ўрос ў іх смуткаў ношай:
«Узяў ён, цар, прадаў нас панству
Ды за трыццаць грошай.

Зараз разам з шляхтай п'е ён
На зялёных Баграх,
Хай той грэх памсціцца смерцю
На яго лахудрах!

За свае правы мы ўсталі —
З сваім кожны стануў.
Сам той цар нас падбухторваў,
Як завёўся з панам.

Потым пяць дзён ён гадзіўся,
Лад зрабіў з панамі:
На мужычай скуры згоду
Спісваць бізунамі,

Зараз граюць, запіваюць
Новых здзекаў завязь.
Дарма верыць, што там нехта
Нашай крыўды ўбавіць!»

*

«Годзе з панскай ласкі зла!
Не павернем ні сцябла!
Ўсё лепш дымам пойдзе ўкруг.
Наша паша, наш і луг!

Згандляваў з панамі цар:
Панскі ёрмы, хамскі карк.
Згандляваў — ўладай і пей!
Купля лёгка — ўзяць цяжэй!»

*

Хам быў хам. Гнуў ён карк.
Сёння сам — цэпам шарх!
Бунт дык бунт! Хочаш? — на ж!
Возьмем грунт. Грунт той — наш!

*

Не адцвілі кветкі
На лагу-абшары,
Як прыехалі па Шэлю
Царскія жандары.

Уцякала ночка
Ды зялёным лугам,
Як скавалі яго ручкі
Ланцугамі туга.

Як вялі Якуба
Вёскаю бядачай,
Як адзін людцы ўсе выйшлі,
Праваджалі з плачам.

Як вялі Якуба
Пад каштанам белым,
З неба сыпаліся зоркі,
Падалі знямела.

Як вялі нябогу
Тою кладкай гнуткай,

Выйшлі рыбы па-над бераг
Лавіць людзі вудкай.

У рацэ вялікі
Узнялі там вэрлах,
Калі следам, як сабакаў,
Моц іх страшна перла.

Як вялі балотам,
Тым, што смерцю дарыць,
Ваўкі выйшлі, з'елі ў лесе
Аднаго жандара.

А як з ім мікалі
Ялавец сухі той,
Падганялі ўсе жандары,
Пхалі — ну, ідзі ты!

«Ялавец, ялоўча,
Зелена ўбраны.
Папільнуй мне лес ты гэты,
Даглядзі старанна!»

Ой, пільнуй яго ты,
Нібы хмель той явар.
Будзе трэба шчэ сукоў тых,
Як даспее справа.

Гэй, дадому, хлопцы!
Годзе ўжо маркоты!
Прыйдзе лета, толькі верце,
Будзе зноў работы.

Выйдуць дзеўкі ў поле,
Пустазелле вырвуць.
На крыві той ўзыдзе збожжа,
Будзе колас чырван.

На чужым рабілі,
Мелі хлеб з мякінай.

Прыйдзем збожжа жаць на ўласным,
Кожны сноп — асьміна.

Панства, паняняты,
Дарма сны пра згоду!
Перш агонь улетку прыйдзе
Піць са студні воду.

Каб нат шлях, дзе дом мой
Стаў палеткам ворным,
Узрасце на вас там помста,
Нібы колас чорны.

Каб не мог нат колас
Там зярнят даспеліць,
Не забудзе вёска-ўдоўка,
Што жыў стэльмах Шэля.

Шанцавала рунь нам,
Быў напужан лёс тым,
Выйшаў ў поле за абору,
Лінуў шчырым постам.

Мясаед наш скончан.
Шчыльней шчэмім вусны!
Звіснуць хаму на вяроўцы
Селядцом запусным.

## 1. БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ГРАМАДЗЕ[1]

*[20 траўня 1917 г. ]*

Залажыўшыся ў горадзе Багародзіцку, «Беларускі Нацыянальны Гурт», хаця і не вельмі вялікі членамі, але поўны веры і сілы, шле ў пользу выдання газеты «Грамада» ўсе, якія пакуль мае, грошы.

Таварыш Старшыні *У. Жылко.*

## 2. РАДЗЕ НАРОДНАЙ АДУКАЦЫІ

*7 сакавіка 1919 г.*

В Совет Народного образования
Владимира Адамовича
Жилко

Заявление.

Прошу Совет Народного образования зачислить меня преподавателем в одну из городских Советских трудовых школ I ступени[1].

В 1916 году я окончил Слонимское Высшее Начальное училище, а в настоящее время состою учеником III кл. Ковенского 4-х кл. ср. сельхоз. училища, о чём свидетельствует копия с отпускного билета за № 1304.

Владею, кроме родного белорусского, русским языком, умею рисовать, прошел курс садоводства, огородничества, сельского хозяйства, животноводства, почвоведения.

Могу преподавать в школе первой ступени по новой программе трудовых школ, кроме русского и белорусского языка и математики, еще и физику на приборах и основы прикладной химии.

*Влад. Жилко.*

## 3. ЛІДЗІІ СІЛАЕВАЙ

*[1922]*

Прежде всего нужно ли писать после 3,5 лет, которые нас разлучают? Для меня это не ясно. Не знаю: позже или раньше, даже если и это письмо не отправлено[1], я должен буду написать тебе.

Рок посылает много испытаний человеку. Но поэт знает одно наитруднейшее — испытание временем: «Кто устоит перед разлукой?» Литература знает Данте[2], прошедшего ад, и встреча с Беатриче была ему должной наградой. Бедный Чацкий[3] жестоко ошибся. И еще те, кто после Октября выдерживал испытание голодом, разрухой, эпидемией в грозе и буре революции, не устояли перед временем. Отсюда нэп. Мы были дружны, духовно так близки, как, может быть, ни с кем и никогда не будем. Но и мы испытали себя временем, и, может быть, смысл нашей разлуки был в том, чтобы еще раз бросить вызов «испепеляющим годам». Глубоко неправ Некрасов, когда говорит, что «*и друга лучший друг забудет*»[4]. Наш поединок не кончился: я вновь бросаю перчатку. Поднимешь ли ты? Но не *это* важно, а то, что до конца мы будем честными. Изменился ритм моего желания, и жажда новых ощущений волнует тебя и меня, и даже возможно, что ты жена или мать, но знаю не как оскорбление для себя, а как желание с моей стороны быть *честным* и... может быть... выяснить нечто для меня не совсем ясное. Хочется думать, что ты поймешь меня. Ведь ты оставалась такой же вдумчивой и чуткой и переживания «страшных» лет не изменили этого в тебе.

Помнишь у Тютчева «*и роковое сочетанье, и поединок роковой*»[5].

## 4. ЛІДЗІІ СІЛАЕВАЙ

*[1922-1923]*

Добрый друг!

Я перед тобой несказанно виноват. Молчание мое (сознаюсь, грешный) не может быть ничем оправдано, кроме лени и унаследованной от неграмотных предков нелюбви к писанию. Но, верь, лучше поздно, чем никогда!

Благодарю за память и те коротенькие весточки, что присылаешь мне. Они, как голоса из запредельных далеких стран, звучат очаровательно и волнующе. В них опять чудится искрометный костер живого, взыскующего духа и те невиданные пути, что ведут в глубине к ясности понимания «за черту человеческой речи». Но пойми, как тяжело казаться живым, выдавать себя за такового, когда внутри тьма и пустота, когда знаешь, что твои глаза — кажущаяся видимость, заслоняющая доподлинную реальность — черные провалы орбит.

Бытие осознается как величайшая скука. До омерзения скука! Есть сознание гибели, но оно воспринимается не трагически, а скорей по-животному тупо. Преобладающее настроение — Ночи и Смерти. И хочу философически подвохами оправдать и оценить их. Отсюда темы писанины (пишу редко и случайно) — a la «Les fleurs du mal»[1] Бодлера. Когда нахлынет всякая чертовщина, хочется забиться в угол и упорно молчать. Вот, может быть, истинная причина, про нее писал тебе. Но откуда сие? — спросишь. Что я знаю? А возможно, эмигрантчина не вмочь, что здоровье скверное, а возможно... все возможно! По родине тоскую до боли. Так хотелось бы быть дома, между своим народом, дышать своими просторами, своим небом любоваться.

## 5. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*26 лістапада 1922 г., Даўгаўпілс*

Паважаны дзядзька Антон!

Акт адкрыцця гімназіі будзе толькі 3 (трэцяга дзекабра) замест 25 лістапада[1]. Усё ж Вы дайце пару тэлеграмак — нам не пашкодзяць яны. Сёння Ів[ан] Іг[натавіч][2] паслаў Вам тэлеграмку. Каб Вы яе выканалі, было б страшэнна важна. Гэтага Вы і ўявіць сабе ў Вільні не можаце. У апошнім выпадку, каб хоць

Тарас[3] за Вас зрабіў нашу просьбу, яму мо больш часу і магчымасцей як дэлегату ў Варшаву. Якія ў нас навасці? — Беларуская справа на цвёрдым грунце. Вядзецца вялікае змаганне, асабліва з маскалямі. Урадавыя сферы на нашай старане. Між імі маем шмат сапраўдных сяброў беларускае справы, якія ўсім ад іх залежным гатовы дапамагчы нам. Некаторыя з сяброў будуць на акце. Гульнем за слаўную Латвію і лепшую нашу будучыню, аж небу стане горача! Шкада, што Ів[ану] Іг[натавічу] не саўсім здаровіцца, але Бог — бацька. Як Ваша здароўе? Мы тут за яго крыху баімося. У Вашы гады сэрцу не варта было б так дурэць. Бывайце!

Жадаю найбольш здароўя. З пашанай

*Уладзімер Жылка.*

## 6. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*7 красавіка 1923 г., Юзафоў*

Хрыстос Ускрос!

Шчыра вітаю Вас з Вялікаднем і шлю найлепшыя пажаданні. Выбачайце, што зараз жа, як прыехаў, не сабраўся падзякаваць Вас за зробленыя Вамі захады і турботу ў звязку з маёй падарожай. Сардэчна дзякую хоць цяпер і хацеў бы апраўдаць добрыя Вашы да мяне адносіны.

Мая падарожа скончылася, як ведаеце, не зусім добра — асталіся дзве кабеціны і хлапец, аб іх лёсе ведаю вельмі мала, бо весткі з Бацькаўшчыны находзяць даволі скупа. Мая віна ў тым толькі (так думаю), што я, як больш вытрыманы, не здолеў пэрэагаваць адпаведна, каб яны вычакалі буры. Усё гэта страшэнна непрыемна і балюча. Хоць бы ўсё кончылася добра!

Пражскія ўражанні не вельмі і прымушаюць падумаць. Сумна, што наша моладзь таксама папсавана вайной, рэвалюцыяй і іншым такім. Сапраўды творчых асобаў вельмі мала, якія могуць упісаць свае імёны хоць нязначнымі, маленькімі, але светлымі літарамі ў вялікую кнігу Адраджэння. Больш анархічнага элементу найгоршага гатунку, яскравы прыклад якіх Ян. Станкеўчык[1] і Мамонька[2], людзі розных станаў грамадскіх і пераконанняў, але псіхічна родныя. Таму замест працы — «шумім, братцы»! Сумна!

Я стаю ўстаронцы і прыглядаюся. Жыву ў Юзафове (вёрст 100 ад Прагі) і хаджу на матуральныя ўкраінскія курсы. Адносіны ўкраінцаў да беларусаў (нас тут 10 чалавек) вельмі прыхільныя.

27 сакавіка ўрачыста адсвяткавалі абвяшчэнне Незалежнасці[3]. Падштурхнуў я хлапцоў і — хто да чаго: той Пагоню нарысаваў, той верш падвучыў, я і яшчэ адзін хлапец падрыхтавалі рэфераты. Здолелі зрабіць такую атмасферу на святкаванні, а сабралася больш 200 чалавек, што ўкраінцы кажуць, што [*неразб.*] пад'ём агульны быў большы, чым на шаўчэнкаўскім свяце. Мой рэферат на тэму «Беларускія пісьменнікі як прарокі нацыянальнага адраджэння» здзівіў украінскі агул, бо як яны шчыра прызналіся, што яны нічога не ведалі аб беларускім пісьменстве. Ну, а я «тавар ліцом» паказаў. Пасылаю Вам фатаграфію, знялі нас зараз жа па маім рэфераце. На заканчэнне ўзяў слова прадстаўнік урада Петрушэвіча[4] і даволі шчыра вітаў. Адным словам, прайшло святкаванне як найлепей.

Мы, тутэйшыя, з пільнасцю сочым за грамадскім жыццём у Польшчы і дзейнасцю нашых п[аноў] паслоў. Прызнацца, уражанні не на іх карысць — можна было б і трохі іншымі быць. Але якія самі — такія і сані!

Аб віленскім жыцці ведаем мала. Як Вы маецеся і ўсе нашы беларусы? Пры нагодзе чырканеце, будзем рады Вашай вестцы.

Бывайце здаровы.

З пашанай *Уладзімер.*

Адрас: Czechosłowacja, Jozefov n/met., Hotel «Kroch», pro Vl.Žiłka.

## 7. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*23 траўня 1923 г., Юзафоў*

Даражэнькі дзядзька Антон!

Атрымаў учора ад Краскоўскіх[1] ліста, у якім, між іншым, паведамляюць, што Вы збіраецеся пакінуць Вільню. Гэтая вестка мяне дый усіх тутэйшых страшэнна ўразіла і навяла смутак. Лічачы справу пераезду не толькі асабістай Вашай справай, але вялікай вагі крокам грамадскага характару, не магу стрымацца і не напісаць Вам, што так рабіць няможна. Ніяк не выяўляю Вільні і беларус[кага] руху ў Зах[одняй] Бел[арусі] без Вашага ўдзелу. Безумоўна абмылковым было б лічыць, што якая-небудзь справа грамадская супакоіцца на адной адзінцы, а не ёсць вынікам высілку пэўнага калектыву. Але ўсё ж, як у цягніку, каб

ён разумна рухаўся, патрэбны машыністы, так і тут мусіць быць нехта падобны. І як кваліфікаванага старога, пэўнага сваіх сіл машыніста, няможна замяніць кожным прафанам, так і ў грамадскім, нацыянальным жыцці сапраўднага правадыра не заменіш падстаўной асобай. Гэтага Вам няможна выпускаць з відавоку. У Вільні Вы ёсць асяродак, каля якога канцэнтруецца і рухаецца наша Адраджэнне. Вы галоўны мозак справы, і таму мы, меншыя работнікі (нервы народныя), спяшаліся так забегчы на Віленс[кую]— 33 паінфармавацца², параіцца, пажаліцца... усякае здараецца! Не, як хочаце, а Вы патрэбны Вільні. Потым і асабістыя матывы гавораць на карысць Вільні. Тут ёсць вялікая, добрая работа на грам[адскім] полі, культурнае жыццё, шмат мілых, дарагіх рэчаў, мест, з якімі зрадніліся. Кожны дзень паасобаму, як ад наркозу, прытупліваюцца нервы, прыемнае (бо старое) адчуванне зморы, свежыя газеты, навіны, новыя крыўды і радасці, страты і перамогі і шмат драбніц спецыфічна віленскіх. І выкінуць самога сябе з усяго, прамяняць на лёс настаўніка ў паганай, дрэнненькай правінцыі? Няўжо Ів[ан] Ігн[атавіч] не піша Вам, што задыхаецца, гіне ад затхласці і мізэрнасці? Прызнаюся, я ўцёк з Д[звінска], і пераражытыя там часы найцяжэйшыя і самыя смутныя ў маім духовым жыцці, хоць матэрыяльна быў спакайнейшы. А як Вы кінеце музей?³

Ведаю, што матэрыяльнае жыццё Ваша далёка не зайздроснае. Дагадваюся, што магчымы непрыемнасці і непаразуменні, аб якіх мы тут не знаем. Але веру, што свядомасць адпаведнасці, каханне да справы дасць Вам моцы і духовую бадзёрасць. Бел[арускае] Адрадж[энне] перажывае крызіс, дзе ходзіць аб тое, ці быць нам нацыяй дужай і зкансалідаванай, ці бясслаўна загінуць. У гэты час асабліва важна, каб у першых радах былі здольныя, загартаваныя змагары!

Пішу ўсё гэта далёкі ад жадання сказаць камплімент, але маю на ўвазе Бацькаўшчыну і нашу Справу. Так і прыміце гэтыя радкі.

Наша тут жыццё цячэ ціха і згодна. Шмат працуем. Крыху прыхворваю, але не трачу духу. Вы не забывайце нас і, улучыўшы вольную часіну, чырканіце калі-нікалі. Для нас так важна мець духовыя звязкі з Бацькаўшчынай.

Бывайце здаровы і дужыя.

З сардэчным прывітаннем,

*Уладзімер.*

## 8. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*1 жніўня 1923 г.*

Даражэнькі дзядзька Антон!

Значыць, справа са стыпендыямі стаіць так. Ужо маем тры ў Укр[аінскім] Пед[агагічным] Інстытуце імя Драгаманава[1]. Потым у чэскіх высшых школах можна ўстроіць чалавек 20. Мы, тутэйшыя «левыя», пастанавілі звярнуцца да Вас і Родзевіча і даручыць Вам і яму справу ўпарадкавання гэтых вакантных стыпендый. Хацелася б, каб Вы прынялі гэтую справу як найбліжэй да сэрца. Тры хлопцы да інстытуту могуць ужо ехаць, а рэшта ў канцы жніўня. Хай прабіраюцца хто як. Добра было б, каб, з'явіўшыся сюды, былі найменш хоць шчырымі, чэснымі хлапцамі і добрымі беларусамі. А то тут [с]толькі сволачы, смецця, якое нічым не цікавіцца — ні навукай, ні Бацькаўшчынай, не мае нічога святога за душой. Здае партый столькі, колькі трэба, каб не пазбавілі стыпендыі, беларускасцю цікавіцца ў меру сваіх асабістых выгадаў. Вы ведаеце маю лаяльнасць у партыйных адносінах, але я ніколі не згаджуся з подласцю і брудам. А калі гэты бруд бачыш на сваім беларускім целе, то асабліва балюча. З прэтэнзій, падобных маім, цяпер смяюцца, але Вы гадаваліся ў іншых варунках, калі больш было ахвярнасці, ідэйнасці і бескарыснасці, і захавалі старыя традыцыі, таму знаю, што Вы мяне зразумееце і нойдзеце слушнасць. А таксама не хаваю ад Вас, што асабліва быў бы рады бачыць між хлапцамі такіх, якія калісьці павялічылі б табар змагароў за мужычую справу, ■ не былі б правадырамі дэвотак і вернымі сынамі царквы ці касцёла. Мне здаецца, што мы мусім згадзіцца, што мы сялянскі народ, і таму адвесці ў нашай ідэалогіі паважнае месца кажуху і лапцям. Тады можна больш адчуць свае сілы і на іх арыентавацца, а не так, як робіць «Наш Сц[яг]»[2]. Між іншым, яго нахіл да камунізму мне не падабаецца. Камуністы ў грунце варожы беларускай сялянскай стыхіі і нашай нацыянальнай ідэі. Усе, што робіцца ў Менску (а не столькі той работы, як галасу), ёсць не ласка, а ўступка з бою. Жаданне беларускіх камуністаў манапалізаваць беларускі рух — тактычны крок і досыць бязглузды, хоць [*неразб.*] Маскве трэба. Але падтрымаць гэта на Зах[одняй] Беларусі, займацца самаашуканствам і выгадоўваць масы на гэтым, выклікаць у іх давер'е да Менска — Масквы трохі нязручна і нават боязна. Тактыка Заход[няй] Беларусі, на маю дурную думку, — гуртаванне сілаў, выгадаванне ў масах самадзейнасці і свядомасці. Невядома яшчэ, хто здзейсніць ідэю незалежнасці — Менск ці Вільня? І так раптам распісацца ў сваёй слабасці, спя-

10 Зак. 2780

шацца зарэгістравацца ў маскоўскай канторы пад шыльдай СССР — саўсім няўчасна!

Папярэдняй развагай я не хочу выказваць сваё падазрэнне адносна Вас. Вы надалей ад усяго гэтага. Але добра было б, каб пад Вашым уплывам хто-небудзь абдумаўся.

Ёсць магчымасць пры дапамозе праскага расейскага выдавецтва «Пламя» выдаць зборнік маіх вершаў і некалькі яшчэ кніжак. Праўдзівей, яно, выдавецтва, можа выдаць. Як Вы аб гэтым думалі б? Я да восенні думаю падгатаваць да друку зборнічак «На раздарожы» — 25— 30 выбраных з ужо друкаваных вершаў — і пусціць у свет. Што скажаце на гэта — ці не рана яшчэ? Мо больш трэба было б самавызначыцца, набыць індывідуальнасць, а ўжо потым «у людзі». Шмат яшчэ хацеў бы пагаманіць, але часу няма. Вучуся, як дурны.

Бывайце здаровы і не забывайце.

З гарачым прывітаннем,

Ваш *Уладзімер.*

P. S. У справе стыпендый пісаў ужо Тамаш Родз[евічу]. Стыпендыі даюцца нібыта для эміграцыі, таму [*неразб.*] маючым польскую візу цяжэй устроіцца, як без яе.

## 9. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*[Канец красавіка 1924 г.]*

Даражэнькі Антон Іванавіч!

Даўно Вам не пісаў, хоць колькі разоў браўся за асадку, але так здарылася, што не мог скончыць ліста. Прычынай мая немач. Акрамя ўсяго іншага, вядомага Вам, стала блага з жыватом. Нарэшце перад Вялікаднем меў аслажненне ў кішках, якое ледзь не звяло ў іншыя краі. Ды, як бачыце, я яшчэ ўліпеў і цяпер прыходжу да сябе і, калі хочаце ведаць, пачынаю думаць, што ўсё к лепшаму — боль і пакута лечаць і таксама вучаць. Ніколі ў мяне не былі такія мужныя і цвярозыя настроі, як цяпер. Абавязаны імі толькі хваробе. І цяперашнія матывы вершаў зусім іншыя. Але менш з гэтым... Чаплю тое, што Вас найболей, мусіць, цікавіць: пра наш быт. Калі той год у студэнцкім жыцці адзначаны сваркамі і калатнечай, то гэты год быў куды спакайнейшым і з нахілам да акадэмізму — хлопцы заселі за навуку і свабодны ад яе час аддавалі не спрэчкам, а сапраўднай працы ці паміж сваіх, ці на шыршай арэне. Так апошні час стварылася «Аб'яднанне студэнцтва паняволеных народаў Усхода

Еўропы». Мы, беларусы, прымаем у ім самы чынны ўдзел. Дзякуючы вялікім сімпатыям да гэтай арганізацыі чэхаў і прыхільнасці «инородческой» эміграцыі, ёсць надзея паставіць справу вельмі шырока. Цікава тое, што маскалі перад тым хацелі стварыць арганізацыі великороссов, малароссов і белароссов, але ім міністэрства вярнула іх статут не зацвердзіўшы. Мы ж, «народнасці» б. Расеі, зарэгістравалі свой у некалькі дзён. Вы, мусіць, ужо атрымалі другі нумар «Перавясла»?[1] Хацелася б чуць Ваш глыбока каштоўны для нас пагляд і Вашы ўвагі аб ім. Летам спадзяюся сабрацца з сіламі (галоўнае грошы!) і выпусціць трэці нумар і тым закончыць свой акадэмічны год.

Між іншым, ведаеце, хто самыя не папулярныя між студэнцтва? Безумоўна — не! Але калі скажаце Станкеўчык і Грыб, то Вы не памыліцеся. Сваёй дэмагогіяй, грубасцю, нетактычнасцю, а галоўнае *пустагаловасцю* (факт!) яны выклікалі проціў сябе страшэннае незадавальненне ўсіх, і правых і левых і сваіх прыхільнікаў і непрыхільнікаў, і пашаны да іх ні на грош. Ёсць нахіл судзіць аб пражскім студэнцтве па гэтых панах. Але гэта найгоршая памылка. Уплывы іх на студэнцкае жыццё зводзяцца да зэро. І, судзячы па іх, можна дайсці да вельмі сумных і невясёлых вынікаў, прызнаць, што студэнты нашы ні да чорта не варты. Аднак я — аптыміста і знаю, што Прага дасць колькі дзесяткаў добрых і сумленных беларускіх працаўнікоў, незалежна ад іх поглядаў: будуць і правыя і левыя. Ужо цяпер хлопцы шмат выраслі, выраўняліся. Радуе розум, талковасць, умеласць, з якой падходзяць да працы. Вось колькі іменаў: Грышкевіч[2], Каберац[3], Дыліс[4], Клімовіч[5], Лаўскі[6], Буська[7], Гарошка[8]". І гэта далёка не ўсе. Але тут і добры каталік Клімовіч і атэіст-сацыяліст Грышкевіч.

Маю да Вас невялічкую просьбу. Хочу даць у адзін з чародных нумароў «Перавясла» заметку аб Віленскай Публічнай бібліятэцы, аб яе кніжных скарбах і іх значэнні для края. На жаль, я слаба ведаю аб лёсе Бібліятэкі ў часе вайны, эвакуацыі і рэвалюцыі. Вельмі быў бы Вам удзячны, каб паказалі мне крыніцы, дзе аб гэтым можна даведацца. Ці няма якога апісання і каталог кніжак Бібліятэкі Ст. Баторага[9], што мог выйсці за апошнія гады? Асабліва рукапісаў? Маскалі ў гэтым напрамку пакінулі па сабе шмат сумленных працаў. Не без вартасці і да нашых часоў Добрянскага «Описание рукописей Вил. Публ. Библиотеки, церк.-слав, и руских». Рэч старая, бо памечана 1882 г. У Празе, у Бібліятэцы Нац[ыянальнага] Музея маецца.

Далей яшчэ адна справа, дзе не магу абысціся без Вашай дапамогі. Бадай год будзе, як скалаціў зборку вершаў і вось цікую выдаўца. У яе вайшло паўсотні вершаў, прыблізна на

4,5 друкарскіх аркушаў. Полова з іх раскідана па розных выданнях, пачынаючы з 20 года, а рэшта не трапіла ў друк. Думалася б, што асобная кніжыца была б не зусім нецікавай і бязвартай. Ці не запрапанавалі б Вы, даражэнькі Антон Іванавіч, Клецкіну[10] ўзяцца за гэту справу. Быў бы для мяне вялікі гонар, каб выданнем занялося «Бел[арускае] Выд[авецкае] Т[аварыст]ва»[11], але па важным прычынам не магу спадзявацца на такую чэсць, а галоўнае, што Вы маеце друкаваць шмат чаго больш неабходнага, канечнага. Што да вершаў зборніка, то яшчэ скажу, што хоць яны ў большасці вучнёўскія практыкаванні, але ў іх ёсць і цікавыя дасяганні, новыя ў беларускай вершатворчасці. Найбольш гэта тычыць ямбаў... Але сама сябе раба хваліць. Акрамя гэтага, маю да друку пераклад з Франка (з украінскага) паэмы «Майсей»[12]. Сама рэч высокавартая і для адраджэнцаў жыватрапечучая. І магчыма, што гэта самае каштоўнае з усяго таго, што з'явілася ў вершы пасля Шаўчэнка на Украіне. Вельмі рэкамендавалася б, здаецца мне, даць яе чытаць нашым землякам.

Нарэшце не сказаў самага важнага (важна для мяне): я разышоўся з пачэснай кумпаніяй — Бадунова[13] і К$^0$(К$^0$ — Грыб, Мамонька). Прычынай іх дурасць і подласць. Подласць у тым, што дзе няма іх, там пагана і яны мусяць паскудзіць. Бліжэй пазнаёміўшыся, бачу, што яны толькі і здольны на паскудствы, і то дробныя. Мізэрныя людзі! Пайшло з-за таго, што іх не запрасілі ў творачуюся перад Калядамі «Белар[ускую] Раду ў Празе»[14]. Пакрыўдзіўшыся, яны выпусцілі знамяніты архітвор «Извещение»[15] — дакумент чалавечай несумленнасці, маны, тупога нізкалоб'я, калі не ідыятызма.

І ведаеце, што ён раней чым дайсці да тых, на каго напраўлены, і да партыйных таварышоў, чамусьці папаў — у Літоўскае міністэрства зам. спраў і Ластоўскаму і нат Чэскае мініст[эрства] замежных спраў. Праз чэхаў стала вядомым і нам, грэшным. Нягледзячы на свае крытычныя адносіны да Ковенскага цэнтра з Цвіком[16] на чале, я не мог не запратэставаць супраць выбрыка паважаных «господ».Самае ганебнае, што грошы ў напісанні «Извещения» адыгралі не апошнюю ролю. К шчасцю, маю пад рукамі копію, якую і перасылаю Вам разам з гэтым лістом. Мяркуйце самі!

Праскае выдавецтва, аб якім, здаецца, з Вамі ўжо перапісваліся нашыя старэйшыя грамадзяне, справа калі не прапашчая, то ў кожным разе трэ яе адлажыць на далейшыя часы. Такое маё ўражанне.

Ды бывайце здаровы і жывы.

Найлепшыя пажаданні і прывітанні.

*Уладзімер Жылка.*

P. S. Чуў ад Макоўскага[17], што і Вы заняпалі грудзьмі. Сумна, так сумна! Будзем уцяшацца, што *«это многих славный путь!»*[18]. Хоць я ніколі не спадзяваўся пачуць, што ў Вас хворыя грудзі. Калі Валент[ына] Сымон[аўна][19] пісала, што Вы выехалі да Закапанага, то я думаў, што лячыць сэрца, і трошка дзівіўся.

Бывайце. *У. Ж.*

P. P. S. Ну ўсяго ў адным лісце і не згадаеш напісаць. «Заходнюю Беларусь»[20] калі атрымаў ад Вас! Дзякую шчыра хоць цяпер, мне яна вельмі і вельмі падабалася. У чародным нумары «Перавясла» насмелюся выказаць свае ўвагі аб ёй у рэцэнзіі. Дзякую і за артыкул і аб «наймалодшых». Ваша прыхільнасць дасць ім смеласці і сілы.

Не забывайцеся на нас.

*Уладзімер.*

## 10. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*[Чэрвень 1924 г.]*

Даражэнькі дзядзька Антон!

Шчыра дзякую за памяць. Прыемна пачуць, што на Бацькаўшчыне не забываюцца нас. Лісты з Бацькаўшчыны, якія яны ні былі б — сумныя ці вясёлыя, прыемныя ці непрыемныя, — уносяць бадзёрасць у шэрыя будні нашага бытавання.

Нам трэба крышку пагаманіць у справе пражскіх стыпендый. Можна спадзявацца, што і на гэты год будзем мець 20 — 30 месцаў у высшых школах — галоўнае ў укр[аінскім] вучыц[ельскім] інстытуце. Як ні кажыце, а пры нашай нядолі і беднасці духовай і матэрыяльнай Прага ёсць важным пунктам, дзе пры добрай волі можна атрымаць скарбы. Але, акрамя добрай волі, жадання, трэба яшчэ нешта іншае — клёку ў галаве. Калі ж глянуць, што за народ ціснецца сюды, то становіцца сумна і боязна за нашу справу — розныя Лейбовічы, Басэвічы, Конюхі, Буракі[1] — убоства, тупалоб'е, мізэрнасць, беспрынцыпнасць, безыдэйнасць, а інады немаральнасць. Памянёныя прозвішчы Вам вядомы, бо яны прыехалі з дапамогай ЦШР[2]. Я вельмі лагодна адношуся да людзей і іх слабасці, але ў наша святое святых — беларускую справу — мы не мусім упускаць еўнухаў і ўсякую сволач... Не варта пісаць аб гэтым шмат — і ў Вас на віленскім грунце таксама буяюць «кветкі» і робяць Вам прыемнасць. Ды хацелася б, каб мы асцерагаліся ўзрошчваць іх. Таму вялікая просьба: прысылайце разумных, думаючых хлопцаў, чэс-

ных і любячых, якія маглі б потым з гонарам заступіць Вас, старшых. Я асабіста быў рады бачыць некаторых Вашых сёлетніх матурыстаў. Як, напрыклад, маюцца Ільяшэвіч[3], Дыліс, Мэнке[4], Вернікоўская[5], Прохараў, Сімановіч[6]. Ім бы Еўропа дала шмат, куды болей, чым муры Баторага[7]. Шкадую вельмі, што ні з кім з іх не перапісваюся — яны сімпатычныя мне.

Перасылаю Вам для альманаха вершык. Гадаю, што ён зусім літаратурны, і прыміце яго як нясмелую спробу (мо й першую ў нас) запыніцца перад праблемамі Вечнасці і Смерці. Хацеў бы прыслаць што-небудзь больш сур'ёзнае, але прыходзіцца шмат займацца, і няма часу, каб удзяліць літаратуры. Пішу мала і прыпадкова, а думаю яшчэ менш — не адпаведныя варункі. Паэзія робіцца праклёнцем у маім жыцці — яна ўладарна выказвае свае правы, тады калі трэба думаць аб кавалку чорствага хлеба, аб рэальных рэчах, тагды яна даймае цябе рытмамі і згукамі, якія далёкі ад «рэальнасці», як габэлена ад бруднай авечкі.

Задаволены я, што Вам падабалася «Уяўленне». Дзякую за ўвагу. Я згодны з Вамі, што беларусам, творачы, трэба палажыць як грунт для свае творчасці народную творчасць, але мы мусім прысвоіць сабе ўсе здабыткі сусветнага пісьменства. Высшае хараство будзе ў умелым згарманізаванні высокай культуры і тэхнікі [верша] разам з народным элементам. На жаль, гэта будзе не скора, бо мы толькі шукаем сябе: наша этнаграфія, адкуль можна было б чарпануць што-небудзь, слабенькая — Раманаў[8] і Шэйн[9] не могуць здаволіць.

Бывайце здаровы. Прывет і лепшыя пажаданні ўсім нашым.

З пашанаю! Ваш *Уладзімер*.

## 11. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*[24 чэрвеня 1924 г.], Нова Вес,*
*санаторый на Плешы*

Даражэнькі дзядзька Антон!

Шчыра, ад усяе душы дзякую за пісьмо і за Вашы сардэчныя адносіны да мяне. Як я рады, што нашыя погляды на важныя мамэнты беларускай справы і на нашу будзёншчыну сходзяцца. Для мяне гэта — залог, што я не памыляюся. А пэўнасць (барані божа — самаўпэўнесці!) у сваіх паложаннях ці не ёсць ужо грунт і сіла?

Пісьмо Ваша не застала ўжо ў Празе: я выехаў на лета да санаторыі, дзе хацелася б крышку падлячыцца, і тут адзяржаў

яго. Не мог зараз жа выслаць зборнік, бо ён быў у Празе. Колькі дзён назад ездзіў здабываць патрэбны для звальнення ад платы minimum і разам захваціць вершы. Перасылаю разам з гэтым лістом іх Вам. Подбор вершаў я стараўся зрабіць строгі і больш-менш аднастайны. Вершы гэтыя напісаны ў 1920— 22 годзе і толькі некаторыя ў 1923. На ўсіх іх ляжыць адпячатка рамантычнасці і нашчупванне пробы шляхоў (таму «На ростані»)[1]. Не магу пахваліцца, што цяпер, у дваццаць чацвёртым годзе, маю шлях, але адно пэўна — рамантычныя кветы губяць для мяне сваю прыгажосць і прывабнасць. Хацеў бы думаць, што рамантызм для мяне з'яўляецца пройдзеным. Песні адраджэння мусяць быць мужныя, каваныя, як сталь, і тэматычна бліжэйшымі да жыцця. Не трэба ні ўздыханняў, ні напеўнасці, ні беларускай слязлівасці. Мы — ваякі і мусім гэта ўцяміць. Мы ведаем, чаго хочам, куды ідзем, чаму хварэем на туберкулёз і чаму здараецца сядзець не толькі на хлебе, але і без хлеба. Так, мы перажываем геройскі перыяд нашага Руху, і паэты мусяць гэта асабліва запамятаці. Не ведаю, як мне ўдасца (што тычыцца маіх сіл, то я — скептык), але прабую, стараюся сказаць тое, што трэба сказаць. Аб «На ростані» баюся напісаць што-небудзь пэўнае. Адно што бясспрэчна — я сумленна і строга аднёсся да слоўніка. Праўда, сустрачаюцца словы з націскамі то на адным, то на другім месцы, але наша мова, як сведчыць Карскі[2], такія рэчы дазваляе:

> Вы, малойцы-малайцы́,
> Накажыце той дзяўцы́.

Ці:

> Сядлаў коніка пры свячы́,
> Ездзіў да дзевачкі у начы́,
> Застаў дзеўку не сплючы́,
> Тонку кашулю шыючы́.

Як бачыце, «*малайцы́*», «*дзяўцы́*», «*шыючы́*» і т. д. Заўважце цікавую і не прыпадковую рэч — «у начы».Тут «у» доўгае, хоць стаіць перад «і»[3]. Думаю, што беларуская мова пры сваёй поўнагалоснасці такія рэчы калі не любіць, то дазваляе. Наадварот жа — збег суталосных у народных песнях спатыкаецца рэдка. Між іншым, «дзярмо» і ёсць «дзярмо». Так я чуў на Навагрудчыне і сустрачаў, калі не мыляюся, у Шэйна, і чаму б так і не пакінуць у зборніку? Мая вялікая просьба — быць да аўтара ласкавым, і калі што і не так, калі што спрэчна, то вырашаць на карысць пісакі. Пасылаю арыгінал зборніка, а не копію, як бы хацелася і мне і Вам. Надрукаваць колькі экземпляраў — няма машынкі, а перапісваць нязмога. Але, ведаючы Вас, можна быць пэўным, што калі і не надрукуецца, то не прападзе.

Крышку аб нашым бытаванні праскім. Час — цяпер гарачы, асабліва ў тэхнікаў — трэба да канца заняткаў здаць патрэбныя залікі. Таму ўсе рупна вучацца. Нядаўна ў Празе адбыўся з'езд славянскіх этнографаў і географаў. Было чалавек сто з іншых славянскіх дзяржаў, а рэшта — 400 — з Чэхаславакіі. Ад сав[ецкай] Расеі быў адзін прадстаўнік — Карскі, высланы Петраград[скай] Акад[эміяй] Навук. Сустрачаўся з нашымі хлопцамі. Па яго ініцыятыве адбыўся сход студэнтаў-белар[усаў], дзе ён інфармаваў аб беларускай справе пад маскалямі і палажэнні ў Саветах. Сход цягнуўся гадзіны чатыры. Карскі дзяржаўся вельмі хараша і крытычна да сав-влады і заставіў добрае ўражанне на прысутных сваёй незалежнасцю і нат (як ні дзіўна)... беларускасцю. Незадаволены з палітыкі Менска, якая нібы вельмі паланафільская. Беларускага на Сав. Беларусі нічога няма. Пятуховіч[4] чытае на універсітэце гісторыю гішпанскай літаратуры.

Галоўная маса слухачоў на універ[сітэце] — жыды, якія не хочуць нічога чуць аб беларускім. Купала не карыстаецца сімпатыямі Карскага, затое Колас у вялікай пашане. На пытанне аб літаратурным жыцці даслоўны адказ Карскага: «— Купала, кажуць, п'ець, а вось Каласок наш расце; цяпер можна смела сказаць, што светавая велічына». Беларусь трэба адваяваць ад палякаў і маскалёў, і на гэта не здольныя тыя, што падрастаюць у Менску, бо яны не маюць змогі за палякамі, жыдамі і маскалямі папасці ў сцены высокіх школ». Заўсёды мусім помніць пра падзел Беларусі. Народ наш ніколі не можа ўжо загінуць. Вось прыблізна аб чым казаў прафесар. Студэнтамі тутэйшымі застаўся задаволены, дзівіўся выказанай на сходзе свядомасці іх. Адыходзячы, казаў: «Пацешылі старога, пацешылі». Хацеў заехаць да Вільні, але не атрымаў візы на ўезд.

Бывайце здаровы. З прывітаннем,

*Уладзімер Жылка.*

P. S. Мне здаецца, што падзел на аддзелы не зусім добры і ўдалы. Магчыма — лепш знішчыць падзел і гэтыя назвы, заставіўшы парадак той самы. Беларускі[5] хутчэй будуць «*сцяпы*», а не «*стэпы*», як сустрачаем у «Матчыным Дары»[6]; апошняе — украінізм ці паланізм.

Наогул напішыце аб усім, што здасца Вам кепскім, хібным. Так буду дзякаваць. Тав. Заяц[7], які лечыцца ў адным санаторыі са мною, пажадаў Вам напісаць пару слоў, што і робіць ніжэй. Бывайце[8].

Ваш *Уладзімір.*

## 12. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ[1]

*19 ліпеня 1924 г., Нова Вес,*
*санаторый на Плешы*

Даражэнькі дзядзька Антон!

24.-VI.-24 г. выслаў Вам заказным вершы і ў той жа дзень ліст звычайны. У лісце была прыпіска тав. Зайца. Паведамце, ці атрымалі. Як справа з выданнем? Няма, кажаце, дурняў? Чакаў абяцанай «Мае ліры» Сваяка[2]. Зрабеце таксама ласку і прышлеце тыя №№ газет віленскіх у парным ліку, дзе былі рэцэнзіі на «Перавясла». Трэба дзеля добрых людзей, якія мо дапамогуць з восені выдавацца часцей і друкам. Тады і пішучую Вільню папрасілі б дамагчы артыкульчыкамі. Ці можна было б спадзявацца на гэта? Я дагэтуль у санаторыі. Тав. Заяц ужо выехаў. 12.-IX. г.г. у Варшаве ўсенародны студэнцкі з'езд пачынаецца[3]. Робім захады, каб трапіць. Ці робяць што-небудзь нашы з Баторага? Ваша думка аб вершах зборніка для мяне, і я быў бы за яе вельмі ўдзячны Вам.

Даруйце, што закідаю Вас просьбамі і рознымі запытаннямі. Рады быў бы прыслужыцца чым-небудзь Вам.

Бывайце здаровы і шчаслівы. З прывітаннем,

Ваш *Уладзімер.*

## 13. ЛІСТ ДА СЯБРОЎ[1]

*15 верасня 1924 г.*

Даражэнькія мае!

У суботу, у 6 гадзін прыехаў у Варшаву. У той жа самы вечар пазнаёміўся з тутэйшай украінскай калоніяй. Іх тут, як яны кажуць, цяпер чалавек 40— 50 — злучаны ў грамаду. Пазнаёмілі мяне з нашым «белороссом» са Стаўбцоў. Учора (нядзеля) меў нараду з студэнтамі-беларусамі і ведаеце дзе — у Варшаўскім беларускім нацыянальным камітэце[2], разумееце? Там жывуць двое студэнтаў. Прыйшло 6 чалавек, я сёмы. Гутарылі бітых 4 гадзіны — сволач. Гэта агульнае ўражанне.

Бачыце: «мы не верым у незалежнасць», «нашто аддзяляцца», «Пушкіна мяняць на Коласа» etc[3]. Песні старыя і дурныя, а паспрабуй дакажы нешта іншае. Мусіць, з імі нічога не выйдзе.

Паслоў нікога няма — усе параз'язджаліся. Думаю рызыкнуць з'ездзіць у Вільню, хоць могуць затрымаць, паколькі пас да Варшавы. Ад вас няма нічога. А, канешне, патрэбна заява аб прыняцці ў СІЕ[4]. Потым як з літаратураю? Мой адрас бу-

дзе: Warszawa, Długa, 29, Hotel Polski. Ukr. Stud. Hromada. Калі што-небудзь паслалі, зараз жа паведаміце адрас. Масюкевіч прыслаў учора з Львова тэлеграму, што сягодня (панядзелак) прыедзе ў Варшаву ў ліку дзесяці чалавек, і спадзяецца, што Лоскі, Арлецкі[5] ўжо тут. Але апошніх дагэтуль няма. Няма і Масюкевіча. Між іншым, уражанне ад укр. студ. грамады: прыдушанасць, нясмеласць, «наша хата з краю».

Праз граніцу праехаў добра. Агляду рэчаў, лічы, і не было. Усё, што ні ўзяў бы, можна было б правезці.

Зараз даведаўся, што ўкраінская дэлегацыя прыязджае заўтра ў 10 гадзін раніцы.

Цікава, што камісар з'езда кажа, што не можа нічым дапамагчы беларусам, бо яны не сябры з'езда.

Сягоння ў дзесяць вечара еду ў Вільню. Даражызна тут страшэнная. За гатэль мусіў заплаціць 7 злотых за ноч, білет каштуе да Варшавы ад граніцы 21 злот. і гэт. далей.

Бывайце,

Ваш *Уладзімер.*

## 14. КАЛЕГУ З ПРАГІ

*[Верасень 1924 г.]*

Аб'яднанне нацый утварыць можна. Прысылайце мандат мне і ўстаў аб'яднання. Ужо бачыўся ў гэтай справе з украінцамі і грузінамі. Талкавалі і прыйшлі да вынікаў, што аб'яднанне трэба.

## 15. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*15 кастрычніка 1924 г., Радоцін*

Даражэнькі Антон Іванавіч!

З вялікім апазненнем перасылаю Вам карэспандэнцыю аб перавыбарах прэзідыума Рады, але, нягледзячы на гэта, ласкава прашу надрукаваць яе ў «Сялянскай Праўдзе»[1]. Не адмоўце таксама надрукаваць у чародных нумарах «С.П.» абвестку Рады ў аддзеле газетных абвестак на чацвёртай бачынцы.

Нядаўна атрымаў «На ростані». Я ніяк не чакаў пабачыць іх (вершы) так хутка ў друку, і кніжкі былі для мяне прыемнай неспадзяванкай. Вельмі Вам абавязаны і ўдзячны. Хочацца адзначыць і гуманныя адносіны да мовы вершаў, хоць «лісты—

бары» зусім не рыфма. Не шмат і дакучных карэктарскіх памылак. Хацеў бы ведаць, колькі выдалі экземпляраў. Не адмоўце здаволіць маю цікавасць.

Аб навінах нічога не пішу. Галоўная навіна ў нашым жыцці [*неразб.*] прыезд пасла Тараса. Ён Вам і раскажа аб нашым тутэйшым бытаванні.

Бывайце жывы і здаровы.

З прывітаннем,

Ваш *Уладзімер*.

## 16. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*[1925], Радоцін*

Даражэнькі дзядзька Антон!

Даўно збіраўся Вам чыркануць, але такія паганыя настроі, і здароўе не служыць, таму і адкладаў з дня на дзень.

З тых надзей, аб якіх казаў Вам пры спатканні, ■ пасля с. Тар-ічу[1], не выйшла нічога. Аб жаданай палітычнай ці культурнай працы ніхто, здаецца, тут узапраўду і не думае, і не верыць у яе. Бюджэт «Рады» не зацверджаны, і дапамог ёй не бачыць жаданых. Сума ў 150 тысяч kč.[2], што была адпушчана на выдавецкую справу на 24 год, з прыходам новага 25-га губіцца. Наогул, уся дапамаговая акцыя чэскага ўрада змяншаецца на добрых 50 працэнтаў. Стаімо напярэдадні вызнання чэхамі Радаў. Акадэмічнай эміграцыі будзе дана магчымасць скончыць свае студыі, а палітычнай папрабуюць як-небудзь пазбавіцца. А калі так, то можна збольшага ўжо рабіць падрахунак нашай беларускай акцыі па-за межамі краю за пэўны час. Вынікі сумныя, асабліва калі параўнаць з дасягненнямі расейцаў, украінцаў (тры высокія школы маюць апошнія тут!) і нават такіх грузін. Першы эміграцкі блін вельмі камаваты. Няма людзей адпаведных, вось тут «закаклюка».Моладзь тутэйшая разумее ўсе гэта і глыбока адчувае. Ёсць добрыя, разумныя, шчырыя хлапцы, з якіх будзем мець вялікую пацеху. Покі што іх адна вялікая вáда: бязвусасць! Але з часам усё даецца! Гэты год болей здаровая, думаючыя і наладжаныя згуртаваліся ў гурток «Незалежнасць», збіраемся кожную суботу, чытаем рэфераты, дыскутуем, але ўся праца адбываецца ў акадэмічнай плошчы. Мне даверылі хлопцы кіраўніцтва гуртком. Аб нашай працы можаце судзіць па тэмах рэфератаў. «Ірлянцкі* вызваленчы рух і Беларусь» — Дварчаніна[3]; «Зямель-

* Хлопцы на сходзе вырашылі, што лепей казаць «*ірскі*», «*Ірыя*».

нае пытанне на Беларусі» — Шаха[4]; «Крытычны агляд «Спадчыны» — мой; «Пяснярскі Менск» (1917— 24 год)» — Вернікоўскай, Каберца і мой; і шмат іншых. Між іх ёсць некаторыя вельмі цікавыя, напр[ыклад], Шахаў па багаццю матэрыялаў заслугоўвае шырокай увагі. Не кідае надзея, што саб'емся сяк-так і выдама хоць літаграфаваны альманах туды пад Вялікдзень, дзе і змесцім больш цікавыя працы гуртка.

Шкада Ів[ана] Ігн[атавіча]. Ён бы, думаю, зрабіў карысней, каб ехаў не сюды, а пастараўся вырушыць nach Osten[5]. Раней ці пазней мусіць будзе зрабіць гэта. Чакаць, што ў кароткім часе так зменяцца адносіны, што белар[ускі] рух будзе легалізаваны і ўмажлівіцца зварот да Вільні, — нельга. Павэрсайская Еўропа[6] — гэта такое абрыднае і ўродлівае з'явішча, а галоўнае, тупалобае, што чакаць ад яе чаго-небудзь разумнага няма найменшых падстаў. Польшча ад першага міністра да апошняга пастарунковага ці шпека на «крэсах» — роднае дзіця Вэрсаю. Заданне ўсіх свядомых і актыўных сілаў — быць на Бацькаўшчыне іператвараць усё што можна ў рэальнасці, нашы думкі і жаданніператварыць у матэрыяльныя вартасці. На беларускай зямлі павінна быць беларуская кніга, бел. школа, бел. навука, бел. банкі, бел. кааператыў, а найперш — беларуская свядомасць. Чым болей будзе ў нашых руках такіх «рэальнасцяў», такіх «фактаў», тым мы будзем мацней, і якія б перуны ні білі над нашымі галавамі, яны нас «не запужаюць». Скажыце, ці не праўда?

Адважуся звярнуцца да Вас за радай у справе чыста асабістай. Чым далей, тым цяжэй падупадае маё здароўе. Варункаў для гэтага аж зашмат: і паганы чэскі клімат, і заводская Прага, і матэрыяльныя (атрымваем дапамогі самы minimum) абставіны, і, можа, далёка паступіўшая хвароба. Жыццё чым далей становіцца балейшай пакутай. А я маю «на тым боцы» родных, бацьку і матку; жывуць у ціхім, зялёным засценку. І хацеў бы «пад крыжам бацькоўскім сканаць», — прыемней, калі блізкі зачыніць вочы, прыемней гнаіць родную зямлю, і любоў да яе, здаецца, дае ці можа даць права на гэта. Што ж, не аб гэтым калісь летуцелася, але не жалюся. Толькі хацеў бы чуць, як Вы думаеце? Што можна закінуць проці?

Разам з лістом пасылаю Вам, як прывітанне з Новым годам, «На ростані» разам з прысвечаным Вам вершам. Прымеце як выказ шчырага пачуцця, а не як нейкую ліслівасць, пахлебства. Верш гэты быў напісаны ўжо ў лістападзе.

Бывайце здаровы. Жадаю найлепшага Вам і ўсім, хто памятае мяне.

Ваш *Уладзімер*.

P. S. Буду ўдзячны, калі Вы прышлеце рэцэнзію аб «На ростані»[7] ці ўвесь той нумар часопіса. Разам з гэтым перасылаю заметку Дыліса аб вечары памяці.

## 17. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*25 лютага 1925 г.*

Даражэнькі дзядзька Антон!

Шчыра, шчыра дзякую за Ваш апошні ліст, які мяне ўсцешыў і абнадзеіў. Будзе па слову Вашаму: буду рабіць захады; але калі з Вільні не будзе дапамогі, то цяжка чаго-небудзь дабіцца. Для звычайнага смяротнага трэ давесці «лаяльнасць», «выслужыцца» тут на месце — усе рэчы, на якія я няздатны, і дзеля гэтага (выслужвання) трэба час — месяцаў 6— 12 найменей.

Думаю, што Вы зберацеся з сіламі і выпусціце к юбілею Скарыны нейкі альманах. Пражане чакаюць яго. Самі ж яны абмежацца просценькай вечарынай-абходзінамі, магчыма, разам з чэскай прафесурай. Гэта ўжо будзе дасягненне. Прачытае на святкаванні рэферат Ігнат Дварчанін. Да слова— гэта вельмі дадатны чалавек, з якога пры спрыяючых варунках можа выпрацавацца паважная навуковая сіла. Жадаў бы я, каб Вы пазнаёміліся з ім бліжэй ці хоць мелі на воку. Цяпер ён абсэльвуе і працуе над тэмай для дактарата. Тэмай выбраў «Францішак Скарына і яго час». Сабраў увесь можны ў Празе матэрыял, і можна чакаць вялікай паважнай працы. Будзе гатова да Вялікадня. Добра было б яе надрукаваць. І наогул, каб адкрылі дзверы ў «падвалы» віленскіх газет тутэйшай моладзі, было б так пажадана. Моладзь хоча прабаваць свае сілы — тут, у Празе, няма дзе. Калі хочаце, прышлю «Ірaскі (ірландскі) вызваленчы рух» Кауцкага[1]. Пераклад з нямецкага (на славянскіх мовах няма) прыблізна на 2 друкаваных ліста. Цікавы і для нашых вяскоўцаў, павучаючы, бо шмат агульнага ў палажэнні нашым і ірлянцаў.

Перасылаю Вам пяць сваіх вершыкаў. Гэта ўсё спадчына 24 г. Калі будуць падабацца — цісніце. Хацеў бы думаць, што яны крок нейкі наперад проці «На ростані». Звярніце ўвагу на «Праметэя» як на новую спробу пабудаваць верш на клічніках і запытальніках, што сінтаксічна набліжае яго да псеўдакласічных одаў. Сінтаксіс рамантыкаў і сімболікаў мае свае адменныя адзнакі. Наогул, неспадзявана дзеля сябе заўважаю, што па сваёй творчасці набліжаюся да так званых неакласікаў, хоць сімпатыі да іншага. Што да «Express'a», то, мусіць, ён перанасычаны рыфмамі

сярэдзіннымі, асанансамі, алітэрацыямі і нейкі траскучы, хоць і тэма такая ж. Ува ўсіх гэтых спробах мяне ўражала адно: прыгоднасць нашай мовы для перадачы чаго і чаго зажадаеш, яе рухавасць і багацце, харawство, сіла, мяккасць, пявучасць. І толькі сумна, што ведаеш яе не гэтак, як бы хацеў. Павучыўся б чалавек ад нашых вясковых бабаў, ад нашых старых дзядоў, але... эх!

Ага, прышлю ў хуткім часе для азнаямлення Вам «Вершы аб Вільні». Хочу яе далучыць да Беларусі і збеларусаваць. Такі імперыялізм!

Бывайце здаровы.

Моцна цісну руку і дзякую яшчэ раз за памяць і прыхільную дапамогу.

Ваш *Уладзімер.*

P. S. А нумар 3 з рэцэнзіяй чакаю. Выбачайце, што высылаю не тады, як напісаў, — «эканамічная база» вінавата.

І яшчэ адно: не адмоўце перадаць кароткую пісульку дз. Тарасу. Сакрэтаў у ёй няма жадных. Хачу выцыганіць «Biełarus»[2], і толькі.

Усім прывітанне.

*Уладзімер.*

## 18. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*10 траўня 1925 г., Радоцін*

Даражэнькі дзядзька Антон!

Даўно Вам не пісаў. Жыццё складаецца сабачы цяжка, і не хочаш ім каго-небудзь вырушваць. Да ўсіх маіх немачаў дабавілася шчэ лішняя: каменне ў нырках. Гэта балючая рэч. Праваляўся з месяц у шпіталі — паставілі дыягнозу і хацелі апераваць. Я спужаўся аперацыі і хацеў бы неяк без яе выкурваць гэтую хваробу. Ці можна толькі?

Раблю крокі, каб вярнуцца на Бацькаўшчыну. Гэта не ўдасца пры найлепшых варунках раней чым за 8 месяцаў. Калі прыпадкам пабачыце Р.[1], падзякуйце за вестку, яна мяне вельмі ўсцешыла, і абяцанне дапамагчы. Хацеў бы чыркануць яму, ды не ведаю адраса.

Перасылаю Вам абяцаныя ў апошнім лісце «Вершы аб Вільні». Прысвячаю іх Вам. Мне здаецца, што яны збольшага ўдаліся і павінны быць цікавымі чытачу не толькі з літаратурнага боку. Як Вам будуць падабацца, рады я ведаць. Дагадваюся, што будзеце незадаволены з такіх слоў, як «экзотыка», «элект-

рыка», «готыка». Але гэта не толькі словы, але і паняцці. Як без іх абыдзешся? Тлумачэнне ў другім вершы зрабіў для чытача. Хацеў бы таксама, каб прыйшлося да густу virelai (ст. французская форма верша). Як Вы адносіцеся да эстэтыцкага кірунку ў беларускай паэзіі? Мне гэта вельмі цікава! Мінчукі ў сваіх крытычных артыкулах радуюцца, што ў нас вось толькі нацыянальныя ды сацыяльныя тэмы. Радасць гэта бессэнсоўная як і таму, што няма беларускай буржуазіі. Было б добра, каб на белар[ускай] зямлі агулам не было жаднае буржуазіі — тагды радуйся. А яна ёсць, яна грабіць бел[арускіх] сярмяжнікаў, і гора, што яна не нацыянальная. У канечным развіцці і фармаванні нашага народа яна з'явіцца і будзе паказчыкам высшае формы нацыі. Таксама і ў літаратуры будзе нават ступенню прыход агульначалавечых тэмаў, якія заменяць сягодняшнія матывы. Адным словам, я хачу сказаць, што маю права пісаць не толькі ўра-патрыятычна-пралетарскія рэчы, але й заставацца ў самотным ціхім храме Хараства. Мой лятунак выдаць кніжку, не больш 30— 50 вершаў, выключна з матывамі кахання, смерці, хараства, прыроды, мескіх тавэрнаў і падобнага, без адзінае рыфмы на «бедная старонка» і «гэй, наперад». Французы, немцы і нават расейцы пад саветамі выпускаюць такія кніжкі кожны дзень. І верхавіны французскае лірыкі, безумоўна, не ў Беранжэ[2], а ў Бадлеры, Верлене[3], як і расейскай не ў Някрасаве, а ў Цютчаве, Пушкіну. І да слова, наш зямляк Mickiewicz слаўны і агульначалавечай вартасці паэт не тагды, як кліча: «O Matko Polsko! Ty tak świeżo w grobie złożona»[4], а ў «Крымскіх санетах», у «Конрадзе Валенродзе», у «Імправізацыі».

Запрапанаваў бы Вам, Б. В. Т— ву выдаць мае эстэтычныя спробы за 1924 год і пачатак гэтага, каб не ведаў, якія вы бедныя. Між іншым, не адмоўце мне чыркануць, як ідзе прадажа «На ростані». Ці купляе яе хто-небудзь? *І які яе тыраж*? З рэцэнзіяй у [«Калядзе»] я пазнаёміўся. Шчыра дзякую аўтара яе за прыхільнасць і спрыяючыя адносіны к маім не заўседы заслужваючым таго першым спробам. Адно мяне здзівіла — «усходняя рэвалюцыйнасць», знойдзеная ў зборніку, і асаблівыя сімпатыі да таго ж «Усходу», праўда, трошкі адлегчаны ўсе Захадам. Не ведаю, ці сапраўды маю гэты грэх.

Бывайце здаровы.

Не забудзьцеся згадаць парай слоў — буду ўдзячны.

Цісну моцна руку.

Ваш *Уладзімер Жылка.*

P. S. Прабую напісаць повесць з віленскага жыцця[5], дзе, між іншым, развіваю думкі «Вершаў аб Вільні». Калі дазволіць здароўе

і як-небудзь саб'юся з грашыма, каб выехаць на вёску і пажыць спакойна пару месяцаў, то думаю скончыць да восені. Вельмі хацеў бы мець якую кнігу аб Вільні і яе старажытнасцях. Парайце мне, а то каб далі (прыслалі) гэткую, вось было б добра. Даруйце і даруйце, трывожу Вас просьбамі, але да каго звярнуцца?

Бывайце.

Другім разам больш напішу аб повесці.

*Уладзімер.*

## 19. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*1 жніўня 1925 г., Радоцін*

Даражэнькі Антон Іванавіч!

Дзякую за памяць аба мне і Ваш апошні ліст. Уложаную ў яго пісульку Грышкевічу перадаў. Мне прыемна, што «Вершы аб Вільні» Вам падабаліся і сталі прычынай крытычнай працы. Motto[1] да вершаў, аб якіх пытаецеся, узяў я з «Віленскіх успамінаў», надрукаваных у «Беларускім шляху» (часопісь пад рэд. Аляхновіча[2] ў 1919 г. друкавалася лацінкай у Вільні, з пачатку 1920 г. у Менску кірыліцай), у №№, якія выйшлі ў Менску, «Успаміны» — род імпрэсіяў, між якімі памятаю і вядомага «зялезнага Воўка» (ён таксама друкаваўся раней у «Зборніку Вольнае Беларусі» № 1, Менск, 1917), і «Літвінку», і некаторыя інш. Паведамляю з памяці, бо чытаў гэтыя рэчы апошні раз прыблізна ў 1923 г., калі кінуў Вільню. І тагды ж запісаў да нататніка і сказ, аб якім Вы пытаеце. Каб мае вершы прыпадкова з'явіліся ў «Сту-д[энцкай] Думцы»[3], гэта мне нарабіла б шмат клопатаў з маёй і так далёка няпэўнай падарожай. Гэткія часы і звычаі! А тут «Студ. Думка» лічыцца вельмі чорнаянкастанкевічаўскай. Хіба каб вершы былі памешчаны ў тэксце Вашага артыкула ці хоць на некалькі дзён, тыдзень былі надрукаваны ў «незалежным» органе, а ў «Ст. Д.» папалі як перадрук, то, магчыма, было б спраўней. Аб маёй падарожы, мусіць, віламі па вадзе пісана. Тут трэба выслужвацца, дагаджаць, а ў мяне ўжо спіна старая, касцянее, і гнуцца няма сіл, хоць фармальна процi мяне не муселі б мець нічога асаблівага. Не ведаю, ці можа чым памагчы Р[одзевіч] і як можа? Вельмі сумлеўна. Тутэйшыя ж беларускія прадстаўнікі вельмі «сектанты» і слабыя беларусы. Іх такія рэчы мала цікавяць. «Ёсць больш важныя, планетарныя справы». Што і як будзе — пажывем, пабачым. Буду паведамляць.

Ів[ан] Ігн[атавіч] выехаў з сям'ёй на той бок. Прыблізна каля 10-га таго месяца быў ужо там. Запыніўся ў «Макарыча»[4].

Вал[янціна] Сымон[аўна] напісала ўжо першы ліст Людзе[5] (яна засталася тут). Ён вельмі ружовы. Покі што ўсім здаволены і кажуць, што даўно мусілі кінуць вагацца, а ехаць. Што будзе рабіць Ів. Ігн., невядома покі. Сам «Мак-ыч» з радзінаю на вёсцы і да места адно даязджае. Са свае падарожы ў Прагу (аб ёй Вы, мусіць, ведаеце?) Ів. Ігн. вынес вельмі цяжкае і сумнае ўражанне. Я асабіста рады, што ён пазнаёміўся бліжэй з тутэйшым жыццём і кінуў летуцець аб Празе, як раней. «Славянскія Атэны»[6] не для ўсіх з'яўляюцца Атэнамі, дый не кожны, папаўшы ў Атэны, стае мудрацом; як доказ таго кажа назарэцкая худоба, якая, магчыма, калі і кульцівуецца, то толькі надворна. Сумляваюся, каб Ів. Ігн. пры ўсіх сваіх здольнасцях мог пачаць штонебудзь з ёю. Прыблізна з такою думкаю ён і выехаў. У часе яго прыезду быў тут таксама Цвік[евіч]. З ім я пабачыўся толькі на вакзале (праводзіў Ів. Ігн.) перад адходам цягніка. Гаварылі мала, але на развітанне ён сказаў «да пабачэння там». Я з запытаннем усміхнуўся, а ён дабавіў — «да скорага!». Што гэта значыць дакладней, не разумею. Наша «старэйшае грамадства» мо і знае, але мы ўжо не сакрэтнічаем даўно.

Бывайце жывы і здаровы.

Шчырае і сардэчнае прывітанне.

Ваш *Уладзімер*.

P. S. Пішыце, як Ваша здароўе. Штосьці апошнія часы Вы бунтуеце: і грудзі, і сэрца, і нервы нездаровыя. Шануйцеся і лячэцеся не толькі для сябе, але і для нас. Калі я кажу, што а ўсё ж беларускі рух круціцца, то мімаволі згадваю і асяродак, каля якога круціцца. Таму шануйцеся!

*Уладзімер*.

## 20. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*29 снежня 1925 г., Praha*

Даражэнькі Антон Іванавіч!

Маё маўчанне перайшло межы звычайнюсенькага далікатства, і Вы маглі думаць невядома што аб яго прычынах. Вельмі прашу выбачэння і не злаваць. Дурное жыццё складваецца так, што няма чым пацешыць, а з жыццём не хочацца соўвацца ў людзі; і таму маўчыш, забіўшыся ў нару. Яшчэ раз — даруйце!

Ваш ліст і «Вільня ў беларускай літаратуры»[1] сваячасна атрымаў. Ваша ўвага да маіх літаратурных спробаў радуе мяне і абнадзейвае. Але баюся, што яна не па заслугах, — да сваіх песнярскіх здольнасцяў я стаўлюся вельмі скептычна. Магчыма, што я толькі

аматар, якому бракуе дозы смаку мастацкага, але ніколькі не мастак і гэткім не буду. Ды не гэта важна! Галоўнае, што радуе ў Вашым артыкуле, гэта тое, што мы адзінакава гледзімо на Вільню. Ваша аўтарытэтнае слова яшчэ болей пераконвае мяне, што к вырашэнню «Віленскага пытання» прыйдзем толькі нашым шляхам. І яшчэ — веру: здзейсненне сапраўднае суверэннасці нашага народа, сапраўднае незалежнасці адбудзецца толькі ў Вільні, ці... нідзе. Менск — этап у развіцці і поступе нашае ідэі.

Аб тутэйшым жыцці-бытаванні Вы збольшага ведаеце. Цвіком асенняга сезону з'явіўся Цвік з уладжанаю ім у Бэрліне канферэнцыяй[2]. Ён, здаецца, ужо выехаў да Менску. Тое, што пісалася ў польскіх газетах аб Крачэўскім[3] і Захарку[4], — мана. Яны маюць добры буржуазны настрой, і асабліва старшыня Рады рэспублікі, які «ніколі ні за якую цану не зрачэцца» свайго маестату...

Цікавячая Вас справа мае падарожы да гэтага часу не рухаецца з месца. Не ведаю, ці што рабілася праз Р[одзевіча]. Без актыўнае дапамогі збоку можна на гэту справу махнуць рукою. Вельмі тут спецыфічныя варункі, якія незнаёмаму чалавеку цяжка ўявіць. Трэба прыслужвацца, а гэтага не ўмею, і трэба быць ура.., а я беларус і хачу быць ім. Многа хацеў бы напісаць, але...

У «Белар[ускай] Ніве»[5] было паведамленне, што адчыняецца літаратурны аддзел, але ў следуючых пасля гэтага паведамлення №№ не з'явілася нічога. А я, праўду кажучы, усцешыўся і за чытача, і за нашага брата. Адной палітыкай далёка не ўгонім (і па талмуду выходзіць, што яна толькі «надстройка»!), трэба будова. Хацеў бы, каб і мяне не адкінулі, толькі я «всерьез и надолго» ўзяў курс на М. Багдановіча, не ведаю, ці прыйдуся да двара. Шкада, што не магу развіваць сваіх думак у друку. Але за свой Сцяг (Максіма) гатовы змагацца. Між іншым, і inter nous[6] — маладнякоўцы не тое, хоць між імі шмат мілых хлопцаў.

Бывайце здаровы і добрай думкі аб нас. Жадаю ўсяго добрага і вясёлага.

Любячы Вас *Уладзімер*.

P. S. Чаму Вы не выкажаце *свае* думкі на шлях бел. літаратуры. Мне болей чым цікаўна іх ведаць.

Нядаўна я і Дварчанін пазнаёміліся з Чэрным (Černy)[7], рэдактарам «Slovanskeho Přehledu». Стары вельмі сардэчна згадваў Вас і прасіў перадаць Вам прывітанне. У снежаньскім ці студнёвым нумары «Přehledu» з'явіцца юбілейная згадка аб Янку Купалу. Чэрны абяцаў таксама пералажыць некалькі рэчаў з «Спадчыны»[8].

Баюся Вас турбаваць, але каб Вы прыслалі каталог кніг, календары 26 г. і іншыя выданні, якія маюць выйсці ці ўжо выйшлі (здаецца, Эвангелія[9] з'явілася ў продажы), быў бы вельмі ўдзячны. Мне гэтыя рэчы тут патрэбны.

# 21. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*22 студзеня 1926 г., Praha*

Любы і даражэнькі Антон Іванавіч!

Даруйце і яшчэ раз даруйце. Напісаў два тыдні назад ліст, і да гэтага часу не адасланы ён. Асмельваюся зрабіць гэта цяпер. Навасці ўсе старыя, а сапраўды новага нічога. Перасылаю Вам «Славянскую книгу», 2 №№. Раней гэта быў «Библиографический указатель» пры часопісе «Воля России». Цяпер пераняло і рэфармавала яго «Пламя». Пад гэтай назвай працуе велізарнае чэскае выдавецтва. Прыняў у ёй — «Книге» ўдзел па практычным меркаванням: плацяць. Карэкту артыкула «Бел[аруская] літ[аратура] ў XIX ст.» рабіў чалавек, не ведаючы бел. мовы, таму так спаганены ён. Цяпер карэктую я.

Між іншым, «Пламя» робіць у сярэдзіне лютага выстаўку кніг свайго выдання, але запрашае прыняць удзел і нам. Я абяцаў далучыцца, але не ведаю, ці ўдасца. Тут бел. выданняў вельмі мала. А шкада было б не выставіць. Аб нас мала ведаюць чэхі, і расейцы, і ўкраінцы. Прашу Вас, калі можна, прысланы камплект выданняў, якія маюцца ў продажы ў «Бел. кнігарні». Магчыма, што частка іх будзе прадана, рэшту *абяцаюся вярнуць*. Аб значэнні выстаўкі, як культурна-агітацыйным, так і камерцыйным, не згадваю, бо аб гэтым Вы разумееце шмат болей, чым я. Напісаў таксама і ў Дзярж[аўнае] Выд[авецтва] Бел[арусі] у Менск. Чэхі Саветаў не баяцца, і былі выказаны вялікія пажаданні, каб былі бел. сав. выданні таксама на выстаўцы. Кнігі прашу пераслаць на мой адрас.

Аб сваім бытаванні не пішу нічога, але пересылаю Вам вершы, якія выяўляюцца лепшымі сведкамі маіх настрояў. Пішу не часта, але маю даволі напісанага за апошні час, і ўсё ў гусце тых, што прысылаю Вам. З фармальнага боку яны вышэй за папярэднія, але мяне радавала б невымоўна, каб Вы прызналі іх права на грамадзянства і з боку зместу. Жыццё, на жаль, не ўкладаецца ў патрыятычна-сацыяльны мажор (ну, хоць бы менскіх бардаў), ёсць і іншыя танацыі, і часта-густа трагічныя. Бел[аруская] літ[аратура] не мусіць іх баяцца, а я хачу быць *чэсным* паэтам, а не пець, што «як пан кажа».

Бывайце здаровы. Моцна цісну Вашу руку. Прашу быць не строгім к неспакойнаму

Вашаму *Уладзімеру*.

## 22. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*10 лютага 1926 г., Praha*

Даражэнькі дзядзька Антон!

Папярэдняе маё пісьмо, як бачу па вершы, выдрукаваным у «Б[еларускай] Н[іве]», вы атрымалі. Адказу ад Вас не маю і баюся, што Вы злуеце за папярэдняе доўгае маўчанне. Чым магу заслужыць адпушчэнне? Яшчэ раз выбачаюся.

Крыху хачу напісаць аб сабе. Маё здароўе за гэту зіму шмат пагоршылася. Вельмі часта настываў і хварэў. Доктар, канешне, прымусіў ехаць да санаторыі. Апошняе мне не падабаецца горш смерці, але што рабіці — мушу. Калі налагоджу необходныя справы, выеду яшчэ на гэтым тыдні. Перад гэтым асмельваюся яшчэ раз звярнуцца да Вас у справе мае падарожы. Хвораму і незабяспечанаму матэрыяльна жыццё тут, на чужыне, становіцца пеклам. Інваліду ў літаральным значэнні, хацелася б мне спакою, і яшчэ большае жаданне, каб косці мае ляжалі поруч з бацькавымі на роднай зямлі. У лепшае і святлейшае ў адносінах да сябе не маю найменшай прычыны верыць: жыццё вельмі доўга і без жалю і не заставіла места аптымізму. Што ж, ты плеб і аб гэтым добра памятай, а такіх, як ты, — колькі! Ведаю, што Вашы аўтарытэтныя захады маглі б дапамагчы. У імя чалавечнасці і Чалавека (больш дарагога ад іх я нічога не ведаю) прашу Вас зрабіць магчымае і повен надзеі, што не адмовіце.

Цяпер яшчэ аб адным. Я падгатаваў новую кнігу вершаў. Выбраў да 100 лірычных п'есак. Па зместу яны ці нацыянальныя (як «Экспрэс» і «Вершы аб Вільні»), ці сацыяльныя (іх мала), ці асабовыя (апошніх у меру). У іншым месцы, акрамя Вільні, гэты зборнік не можа з'явіцца ў друку: нахіл да рэфлексій, эстэтызму, залішняя ўвага да свайго «я» — гэтаму прычына. Але на мой дурны разум (і кожны цыган свайго каня хваліць), здавалася б, што зборнік меў бы некаторую *літаратурную* вартасць, каб убачыў свет. Тэхніка яго вышай тэхнікі «На ростані», і тэматычна ён глыбей, а калі ёсць месцамі couleur noire[1], то дазвольце вымазаць падобнае з жыцця і тагды не будзе і ў паэзіі. Адна надзея з выданнем на Бел. Выд. Т-ва ці лепей на Вас. Як бы Вы думалі? Напішыце аб сваіх адносшаннях да гэтай «авантуры». Мне больш чым цікавіць гэта справа, бо вершы таксама, як алкаголь, зацягваюць.

Пака свайго новага адраса не даю, бо дакладна не ведаю. Напішу, калі прыеду на месца.

Даруйце, што абрыджваю Вам сваёй асобай. Бывайце здаровы і добрай думкі аб нас.

Любячы Вас *Уладзімер.*

## 23. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*30 сакавіка 1926 г., Цырквіцэ*

Даражэнькі Антон Іванавіч!

Ужо месяц як знаходжуся ў санаторыі. Час ад ежы да ежы (кормяць нас аж 8 разоў) прабягае нудна, хоць нейк незаўважна. Месяц уцёк, а я — не азірнуўся. Не рабіў нічога, найболей ляжаў, разам са спаннем гадзін 16— 18.

Не спыняючыся абмяркоўваю план свае падарожы. Падарожыць па-чалавечы страціў усякую надзею, думаю па старой памяці папрабаваць per pedes apostolorum[1], а магчыма... магчыма, варта махнуць на ўсё і ўсіх рукою. Ёсць ганебнае ў маіх просьбах і паклонах на ўсе бакі. І ніколі не чуў сябе такім самотным і непатрэбным. Самапачуццё, як пасля доўгага піяцтва прачынаешся. І дзіўна, што ні рукі мае, ні каханне не патрэбны майму народу, і сам я абузай, па-перш — сабе... Эх, ды што! Хоць адно — з бойкі з Лёсам нат пераможаны хачу выйсці з гонарам, які і ёсць варты перамогі. Аб гэтым усе малітвы мае.

Калі Вы згадаеце мяне і чырканеце пару радкоў — буду вельмі ўдзячны. Хацеў бы ведаць, што рабіць? І Вашы намеры на будучыну?

Моцна цісну Вас і жадаю шчасця.

З пашанаю і добрай думкай,

Ваш *Уладзімер*.

P. S. «Слав[янскую] кнігу» Вы атрымалі? Добра было б, каб некалькі радкоў аб ёй з'явілася ў газеце. Як думаеце?

## 24. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*28 ліпеня 1926 г., Praha*

Даражэнькі дзядзька Антон!

Ад Вас няма і няма жаданых вестак. Не хочацца верыць, што гэта нездарма, але закрадаецца нейкая трывога, не магу нічым вытлумачыць, што прымушае Вас не пісаць. Калі Вы чым-небудзь нездаволены — ці ў маём паводжанні, ці ў пісьмах, то ці не ляпей, каб я ведаў тое і мог Вас перапрасіць. Вы адзін з нялічаных... як сказаць? — знаёмых, не, больш чым знаёмых, якіх я шаную і люблю і добрыя адносіны якіх для мяне так дарагія. І так шмат губім мы ў наш жорсткі век, калі дурное рымскае і бяскрыўдна-школьнае homo homini lupus est[1] афарбоўваецца сапраўды ў нейкі жахлівы колер і які звярыны сэнс пачынае дыхаць у лапах

сучаснасці, і так шмат непатрэбнай злосці і рафінаванай знянавісці, што траціць жывую і родную душу, траціць чалавека (дазвольце мне напісаць — Чалавека — з вялікай літары) невыбачальна, бессэнсоўна. І я не хачу таго, хачу быць ашчадным з сваімі скарбамі. Спадзяюся, што Вы верыце ў маю добрую волю, і дазволіце сяброўскі сціснуць Вашу руку, не сумляваючыся ў прыхільнасці і добразычлівасці Вашай, сардэчна паважаючаму Вас вашаму

*Уладзімеру.*

P. S. Аб тутэйшых навінах і справах Вы даведаліся лепш, чым можна напісаць у лісце ад Дварчаніна. Таму нічога не пішу аб гэтым. Ад Krask.[2] часам атрымліваю лісты, але далей асабістых спраў не йдуць. Ів. Ігн. па горла завалены працай, але самапачуццё найлепшае. Пр. [3] і З. [4] з часу свайго ад'езду забойча маўчаць — жаднаму нічога.

Не ўмею я пісаць лістоў — шурпатыя яны і нязграбныя, таму прашу менш вымагаць.

## 25. АНТОНУ ЛУЦКЕВІЧУ

*13 кастрычніка 1926 г., Praha*

Даражэнькі дзядзька Антон!

Нарэшце маю пас[1]. Каля 20-га г. м. выберуся адгэтуль праз Варшаву. Грошай на падарожу дастаў. Поўны трывог перад блізкай будучыняй — ці прыйдуся да двара? Выхадны пункт маіх учынкаў, добрыя ці блудныя яны былі і ёсць, было Адраджэнне. Адраджэнцам хачу застацца і надалей. Гэтулькі людзей і спадзяванняў скрышыла жыццё, што баюся браць у падарожу з сабою найдрабнейшыя надзеі. Так ляпей — што будзе, тое будзе. Адраджэнне мае свае мэты і заданні, а нас увесь час і ворагі і прыяцелі хацелі б бачыць як сілу слугуючую — вось прычына маіх трывог.

Дзякую Вам за апошні ліст — ён быў такі шчыры і цэнны і ўсцешыў мяне вельмі. Маю многа хібаў і заганаў у сваім характары і адной з іх, што не ўмею быць акуратны ў перапісцы. За гэта мяне ўсе страшэнна лаюць, а я так і не здолею палепшаць. Лайце і Вы, але толькі не злуйце і даруйце.

Хто з вільнян едзе на канферэнцыю?[2] Напішыце гэта хоць праз газету. І ці дадуць палякі пасы і візы? Я таксама меў прыемнасць дастаць запрашэнне. Бяда, што толькі не падрыхтаваны я да філалагічнае працы. Пытанням літаратуры і мастацтва я аддаваў больш увагі.

Перасылаю Вам на ўсякі выпадак дзве брашуры Лёсіка, хоць хутчэй усяго Вы іх ужо маеце. Вельмі цікава было б, каб Ігнат Дварчанін праз газету падаў свае думкі аб рэформе і зрэцэнзаваў гэтыя кніжкі Лёсіка. У свой час мы мелі доўгія размовы ў справе зменаў бел. абэцэды, і думкі яго мне здаюцца цікавымі і вартымі ўвагі. Тое, што робіць Станкеўчык зараз у «С. Ніве»[3] і «Кгунісу»[4] з беларускаю моваю, варта толькі ганьбы. Дурань тупалобы — ён і здохне ім. Дзіўлюся толькі, як маглі даручыць яму карэкту газет, — тыя, што робяць так, мусяць зусім не паважаць сябе.

Бывайце здаровы і моцны. Горача і дужа цалую Вас.

Шануючы і любячы Вас

Ваш *Уладзімер*.

P. S. Зрабеце ласку, не адмоўце перадаць пісульку Іг. Дварчаніну. Новага ліста ад мяне чакайце з новых месц.

## 26. ЯЗЭПУ ДЫЛУ

*16 красавіка 1929 г.*

Вельмішаноўны таварыш Дыла![1]

Загалоўныя тытры карціны «Подвиг во льдах» («Поиски экипажа «Италии») я пераклаў так: «Геройства між ільду» («Пошукі экіпажу «Італіі») і не ведаю, ці такі пераклад будзе добры. Штосьці тут нягладка. Калі Вы знойдзеце патрэбным перарабіць што-небудзь, то, прашу Вас, паведаміць тав. Цодзіку[2], каб ён мог выправіць. Карціна гэта, здаецца, дэманструецца з наступнага тыдня.

Заўсёды з пашанай

*Уладзімір Жылка.*

## 27. ПЯТРУ ГЛЕБКУ

*[Вясна 1930 г. ]*

Даражэнькі Пятро!

Прывітанне табе і ўсім узвышаўцам з далёкае Ялты[1], ад яснага неба, ад зялёнае хвалі мора, ад цёплага сонейка і ад мяне грэшнага.

Маўчаў я таму, што ўсё хацелася напісаць вялікі ліст, падрабязны, і падзякаваць Вас усіх за сардэчныя, таварыскія адносіны. Не думайце, што я такая таўстаскурая свіння, што

нічога гэтага не разумею і не магу быць удзячным за добрае, чулым да людской дабраты. Але... (тут вось і пачынаецца)... але хацелася напісаць абавязкова доўгі ліст... але здароўе ўвесь час — на пустога казана... але нервы гуляюць і робяць зусім «упадочнікам», настроі кепскія... але кожны вечар — сабе ў думках: вось заўтра! (і веру: заўтра не толькі напішу хлапцам, а заўтра пачнецца сапраўднае жыццё і заўтра я буду сапраўды здаровым, працаздольным, творчым... Заўтра... Ты ведаеш, як гучыць гэта слова для таго, які не мае сёння?.. У мяне, братка, такія сапсаваныя нервы!)

Згадваю Вас усіх бадай некалькі раз на дзень і, калі на сябе і сваю дзею я гатоў глядзець даволі хмура, дык у Вас усіх глыбока веру і ў мяне самыя ружовыя і светлыя надзеі на будучае беларускае літаратуры.

Прыдзіўляюся да маскоўскіх газет і з'яўляецца ўражанне, што за гэту зіму «Узвышшу» прыдзецца вытрымаць добры шторм пад балаў 8-9 (тут усё на балы, як у нас на працэнты). Безумоўна, быў бы рады памыліцца ў гэтым (на ўсе 100 %), але, здаецца, курс «Малад[няка]» мусіць схіліцца яшчэ рашучай у бок агрэсіўнасці.

Я вельмі задаволены, што трапіў у Туберк[улёзны] інст[ытут], а не ў якую-небудзь санаторыю. Тут лячэнне пастаўлена сур'ёзна і салідна, як нідзе, думаю, у іншым месцы Саюзу. Дактары па розных спецыяльнасцях і з ведамі. Так што нават я не губляю надзеі атрымаць сур'ёзную дапамогу.

Мне застаецца тут быць тыдняў чатыры. Збіраюся падаць заяву з просьбай даць змогу яшчэ месяцаў 3-4 палячыцца.

Рабіць нічога не раблю. Па-першае, забаронена, а па-другое, і не магу нічога рабіць, так яно і ідзе дзень за дзень, як нага за нагу валачэцца. Падрабязна раскажа Вам пра маё здароўе жонка. Яна зараз вернецца да Менску.

Весткі з Менску да мяне даходзяць вельмі слаба. Мо таму, што нікому не пішу. Як Вы ўсе там скачаце, не ведаю, хоць вельмі хацеў бы ведаць.

Браце, чыркані мне час ад часу — удзячны табе за гэта наперад. Прышлі мне тыя №№ «Узвышша», што выйшлі без мяне.

Вітай усіх хто памятае.

Моцна цісну руку тваю, з найлепшымі пажаданнямі

твой *Уладзімер*.

Ялта,
Тубінстытут.

# ДАДАТАК

Макар Краўцоў

## МАЕ ЎСПАМІНЫ АБ ЖЫЛЦЫ

Не магу добра ўжо прыпомніць, калі і як сустрэўся я першы раз і пазнаёміўся з нябожчыкам Уладзімерам Адамавічам Жылкам. Помню толькі, што было гэта ў Менску ў часе бальшавіцкай акупацыі ў 1919 годзе. Жылка працаваў летам у сельскагаспадарчай камуне Весялоўцы (б. дача банкіра Браўдэ, вярсты за паўтары ад горада). Я быў настаўнікам, працуючы ў 22-ой беларускай школе на Аляксандраўскай вуліцы, але, як сябра Рады БНР, разам з іншымі лічыўся абвешчаным бальшавікамі *«вне закона»* і трапіць у рукі тагачаснага ЧК для мяне азначала... ведама, што азначала!

Жыў я на Міхайлаўскай вуліцы, 104 сярод менскага беларускага пралетарыяту; работнікі ведалі, хто і што я, але я верыў ім, што не выдадуць, і не памыляўся.

Здарылася раз, што быў я на валасок ад таго, каб патрапіць у рукі *чразвычайкі.* Яна шукала ўночы дэзертыраў, якіх развялося без ліку шмат. А я, як былы афіцэр ваеннага часу, не рэгістраваўся ў бальшавікоў, і фармальна быў злосным дэзертырам.

Аднаго дня зайшоў да мяне сусед — работнік з бровара Нужбіна і сябра народнага суда, папераджаючы, што мне начаваць у сябе дома няварта, бо мінулай ночай зравідована была ўся Міхайлаўская вуліца, і налавілі шмат дэзертыраў. Работнік гэты, як віцэ-старшыня дамовага камітэта (на некалькі дробных дамкоў), быў патрывожаны *чразвычайкаю*, каб быць панятым пры вобысках.

Дамок, у якім пражываў я, стаяў на адной лініі з домам № 106 у глыбіні падворка і выглядаў, як халодны гаспадарчы будынак пры ім, бо цёмная ноч не дала п'яным чэкістам магчымасці заўважыць над страхою коміны.

Падзякаваўшы добраму суседу, я выйшаў у горад, мяркуючы, дзе знайсці начлег на некаторы час, пакуль ЧК робіць вобыскі напавал, дзякуючы сільнаму напору польскага войска на подступах да Менска.

Сустрэўся я з адным вядомым цяпер савецкім паэтам, якога па зразумелай прычыне, не хачу называць. Расказаў яму пра свой клопат, а ён мне раптам прапануе:

— Едзем разам у Весялоўку, там ніякі чорт не здагадаецца, што мы не належым да настаўніцкага персанала сельскагаспадарчае камуны.

Здаецца, што ў Весялоўцы я і сустрэўся першы раз з Жылкам; ён там быў другім, малодшым настаўнікам.

Мы здружыліся, сплючы разам на шырокай скураной канапе і блукаючы па дарожках раскошнай калісьці банкірскай дачы, паложанай над самаю рэчкаю Свіслачай.

Жылка бесперастанку дэкламаваў вершы Блока, Брусава, Раслаўлева, Карынфскага, Бальмонта, Сяргея Гарадзецкага. Мяне дзівіла гэткая маса завучаных ім напамяць вершаў, якія я ў значнай меры чытаў раней. Калі я загасціўся ў Весялоўцы на цэлы месяц, пішучы пакрысе свой расказ «Ахвяра часу», дык нябожчык Жылка здорава такі абрыд мне сваімі дэкламацыямі. Пішу, напрыклад, а тут ён схіляецца над вухам і сваім ціхім машастовым голасам рэцытуе:

Ах, мой синий, васильковый,
Да шелковый поясок...

— Ды кінь ты ўсякіх Гарадзецкіх, — агрызаюся я, — лепш вось гэта:

Прощай, немытая Россия,
Страна рабов, страна господ...

Але Жылка ўжо абарваў Гарадзецкага і замест Лермантава перайшоў на Блока. Часамі ён цэлымі гадзінамі дэкламаваў мілых яго сэрцу расейскіх паэтаў, і тады была толькі адна рада:

— Алесь, скрыпку! — крычу я старшаму настаўніку весялоўскае камуны. Алесь пачынае іграць які-небудзь раманс, і Жылка адразу сціхае.

Па-беларуску Жылка тады не пісаў, да чаго я стараўся заахвоціць яго, чуючы, што яго любоў да паэзіі мусіць выклікаць у ім парыў да напісання чаго-небудзь.

Першы яго верш прыпамінаю сабе ўжо не то ў тыднёвіку «Рунь», выходзіўшым пад рэдакцыяй Купалы пры паляках у 1920 годзе, не то ў газеце «Звон»; верш кароценькі, лірычны, крыштальна адшліфаваны. Пражываў у падвальнай кватэры і стары загадчык двара Весялоўкі. Бальшавікі ўсё збіраліся яго выселіць, лічачы, відаць, беднага банкірскага аконама небяспечным контррэвалюцыянерам. Неяк у адзін вельмі цёплы летні вечар гэты чалавек вяр-

нуўся з гораду вельмі сумны, зайшоў у пакой, дзе былі мы з Жылкам, і расказаў, як ён дачуўся, што ўночы ЧК мае яго выкінуць з двара. Было даволі позна. Развітваюся з Жылкам і аконамам, хачу вяртацца ў горад.

— Куды ты ўночы папрэш? — стрымлівае Жылка. — Плюнь, цябе ж не зачэпяць...

Але я рашуча кіруюся да дзвярэй. Жылка бярэ шапку і выходзіць следам.

— Давай пераначуем на лоне прыроды, — прапануе ён.

— Што? Усю ноч па лесе бадзяцца?

— Ды не! Хадзем! — кажа ён.

Прайшоўшы метраў з сорак весялоўскаю сенажацяй, затрымліваемся каля трох копак сена, залазім у адну з іх знізу і храпем да света. Раніцай даведваемся, што чэкісты прыяджалі, пашумелі і пакінулі аконама з жонкаю і дзяцьмі на месцы.

Помню, раз заехаў конна ў Весялоўку адзін Жылкаў знаёмы — нейкі чырвоны камандзер, кіруючыся на фронт пад Радашковічы: гаварыў благою расейскаю моваю з вельмі выразным беларускім акцэнтам.

— Што гэта за камісар? — пытаюся ў Жылкі, калі той ад'ехаў.

— Чырвоны сатрап! — кінуў Жылка два словы ў адказ.

Ноч з 7 на 8 жніўня 1919 года была апошняю для нас у Весялоўцы. Нараніцы нас па-вайсковаму штурхае Алесь:

— Гэй, братва, не спі! Чуеш?

Гляджу на гадзіннік — палова дзесятае. За акном іграе сонца, а гэткі гром?!

О, гэты гром добра знаёмы з вялікай вайны!.. Зусім недзе блізка грымяць гарматы. Хутка апранаюся, вылятаю на двор на бераг Свіслачы, лезу на густую высокую вольху — глянуць у заходні бок, адкуль далятае да вушэй гэты гром. Над галавою высока пралятае аэраплан. Але чый? Раптам — жж! жж! У вушах знаёмы посвіст куляў. І ў гэты самы момант на другім беразе рэчкі, ледзь не пад самым маім носам, схапляецца на ногі нябачаная мною дасюль шэрая тыральера бальшавіцкіх стральцоў.

Нейкі камандзер ці камісар блытаецца з канём, махае шашкаю, дарэмна стараецца затрымаць адступленне. Польская артылерыя крые ўжо па заходняй акраіне горада. З правага боку на гасцінцы траскаціць кулямёт бальшавіцкага панцырнага самахода...

Каменем спадаю з вольхі. Змешваюся з радамі перабрыўшых мелкую Свіслач чырвонаармейцаў. Адзін з іх, трымаючы на вяровачцы стрэльбу на плячах, пытаецца:

— Товарищ, махорка есть?

— К сожалению, не курю, — адказваю яму.

Праз пару крокаў — Весялоўка. Алесь частуе чырвоных ваякоў махоркай. Салдаты шпургаюць стрэльбы ў кусты і даюць драла. Аконам выцягвае адну з іх з куста, лаецца:

— Далей кідайце, на сенажаці, с... сыны, а тут няма чаго складу зброі рабіць.

Жылка ўжо запрог каня і пакурэў у Менск. Буржуазная моладзь, сабраная для працы ў камуне, адпушчана Алесем дамоў. Сам ён рашыў застацца ў аконама.

Пру сцежкаю праз сенажаць, кіруючыся проста на хату, дзе мая кватэра. Два чырвонаармейцы, раззброіўшыся, бягуць за мной.

Гадзіны каля 12-е, у поўдзень, горад ужо ў руках пазнанцаў і легіянераў.

Калі ўжо зусім заціхла страляніна, іду на кватэру Жылкавых бацькоў. Частуюць... нібыта чаем з белаю цукроваю патакаю.

— Вось жыццё! — бядуе сухотная на выгляд, як і сам Жылка, яго маці.

— Дыктатура пралетарыяту! — весела падхапляе бацька Жылкі, крыху сіваваты, не то таксама аконам, не то агароднік на выгляд. Старыя гаварылі чыстаю беларускаю моваю...

А ўвечары мы з Жылкам былі ўжо на сходзе беларусаў, дзе закладаўся часовы нацыянальны камітэт. Сабралася сотні з паўтары душ.

Пры паляках Жылка мала прабываў у Менску, бо ўся іх сям'я выехала недзе ў правінцыю. Колькі разоў яшчэ мы сустракаліся з Жылкам у Менску. Я быў заняты працаю ў Беларускай Вайсковай Камісіі ды супрацоўніцтвам у газеце «Беларусь». Жылка, як беларускі эсэр, быў ворагам як вайсковае нашае фармацыі, так і наогул усяе арыентацыі на Польшчу, якое тады шчыра трымалася частка нашае інтэлігенцыі, носячыся з вельмі рожавымі надзеямі. Жылка мякка, па-прыяцельску кідаў няраз мне ў вочы:

— Беларускія эндэкі!

Гэта адносілася да ўсіх, хто верыў тады ў беларускае вызваленне пры падмозе Польшчы. «Беларускія эндэкі» азначала ў вуснах Жылкі не што іншае, як цяперашняе бальшавіцкае «нацдэмаўцы».

Цераз два гады, у траўні месяцы 1921 года сустрэўся я з Жылкам у Вільні, на Вострабрамскай, 7, у фактычнага рэдактара «Нашае думкі», далейшае рэдагаванне якой той перадаваў мне. Жылка прачытаў некалькі сваіх вершаў. Рэдактар зазначыў, што ў іх ёсць такія і гэткія шурпатасці і вершы забракаваў.

Праз нейкі час я з поштаю атрымаў ад Жылкі з Гарадзеі пісьмо ў рэдакцыю вершам. Верш нішто сабе, але ў адным-двух месцах гэткая нястройнасць, што псуецца ўсё. Я выправіў верш, як мог, і змясціў у газеце. Калі пазней мы сустрэліся з Жылкам, дык ён спытаўся:

— Чаму ж ты ўжо сам і не падпісаўся пад маім пісьмом? Гэтак ды яго адчыканіў!

Ідэалогіі Жылка трымаўся лева-эсэраўскай. Я жартаваў часам у гутарцы з ім, што гэта здаравеннае пробы ўсё ж такі той самы бальшавізм.

З якім жа цяжкім сэрцам павінен быў гэты хваравіты з выгляду лірык змяніць свой ідэалістычны светагляд, каб скіраваць з Чэхіі ў

Менск, не сустрэць там ніякага поля для творчасці і закончыць жыццё недзе на выгнанні, як беларускі «нацдэм»?!

Не павінна загінуць памяць аб Жылцы ў гаротным нашым народзе, які гэтак любіла яго тонкая душа!

*1935*

Людміла Краскоўская

## З УСПАМІНАК ПРА УЛАДЗІМЕРА ЖЫЛКУ

Уладзімера Жылку я пазнала ў 1922 годзе, калі наша сям'я пераехала з Вільні ў Даўгаўпілс (калісь Дзвінск) у Латвіі. Там адчынілі Беларускую дзяржаўную гімназію, якую арганізаваў мой бацька Іван Ігнатавіч Краскоўскі, ён стаў першым дырэктарам гімназіі. Я вучылася ў апошнім, дзесятым класе гімназіі (у Латвіі была дзесяцікласная школьная сістэма). У. Жылка прыехаў да Даўгаўпілса з Вільні ў 1922 годзе і таксама паступіў у дзесяты клас гімназіі. У Даўгаўпілсе ён жыў у нашай сям'і. У. Жылка быў старэйшы за мяне не толькі гадамі, але і жыццёвым вопытам, таму ён меў на мяне ўплывы.

Ён займаўся галоўным чынам літаратураю, не толькі беларускімі, але і рускімі пісьменнікамі. У. Жылка пазнаёміў мяне з творчасцю тагачасных рускіх паэтаў. Падараваў мне кніжкі вершаў А. Ахматавай і М. Цвятаевай, якія ў той час выйшлі ў бібліяграфічных выданнях. Да цяперашняга часу я захавала сшытак, дзе я тады перапісвала вершы, якія мне найбольш падабаліся, — Блок, Бальмонт, Эрэнбург. З гэтых вершаў мы стараліся зразумець, якія напрамкі існавалі ў тагачаснай літаратуры. У. Жылка цікавіўся і французскай паэзіяй. Памятаю, што я яму перакладала вершы Ш. Бадлера з кніжкі «Flours du mal».

У гімназіі, у Даўгаўпілсе, У. Жылка вучыўся толькі паўгода, а пасля новага, 1923 года выехаў зноў у Вільню. Я не ведаю прычыну яго ад'езду, але з нашых размоў я зразумела, што яго цяжыла палажэнне, у якім ён апынуўся, што ён не меў заработкаў, а жыў у нашай сям'і. Мае бацькі і ўсе мы глядзелі на Жылку, як на члена сям'і. Беларускае культурнае жыццё ў Латвіі ў гэты час так развівалася, што У. Жылка меў досыць працы сярод моладзі. У Латгаліі (усходняя часць Латвіі) жылі пераважна беларусы, патомкі старадаўніх крывічоў. У латышскай мове krievs значыць рускі — крывіч. У Латвіі на пачатку 20-х гадоў былі тры беларускія гімназіі, апрача Даўгаўпілса яшчэ ў Люцыне і Рэжыцы і было многа пачатковых беларускіх школ. Калі да культурнай працы дадаць навучанне ў гімназіі, дык стане зразумелым, што час У. Жылкі быў запоўнены справамі. Усіх здзівіла, што Жылка вырашыў выехаць з Даўгаўпілса. Мае бацькі намаўлялі яго, каб застаўся і закончыў гімназію.

У 1922 — 1923 гадах пераход граніцы не складаў вялікай цяжкасці. Некаторыя вучні гімназіі жылі блізка граніцы з БССР і апавядалі аб варунках тамтэйшага жыцця. Стаялі пагранічныя слупы, але па абодвух баках граніцы былі беларускія вёскі. Хлопцы з розных старон граніцы разам ганялі футбол, жыхары з вёсак хадзілі да суседзяў у лес па грыбы ці па ягады. На літоўска-польскай граніцы было падобнае становішча.

У. Жылка не затрымаўся доўга ў Вільні. Яшчэ ў 1923 годзе ён выехаў да Прагі ў Чэхаславакію, дзе была магчымасць вучыцца далей, таму што міністэрства давала студэнтам стыпендыю. У Чэхаславакіі Жылка скончыў матуральныя курсы і паступіў на філазафічны факультэт Карлава універсітэта ў Празе. Я прыехала да Прагі вучыцца ў 1924 годзе і таксама запісалася на філазафічны факультэт. Мы рэдка бачыліся ва універсітэце, таму што Жылка слухаў лекцыі па гісторыі літаратуры, а я хадзіла на лекцыі па археалогіі і гісторыі мастацтва. Мы спатыкаліся ў Студэнцкім доме па Slupe[1], гэты Дом пабудавала амерыканская арганізацыя ІМСА. Там былі пакоі для навучання, зала адпачынку, сталоўка, ванная, пральні. Гэты Дом ІМСА вельмі дапамагаў студэнтам. Умовы на кватэрах былі кепскія, звычайна там толькі спалі, а цэлы дзень праводзілі ў школах і ў Студэнцкім доме.

Жылка жыў на кватэры ў Празе. Я падчас студый ва універсітэце жыла ў блізкім мястэчку Радоціне і прыязджала да Прагі на лекцыі. Клімат у Празе быў нездаровы, асабліва для людзей са слабымі лёгкімі. У. Жылка выглядаў кепска, часта хварэў. Ежа ў Студэнцкім доме ў сталоўцы была танная, але не адзначалася добрай якасцю. Жыццё студэнтаў у Празе не было лёгкім, з грашыма трэба было ўмець абыходзіцца ашчадна, эканоміць. Дзяўчаты ў большасці выпадкаў умелі гаспадарыць і абыходзіліся стыпендыяй, але ў хлопцаў выходзіла горш. Летам некаторыя студэнты працавалі як рабочыя, але Жылка з-за нездароўя не мог гэтага рабіць. Якось так склалася, што ў Празе Жылка і я мелі кожны сваю кампанію і спатыкаліся толькі выпадкова.

Мае бацькі ў 1925 годзе пераехалі з Латвіі ў БССР, у Мінск. У. Жылка таксама вырашыў ехаць у БССР, дзе жылі яго бацькі. Ён гаварыў, што нарэшце мусіць дапамагчы сваім бацькам. У. Жылка праз мяне прасіў майго бацьку, каб ён дапамог прыехаць. Мае бацькі ўжо бачылі, як складваліся абставіны ў гэты час у Мінску. Матка мне пісала некалькі разоў, што У. Жылка мусіць раней скончыць універсітэт у Празе, што клімат у Мінску для яго нездаровы. Але Жылка не слухаў парад, а намагаўся вярнуцца да роднай хаты. У 1926 годзе ён паехаў у Мінск. Спачатку ён жыў у Мінску, зноў у нашай сям'і. Браты Жылкі — Барыс і Кастусь — вучыліся ў Мінску. Трэцяга брата, Алега, я не пазнала, ён жыў на вёсцы і працаваў на гаспадарцы.

Летам 1927 года я прыехала ў Мінск да бацькоў. Я мела яшчэ латвійскі пашпарт і магла ехаць у СССР з «Інтурыстам». Гэтыя

паездкі каштавалі многа грошай, але да 1930 года можна было паехаць, пакуль не зачынілі граніцы. Так мы зноў спаткаліся ў Мінску і часта былі разам. Калі я вярнулася ў Прагу, мы перапісваліся. У 1928 годзе У. Жылка мне напісаў, што ён ажаніўся, і наша перапіска спынілася. Другі раз я прыехала к бацькам у Мінск у 1929 годзе. Тады У. Жылка прыйшоў да нас разам са сваёй жонкай Рымай і пазнаёміў нас. З 1929 года, калі я вярнулася з Мінска да Прагі, мы больш не спатыкаліся. Але я ведала пра яго лёс з лістоў маёй мамы.

У. Жылка быў вельмі эмацыянальны, але разам з тым пэўна ішоў да сваёй мэты. Ён горача любіў сваю радзіму Беларусь, любіў і ідэалізаваў Вільню як беларуска-літоўскі гістарычны цэнтр.

Я досыць доўга ведала У. Жылку, але мне цяжка пісаць пра яго. Я не магу ацаніць яго як паэта, гэта зрабілі гісторыкі літаратуры, галоўным чынам У. Калеснік, які шмат пісаў пра яго творчасць. Нашы адносіны бывалі розныя, але заўсёды заставаліся нязменнымі — мы верылі адно аднаму.

*1989*

Вінцэнт Жук-Грышкевіч

## УЛАДЗІМЕР ЖЫЛКА

Ужо дваццаць год прайшло ад смерці ведамага беларускага паэты Уладзімера Жылкі. Гожа і нам дакінуць некалькі фактаў з жыцця песняра ў сувязі з гэтымі сумнымі ўгодкамі.

Уладзімер Жылка нарадзіўся ў 1900 годзе ў вёсцы Макашы на Меншчыне. Вучыўся ў Менску. У часе расейскай рэвалюцыі 1917 года належаў да партыі беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў) і браў удзел у будове Беларускае Народнае Рэспублікі й Слуцкім паўстанні. На эміграцыі апынуўся разам з урадам БНР. Быў у Коўне, Рызе й Дзвінску. У 1921 годзе як адзін з камісараў урада БНР Жылка прыязджае ў Вільню й працуе ў віленскім паўстанчым асяродку, які падгатоўваў паўстанне супраць палякаў. Арганізаваны польскімі ўладамі працэс 45 беларусаў у Беластоку ў 1922 годзе загарнуў шматлікіх законспіраваных камісараў БНР. Шырокая хваля арыштаў пракацілася тады па ўсёй Заходняй Беларусі. Жылка мусіў хавацца. Урэшце ён нелегальна прыязджае ў Прагу чэшскую, дзе паступае на філалагічны факультэт універсітэта Карла, студыюе славянскую літаратуру і гісторыю.

Жылка ведамы не толькі як паэта, але і як грамадскі дзеяч. Ён уважаў, што грамадская праца ёсць першым і галоўным абавязкам кожнага беларуса, незалежна ад яго індывідуальных замілаванняў і прафесіі. «*Беларусь трэба падымаць!*» — казаў ён, паўтараючы словы Каруся Каганца. Таму, паводле яго, сваім улюбёным напрамкам

дзеяння можна займацца толькі ў вольным часе ад грамадскай працы. Так ён і рабіў. Пісаў свае вершы пераважна начамі. Ніколі не адмаўляўся ад грамадскай працы. Ніколі не прыкрываўся тым, што ён беларускі паэт і гэтага з яго хопіць. Ува ўсякай грамадскай справе ён быў адным з першых. Ён браў беларускае жыццё ўва ўсім разрэзе і ў кожнай галіне, дзе трэба было падтрыманне, быў чынным. Такая надмерная актыўнасць, відаць, і падкасіла яго маладыя сілы.

Аднак душу Жылкі напаўняе зацікаўленне літаратурай і ўласная паэтыцная творчасць. У 1923 годзе ў Вільні выходзіць яго першы зборнік вершаў «Уяўленне»[1], а праз год — другі зборнік вершаў — «На ростані». Жылка — эстэт-імажыніст. Ён смакуе паэзію Багдановіча, Дубоўкі і Пушчы. Вельмі паважна студыюе Верлена й Бадлера. Ён шукае новых формаў сваёй паэзіі, што адбівае самабытнае беларускае жыццё. Ягоная творчасць адраджае ўплывы выдатных мастакоў слова, а перадусім вышэй пералічаных. Яго паэзія з аднаго боку рэвалюцыйна-змагарная, глыбока патрыятычная, а з другога — квола-меланхалійная, адбіваючая хвараблівасць душы. І нічога дзіўнага — чаму. Жылка быў хварэючым паэтам, які страшэнна баяўся памерці на чужыне, далёка ад Бацькаўшчыны. Ён быў хворы на сухоты. Некалькі разоў лячыўся ў санаторыі на Маравах і ў Закарпацкай Русі на Квасах.

Нягледзячы на гэта, хвароба шпарка падразала яго кволыя сілы, бо клімат Чэхаславаччыны яму не спрыяў. Таму ён спяшаўся напісаць як найбольш і хацеў дастацца на Бацькаўшчыну, каб там спакойна памерці ў сваіх Макашах, хоць там і панавалі бальшавікі, якіх ён так ненавідзеў і з якімі змагаўся праз усё сваё жыццё. На гэтым усім палягала трагедыя жыцця і смерці паэты.

У тыя часы, у 1924 — 1926 гадах, сярод рознанацыянальнай эміграцыі былай расейскай імперыі шырылася хваля «зменавехаўства» — г. зн. жадання вярнуцца на Бацькаўшчыну і дастасавацца да новых бальшавіцкіх умоваў. Аднак Жылка быў далёкі ад «зменавехаўства». Ён вельмі добра знаў перфіднасць і жорсткасць бальшавікоў і ненавідзеў іх усёй душой. Толькі страх перад тым, што прыйдзецца паміраць на чужыне, далёка ад сваіх, ад улюбёнай Беларусі, — змусіў яго да павароту на Бацькаўшчыну. Бліжэйшыя сябры Жылкі — з аўтарам гэтых радкоў уключна, стараліся дапамагчы яму ў ягонай трагічнай сітуацыі, пераконвалі застацца на эміграцыі і выбраць якуюсь іншую вольную краіну замест павароту пад савецкае ярмо. З гэтай мэтай рабілі спецыяльныя сяброўскія сходкі ў чэшскай вёсцы Ліпаны — 25 кіламетраў ад Прагі, дзе разам з Жылкам пражывала значная частка беларускіх студэнтаў. Але ўсе аргументы губілі сваю сутнасць, калі ўлюбёны ўсімі паэта й сябра заяўляў са слязамі на вачох: «Я еду на Бацькаўшчыну не па тое, каб пакланіцца катам, дастасавацца да іх варункаў, а толькі па тое, каб яшчэ раз пабачыць Беларусь, надыхацца яе паветрам і спакойна памерці, злажыць свае косці ў роднай зямельцы — побач з касцьмі сваіх продкаў». Па такіх словах усе моўклі, наступала доўгая й няз-

носная цішыня. Нікому ў галаву тады не прыходзіла, што каты могуць пазбавіць чалавека нават яго натуральнага жадання спакойна памерці на роднай зямлі...

Жорсткая бальшавіцкая сапраўднасць топча ўсе святыя правы — Боскія і людскія. Жылка паехаў на Бацькаўшчыну ў 1926 годзе. Толькі кароткі час удалося яму пабыць на Беларусі. Не ведама нават, ці ён пабываў у сваіх Макашах, ці пабачыў сваіх старых бацькоў, але ведама добра, што ён быў загнаны на ссылку ва Уржум, дзе й памёр у 1933 годзе. Такім чынам не ўдалося яму злажыць сваіх касцей на роднай зямлі — трагічнае маладое жыццё кончылася трагічнай смерцяй.

*1953*

## Юрка Гаўрук

## СЕЙБІТ ЗАРЫ

> Толькі той, хто любіць люд,
> Толькі той — мой любы брат.
> *Ул. Жылка*

Упершыню я сустрэўся з Уладзімірам Жылкам у лістападзе 1925 года, калі прыехаў у Мінск дэлегатам ад Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі на навуковую канферэнцыю па пытаннях беларускага правапісу. [...] Тады ж вярнуўся на радзіму і паэт Уладзімір Жылка, які вучыўся ў Чэхаславакіі. Ён адразу ж стаў членам літаратурнага аб'яднання «Маладняк», і ў 1927 годзе выйшла ў свет кніга яго вершаў «З палёў Заходняй Беларусі». Аднаўляючы зараз у памяці вобраз гэтага вельмі своеасаблівага чалавека і паэта, я міжвольна прыгадваю Максіма Багдановіча. Ёсць у іх нейкія рысы роднасці, не ў сіле таленту, вядома, а ў творчых пошуках і ў жыццёвым лёсе. Абодва былі людзьмі высокай культуры, шчодрай душы, востра адчувалі хараство і памерлі ад сухот у маладым веку.

З Жылкам мяне пазнаёмілі сябры-маладнякоўцы. Раніцай на другі дзень ён зайшоў да мяне ў нумар гасцініцы «Еўропа» і запрасіў на снеданне, наладжанае для замежных дэлегатаў канферэнцыі. Я адмаўляўся, які ж я замежны, я — тутэйшы, але ён настойваў, жадаючы зрабіць мне прыемнае. Невялікага росту, хударлявы, элегантны, ён мне спадабаўся з першага разу. І ўсім ён нам спадабаўся сваёй ветлівасцю і добразычлівасцю. Мне думаецца, абаяльнасць гэтага чалавека вынікала з яго ўнутранай чысціні і бескарыслівасці. Ён амаль зусім не клапаціўся аб сабе. Поўны энергіі і прагі да актыўнай дзейнасці, ён заўсёды стараўся дапамагчы таварышам, дзяліўся з імі ўсім, што меў. Жылку давялося зазнаць шмат гора, яго, як трэску, кідала па свеце, ведаў ён і пра сваю фатальную хваробу. У вершах яго ёсць з гэтай прычыны і смутак, і боль, але на

11 Зак. 2780

людзях ён ні на што не скардзіўся. Яго цікавілі мастацтва і рэвалюцыйная рэчаіснасць. На гэту тэму ён гаварыў з захапленнем, поўны спадзяванняў і мар.

Мы ўвайшлі ў адзін з пакояў гасцініцы, дзе быў накрыты доўгі стол. Замежныя госці былі ўжо ў зборы. Жылка адразу ж пачаў мне нешта накладваць у талерку, шэпчучы: «Вось грыбочкі, а гэта гурочкі, частуйцеся». [...]

Прыязджаючы па справах у Мінск, я яшчэ некалькі разоў сустракаўся з Жылкам. Гаворкі былі розныя, часцей за ўсё мы абменьваліся поглядамі на літаратуру. Наогул Жылку любілі. Але часам вострыя на язык хлопцы трошкі жартавалі з яго сарамлівай далікатнасці і непрактычнасці.

Няма збавення,
Апроч пекнаты.
Ў маім маленні
Адзіная ты.

Гэтыя радкі з яго верша сталі крылатымі і цытаваліся некаторымі не без іроніі. Паэтычная формула рыцарскіх адносін да жанчыны здавалася некаторым старамоднай. І ўсё ж было ў ёй нешта такое, што прымушала задумацца і западала ў сэрца. У маю памяць урэзаўся другі, як мне здаецца, больш дакладны варыянт гэтай формулы: «Ў маім уяўленні адзіная ты». Вернасць, адданасць, гатоўнасць ахвяраваць сабой у імя народнага шчасця і сяброў былі той скрытай апорай, якая падтрымлівала Жылку маральна, перамагала хваробу і ратавала ад роспачы. [...]

Жылка ведаў мовы і займаўся перакладамі, некаторыя з іх чытаў мне ў рукапісе. Працягваючы традыцыі Максіма Багдановіча, ён выбіраў тое, што адпавядала яго мастацкаму густу, добрасумленна стараючыся перадаць асаблівасці арыгінала. Сістэматычных заказаў на пераклады мы тады яшчэ не мелі, кожны рабіў па-свойму, з энтузіязмам даследчыка-практыканта. «Вы толькі паслухайце, як яно гучыць, звярніце ўвагу на рытм і алітэрацыі», — гаварыў Жылка. Сапраўды, гучала яно добра, я хваліў, і Жылка чырванеў, як дзяўчына, страшэнна задаволены. Праз некалькі хвілін ён астываў. «А вы не знаходзіце, што гэтую мясціну трэба абавязкова выпукліць?» — пытаўся ён з трывогай. «Не, не знаходжу». І Жылка супакойваўся. Калі ж я раіў што-небудзь паправіць, ён часта згаджаўся. «Я і сам так думаў, яно і мне не падабаецца. Кульгавы сказ», — гаварыў ён з выглядам вінаватага, заліваючыся чырванню аж да вушэй.

Самы цікавы з вядомых мне яго перакладаў — паэма польскага пісьменніка Бруна Ясенскага «Слова пра Якуба Шэлю» аб сялянскім паўстанні ў Галіцыі. У гэтым складаным творы багата выкарыстаны фальклор. Сваёй структурай і пявучасцю ён нагадвае сімфонію:

Крапаў дождж. Плакаў дождж.
Зацярушваў шыбкі.

Галасілі, лабузілі
Ў цеснай хаце скрыпкі...

Перад намі дынамічны малюнак сельскай вечарынкі, сінтэз музыкі і жывапісу, вобразаў і настрою, свежасць і дакладнасць кожнага ўжытага слова. «Майстэрству можна навучыцца, калі ёсць цярпенне, а вось калі няма душы, то не будзе і паэзіі, — гаварыў Жылка і, падумаўшы, дадаваў: — Талент — гэта зерне, нават праросшы, без глебы не вырастае».

Апошні раз мне давялося бачыць Уладзіміра Жылку ў канцы дваццатых гадоў. Ад Кузьмы Чорнага я даведаўся, што ён ляжыць у бальніцы, і мы вырашылі разам наведаць хворага. Чорны вельмі любіў Жылку. Па дарозе купілі некалькі апельсінаў і распыталіся, у якой ён палаце. Ён выйшаў да нас у калідор, бледны, тоненькі, у палінялым блакітным халаце, і, як нам здалося, не надта ўзрадаваўся гасцям. Я паспешна перадаў яму апельсіны. «Гэта вы што, на смерць мне прынеслі?» — запытаў ён з поўнай сур'ёзнасцю. Я разгубіўся. Але тут умяшаўся Кузьма Чорны: «От яшчэ ўбілі сабе ў галаву. Не выдумляйце, пане браце. Паспееце з козамі на торг. Мы ў клопаце, каб вы хутчэй папраўляліся, а не то што выдумляць там усякае. Ешце на здароўе, бо калі што ад шчырага сэрца, то памагае лепш, чым тыя лекі».

Нам хацелася развесяліць хворага. Я расказваў пра навіны ў паэзіі, пра нашы літаратурныя спрэчкі. Кузьма Чорны жартаваў, стылізуючыся пад местачковага разумніка-дзядзьку. Жылка слухаў уважна, не перабіваючы. Размова яўна не клеілася. Адчуваючы, што наша прысутнасць яго стамляе, мы пачалі развітвацца. Ён глядзеў на нас доўга бліскучымі вачамі. Рука ў яго была халодная і вільготная. «От жа не шанцуе небараку. І трэба ж так! Харошы чалавек», — прамовіў Кузьма Чорны, выйшаўшы на вуліцу, і глыбока задумаўся.

*1971*

Максім Лужанін

## ВАНДРОЎНІК І ПАЭТ

З прыгадак пра Ул. Жылку

Дарога поруч прайшлася *нелапая*, ён падабаў гэта слуцкае слоўца. Іх ніяк не падлічыш цяпер, усе тыя літаратурныя сходы і дыспуты, рэдакцыйныя сустрэчы, сяброўскія застоллі, вячэрнія праходкі па горадзе...

Праўда, доўга хадзіць ён, хворы, не ўздужаў, часцей за ўсё я даводзіў яго да парога кватэры — жылі ў адным баку, каля вялікай рыначнай плошчы, непадалёку ад К. Чорнага і П. Труса. Аднак і за

тыя колькі дзесяткаў крокаў ён паспяваў сказаць штосьці ў навуку і табе і сабе. Меркаваў пра творы сучаснай паэзіі паводле высокай меры, як вымагалі яго добры густ і немалое майстэрства, а здавалася, нібыта гаворыць адны прыемнасці. Толькі як належыць раздумаўшыся пра пачутае, ты пачынаў чухаць за вухам, дакараючы сябе за няўмельства ці недагляд.

Жылка не прыніжаўся да саладжавасці, не выбіраў мяккіх слоў, а гаварыў далікатна, інача ён і не мог — далікацтва вынікала з характару, яно ўражвала і суразмоўніка і чытача, вар'юючы пагромшчыкаў ад крытыкі, каму яно ўяўлялася панскім сантыментам і раздуранасцю.

Шумных кампаній паэт цураўся, а калі трапляў туды, дык быў стрыманы: ведаў, што стаіць з ім поруч, што час ад часу зазірае ў вочы. Зразумець гэта давялося неяк 25 мая, калі мы адзначалі дзень заснавання «Узвышша» і, як заўсёды, па̀міналі Максіма Багдановіча — на тую самую дату прыпадала яго сумная гадавіна.

Перамагаючыся, цішэй, чым звычайна, Жылка напамянуў пра з'яву знадворна парадаксальную: слова — дзіця чалавечага пачуцця, чалавек можа надаць яму вечнае жыццё, тым часам, як сам...

Надышла маўчанка. Вырвалася, прабілася прытоенае горкае адчуванне паэта: падабенства лёсаў — Багдановічавага і ягонага, на даўжэйшы век ён мала спадзяецца, а вось пакінуць трывалае слова хацелася б...

Цяпер пра сустрэчы.

Нас пазнаёмілі, відаць-такі, у «Белай зале», была такая на забудаваным зараз кавалку вуліцы Урыцкага. Там, у зальцы гэтай, дарэчы, па-хатняму ўтульнай, звычайна гастралявала аперэта, гасцяваў тэатр «Крывое люстра», можна было пачуць цікавыя канцэрты і лекцыі.

На той вечар, што насілу праглядаецца праз пасмжу гадоў, сцэна была аддадзена нядаўняй студыі маладых і ўжо бліскучых — Малчанаў, Ільінскі, Саннікаў, Станюта! — акцёраў. Перад ад'ездам у Віцебск у якасці Беларускага другога тэатра новы калектыў «паказваўся» літаратарам.

І вось, здаецца, іду нешырокім праходам між крэслаў да месца, якое прыкрывае далонню — занята, маўляў, — нехта з мае паэтычнай раўні.

Заслона падымаецца, пачатак.

Выходзіць, была восень, дакладней — лістапад 1926 года. Якраз тады Жылка прыехаў на канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Проста з Прагі, дзе вучыўся ва універсітэце, друкаваў вершы ў студэнцкім часопісе «Прамень». Агледзеўся ў нас і застаўся назусім.

Перапынак, шумныя воплескі. У дзвярах курылкі — Міхась Чарот.

— Дай запалку! — Ён крыху ўзбуджаны, рады за сваіх сяброў, сам жа некалі крыху быў у акцёрах. Поруч з Чаротам добрымі вачамі глядзіць на яго малады чалавек, хутчэй бялявы, чым шатэн.

— Знаёмся з Жылкам!

— Уладзімер, — ціха кажа бялявы.

Кажу свае імя і я.

— Некаторыя выходзяць з «Маладняка», — з выклікам кідае Чарот, маючы на ўвазе, што з паўгода назад група літаратараў, і я ў тым ліку, пакінула гэту літаратурную арганізацыю, каб заснаваць новую — «Узвышша». — А ён уступае да нас, — паказвае Міхась на Жылку, — нават верш прысвяціў.

Тады «Маладняк» праўляў юбілей — споўнілася аж тры гады, і сярод іншых юбілейных матэрыялаў у перыёдыцы прысвячэнне гучала важка.

«Едуць, едуць паязджане» — я прыгадаў эпіграф да верша, упадабанага, відаць, за цікавую інструментоўку, — моладзь мела надмерныя нахілы да гэтага грэху.

Жылка пасур'ёзнеў з аблічча.

— Думаеце, «экспрэс» і «паязджане» не надта стасуецца?

— Стасуецца, стасуецца! — не даў скончыць размовы Чарот.

І яны ажыўлена загаварылі пра маёнтак, што пасля Кастрычніка адышоў пад дзяржаву: Міхась там трымаў кіраўніцтва, а Жылка быў аграномам — ён меў сельска-гаспадарчую адукацыю.

Быў час прыгледзецца да прыезджага. Цудоўна высокі лоб, ледзь пазначаны залысінамі, светлыя вочы, у іх то ўзгаралася, то згасала іскрынка весялосці, зграбная постаць... Вось хіба што аблічча занадта бледнае.

Прозвішча было вядома даволі даўно. Следам за Чаротавай «Завірухай» у маю скупенькую бібліятэку трапілі «Строма» Дубоўкі і «Уяўленне» Жылкі, кніжачкі, выдадзеныя ў адным і тым годзе — 1923 — і горадзе — Вільні.

Адразу запомнілася: «*На мапу Еўропы ўзышоў беларус...*» Не так даўно хацелі хоць бы «людзьмі звацца», а тут адваявалі месца на карце! І Жылка абяцае вялікую будучыню: «*Брацці, зраблю вас багатымі, зорамі высаджу край*». А таму дазваляе сабе гукнуць папярэднікам, каб болей не плакалі: «*Годзе! Бяседа ў нас шумная, ў хаце сялянскай багач*», або багатнік — даўняе асенняе свята кшталтам дня ўраджаю.

Маладосць бунтарыла, малявала надыход новага часу шырокімі мазкамі яркіх фарбаў. Гэта бунтарства кідалася ў вочы, працягвала повязі паміж «Босымі на вогнішчы» і «Уяўленнем». Зараз, слухаючы абодвух аўтараў, бачачы іх сябрамі, колішняя здагадка пра падабенства іхніх памкненняў рабілася больш пэўнаю.

Аднак не адступалася і другая думка: у абодвух творах лунае незабыўны крок «Дванаццаці». У размаху хады і намераў, у раскаванасці рытмаў і радкоў. А Жылка не ўсцярогся і кінуў на

абліччa беларуса, новага жыхара еўрапейскай карты, святло той постаці, што завяршае паэму Блока.

Гэта не спознены дакор паэтам, якія выхапіліся на грэбень паэтычнай хвалі новага часу. Пра блізкасць да Блока пісалася шмат: сябрамі, выпадковымі людзьмі, ворагамі. Хачу сказаць у гэтай сувязі, што жаночыя вобразы ў Жылкі, не зважаючы часамі на чыста блокаўскую пашанотнасць да іх, нязвыклыя абставіны з'яўлення, нарэшце, на інтанацыйнае падабенства радка, не трацяць самабытнасці, даюць адчуць зямлю, лес, паветра, адкуль яны нарадзіліся. А што вобразы гэтыя падаюцца ўзнёсла, у павевах любасці, цнатліва, гэта ўжо ад індывідуальнасці, той самай далікатнасці, якая дыктуе манеру выказвання.

Тым больш што ва ўяўленні Жылкі заўсёды жыў адзін жаночы вобраз — вяршыня творчых парыванняў паэта, вобраз зусім рэальны і шырокавядомы.

...Няйначай нядзеля. Бо як магло высыпацца сюды столькі жанок і дзяўчат. Паднядзеленыя, яны, пабраўшыся за рукі, пахаджаюць парамі, а то і цэлымі шэрагамі, займаюць галоўную алею на ўсю шырыню.

За пераробленай у газетны кіёск каплічкай на скверы, каля хлапчука з лебедзем, сядзім — Жылка, Сяргей Дарожны і я. Лепш сказаць, мы з Жылкам назіраем за Сяргеем. Ён вельмі пільна і заклапочана ўглядаецца ў чародкі жаночага птаства. І трэба, што на яго позірк некаторыя прыгажуні адказваюць позіркам, ці нават няўлоўнай усмешкай — ён і сам прыгожы, выглядае кавалерам на свае дзевятнаццаць. Тых зайздросных знакаў увагі нам з Жылкам не перападае: ён вельмі бледны і зняможаны, я — рудаваты, з рабаціннем на носе і зялёны. Зусім хлапчук. Пасмейваючыся, мы гаворым, што, мусіць, гэта выстаўка нявест. І гэта недалёка ад праўды.

У горадзе і наўкруг яго стаяць воінскія часці. Значыць, жаніхоў хапае! Гэта было вядома, што камандзіры і чырвонаармейцы, атрымаўшы звальненне, перш за ўсё наведваюць сквер.

Сягоння чамусьці вайсковай вопраткі амаль не значна.

— «Красивые во всем красивом, они несут свои тела», — Сяргей нарэшце адрываецца ад свайго любавання.

— Не да таго выпадку сказана, — мякка кажа Жылка. — Але, можа, крыху стасуецца, — дадае ён, відавочна баючыся, каб Сяргей не пакрыўдзіўся.

Той як быццам нічога не заўважыўшы, далучаецца да нашай з Жылкам гаворкі пра Блока, выхваляе Сяргея Ясеніна, ставіць яго над усімі іншымі.

Жылка ўсё часцей пакашлівае, сонца прыхоўваецца за мурамі, прахалода адчуваецца ўсё мацней і ён выказвае жаданне пайсці пад свой дах. Падымаецца, а за ім і я — хочацца дакончыць гаворку.

— А Сяргей, мусіць, тут пабудзе, — кажу, — лаўка вызваляецца, а ну падсядзе каторая...

— У вершах ён смелы, — ветла паджартоўвае Жылка. — Паэту і ў жыцці трэба быць такім. І тут...

Аднак Дарожны ідзе разам з намі і развітваецца на Юраўскай, забудаванай зараз, вуліцы. Знікае ў брамцы, ахінутай бэзам і баяркай.

Мы з Жылкам выходзім на Пралетарскую (цяпер вуліца Янкі Купалы). Ён прыпыняецца: куды пайшоў Сяргей? Я тлумачу, што за брамай знаходзіцца інтэрнат белпедтэхнікумаўскіх дзяўчат.

— Яго там чакаюць?

— У тым то і справа, што не... Адна была зірнула прыветна, а ён і прыстыў душою.

Жылка ідзе моўчкі. Потым прыгадвае гумілёўскага героя, што «нигде не встретил дамы, той, чьи взоры непреклонны». Каля свайго ганку, вяртаючыся яшчэ раз да пачатай размовы, дагаворвае, што вернасць — высакароднае пачуццё, яго не могуць пагасіць адсутнасць пачуцця сустрэчнага, нават здрада і нянавісць. Сумеўшыся, нагадвае радкі свайго верша. Наколькі помню, гэта былі: «Ў маім маленні адзіная ты...»

... Колішні Дом пісьменніка на Савецкай. За доўгім, накрытым саматканай посцілкай сталом марнатравяць час маладыя людзі. Самазабыўна гуляюць у шашкі і шахматы, абменьваюцца вострымі слоўцамі.

Зайшоў Жылка. Абсунуўся ў крайняе крэсла і толькі тады кіўнуў галавою ўсім адразу, за руку з кожным, як звычайна, не вітаецца. У пакоі цішэе, твар у паэта зямлісты, амаль шэры. Хутчэй здагадваюся, чым чую яго словы: — Калі маеш на рамізніка, завязі да доктара. Сваімі нагамі не дайшоў...

На сцяжынцы маладога саду, дзе стаяў сухотны дыспансер, Жылка абапіраецца на маё плячо. Перад ганкам стаў:

— Не шэйгайце здароўя, хлопцы... Вось я... Каб быў здаровы, сядзеў бы зараз і пісаў. А то, магчыма...

Насустрач выбягаюць людзі ў белых халатах. Жылка дакранаецца да рукі:

— Пра «Лявоніху» не забывай. Напішы... Не цяпер, дык калі пажывеш крыху...

— Сам, Уладзік, зробіш...

Ён адмаўляючы круціць галавой — доктар на мігі забараняе гаварыць.

Больш не бачыліся. Пасля выхаду з дыспансера Жылку давялося выехаць з Мінска. А ягоны наказ меў сваю гісторыю.

Пад час нашых праходак Жылка захапляўся героямі рускіх былін, прыгадваў веселуна і вастраслова Кола Бруньёна, асабліва ж вабіў яго Ціль Уленшпігель. Кожны народ, казаў ён, мае такога героя — дух весялосці, у якім аб'яднаны ўвесь аптымізм, дзёрзкасць, непаўторнасць, жыццёвая трываласць нацыі. Ёсць і ў нас, толькі прыгле-

дзецца і знайсці. І нечакана назваў імя: Лявоніха, дадаўшы: у гэтым вобразе зарад на многа твораў, з часам нехта звядзе ўсё ў адзін, на доўгія гады.

Мінаў час. Задума то набліжалася, то адыходзіла ў цень і ўмацавалася канчаткова ў сярэдзіне 1943 года. Рэпрадуктар на сцяне раптам абазваўся мілай мелодыяй «Лявоніхі». Усё прыгадалася, і работа рушыла з нечаканай хуткасцю: праз год было недалёка да заканчэння. Але завяршальныя раздзелы, галоўнае — накіды і нататкі, загінулі. Немцы наляцелі, апошні раз ужо, на Мінск. Бомбы клаліся ўздоўж пераезда, вуліца гарэла, я выскачыў цераз акно, не ўхапіўшы палявой сумкі, а вярнуцца па яе ў полымя не адважыўся. Усё, што засталося ад рукапісу ў Маскве, амаль на 30 год легла ў папку.

Запавет паэта, пра гэта сказана ў канцы паэмы «Лявоніха», — быў усё ж выкананы. Рабіў, як мог, як разумеў, як падняў.

Шкада адно: няхай бы прыклаў рукі да задумы ён сам, добры наш таварыш і спадарожнік.

*1980, 1997*

## Станіслава Плашчынская

## УСПАМІНЫ ПРА ЖЫЛКУ

У 1925 годзе (15 верасня) я выйшла замуж за паэта Язэпа Пушчу. Знаёміў ён мяне з сваімі сябрамі. Аднойчы мы пайшлі да Янкі Купалы, які нас запрасіў, каб пазнаёміцца са мною, і цёця Уладзя хацела паглядзець на жонку Пушчы. Яны любілі моладзь, у іх заўсёды было людна. Было гэта ў 26-м годзе, у пачатку зімы. Там мы пазнаёміліся з Уладзімірам Жылкам і Феліксам Купцэвічам, якія прыехалі з Прагі[1], дзе Жылка скончыў Пражскі універсітэт.

Гэта быў адукаваны, вельмі выхаваны інтэлігент. Ветлівы. Наш урад запрапанаваў ім застацца ў Мінску. Яны ўладкаваліся на працу ў газеце «Звязда». У нас была добрая 2-пакаёвая кватэра, добра абсталяваная. Мужчыны падружыліся, бывалі часта ў нас, вячэралі, пілі чай, а часам і бутэльку добрага віна. Бывалі ў нас Бабарэкі — Аня і Адам, Кузьма Чорны, Змітрок Бядуля, Міхась Чарот, Жылка з Пушчам чыталі свае вершы. Жылка расказваў пра Чэхію. Сядзелі дапазна.

Было ўсё так добра, утульна, гэтулькі было добрых сяброў. І раптам Пушча гаворыць, што хоча паехаць вучыцца ў Ленінградскі універсітэт на III— IV курсы.

У 1926 годзе ў нас нарадзілася дзіця. На лета мы ездзілі заўсёды ў вёску, да бацькоў Пушчы, у с. Каралішчавічы, што пад Мінскам. Да нас у госці прыязджалі на выхадныя Жылка, Купцэвіч,

Бабарэка, хадзілі ў лес, купаліся, загаралі. Мужчыны спалі ў пуні на духмяным сене.

Пушча працаваў да вучобы ў газеце «Звязда» і вечарамі выкладаў у музычным тэхнікуме беларускую мову і літаратуру.

У 1927 годзе мы паехалі ў Ленінград. Пушча перад ад'ездам парэкамендаваў Уладзіміра Жылку выкладаць мову і літаратуру ў тэхнікуме. Там Уладзімір Жылка і пазнаёміўся са сваёй жонкай Рымай. У 1928 годзе, летам, калі мы прыехалі на канікулы, то ўжо прыязджалі Жылка і Купцэвіч з жонкамі. Яны ажаніліся. Калі мы жылі ў Ленінградзе, то ў нашай кватэры жыў брат Пушчы, Ізыдор, які вучыўся ва універсітэце, і малодшы брат Уладзіміра Жылкі Косця. Праз некаторы час пераехаў і Жылка з жонкай. Перад самымі канікуламі атрымліваем ліст ад Уладзіка, дзе ён піша: «Братка Язэп! Я прадаў усю тваю мэблю, у мяне адкрылася крывахарканне, і дактары раяць ехаць у Ялту, а грошай няма. Калі вярнуся, зараблю грошай, адкуплю. Не хвалюйся».

Калі мы летам прыехалі, то ні мэблі, ні кватэры. Адзін пакой занялі чужыя людзі. Пушча павінен быў ісці да Чарвякова (ён да пісьменнікаў добра ставіўся), які даў паперку, каб у 24 гадзіны вызвалілі кватэру.

Болей ужо я не паехала ў Ленінград. Пушча жыў адзін, заканчваў універсітэт. (Калі Пушча вырашыў ехаць у Ленінград вучыцца, то ён пайшоў да наркама асветы Баліцкага, які стаў хадайнічаць аб пераводзе Пушчы ў Ленінград і даў яму персанальную стыпендыю — 75 рублёў на месяц.)

У 1929 годзе ў нас нарадзілася другая дачушка. І ў Жылкаў нарадзілася дачушка, а я яе яшчэ не бачыла, і мне вельмі хацелася пайсці да іх. Дзяўчынку назвалі Беатрычэ, як у Дантэ. Яны жылі ў невялічкім пакоі. Пасядзелі, гаспадары расказвалі пра Ялту, мора. Рыма іграла на піяніна, а малышка Беата ў такт музыкі дрыгала ножкамі. Беаце было ўжо тры месяцы, а нашай шэсць. Уладзік з Рымай у той вечар падарылі сваё фота, ялцінскае, якое ў мяне ёсць і зараз, хоць і ездзіла ў ссылку на Урал, з такім надпісам: «На ўспамін Пушчам ад Уладзіка і Рымы». Уладзік выглядаў не зусім добра, ён і быў хударлявы, а тут зусім, зусім схуднелы, бледны.

І вось настаў 30-ты год. Муж прыехаў з Ленінграда, і мы паехалі на вёску. У час зімовых канікул з Масквы прыязджаў Уладзімір Дубоўка і дамовіліся з Язэпам і Адамам Бабарэкам, што летам паедуць у Крым, на Каўказ — падзівіцца на прыгажосць гэтага краю. Вось яны паехалі да Дубоўкі. Меркавалі прабыць тыдні 2— 3, але прыехалі праз восем дзён. Пытаю ў мужа, чаму так хутка, а ён кажа, што нікуды яны не ездзілі. У Маскве жах што робіцца. Хапаюць людзей і арыштоўваюць, нават у цягніку: «Предъявите документы, пройдемте с нами».

Хлопцы пагаварылі і рашылі нікуды не ехаць, калі што здарыцца, то хай гэта будзе дома, каб ведалі родныя, дзе шукаць. Пушча

дапамагаў бацьку то касіць канюшыну, то яе сухую ўжо звозіць. 24 ліпеня быў страшэнны дождж, маланка, і ноччу, у такі страшэнны час, стук у вароты. Бацька выйшаў і пытае: «Хто там?» Старшыня сельсавета кажа: «Плашчынскі, адчыніце!» Калі адчынілі, то разам з ім увайшлі 4 вайсковых: 2 салдаты і 2 гэпэушнікі, вышэйшыя чыны. І забралі Пушчу, і павезлі ў «чорным воране» ў Мінск. У тую ж ноч забралі і Адама Бабарэку, у Маскве Дубоўку. Праз пару дзён я пайшла ў Мінск з перадачай, то стала страшна: колькі народу стаяла з перадачамі. Уся інтэлігенцыя горада сядзела за кратамі. Амаль уся універсітэцкая прафесура, рэктар універсітэта Пічэта, праф. Чаржынскі, Лёсік, а пісьменнікаў! Янка Купала параніў сябе кінжалам у жывот у пратэст таму, што рабілася. Купала і Колас сядзелі пад дамашнім арыштам.

Праз некаторы час я спаткалася з Рымай. Яна сказала, што ў тую ж ноч арыштавалі Уладзіка, але ён ляжыць у тубдыспансеры, яму вельмі дрэнна, зноў адкрылася крывахарканне.

Я пайшла разам з Рымай наведаць яго. Ляжаў бледны, схуднелы. Быў нам вельмі рады. Расказала яму ўсё, што здарылася з усімі хлопцамі, і аб тым, колькі народу стаіць з перадачамі і каго я са знаёмых бачыла там. Раіліся: можа, пайсці нам на курсы выхавацеляў? Развіталася я з Уладзімірам Жылкам назаўсёды. Балюча было глядзець на яго, так цяжка хворага, такога маладога. Было яму тады ўсяго 30 гадоў. На курсах трэба было запоўніць анкету, было такое пытанне. Рыма напісала, што муж ляжыць у тубдыспансеры, а я — што арыштаваны. Рыму прынялі, мяне не. Яшчэ некалькі разоў бачыліся з Рымай. Хадзілі па Беату ў яселькі. Нашы дарогі разышліся. Болей мы не сустракаліся з Рымай. Выслалі Жылку ў г. Уржум Кіраўскай вобласці.

*1990*

Яўхім Кіпель

## АПОШНІЯ ДНІ УЛАДЗІМЕРА ЖЫЛКІ

На ўсё жыццё запамяталіся нам тыя чэрвеньска-ліпнёвыя дні 1930 года ў Менску. «Чорныя вораны», набітая да адказу турма, НКВД, допыты і пачатак этапаў. Праз нявыказаныя пакуты, праз турмы: менскую, маскоўскія «Бутырки», валагодскую і, нарэшце, вяцкую наша група «нацдэмаў» прыбыла ў горад Кацельніч (Вяцкая, цяпер Кіраўская вобл.). Там мы спаткаліся з прыбылымі раней Кацярынічам і Савічам і тут жа пазней спаткаліся і з Жылкам. На рэгістрацыі ў камендатуры Кацярыніч заўважыў Жылку, але да яго не падышоў, бо не хацеў перад энкавэдыстымі выяўляць сваё знаём-

ства. Каб не згубіць следу Жылкі, мы выправілі Адама Міцкевіча на вывед, і праз гадзіну Жылка быў ужо сярод нас. З выгляду Жылка быў вельмі худы, але стараўся трымацца бадзёра. У часе хады задыхаўся, але ўсё ж не хацеў прысесці адпачыць. Паэт хварэў на сухоты і быў пэўны, што саманамовай можна перамагчы хваробу.

Жылка расказаў нам, што быў арыштаваны разам з намі і пасаджаны ў менскую турму. Але месяцаў за пяць ён так аслаб, што турэмныя дактары азначылі, што паэта не будзе жыць. Жылку адвезлі дахаты, дзе ён праляжаў месяцы з чатыры і крыху папраўіўся, пачаў хадзіць. НКВД яго сачыла, і як ён толькі крыху ачуняў, яму абвясцілі, што ён засуджаны на пяць гадоў высылкі. Аднак з увагі на яго хворы стан яму далі магчымасць выбару — ехаць пад канвоем або без канвою. Жылка, зразумела, выбраў апошняе і сам з'явіўся ў Кацельніч.

У Кацельнічы мы пабылі яшчэ пяць дзён. Да месца высылкі нам заставалася кіламетраў дзвесце пяцьдзесят у бок ад чыгункі. Нам быў дадзены выбар — ісці пехатой пад канвоем да месца высылкі або якнебудзь дабірацца самім. Мы наважыліся ехаць без канвою, па рацэ Вятцы да прыстані Мядзведкі. Ад гэтае прыстані нам трэба было раз'ехацца ў розныя бакі, кожны да свайго месца, вызначанага НКВД: я, Азбукін і Улашчык у г. Налінск, Жылка і Сасіновіч — у г. Уржум, Міцкевіч, Гурскі і Корань — у г. Малмыж.

На працягу пяцёх дзён мы шмат аб чым гаварылі. Жылка быў у Менску на Акадэмічнай канферэнцыі ў 1926 годзе. Яго акружалі ў часе канферэнцыі вылучна камуністы і ўсё ўгаворвалі застацца — не ехаць у Чэхію. Аднойчы неяк Жылка сустрэўся з намі — беларускімі патрыётамі — адзін на адзін і папытаўся ў нас, ці варта заставацца. Мы ўсе ў адзін голас параілі яму ехаць назад і жыць у Чэхіі. У гутарцы я прыпомніў Жылку нашы парады. Пачуўшы гэта, Жылка ўстаў і сказаў: «Ведаеш, браце, мае раны мне і так баляць — ты іх больш не цвялі». Я папрасіў выбачэння, ды больш аб гэтым ніхто нічога не ўспамінаў.

Мы купілі дзве лодкі — адну маленькую, а другую вялікую. У маленькую пасадзілі Жылку, каб яго ніхто не турбаваў і ён адчуваў сябе больш вольна. Маленькая лодка была прывязана да вялікае, і пасажыру гэтае лодкі не трэба было веславаць. За капітана нашае «эскадры» быў Міцкевіч, бо ён нарадзіўся і выгадаваўся на Нёмане. З нейкае пасцілкі, ахвяраванае добрымі людзьмі, ён зрабіў ветразь, і мы цэлы дзень ехалі не вяслуючы, але пад вечар наляцеў буй-вецер, парваў сціплы ветразь і ледзь-ледзь нас не патапіў. Ехалі ўдзень, а ўначы раскладвалі вогнішчы і адпачывалі.

За тыдзень мы прыехалі на апошнюю прыстань Мядзведкі, адкуль мусілі разысціся на пяць гадоў у розныя бакі. Тут мы даведаліся, што ў тым горадзе, дзе будзе адбываць высылку Жылка, няма добрага доктара. Таму паэта папрасіў у тутэйшага НКВД дазволу паехаць з намі ў Налінск на тры дні на кансультацыю да доктара.

Тры дні быў з намі Уладзімер Жылка. На чацвёрты дзень мы нанялі хурманку і паэта паехаў да месца свае высылкі ў г. Уржум.

Першы час мы досыць акуратна ліставаліся, Жылка ніколі ні на што не наракаў. Неўзабаве мы даведаліся, што ён знайшоў працу ў тамтэйшай бібліятэцы.

Але за колькі месяцаў мы атрымалі ад Сасіновіча ліст, у якім ён пісаў, што Жылка адчувае сябе вельмі дрэнна. Мы, параіўшыся паміж сабою, пастанавілі прапанаваць паэту кінуць працу і атрымліваць ад нас, сваіх суродзічаў, пасяродкі на жыццё. Жылка вельмі пакрыўдзіўся. Ён напісаў нам ліст, у якім, дзякуючы за наш добры намер, заўважыў, што яму міласціна не трэба, бо ён заробіць і сам сабе на хлеб.

У канцы лістапада 1932 года Уладзімер Жылка лёг у бальніцу. І помню, што чацвёртага сакавіка 1933 года я атрымаў ад Сасіновіча ліст, у якім ён пісаў:

*«Сябры, падаю вам сумную вестку — няма сярод нас Уладзімера Жылкі. Першага сакавіка а сёмай гадзіне ўвечары ён памёр. Пахаваў я яго на тутэйшых могілках трэцяга сакавіка а пятай гадзіне ўвечары...* » Далей мы даведаліся з ліста, што, калі Уладзімер Жылка не мог падняцца з ложка, за тыдзень да ягонай смерці, да яго прыйшоў у бальніцу энкавэдысты. Ён заявіў, што НКВД дазваляе Жылку змяніць месца высылкі і нават дазваляе выехаць на поўдзень. У той жа час выклікалі ў гарадскі аддзел аховы здароўя Сасіновіча і сказалі, што калі толькі будуць патрэбныя грошы на пераезд Жылкі, дык гэтыя грошы асігнуе гарадскі аддзел. А ў паэты ў гэты час пачалася ўжо агонія...

Тыдні за два пасля смерці Уладзімера Жылкі я атрымаў ад Сасіновіча ліст, але ўжо не поштай, а праз знаёмых людзей. Адчыніўшы ліст, я прачытаў: «*Тастамент, або Духоўніца, адпісаная Уладзімерам з Адама і Таццяны сынам Жылкавым...*».

Я зрабіў усё ад мяне залежнае, каб старанна перахаваць гэты выдатны мастацкі твор, а пасля сканчэння свае высылкі пазнаёміў з ім усю нашу грамадскасць.

Калі я ўспамінаю цяпер тыя апошнія дні, праведзеныя з Жылкам, на памяць усплываюць радкі з аднаго ягонага верша, які ён прачытаў нам у дарозе ад Кацельніча да Мядзведкаў:

> Але нам будуць ўсё ж мілейшы
> Часы, калі з нізін, балот
> З надзеяй ў шчаснасць дзён святлейшых
> Устане ўзбуджаны народ.
>
> Не відна йшчэ ў завірусе,
> Куды ляжыць ягоны шлях.
> Але дух творчы ў Беларусі
> Жыве й змагае долі жах.

...Бяжыць суровая Вятка. Чытае свае вершы Уладзімер Жылка. Мы, сцяўшы зубы, яшчэ мацней налягаем на вёслы, бо ў нас не згас-

ла вера ў тое, што наша ідэя правільная. Мы цвёрда перакананыя, што наш народ скіне гвалтоўную маскоўскую ўладу і Беларусь зробіцца вольнаю і самастойнаю.

*1962*

Вітаўт Кіпель

## ЗГАДКА ПРА «ТАСТАМЕНТ»

Мы на ссылцы разам былі. Я быў яшчэ малы хлапец. І як Жылка памёр, «Тастамент» трапіў да бацькі. Чаму? Бо яны з Жылкам былі знаёмыя даўно, і бацька потым, ужо ў ссылцы, напомніў паэту:

— Я ж табе казаў не пераязджаць на Беларусь.

А Жылка ў адказ:

— Ты мне не ўказвай, што рабіць...

А Жылку ж была прапанова пераехаць у Чыкага і стаць загадчыкам Аддзела славянскай бібліятэкі. Яму запрапанаваў гэта Чарапук-Змагар. Адкуль ведаю? Бо мне бацька расказаў. Дык вось, Змагар запрапанаваў яму прыехаць у Чыкага і стаць загадчыкам славянскага аддзела. Але Жылка выбраў Бацькаўшчыну. Дарэчы, першая прапанова адносна бібліятэкі была зроблена Ластоўскаму: прыехаць у Чыкага і быць загадчыкам Славянскага аддзела. Магчыма, што і перапіска ёсць пра гэта.

Мой бацька, ведаючы гэта, некалькі разоў падчас канфэрэнцыі правапіснай з ім сустракаўся. І вось была гаворка. Бацька мой казаў: «Дурнем будзеш, калі сюды паедзеш». Бо ўжо тады было відаць, куды пойдуць змены. Бо Вальфсон стаяў высока ва універсітэце, а ўсім астатнім па боку далі. І вось, калі Жылка памёр, там быў такі Сасіновіч. І Сасіновіч прывёз бацьку «Тастамент». Бацька даў маці, кажучы: «Маня, як там яно будзе і што там з намі будзе — схавай».

Маці ўклеіла рукапіс пад века чамадана. Але праз 6 месяцаў бацьку перавялі з Налінска ў Вятку. І з таго часу ён забыўся пра Жылкаў твор. І як нам забаранілі ехаць на Беларусь, дык «Тастамент» у гэтым чамадане, у Арле і быў разам з намі. Калі бацька выйшаў з канцлагеру ў 41-м годзе і прыехаў, толькі тады маці і сказала, што захавала. Тады бацька кажа: гэта трэба шанаваць.

І як толькі мы прыехалі ў Менск у 42-м годзе, то бацька са станцыі праміком па завалах (Мінск жа разбіты ўвесь быў) пайшоў у друкарню.

І вось «Беларуская газэта» «Тастамент» апублікавала. І добра зрабіла. Бо мог згубіцца такі выдатны твор.

Куды дзець арыгінал, я пакуль не ведаю. Але няхай пакуль захоўваецца ў нас, у Амерыцы.

*1997*

## Мікола Улашчык

# УСПАМІНЫ

(З лістоў да У. Калесніка)

## № 1

Я ведаў Жылку з таго часу, як ён з'явіўся ў Мінску (не памятаю добра — у 1926 ці 1927 гг.) Я ў той час вучыўся ў ун[іверсітэ]це і адначасова працаваў у Дзяржаўнай бібліятэцы, куды заходзілі ўсе культурныя дзеячы Мінска. Жылка скора стаў рэдактарам «Літаратурнай старонкі» газеты «Звязда», якая выходзіла адзін час па нядзелях (Вам варта прагледзець камплект гэтых старонак, калі Вы не зрабілі гэтага і без мае рэкамендацыі). Здаецца, два разы даваў у гэту старонку некалькі артыкульчыкаў і я. У гэты ж час намеснікам рэдактара «Звязды» быў Купцэвіч, які ў 1928 ці ў 1929 гг. пераехаў у Маскву і стаў там фрэзероўшчыкам, а адначасна пісаў крытычныя артыкулы ў «Узвышша». Купцэвіч пералісваўся з Жылкам у 1931— 1932 гг., але праз некаторы час знік і цяпер ніхто не ведае, дзе і калі ён скончыў сваё жыццё. Я ведаў яго жонку, але яна і сама нічога [не] чула пра лёс свайго мужа.

Памятаю, што ў рукапісе «Тастаменту» былі некалькі раз шматкроп'і, але не больш як тры разы: першы раз, здаецца, тры радкі, пасля два разы па аднаму радку. Думаў, гэта зроблена таму, што аўтар адчуваў сябе вельмі дрэнна, баяўся, што не паспее скончыць і адсылаў тое, што было. Пра тыя радкі, што Вы прыслалі, не магу сказаць нічога, бо ў памяці яны не захаваліся.

Калі ў Уржуме архіў у гаспадыні забраў не брат паэты, то гэта мог быць толькі Бэндэ, які рабаваў усе архівы пісьменнікаў (апрача Бэндэ ніхто з пісьменнікаў ці літаратуразнаўцаў пэўна не ведаў, калі і дзе памёр Жылка).

Жонка Жылкі прыязджала да яго ў верасні 1931 г., пражыла там да чэрвеня ці ліпеня 1932 г. і затым паехала ў Ленінград.

У Мінску я ніколі не спатыкаўся з Жылкам неафіцыйна, а толькі ў бібліятэцы ці ў рэдакцыі «Звязды». З журналістаў таго часу (большасць рэдакцый у той час змяшчалася ў адным будынку, дзе было і Дзяржаўнае выдавецтва), які пэўна ведаў Жылку, але таксама не блізка, зараз жывы Алесь (Аляксандар Лявонцьевіч) Матусевіч.

Вы, пэўна, ведаеце з літаратуры, што зборнік вершаў Жылкі («З палёў Заходняй Беларусі») быў сустрэчаны крытыкаю (у той час кожны часопіс лічыў амаль сваім абавязкам аблаяць кнігу аўтара, які быў у другой арганізацыі) варожа. Пасля была вельмі непрыгожая гісторыя, калі ініцыяламі Жылкі («Ул.Ж.») падпісваўся, здаецца, Дудар, што выклікала пратэсты Жылкі.

Вось, здаецца, і ўсё, што я магу паведаміць Вам. [...]

Пра Жылку павінен ведаць Шушкевіч, які так многа піша пра загінуўшых, хаця ў свой час Шушкевіч быў у БЕЛАПП, а Жылка, пэўна, у «Узвышшы».[...]

*4 кастрычніка 1969 г.*

## №2

[...] Бясспрэчна, што пакладацца толькі на памяць, успамінаючы пра падзеі, якія адбыліся 37 гадоў назад, нельга, але пра некаторыя дэталі магу казаць зусім упэўнена. Той «Тастамент», які прысылаў мне Жылка, быў значна меньшы ад таго, што маеце Вы. Той экземпляр, што быў у мяне, пэўна, заняў бы не больш як 3 машынапісныя старонкі.

Зусім пэўна магу сказаць, што з сучаснага тэксту ў мяне былі тыя раздзелы, якія стаяць пад нумарамі 15, 20 і 23, але, мне здаецца, што нумар 15 знаходзіўся ў самым пачатку, гучаў як уступная частка. Выходзячы з гэтага, аднак, ніяк нельга рабіць вывад, што нехта дапісаў рэшту; найбольш верагодна, што Жылка, цяжка хворы, паслаў мне ўрывак. Дарэчы, ці ёсць у Вас той верш пра трох сяброў, аб якім я пісаў Вам? На гэты верш я пісаў яму адказ.

Цяпер пра дэталі. Наколькі памятаю, арыштаваны Жылка быў не ў 1929, але ў 1930 г., прыблізна ў чэрвені. Пад арыштам прабыў каля 3-х месяцаў. У г. Кацельніч (Кіраўская вобл., на рацэ Вятцы) прыехаў у пачатку жніўеня, значыцца, з Мінску адправіўся ў канцы ліпеня. З Кацельніча да прыстані Мядведак (на р. Вятцы, проці Уржума, які знаходзіцца ўбаку ад ракі) плыў лодкаю (Жылка зваў яе «чайкаю») у таварыстве з 7-мю іншымі. Плылі з 4 па 10 жніўеня. Сасіновіч (студэнт-прыродавед Белдзярж. ун-ту) не быў жанаты і не было чуткі, што ён ажаніўся, покуль быў жывы Жылка. Жылка на яго крыўдаваў, казаў, што яны амаль не спатыкаюцца. Пра тое, што ў лютым 1933 г. Жылка атрымаў дазвол выехаць у Крым, ужо пісаў Вам.

[...] З узвышаўцаў зараз у Мінску жывуць Крапіва, Глебка і Лужанін, але пра Жылку, пэўна, больш ведаюць Юрай Паўлавіч Гаўрук і Дубоўка. Калі будзеце пісаць ім, то прашу не спасылацца на мяне, бо ні з кім я гэтага не пагаджаў.

[...] Знаёмства маё з Жылкам было вельмі кароткім і я прачытаў у Вашым артыкуле шмат для сябе новага.

У 1917 г. я паступіў у вышэйшую пачатковую школу, якая ў той час змяшчалася на сучасным Пляцы Волі, у будынку ранейшага духоўнага вучылішча, а пазней Камісарыяту асветы (дом застаўся цэлы). У класе кароткі час (можа да новага году) вучыўся Жылка. Ці не быў гэта брат Уладзіміра?

*16 кастрычніка 1969 г.*

№3

[...] Дзякуй Вам за кніжку, прысланую мне, а таксама дзякуй і ад аўтара, паколькі сам ён не можа гэтага зрабіць. Сярод пакінутых і забытых Жылка быў, пэўна, самы пакінуты і забыты. Павінен сказаць, што партрэт яго на вокладцы няўдалы: твар надта напружаны, што для Жылкі было зусім неўласціва[1]. Вельмі добрае фота, якое цалкам перадавала выраз Жылкі, было змешчана ў ЛіМе. Наогул, гэта быў вельмі мяккі па характару і вельмі культурны чалавек. Здаецца, пісаў Вам, што сярод апошніх лістоў ён прысылаў мне свае пераклады, [дзе] былі вершы скандзінаўскіх паэтаў. Але ўсё гэта як у тумане, бо было напачатку 1933 ці ў канцы 1932 г.

*22.VII.70.*

№4

[...] Атрымаў кнігу пра Тарашкевіча, і праз некалькі дзён Вашу пра Жылку. Абодва з Заходняй Беларусі, абодва выдатныя людзі. Як добра, што знайшліся людзі, якія ўспомнілі добрым словам гэтых людзей. Тарашкевіча ніколі не бачыў, але ў 1919-1920 гг. вучыўся ў школе па яго граматыцы, з Жылкам сустракаўся, але мала, больш быў знаёмы з некаторымі з тых людзей, пра якіх Вы ўспамінаеце ў сваёй кнізе.

З іх усіх быў найбольш знаёмы з Купцэвічам. У лютым-сакавіку 1930 г., калі жыў у Маскве, амаль кожны вечар заходзіў да яго, хаця і было няёмка, бо ён, адрабіўшы ўвесь дзень на станку, вечарам пісаў свае нарысы. Ён інтэнсіўна перапісваўся з Жылкам, я атрымаў ад яго адзін (здаецца, так, але не больш як два) ліст у канцы 1932 г.

Вы вельмі трапна заўважылі, што крытыкі 20-х гадоў «біліся» без усякіх правілаў і вельмі мала хто з іх лічыў, што гэта справа сур'ёзная, а раз так, то трэба вучыцца. Успамінаецца вечар, калі пачалі абмяркоўваць «Два»[2]. Хтосьці выступіў і зрабіў некалькі крытычных заўвагаў. Тады сарваўся Барашка і вельмі тэмпераментна закрычаў, што такой крытыцы грош цана. Напісалі хлопцы цэлую кнігу, і добра. Няма чаго длубацца ў нейкіх там недахопах. Вот калі напішуць «Тры», то пэўна і без крытыкі будзе лепш. Гародня — гэта адна з самых гідкіх фігур таго часу (горшы хіба што быў Бэндэ). Дык вось на гэтым фоне такія, як Жылка і Купцэвіч выглядалі надта прывабна. У іх была і культура, і чалавечнасць, і розум. Дарэчы, калі адзін раз, седзячы каля вогнішча ў дарозе, пачалася гаворка, то Жылка (не памятаю, з якой прычыны) загаварыў пра творчасць Платона. Хто ў той час мог гаварыць пра гэта?!

Я не ведаў, што Жылка быў здаўна знаёмы з Чаротам. У той час, калі Жылка стала жыў у Мінску, я ніколі не бачыў іх разам. Надта розныя гэта былі людзі.

Некалькі разоў вы ўспамінаеце пра Краскоўскіх, усяго часцей пра дачку — Людмілу. Я яе не бачыў, ведаў толькі самога Краскоўскага (ён быў дацэнтам ун[іверсітэ]ту і вёў у нас семінар па гісторыі Беларусі). Кваліфікацыі на гэта ў яго не было, але справа не ў тым: ён надта кепска зарэкамендаваў сябе. Мне здаецца, што Жылка з ім самім блізкі не быў [...].

Успамінаеце Сасіновіча і Кораня. Добрыя адносіны ў Жылкі з Сасіновічам, відаць, склаліся, калі да Сасіновіча прыехала жонка. Раней такімі не былі. Корань, чалавек надта экспансіўны («Пстрыкун») не быў цікавым чалавекам. Ён паехаў разам з Міцкевічам (здаецца, стрыечным братам Коласа) і былым дырэктарам Дзяржаўнага тэатра ў Мінску Міхасём Гурскім у Малмыж — гэта на поўдні Кіраўскай вобласці).

Успамінаеце тут і Антона Адамовіча. У яго была вельмі моцная памяць. Каб запомніць доўгую паэму, [яму] трэба было прачытаць два разы, на верш заўсёды ставала аднаго разу.

Яшчэ некалькі заўваг пра апошні падарож Жылкі. Прыехалі (прыплылі) на прыстань Мядведак 10 жніўня, плылі шэсць сутак, значыцца, выехалі з Кацельніча 4.VIII. У той час у Кацельнічы быў Ігнат Савіч, былы юрысконсульт «Беларускай вёскі». У яго і затрымаўся Жылка, покуль не пад'ехалі з Вяткі яшчэ 7 чалавек, якія набылі лодкі. Начавалі дарогаю ў лодках. Дні былі ветраныя, ночы халодныя. Цешыла толькі тое, што ўсё ў тым краі было надзвычайна таннае (на апошнім прыпынку ў Лябяж'ім куплялі яйкі па капейцы штуку). Развіталіся ў Мядведку, мала спадзяючыся на што добрае. Я быў самы малодшы з усіх і зараз, пэўна, адзін толькі і застаўся жывы[...].

*5.III.1978 г.*

## Мікалай Шарсценнікаў

## ЛЁС ПАЭТА

Ішоў верасень 1931 года. У нядаўна адчынены Уржумскі медыцынскі тэхнікум зайшоў хударлявы, нездаровага выгляду чалавек.

— Я хачу прапанаваць сябе на пасаду загадчыка гаспадаркі, які патрабуецца тэхнікуму, — былі словы наведвальніка.

Гэта быў паэт з Беларусі Уладзімір Адамавіч Жылка, што вымушана стаў жыхаром горада Уржума ў выніку высылкі на часовае пасяленне.

— Мне патрэбна праца, каб жыць, — працягваў наведвальнік з умольным выразам на твары.

Так адбылося знаёмства паэта з аўтарам гэтых радкоў, і дыялог закончыўся згодай прыняць У. А. Жылку на працу загадчыкам гаспадаркі з дабаўкай некалькіх педагагічных гадзінаў па літаратуры. Заўсёды будзе помніцца, як пасля такога вырашэння пытання твар У. А. Жылкі раптоўна зрабіўся адухоўленым.

Усяго некалькі месяцаў здолеў папрацаваць паэт... Неўзабаве рэзка ўскладніўся застарэлы туберкулёзны працэс у лёгкіх, які надоўга паклаў Уладзіміра Адамавіча ў ложак.

Навучэнцы і выкладчыкі тэхнікума вельмі высока цанілі працу свайго новага настаўніка і таварыша і заапекаваліся адзінокім хворым, якога да таго ж пакінула жонка. Кватэрная гаспадыня А. А. Рукавішнікава ўзяла на сябе высакародную місію даглядаць і клапаціцца пра хворага паэта, а доктары У. І. Гольдблат і аўтар гэтых радкоў, сябры-выкладчыкі І. Я. Сасіновіч, М. М. Вячорка, М. І. Зубарава, Л. Ф. Шарсценнікава ды іншыя стараліся развеяць самоту прыкаванага да ложка Уладзіміра Адамавіча, размаўляючы з хворым на самыя разнастайныя тэмы.

І вось надышоў першы сакавіцкі дзень 1933 года. Я раніцай зайшоў наведаць хворага і пад ягоную дыктоўку напісаў паштоўку на імя брата: *«Хворы небяспечна, як ніколі. Пытанне пра смерць не сыходзіць з парадку дня. Звярніся да Петрыка, Кастуся, каб прыслалі па сто рублёў. Вельмі трэба. Ачуняю, вярну. Будзь моцным»*. Распісаўся ўласнаручна.

А ўвечары ўржумскія сябры сабраліся па трывозе вакол паміраючага, які час ад часу кідаў ажыўленыя погляды на прысутных, нешта спрабуючы сказаць... А шостай гадзіне вечара перастала біцца сэрца беларускага паэта У. А. Жылкі, якога цяпер гэтак шануе народ квітнеючай рэспублікі.

У апошні шлях нябожчыка праводзілі навучэнцы, выкладчыкі тэхнікума і сябры. Цяпер на гарадскім Уржумскім могільніку над магілай паэта пастаўлены сціплы помнічак.

Вось некалькі крэсак у кароткі жыццяпіс беларускага паэта Уладзіміра Адамавіча Жылкі, які адышоў у лепшы свет на трыццаць трэцім годзе жыцця.

*1975*

# КАМЕНТАРЫІ

Гэта найбольш поўнае выданне творчай спадчыны Уладзіміра Жылкі — выдатнага беларускага паэта з трагічным лёсам. Куды больш трагічным, чым у ягонага геніяльнага папярэдніка — Максіма Багдановіча. У аднатомніку сабраны вершы, мастацкая проза, дзённікавыя запісы, пераклады, літаратурна-публіцыстычныя выступленні, лісты. Апрача таго ў раздзеле «Дадатак» друкуюцца ўспаміны людзей, якія ведалі паэта. Жывыя і трапяткія згадкі сяброў і знаёмых істотна дапаўняюць воблік малавядомага аж да сёння майстра паэтычнага слова.

Значная частка паэтычных твораў публікуецца паводле прыжыццёвых выданняў: «Уяўленне» (Вільня, 1923), «На ростані» (Вільня, 1924), «З палёў Заходняй Беларусі» (Менск, 1927). Улічаны таксама і грунтоўныя выданні, падрыхтаваныя Уладзімірам Калеснікам: «Вершы» (1970), «Пожні» (1986), шматлікія публікацыі ў перыёдыцы. Шэраг твораў друкуецца паводле «Твораў», якія пабачылі свет у Нью-Йорку (1955 г.) пад рэдакцыяй Антона Адамовіча.

Што да літаратурна-публіцыстычных выступленняў — большасць гэтых артыкулаў не ўключалася раней у кнігі Ул. Жылкі. Тут яны друкуюцца паводле газетных і часопісных прыжыццёвых публікацый.

Асноўнай тэксталагічнай крыніцай пры складанні аднатомніка паслужылі «Творы» (1996; укладанне і прадмова У.Калесніка). Каб пазбегнуць блытаніны з выданнем пад рэдакцыяй Антона Адамовіча, пры спасылцы на гэтыя кнігі пазначана месца выдання. Аднак і гэтыя выданні тут значна дапрацаваны і дапоўнены новымі матэрыяламі.

Творы, апублікаваныя паэтам пад уласным прозвішчам, асобна не агаворваюцца.

Літаратурна-крытычныя і публіцыстычныя творы датуюцца годам апублікавання.

Тэксты твораў друкуюцца згодна з правіламі сучаснай арфаграфіі і пунктуацыі з захаваннем асаблівасцяў аўтарскай мовы. Заўвагі Ул. Жылкі пакінуты ў падрадкоўі.

Укладальнік выказвае падзяку за дапамогу ў падрыхтоўцы выдання даследчыкам У. Міхнюку, М. Клімовічу, А. Каўку (Масква), А.Лісу, Г.Запартыка, А.Хатэнцы, С.Панізніку, С.Вітушку (Вільня), А.Сідарэвічу, унучатаму пляменніку паэта С. Ржэчыцкаму, супрацоўнікам краязнаўчага аддзела Уржумскага музея (Расія).

Напрыканцы яшчэ раз асобна адзначым шматгадовую працу нястомнага Уладзіміра Калесніка — біёграфа і даследчыка творчага шляху Ул. Жылкі, асноўнага першапублікатара ягоных твораў.

## ВЕРШЫ

### *Згінь, нядоля (с.23)*

Друкуецца паводле газ. «Беларусь», 1920, 13 лют., дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *Ул. Ж.* з пазнакай: *1918.*

[1] Паходжанне псеўданіма і прыналежнасць верша, выкарыстанага ў якасці эпіграфа, высветліць не ўдалося.

### *Беларусь (с.24)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 45.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, 28 крас., дзе апублікаваны пад крыпт. *Ул. Ж.*; датуецца годам апублікавання.

### *Покліч (с.25)*

Друкуецца паводле газ. «Беларусь», 1920, 25 студз., дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *Ул. Ж.*; датуецца годам апублікавання.

Верш створаны ў рэчышчы гэтак званай «ваяцкай паэзіі», да якой звярнуліся пасля абвяшчэння БНР і спробаў стварыць беларускае войска многія паэты (Я. Купала, А. Гарун, З. Бядуля і інш.). Верагодна, Ул. Жылка напісаў свой твор пад уплывам вядомага «Ваяцкага гімна» Макара Краўцова, які быў надрукаваны таксама ў «Беларусі» годам раней. Паказальна, што ў гэтым першым надрукаваным вершы Ул. Жылка звярнуўся да незалежніцкай сімволікі. Менавіта за гэты дэбютны твор паэт трапіў напрыканцы 1920-х гг. пад разносную крытыку. Вось што пісаў Т. Глыбоцкі ў артыкуле «Паэта, які падаваў надзеі»: «У той час, калі ўсе беларускія паэты сталі пад сцяг Савецкай Беларусі, Жылка пісаў яшчэ

*Пад штандар бел-чырвона-белы*
*Гуртуйся, раць, адважна, смела...*

Трэ было быць безвыхадным вар'ятам, каб у сягонняшні дзень думаць пра «бел-чырвона-белы штандар...». А да чырвонага штандару Жылка не дайшоў...» (Полымя, 1928, № 2, с. 217).

[1] *Альгерд* (каля 1296—1377) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага (1345—1377), праводзіў палітыку аб'яднання ўсходнеславянскіх зямель, паспяхова даваў адпор крыжакам. За час яго княжання тэрыторыя ВКЛ павялічылася больш чым удвая.

[2] Магчыма, маецца на ўвазе Ізяслаў Уладзіміравіч (?—1001) — князь полацкі (988—1001), сын Рагнеды Рагвалодаўны. З яго імем звязана аднаўленне полацкай княжацкай дынастыі Рагвалодавічаў і палітычнай самастойнасці Полацкага княства. Мяркуецца, што пры ім адбылося прыняцце хрысціянства на Полаччыне, уведзена пісьменства. Ізяслаў Уладзіміравіч мог прыцягнуць увагу Ул. Жылкі як першы князь-кніжнік, пра якога Ніканаўскі летапіс паведамляў: «Бысть же сий князь тих и кроток, и смирен, и милостив, и любя зело и почитая священическии чин иноческий, и прилежаще прочитанию божественных писаний, и отвращаяся от суетных глумлений, и слезен, и умилен, и долготерпелив».

### *Я кахаў (с.26)*

Друкуецца паводле выд.: На ростані. С. 34.

Упершыню — газ. «Беларускае жыццё», 1920, 9 лют., дзе апублікаваны пад крыпт. *Ул. Ж.*; датуецца годам апублікавання.

### *Матылі (с.26)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 115.

Упершыню — газ. «Рунь», 1920, 6 чэрв., дзе апублікаваны пад крыпт. *Ул. Ж.*; датуецца годам апублікавання.

### *«Мы любім даўнія паданні...» (с.27)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 42.

Упершыню — газ. «Наша думка», 1921, 6 траўня; датуецца годам апублікавання.

### *Замчышча (с.28)*

Друкуецца паводле выд.: На ростані. С. 19.

Упершыню — газ. «Наша думка», 1921, 6 траўня; датуецца годам апублікавання.

### *«Вельмі шаноўны пан Рэдактар!..» (с.29)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 27.

Упершыню — газ. «Наша думка», 1921, 1 ліп., дзе надрукаваны з пазнакай: *1.VII.1921.*

[1] *... пан Рэдактар...* — Гарэцкі Максім (1893—1938), класік беларускай літаратуры, у 1920-21 гг. рэдактар і выдавец газеты «Наша думка».

*«Люблю, не знаючы пуціны...»(с.30)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 35.

Упершыню — газ. «Беларускі звон», 1921, 23 верас.; датуецца годам апублікавання.

*Каханне (с.30)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 69.

Упершыню — газ. «Беларускі звон», 1921, 7 кастр.; датуецца годам апублікавання.

*Дзед (с.31)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 33.

Упершыню — зб. «Беларускіх ведамасцяў», 1921, № 1; датуецца годам апублікавання.

[1] *Віціна* — старадаўняе драўлянае пласкадоннае рачное судна з палубай і ветразямі; выкарыстоўвалася пераважна для перавозкі збожжа.

*Пралескі (с.32)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 51.

Упершыню — зборнік «Дэкламатар», 1921. Вільня; датуецца годам апублікавання.

*Незразумелае (с.33)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 70.

Упершыню — зборнік «Дэкламатар», 1921. Вільня; датуецца годам апублікавання.

[1] Эпіграф узяты з верша Ф. І. Цютчава «О, как убийственно мы любим...» (1851).

*Скажы (с.33)*

Друкуецца паводле выд.: На ростані. С. 33.

Упершыню — газ. «Беларускія ведамасці», 1922, 1 студз.; датуецца 1921 г.

*«Чырванее заход ад марозу...» (с.34)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 63.

Упершыню — газ. «Наша будучыня», 1922, 13 студз.; датуецца 1921—1922 гг.

*Палімпсест (с.35)*

Друкуецца паводле выд.: На ростані. С. 8.

Упершыню — газ. «Беларускія ведамасці», 1922, 15 студз.; датуецца 1921—1922 гг.

[1] *Палімпсест* (грэцк.) — старажытны рукапіс на папірусе альбо пергаменце, напісаны паўзверх першапачатковага тэксту, які з-за даўніны часу сцёрся ці наўмысна саскрэбены. З'яўленне палімпсестаў у старажытнасці звязана з недахопам пісчага матэрыялу. Адзін з самых старажытных палімпсестаў датуецца VII ст. да н. Х. (тэкст на папірусе з паўднёвай Палестыны). У сярэднявечча манахі-перапісчыкі почасту знішчалі стары тэкст, у асноўным антычныя творы, замяняючы яго багаслоўскім. Пачынаючы з XVII ст. палеографы з дапамогай хімічных рэактываў ўзнаўлялі першапачатковы тэкст, што праз некаторы час прыводзіла да знішчэння абодвух тэкстаў. Сучасная навука дазваляе выяўляць першапачатковы тэкст без пашкоджання пазнейшага. На ўсходнеславянскіх землях палімпсесты не мелі шырокага распаўсюджвання (з 23 славянскіх палімпсестаў толькі тры ўсходнеславянскія).

*Віхор (с.35)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 10.

Упершыню — газ. «Беларускі звон», 1922, 24 лют.; датуецца 1921—1922 гг.

*«Душа мая тужлівая...» (с.36)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 102.

Упершыню — газ. «Беларускі звон», 1922, 11 сак.; датуецца 1921—1922 гг.

Верш перакладзены на польскую мову Я. Гушчам.

*Сёмуха (с.37)*

Друкуецца паводле выд.: На ростані. С. 20.

Упершыню — газ. «Беларускі звон», 1922, 12 крас.; датуецца 1921—1922 гг.

*«Як ўсё ў жыцці, яшчэ вясна...» (с.37)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 103.

Упершыню — газ. «Наша будучыня», 1923, 13 студз.; датуецца 1921—1922 гг.

*Прадчуццё (с.38)*

Друкуецца паводле выд.: На ростані. С. 45; датуецца 1921—1922 гг.

*Вечарам (с.38)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 58, дзе апублікаваны ўпершыню; датуецца 1921—1922 гг.

*Вецер (с.39)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 49.

Упершыню — час. «Маладое жыццё», 1922, № 2, пад крыпт. *Ул. Ж.*; датуецца годам апублікавання.

*Туман (с.40)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 60.

Упершыню — газ. «Беларускі звон», 1922, 17 лют.; датуецца годам апублікавання.

*«Толькі той, чый вольны дух...» (с.40)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 35.

Упершыню — газ. «Беларускі звон», 1922, 22 крас.; датуецца 1922 г.

*Раніцаю (с.41)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 115.

Упершыню — газ. «Беларускі звон», 1922, 4 ліп.; датуецца годам апублікавання.

*«Ізноў пытанні...» (с.41)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 38.

Упершыню — газ. «Беларускі звон», 1922, 25 лістап.; датуецца годам апублікавання.

Верш перакладзены на рускую мову Дз. Кавалёвым.

[1] *Мужычы край* — у выданні «Творы» (Нью-Йорк): *Крывіцкі Край.*

*«Тваё пісьмо...» (с.42)*

Друкуецца паводле газ. «Наша будучыня», 1923, 13 студз., дзе апублікаваны ўпершыню; датуецца 1922—1923 гг.

[1] Верш прысвечаны Лідзіі Сілаевай, знаёмай Ул. Жылкі па Багародзіцку; у 1922—23 гг. паэт ліставаўся з ёй (гл. раздзел Лісты).

*«Нікне ў імгле старана...» (с.43)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 32.

Упершыню — газ. «Новае жыццё», 1923, 24 сак.; датуецца 1922 г.

[1] Эпіграф узяты з верша А. Блока «Видно, дни золотые пришли...» (1901).

*«Дарма, што значны раны...» (с.44)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 30; датуецца 1922 г.

*«Устае туман бялявы...» (с.45)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 51; датуецца 1922 г.

*«Нібы вялізны чорны птах...» (с.45)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 57, дзе апублікаваны ўпершыню; датуецца 1922 г.

*Дзіця (с.46)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 113; датуецца 1922 г.

*На ростані (с.47)*

Друкуецца паводле выд.: На ростані. С. 21, дзе апублікаваны упершыню; датуецца 1923 г.

*«Бясспынна, глуха процьма часу...» (с.47)*

Друкуецца паводле выд.: На ростані. С. 35, дзе апублікаваны упершыню; датуецца 1923 г.

У альманаху «Заходняя Беларусь» (Вільня, 1924) верш друкаваўся пад загалоўкам «На могілках».

[1] *Дзярмо* — дзёран. У некаторых выданнях (Пожні. С. 50; Творы. С. 45) заменена на *дзярно*. Заўвагі пра немілагучнасць словазлучэння «свежае дзярмо» рабіліся Ул. Жылку і раней (гл. ягоны ліст А. Луцкевічу за 24.06.1924).

*Напярэдадні (с.48)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 9; датуецца 1923 г.

*«Ляпей жабрачы лёс...» (с.49)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 18.

Упершыню — газ. «Голас беларуса», 1926, 1 верас.; датуецца 1923 г.

*Смяротны пах (с.49)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 52; датуецца 1923 г.

*«Я люблю густыя шумы...» (с.50)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 54; датуецца 1923 г.

Верш перакладзены на польскую (Я. Гушча) і рускую (Дз. Кавалёў) мовы; пакладзены на музыку кампазітарам М. Куліковічам.

*«Насоўвае пушча...» (с.51)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 56; датуецца 1923 г.

*«Векавечны хмуры бор...» (с.52)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 56; датуецца 1923 г.

*Зімовае (с.52)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 65.

Упершыню — час. «Чырвоны сейбіт», 1926, № 2; датуецца 1923 г.

*Марта (с.53)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 73; датуецца 1923 г.

[1] *Марта (бібл.)* — сястра Лазара і Марыі Магдаліны, разам з Марыяй прымала Ісуса Хрыста ў сваім доме ў Віфаніі (Бетані).

[2] *Бетань* (Віфанія) — мясцовасць на поўдзень ад Іерусаліма, дзе Ісус Хрыстос уваскрасіў Лазара.

[3] *Марыя Магдаліна (бібл.)* — сястра Лазара, паслядоўніца Ісуса Хрыста, адна з міраносіцаў. Прысутнічала на Галгофе пад час укрыжавання Хрыста; згодна Дабравесцю паводле Яна (раздзел XII) Марыя Магдаліна пасля ўваскрашэння Лазара памазала Хрысту ногі нардавым мірам і абцерла сваімі валасамі. На яе ж была ўскладзена місія звеставання апосталам пра ўваскрашэнне Хрыста. У сусветнай літаратуры Марыя Магдаліна стала вобразам блудніцы, якая пакаялася.

Ул. Жылка супрацьстаўляе прыгожую, «узвышаную каханнем» Марыю — Марце «ў апратцы простай і будзённай», з «нязграбнай паставай і «прыцішаным паглядам».

*«Крыху ўзрушаны і рады...» (с.54)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 75; датуецца 1923 г.

*«Зацвілі твае вочы між тлуму...» (с.55)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 81; датуецца 1923 г.

*«Не трывож мае самоты...» (с.56)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 84.

Упершыню — газ. «Голас беларуса», 1927, 25 траўня; датуецца 1923 г.

Верш перакладзены на польскую (С. Горак) і рускую (Дз. Кавалёў) мовы.

*Хараство (с.57)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 112; датуецца 1923 г.

*«Да Пятра зязюленька...» (с.58)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 116; датуецца 1923 г.

*«Я — грамнічная свечка прад Богам...» (с.59)*

Друкуецца паводле выд.: На ростані. С. 13; датуецца 1924 г.

*«Твае блакітнасці нязменны...» (с.60)*

Друкуецца паводле выд.: На ростані. С. 28; датуецца 1924 г.

*Маёй маці (с.61)*

Друкуецца паводле выд.: На ростані. С. 38—39; датуецца 1924 г.

У газ. «Беларуская ніва» (1926, 27 студз.) друкавалася з пазнакай: «*Перайманне народнага*».

*«Ўзысці на вогнішча натхнення...» (с.63)*

Друкуецца паводле выд.: На ростані. С. 41; датуецца 1924 г.

*Хлопчык (с.63)*

Друкуецца паводле выд.: На ростані. С. 42; датуецца 1924 г.

*Бяссонне (с.64)*

Друкуецца паводле выд.: На ростані. С. 44; датуецца 1924 г.

*Меч (с.65)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 11.

Упершыню — газ. «Голас беларуса», 1926, 15 верас.; датуецца 1924 г.

Верш перакладзены на польскую (І. Сікірыцкі), украінскую (В. Каламіец) і рускую (Дз. Кавалёў) мовы.

*«Хто мужны, хто смелы, хто дужы...» (с.65)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 12.
Упершыню — газ. «Голас беларуса», 1926, 11 жн.; датуецца 1924 г.

*«Над нядоляй Тваёй не заплачу...» (с.66)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 29; датуецца 1924 г.

*Восень («Глухой, таёмнай сцежкай...») (с.67)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 61; датуецца 1924 г.
[1] *Szopa* (польск.) — павець, стрэшка.

*«Нашы тайны й жаданні, як рэчы, як кветы...» (с.68)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 77; датуецца 1924 г.

*«Хто там паклікаў?..» (с.69)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 83.
Упершыню — газ. «Голас Беларуса», 1927, 16 сак.; датуецца 1924 г.

*На постаці (с.69)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 118.
Упершыню — газ. «Беларуская доля», 1925, 9 крас.; датуецца 1924 г.

*«Месячыку-месяц...» (с.70)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 119.
Упершыню — газ. «Беларуская доля», 1925, 9 крас.; датуецца 1924 г.
Верш пакладзены на музыку кампазітарам М. Куліковічам.

*Віно звініць (с.71)*

Друкуецца паводле выд.: Творы. С. 83.
Упершыню — газ. «Голас Беларуса», 1926, 10 лістап.; датуецца 1924 г.

*«Прытулі, сястра, слабога...» (с.71)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 75; датуецца 1924 г.
[1] Эпіграф узяты з верша А. С. Пушкіна «Пора, мой друг, пора! покоя сердце просит...» (1834).

*«Усе мы страчаньня...» (с.72)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 76; датуецца 1924 г.

*Праметэй (с.73)*

Друкуецца паводле выд.: Сцягі і паходні. Мн., 1965 (скл. У.Калеснік). С . 79; датуецца 1924 г.

*Экспрэс (с.74)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 14.

Упершыню — газ. «Беларуская доля», 1925, 9 крас.; датуецца годам апублікавання.

[1] Верш прысвечаны трэцім угодкам літаратурнай арганізацыі «Маладняк» (1923—1928).

[2] Эпіграф узяты з верша Я. Купалы «Паязджане» (1918).

*Вершы аб Вільні (с.75)*

Нізка вершаў пра Вільню ўпершыню апублікавана як вялікая цытата-вытрымка ў арт. А. Навіны «Вільня ў беларускай літаратуры» («Студэнцкая думка», 1925, № 5); датуецца годам апублікавання.

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 96, з узнаўленнем па першапублікацыі адсутнай страфы:

*Ў жыдоўскім гета дробязь, клопаты*
*І аб Сіёне сны ў туман,*
*І гэткі ж сум, і тыя ж допыты*
*Вядуць тапалі базыльян.*

У чацвёртым радку дзесятай страфы ў адпаведнасці з першапублікацыяй выпраўлены радок: «*...Цябе залье крывіцкі рух!*»

Магчыма, «Вершы аб Вільні» напісаны адмыслова для артыкула А. Навіны, дзе аналізуецца творчасць М. Багдановіча, З. Бядулі і інш. Паказальна, што «даражэнькі дзядзька Антон» Жылкавай нізкай з дадаткам уласнага каментара заканчвае свой артыкул, які ў 1925 г. выйшаў у Вільні асобным выданнем. Вось некаторыя развагі А. Навіны:

*«Бядуля як быццам туманна прадбачыць тую будучыню Вільні, аб якой другі наш паэт-пясняр нацыянальнага самавыяўлення Уладзімір Жылка гаворыць ужо зусім канкрэтна ў сваіх недрукаваных яшчэ дагэтуль «Вершах аб Вільні», напісаных сёлета ў Празе Чэскай і пасвячоных «старому віленцу Антону Луцкевічу». Што паміж думкамі-летуценнямі Бядулі і Жылкі існуе цесная сувязь, на гэта паказуе хаця б тое, што за motto дзеля сваіх «Вершаў аб Вільні» Жылка ўзяў гэтыя словы Бядулі, скіраваныя да далёкае цяпер ад іх абодвух Вільні: «Сумуе душа па Табе, Беларускі Сіёне!»*

*Запраўды, Меккай выдаецца беларускаму песняру тая Вільня, з якое сёння беларуская ідэя аказалася прымушанай уцячы ў Медыну — Менск, скуль — верыць Жылка — яна, гэтая ідэя, як некалі Магамет у Мекку, вернецца зноў у Вільню ва ўсёй сваёй велічы і славе...»*

[1] *Касцёл Святой Ганны* — помнік архітэктуры канца XV—пачатку XVI стст.

[2] Парк паблізу кляштара бернардынцаў (заснаваны ў XV ст.).

[3] *Мекка* — свяшчэнны горад мусульманаў, радзіма заснавальніка іслама Мухамада, дзе знаходзіцца галоўная мусульманская мячэць (на тэрыторыі сучаснай Саудаўскай Аравіі). На працягу ўсёй гісторыі іслама лічыцца закрытым для іншаверцаў горадам.

[4] *Сура* — раздзел Карана.

[5] *Кааба* — галоўная святыня іслама, у бок якое звяртаюцца ўсе мусульмане пад час малітвы. Размешчана ў галоўнай мячэці Меккі і ўяўляе з сябе каменны будынак вышынёй 15 метраў. У ім захоўваецца «чорны камень» — сімвал магутнасці алаха, пасланы ім на зямлю людзям. Штогод мусульмане здзяйсняюць паломніцтва да Каабы.

[6] *Рамадан* — дзевяты месяц у мусульманскім календары, калі ўсе вернікі павінны трымаць пост і займацца дабрачыннай дзейнасцю. Паводле ісламскіх дагматаў, у гэтым месяцы праз анёла Джабрыеля быў пасланы Мухамаду Каран.

[7] *Медына* — горад, дзе жыў і дзе пахаваны прарок Мухамад (400 км на поўнач ад Меккі, тэрыторыя Саудаўскай Аравіі).

Першы верш нізкі пакладзены на музыку М. Кунцэвічам і друкаваўся ў «Спеўніку Згуртавання Беларускіх скаўтаў на чужыне» (1948).

### *«Наш лёс, бы кат з рукой забойнай...» (с.78)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 16.

Упершыню — газ. «Голас Беларуса», 1926, 18 жн.; у першапублікацыі пазнака: *«З нізкі «Песні воя»*; датуецца 1925 г.

### *Летні вечар (с.79)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 50.

Упершыню — газ. «Голас Беларуса», 1927, 6 крас.; датуецца 1925 г.

### *Восень («О хараство асенніх дзён празрыстых...») (с.79)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 64; датуецца 1925 г.

Упершыню — газ. «Голас Беларуса», 1926, 27 кастр.; датуецца 1925 г.

### *Гекзаметры (с.80)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 97; датуецца 1925 г.

*Пентаметры (с.81)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 99.
Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1926, 28 лістап.; датуецца 1925 г.

*Virelai (с.81)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 100.
Упершыню — газ. «Голас беларуса», 1927, 16 сак.; датуецца 1925 г.
[1] Класічнае вірале — дзевяціррадковы верш, які складаецца з трох трохрадкоўяў з рыфмоўкай *аБааБааБа*. Узнікла ў сярэдневяковай французскай паэзіі. Ул. Жылка выкарыстаў адзін з відаў ранняга васьміраадковага вірале з рыфмоўкай *АБссАБАБ*, вельмі рэдкага ў сусветнай паэзіі (вядомыя васьміраадковыя вірале французскага паэта канца XIII ст. Жана дэ Лескюраля).

*«Божа, не шмат засталося...» (с.81)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 104; датуецца 1925 г.
[1] *Божа, не шмат засталося* — гэты радок пакінуты тут у рэдакцыі, пададзенай даследчыкам і выдаўцом творчай спадчыны паэта У. Калеснікам. У першапублікацыі: *Так, не шмат засталося...*

*«О, гэта аповесць звычайна й каротка...» (с.82)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 120.
Упершыню — газ. «На прадвесні», 1926, 25 сак.; датуецца 1925 г.

*Вершы спадзявання (с.83)*

Друкуюцца паводле выд.: Творы (Нью-Ёрк). С. 60; датуюцца 1924—1925 гг.

Вершы гэтай нізкі змяшчаліся паэтам у розных выданнях («Голас Беларуса, 1926, 14 ліп.; «Узвышша», 1927, №№3—4). У зборніку «З палёў Заходняй Беларусі» ў нізцы недалічваецца тры вершы: «Маіх надзей вясёлых кветы...», «Няма збавення апроч пекнаты...» і «Калі змрочнасць ахутвае цмяная...». Верш «Апошнія косы...» пададзены паэтам асобна пад назвай «Змяркание» (С. 78). Паводле ўспамінаў Антона Адамовіча, «Вершы спадзявання» выклікалі насцярогу ў выдавецтве з-за сваіх «містычных, упадніцкіх» настрояў. Пацвярджэннем зняцця прыгаданых вершаў з падрыхтаванай да друку кнігі можа служыць і тое, што ў зборніку дзве старонкі пасля нізкі чыстыя.

*Да Персі Шэлі (с.91)*

Друкуюцца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 109; датуюцца адпаведна 1923 і 1925 гг.

Дзеля захавання кампазіцыйнай цэласнасці твора укладальнік палічыў магчымым адступіць ад храналагічнага прынцыпу і змясціць вершы да Шэлі так, як і ў апошнім прыжыццёвым выданні паэта.

У зборніках «Пожні» і «Творы» (Мінск) гэтыя два вершы, з'ядналыя агульным матывам, друкаваліся асобна адзін ад аднаго. Першы верш цыкла ў зборніку «На ростані» друкаваўся пад назвай «Памяці П. Шэлі». Верш «Сваё жыццё паклаў на шалі...» ўпершыню ў беларускай паэзіі напісаны з дапамогай кансанансная рыфмоўкі.

[1] *Шэлі Персі Бішы* (1793—1822) — класік англійскай літаратуры.

[2] *Нарцыс (міф.)* — у грэцкай міфалогіі прыгожы юнак, якому было прадказана доўгае жыццё, пры умове, што ён не ўбачыць свайго твару. Многія жанчыны прагнулі яго кахання, але Нарцыс да ўсіх заставаўся безуважным. За гэта багі пакаралі яго: аднойчы ён пабачыў сваё адлюстраванне ў вадзе, закахаўся ў яго і памёр ад любові да сябе.

*Альбігоец (с.93)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Нью-Ёрк). С. 73; датуецца 1925 г.

[1] *Альбігойцы* —удзельнікі ерэтычнага руху ў паўднёвай Францыі ў XII— XIII стст. (назва паходзіць ад горада Альбі). Адмаўлялі асноўныя дагматы каталіцкай царквы, патрабавалі ліквідаваць царкоўную іерархію; былі знішчаны інквізіцыяй. Як тлумачыць крытык Антон Адамовіч, вобраз альбігойца ўжыты Ул. Жылкам не ў яго-ным першапачатковым значэнні, а ў пазнейшым, калі ў выніку шматгадовага пераследу альбігойцы ператварыліся з ерэтыкаў-пакутнікаў у звычайных бандытаў.

*«Не кляні, о анёл-абаронца!..» (с.94)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 112-113, дзе апублікавана з пазнакай: *Жнівень, 1926.*

*Пераймание («Ледзь лятункі ўздыхнуць аб каханку...») (с.95)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 53.

Упершыню — газ. «Голас беларуса», 1926, 15 верас.; датуецца годам апублікавання.

[1] Узор пераймання высветліць не ўдалося.

[2] *Грум* (з англ.) — слуга, які конна суправаджае вершніка або едзе на запятках карэты; хлопчык-прыслужнік.

*Прыкляты (с.95)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 104.

Упершыню — газ. «Голас беларуса», 1926, 15 верас.; датуецца годам апублікавання.

*Іронія (с.96)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 104.

Упершыню — газ. «Голас беларуса», 1926, 6 кастр.; датуецца годам апублікавання.

[1] *Дэкарт Рэнэ* (1596 — 1650) — французскі філосаф і матэматык.

*На эміграцыі (с.97)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Нью-Ёрк). С. 78 — 79.

Упершыню — час. «Узвышша», 1927, № 2, дзе апублікаваны з пазнакай: *1926. Praha*.

Верш перакладзены на польскую (І. Сікірыцкі), украінскую (В. Каламіец) і рускую (Дз. Кавалёў) мовы.

*«Летунковасць, нерашучасць...» (с.98)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 95.

Упершыню — час. «Полымя», 1927, № 3, дзе апублікаваны з пазнакай: датуецца 1926 г.

*Перайманне («Запытаў я морскі хвалі...») (с.99)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 109; датуецца 1926 г.

[1] Узор пераймання высветліць не ўдалося.

*«Каму жыццё — атруты келіх...» (с.100)*

Друкуецца паводле выд.: З палёў Заходняй Беларусі. С. 121; датуецца 1926 г.

*«Не складаць мне болей песняў...» (с.102)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 108; датуецца 1926 г.

*Цяжэй ланцугоў (с.103)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Нью-Ёрк). С. 90.

Упершыню — час. «Узвышша», 1927, № 2; датуецца годам апублікавання.

*Максім Багдановіч (с.103)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Нью-Ёрк). С. 91.

Упершыню — час. «Узвышша», 1927, № 3; датуецца годам апублікавання.

*Хвораму (с.104)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Нью-Ёрк). С. 91.

Упершыню — час. «Узвышша», 1927, № 3; датуецца годам апублікавання.

*Антону Навіне (с.105)*

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 1927, 30 кастр., дзе апублікаваны ўпершыню; датуецца годам апублікавання. У выд. Творы (Мінск) верш па незразумелых прычынах скарочаны ўдвая. У першапублікацыі пазнака: *Антону Луцкевічу.*

[1] Антон Навіна — адзін з псеўданімаў Антона Луцкевіча (1884—1941), крытыка, гісторыка, грамадскага і палітычнага дзеяча, які аказаў вялікі ўплыў на фармаванне Жылкавага светапогляду; з ім паэт быў у сяброўскіх адносінах (гл. раздзел Лісты).

*Песня дзесятых угодкаў (с.106)*

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 1927, 7 лістап., дзе апублікаваны ўпершыню; датуецца годам апублікавання.

*«Свядомасці горач мацней алкаголю...» (с.107)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Нью-Ёрк). С. 120.

Упершыню — час. «Маладняк», 1927, № 4; датуецца годам апублікавання.

*Курка-Рабка (с.108)*

Друкуецца паводле час. «Беларускі піянер», 1928, № 16, дзе апублікаваны ўпершыню; датуецца годам апублікавання.

Твор напісаны паводле аднайменнай народнай казкі. Гэта адзіны вядомы пакуль верш Ул. Жылкі для дзяцей.

*«Млынар заставіў застаўкі...» (с.111)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Нью-Ёрк). С. 93.

Упершыню — час. «Узвышша», 1928, № 4, дзе апублікаваны з пазнакай: *в. Лісічына*; датуецца годам апублікавання.

*«Каханню нічога не трэба...» (с.112)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Нью-Ёрк). С. 92.

Упершыню — час. «Узвышша», 1928, № 4; датуецца годам апублікавання.

[1] Верш прысвечаны студэнтцы Менскага музычнага тэхнікума Рыме Маневіч, будучай жонцы паэта.

Твор перакладзены на ўкраінскую мову В. Каламіец.

*«Будзь блаславёна, мая маладосць!..» (с.112)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Нью-Ёрк). С. 95.

Упершыню — час. «Узвышша», 1928, № 5, дзе апублікаваны з пазнакай: *в. Лісічына*; датуецца годам апублікавання.

Крытык Антон Адамовіч у заўвагах да нью-ёрскага выдання (1955) выказаў меркаванне, што страфічная схема гэтага твора вы-

найдзена Ул. Жылкам і прапанаваў назваць новы від верша ў гонар паэта: ***жылкай***. У паэта беларускага замежжа Міхася Кавыля ёсць верш «Прыйсце» (1958), пры напісанні якога выкарыстаны ідэнтычны спосаб рыфмоўкі: *AAbcbbcddcbbceefeeefefAA*. Вось ён, першы ў беларускай літаратуры верш, свядома напісаны як ***жылка:***

*Сонца, суквецьцямі сцежкі усып!*
*Звоніць падковамі прыйсце красы.*
*Водар слязы адраджэння*
*Дарма не выспражыў кон.*
*Думы і песні ўяўлення*
*Полымем дышуць валення,*
*Буры ў іх роздых, разгон.*
*Пішуць Прарока забойцы,*
*Цёмных вякоў альбігойцы,*
*Права сваё і закон.*
*Мужныя ўпалі ў гарэнні,*
*Кволыя раняць калені...*
*Гасіць паходні прыгон.*

*Зорнай бруі васільковай,*
*Смазе агнёў перуновых —*
*Музаў сівы запавет —*
*Шляхам адвечна цярновым,*
*Душам —узвою, абновы,*
*Мечам адточаным слова*
*Мужна нясе неўпрыкмет*
*Ў творча-узнёслых аковах*
*Месія вечны — паэт.*
*Сонца, суквецьцямі сцежкі усып!*
*Звоніць падковамі прыйсце красы.*

### *Развітанне (с.113)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Нью-Ёрк). С. 94.

Упершыню — час. «Узвышша», 1928, № 5, дзе апублікаваны з пазнакай: *в. Лісічына*; датуецца годам апублікавання.

Твор напісаны ў форме *ле* — французскага сярэдневяковага верша, асноўнае патрабаванне якога — выкарыстанне толькі дзвюх рыфмаў.

### *Над калыскаю (с.114)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Нью-Ёрк). С. 96.

Упершыню — час. «Узвышша», 1929, № 2, дзе апублікаваны з пазнакай пад вершам: *11.12.1928 г.*

*Верш развітання (с.114)*

Аўтограф верша выяўлены ў архіве КДБ РБ доктарам гістарычных навук У. М. Міхнюком. Пад вершам пазнака: *1931 г. Менск-Беларускі.* Ёсць і машынапісная прыпіска: *Стихотворение высланного члена «СВБ» — Жилко Владимира, полученное из ссылки.*

Друкуецца ўпершыню.

[1] *Купцэвіч Фелікс* (1900—1930-я [?]) — крытык, празаік, паэт, перакладчык, сябра Ул. Жылкі.

## ВЕРШЫ НЕВЯДОМЫХ ГАДОЎ

*Гімн беларускіх паўстанцаў (с.116)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Нью-Ёрк). С. 82.

Упершыню — час. «Іскры Скарыны», 1935, № 5. У гэтым жа нумары быў змешчаны некралог па паэту, а верш надрукаваны з пазнакай: *«Заместа вянка на далёкую магілу».*

Верш быў пакладзены на музыку невядомым кампазітарам і друкаваўся ў зборніку «Беларусь у песнях» (Берлін, 1942; склад. Н. Абрамчык).

*Каваль (с.117)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 24.
Упершыню — час. «Полымя», 1970, № 5.

*«У сэрцы нязрадна туга аб адной...» (с.118)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 54.

*«І ў сэрцы (Божа, якаво!)...» (с.118)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 57.

*«Ясната, пекната...» (с.118)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 60.

*Безнадзейнасць (с.119)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 64.

*«Падарожным, Божанька...» (с.119)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 74.

*«Нягоды твой не зменяць крок...» (с.120)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 103.

*Дзень і ноч (с.121)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 105.

*«Маіх радасцяў лісце спадае...» (с.121)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 99.

*«Ночка марозная...» (с.122)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 116.

*«На жвіровыя ставіў я карты...» (с.123)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 116.

*«А ты кажы, што радасць ёсць...» (с.123)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 116.

*«З дзяцінства фіялкавых раніц...» (с.123)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 124.

*Прыкладзіны (с.124)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Нью-Ёрк). С. 98.
Упершыню — час. «Сакавік», 1948, № 1.
Уяўляе з сябе вольны пераклад славутай оды Гарацыя «Exigi monumentum». Да Ул. Жылкі гэты твор на беларускую мову пераклаў М. Багдановіч.

[1] *Гарацый* (Квінт Гарацый Флак, 65— 8 да н. Х.) — рымскі паэт, аўтар вядомых сатыраў і одаў.

[2] Відаць, маецца на ўвазе Купалінка, удзельніца старадаўняй абрадавай урачыстасці Купалля; надзявала купальскі вянок свайму абранніку Купалішу.

## З НАКІДАЎ

*Народнае (с.125)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 91.

[1] Тэкст верша складзены У. Калеснікам з двух чарнавых накідаў, якія захаваліся ў Пражскім архіве паэта.

*Беларускі аддзел (с.126)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 65.

[1] Маецца на ўвазе група беларускіх студэнтаў на падрыхтоўчых курсах Карлава універсітэта ў Празе, дзе ў 1923 г. навучаўся і Ул. Жылка.

[2] Добры тон (фр.).
[3] Настольная кніга — падручнік Берліца (фр.).
[4] Французскае пенсне (фр.).
[5] Прадмесце Прагі.

*Да Зосі (с.128)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 124.
[1] Прыналежнасць імя высветліць не ўдалося.

*Пры Roentgen (с.128)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 108.
[1] *Рэнтген Вільгельм Конрад* (1845—1923) — нямецкі фізік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1901); адкрыў рэнтгенаўскія прамяні і стварыў першую рэнтгенаўскую трубку.

*«Ганебны пазаўсёды дзень...» (с.128)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа, які захоўваецца ў сваякоў паэта. Публікацыя З. Калеснік.
[1] *Ягайла* (Якаў, 1348?—1434) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага, кароль Польшчы Уладзіслаў II, заснавальнік дынастыі Ягелонаў. У 1386 г. прыняў каталіцтва, ажаніўся з польскай каралевай Ядвігай. Насаджваў каталіцтва ў ВКЛ, што прывяло да міжусобнай вайны паміж Ягайлам і вялікім князем Вітаўтам.
[2] *Зніч* — «агонь вечны перуновы», які распальваўся на месцы пакланення паганцаў — жэглішчы. Спецыяльныя жрацы-прыслужнікі мусілі ўвесьчасна падтрымліваць вогнішча; калі агонь патухаў, жрацоў каралі смерцю. На славянскіх землях найлепш захавалася жэглішча каля беларускага мястэчка Крэва (Смаргонскі р-н).
[3] *Пярун* —у пантэоне славянскіх багоў шанаваўся як галоўны бог, лічыўся апекуном вайсковай дружыны.

*«Не памятаю, дзень быў ці ноч...» (с.129)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа, які захоўваецца ў сваякоў паэта. Публікацыя З. Калеснік.
[1] Добры дзень (фр.).

*«Ну хай жа, ну хай жа, пакінь...» (с.130)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа, які захоўваецца ў сваякоў паэта. Публікацыя З. Калеснік.

*«Як тастаменту новага Бог...» (с.130)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа, які захоўваецца ў сваякоў паэта. Публікацыя З. Калеснік.

# ПАЭМЫ

## *Уяўленне (с.133)*

Паэма выйшла ў Вільні асобным выданнем (1923). У зборнік «З палёў Заходняй Беларусі» ўключана аўтарам часткова (адсутнічаюць раздзелы III—IV, VII, X—XII). Тэкст зверапы і друкуецца па двух названых выданнях; датуецца 1922 г.

У савецкіх выданнях (Пожні) у паэме былі зроблены шматлікія купюры.

[1] *Родзевіч Леапольд* (1895—пасля 1938) — празаік, публіцыст, паэт, драматург, дзеяч рэвалюцыйнага руху Заходняй Беларусі; быў рэдактарам газет «Наша будучыня» (1922—1923), «Беларускі звон» (з 1922), дзе друкаваўся Ул. Жылка. Апошні напісаў на яго зборнік рэцэнзію (гл. раздзел Крытыка і публіцыстыка).

[2] *Гарун Алесь* (сапр. Прушынскі Аляксандр, 1887—1920) — класік беларускай літаратуры.

[3] *Бядуля Змітрок* — адзін з псеўданімаў Самуіла Плаўніка (1886—1941), беларускага пісьменніка.

[4] *А. Сумны* — Алесь Гарун.

[5] *Багач* (Багатнік, Багатуха) — старажытнае земляробчае свята ў гонар сканчэння жніва; з пашырэннем хрысціянства Багач стаў прымяркоўвацца да святкавання нараджэння Маці Божай (8 верасня ст. ст.).

[6] *Юры, Юрай* — апякун вясновага абуджэння прыроды; у беларускім земляробчым календары — заступнік жывёлы і гаспадаркі (паходзіць ад язычніцкага божышча Ярылы).

[7] *Давід* (X ст. да н. Х.) — міфалагізаваны біблейскі герой, з пастухоў быў прызначаны пераемнікам цара Саула. За сваю незвычайную сілу і прыгажосць быў паважаны і любімы простым людам.

[8] *Сіён* —першапачаткова адзін з пагоркаў, на якіх быў узведзены Іерусалім; у іншасказальным сэнсе — зямная і нябесная Царква.

## *Тастамент (с.142)*

Друкуецца паводле копіі аўтографа, які захоўваецца ў бібліятэцы Беларускага Інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку (БІНІМ).

Упершыню — «Беларуская газэта», 1942, 6 жн.; датуецца 1932-1933 гг. Поўны загаловак: «*Тастамент, або Духоўніца, адпісаная Уладзімерам з Адама і Тацяны сынам Жылкавым люду паспалітаму на карысць і спажытак, пісьменству прыгожаму на росквіт і аздобу, а сабе ад добрых на ўспамін станоўчы і доўгі*».

Апошні твор паэта, напісаны, верагодна, незадоўга да смерці. Паводле сведчання Вітаўта Кіпеля, «Тастамент» выйшаў асобным выданнем у Берліне (1944).

# ПРОЗА

*Выпадак (с.151)*

Друкуецца паводле час. «Перавясла», 1924, № 2, дзе апублікавана ўпершыню пад крыпт. *Ул. Ж.*

Апавяданне «Выпадак» — адзіная вядомая пакуль спроба Ул. Жылкі ў галіне мастацкай прозы.

[1] *Дастаеўскі Фёдар Міхайлавіч* (1821—1881) — класік рускай літаратуры; эпіграф узяты з яго «Дзённіка пісьменніка».

*Дзённік (с.154)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 210—217.

[1] *Янус* —у рымскай міфалогіі бог уваходаў і выхадаў, дзвярэй і любога пачатку (першага месяца года, першага дня ў месяцы, пачатку жыцця чалавека і г.д.). Рымлянам Янус уяўляўся з ключамі, двуаблічным тварам у розныя бакі; двуаблічнасць тлумачылі тым, што дзверы вядуць і ў хату, і з хаты, а таксама тым, што Янус ведае і будучыню, і мінулае.

[2] *Гогаль Мікалай Васільевіч* (1809—1852) — класік расійскай літаратуры.

[3] *Уайльд Оскар Фінгал О'Флаэрці Уілс* (1854—1900) — англійскі пісьменнік і крытык.

[4] *Успенскі Глеб Іванавіч* (1843—1902) — расійскі пісьменнік.

[5] *Ніцшэ Фрыдрых* (1844—1900) — нямецкі філосаф і паэт.

[6] Словы Ісуса Хрыста з малітвы ў Гефсіманскім садзе, сказаныя незадоўга перад тым, як адзін з вучняў, Юда Іскарыёт, выдаў свайго Настаўніка першасвятарам і кніжнікам за трыццаць срэбранікаў: «і адышоўшы крыху, упаў на аблічча Сваё, маліўся і казаў: Войча Мой! калі магчыма, хай абміне Мяне чара гэтая: але не як Я хачу, а як Ты» (Евангелле ад Мацвея, 26; пераклад В. Сёмухі).

[7] *Ерусалім* — горад, дзе быў распяты Ісус Хрыстос і ў якім знаходзіцца Труна Гасподняя.

[8] Парафраз радка Я.Купалы з верша «Да сваіх думак» (1905—1907): «думкі, думкі-весялушкі!...»

[9] *Грыб Тамаш* (1895—1938) — палітычны і культурны дзеяч; дэлегат 1-га Усебеларускага з'езда, сябра Рады БНР і яе Выканаўчага камітэта, уваходзіў у Цэнтральную Беларускую вайсковую раду, быў народным сакратаром земляробства ва Урадзе Язэпа Варонкі. Разам з Ул. Жылкам вучыўся ў Карлавым універсітэце ў Празе (1922—1926).

[10] *Кант Імануіл* (1724—1804) — нямецкі філосаф, пачынальнік нямецкай класічнай філасофіі.

[11] Паводле сведчання Іллі Мікуліча, Ул. Жылка ў 1919 г. у Падлессі пераклаў «Дэмана» М.Лермантава і нават чытаў пераклад

сваім знаёмым. На жаль, пра лёс гэтага Жылкавага перакладу нічога невядома.

[12] Недакладная цытата з верша Ф. Цютчава «Прадвызначэнне» (1851—1852); паколькі Ул. Жылка двойчы цытуе гэты верш (гл. Лісты да Л. Сілаевай) і ў абодвух выпадках недакладна, прывядзём яго цалкам:

*Любовь, любовь — гласит преданье —*
*Союз души с душой родной —*
*И съединенье, сочетанье,*
*И роковое их слиянье,*
*И... поединок роковой...*

*И чем одно из них нежнее*
*В борьбе неравной двух сердец,*
*Тем неизбежней и вернее,*
*Любя, страдая, грустно млея,*
*Оно изноет наконец.*

[13] Магчыма, маецца на ўвазе Янка Станкевіч.

[14] Цытата з верша А.Блока «Ты помнишь? В нашей бухте сонной...» (1911—1914).

[15] *Пілiпаўка* — піліпаўскі пост перад Калядамі (цягнуўся 6—8 тыдняў); у гэты час царква забараняла гульні, забавы, не спраўляліся вяселлі.

[16] *Імажынізм* — літаратурны кірунак у Расіі 1920-х гг.; назва паходзіць ад англійскай літаратурнай школы імажызму (англ. image — вобраз), асноўныя прынцыпы якой — чыстая вобразнасць, неістотнасць тэматыкі. Сярод пачынальнікаў імажызму — Т.С.Эліёт, Д.Г.Лорэнс, Р.Олдынгтан, Э.Паўнд).

[17] *Тычына Паўло* (1891—1967) — украінскі паэт, дзяржаўны і грамадскі дзеяч.

[18] Ул. Жылка недакладна цытуе словы А.Блока з ягонага артыкула «Інтэлігенцыя і рэвалюцыя» (1918). Гэтыя ж словы Ул. Жылка выкарыстаў у якасці аднаго з эпіграфаў да кнігі «З палёў Заходняй Беларусі». На працягу ўсяго артыкула А.Блок праводзіць паралелі паміж рэвалюцыйным грукатам і гучаннем музыкі. Дакладная цытата: «А дух есть музыка. Демон некогда повелел Сократу слушаться духа музыки... Всем телом, всем сердцем, всем сознанием — слушайте Революцию... «Мир и братство народов» — вот знак, под которым проходит русская революция. Вот о чем ревет её поток. Вот музыка, которую имеющий уши должен слышать...»

*Крыўя (с.162)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 208—209.

*Праклятыя пытанні (с.163)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 218.

*Хараство (с.164)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 218—219.

[1] *Сахарня* — кавярня.

# КРЫТЫКА І ПУБЛІЦЫСТЫКА

*З жыцця і пісьменства (с.167)*

Друкуецца паводле газ. «Беларускія ведамасці», 1921, № 25 снеж., дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *Вал. Жыл.*

[1] *Арсеннева Наталля* (1903—1997) — класік беларускай літаратуры. Рэцэнзія Ул. Жылкі — адзін з першых крытычных водгукаў на яе творчасць.

*Антон Лявіцкі (с.169)*

Друкуецца паводле газ. «Беларускі звон», 1922, № 6 (31), 4 сак., дзе апублікаваны ўпершыню.

[1] *Ядвігін Ш.* (сапр. Лявіцкі Антон, 1869 —1922) — пісьменнік-нашанівец, перакладчык.

[2] Каміла Марцінкевіч.

[3] Гаршын У. Сігнал, альбо Расказ аб тым, як дабро перамагло зло ў чалавеку. Пераложана з малымі пераменамі з расказа Усевалада Гаршына / З рус. М., 1891.

[4] *Палуян Сяргей* (1890—1910) — публіцыст, празаік, крытык. На яго трагічную смерць Ядвігін Ш. адгукнуўся абразком «Раны», надрукаваным у «Зборніку «Нашай Нівы» за 1912 год.

*Рэцэнзія на зборнік Леапольда Родзевіча «Беларусь» (с.170)*

Друкуецца паводле час. «Перавясла», 1923, № 1, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. Ул. Ж. Матэрыял быў змешчыны ў раздзеле «Бібліяграфія» без назвы.

[1] Леапольд Родзевіч. Беларусь. Вершы. Вільня, 1922.

[2] *«Верабей»* — традыцыйны танец, распаўсюджаны ў Віцебскай, Гомельскай і Магілёўскай абл. Звычайна суправаджаўся песняй:

*Чы-чы, чы-чы, верабей,*
*Не клюй маіх канапель.*
*А я таму вераб'ю*
*Калом ногі пераб'ю.*

*Верабейка скача,*
*Па пожцы плача.*

[3] Радок з верша М. Багдановіча «Краю мой родны, як выкляты Богам...» (1909).

[4] *Багушэвіч Францішак-Бенядзікт* (1840—1900) — адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.

[5] *Багрым Паўлюк* (1812—1891?) — паэт-самародак, аўтар адзінага вядомага верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» Магчыма, Ул. Жылка прыслухоўваецца да лацінскай транскрыпцыі — Bachrym.

[6] Радок з верша Ф. Багушэвіча «Адказ Юрцы на «Панскае ігрышча».

### *У справе ацэнкі Беларускага Адраджэння (с.173)*

Друкуецца паводле час. «Перавясла», 1923, № 1, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *Ул. Ж.*

[1] Заключны радок з верша Я. Купалы «А хто та́м ідзе?» (1905—1907).

### *Да 400-х угодкаў друку на Беларусі (с.176)*

Друкуецца паводле час. «Перавясла», 1923, № 1, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *Ул. Ж.*

[1] Ул. Жылка тут не зусім дакладны: Ф. Скарына перабраўся ў Вільню на некалькі гадоў раней. Бо ўжо каля 1522 г. з яго друкарскага варштата сыходзіць «Малая падарожная кніжка» — першая друкаваная на ўсходнеславянскіх землях кніга.

[2] *Багдан Онкаў* — віленскі купец, фінансаваў друкарскую дзейнасць Ф. Скарыны, спрабаваў вывучыць попыт на скарынаўскія кнігі ў Маскве.

[3] *Якуб Бабіч* — бурмістр Вільні, ва ўласным доме абсталяваў скарынаўскую друкарню.

[4] Цытата з прадмовы Ф.Скарыны да кнігі «Псалтыр» (Прага, 1517).

### *Народная адукацыя на Беларусі (с.177)*

Друкуецца паводле час: L'orient Libre, 1924, № 2, дзе апублікавана пад крыпт. U. Ž.

На вокладцы часопіса, які захоўваецца ў Дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (ДАМЛіМ. Ф. 3, воп. 1, адз. зах. 225), рукою Ул. Жылкі зроблены надпіс: «Дзядзьку Тарашкевічу».

Пераклад з французскай мовы Ларысы Вікторка.

[1] *Студніцкі Гізберт Уладыслаў* (1867 — 1953) — польскі публіцыст і палітычны дзеяч пранямецкай арыентацыі; З 1945 г. — на эміграцыі.

[2] *Скульскі Леапольд* (1878 — ?) — польскі дзяржаўны дзеяч; у 1919 — 1920 —прэм'ер-міністр, у 1920 — 1921 гг. — міністр унутраных спраў.

[3] *Станкевіч Адам* (1891 — 1949) — гісторык, публіцыст, выдавец, грамадска-палітычны дзеяч, беларускі каталіцкі святар.

[4] *Сракоўскі Канстанты* (1878 — ?) — польскі літаратар і публіцыст.

### *Янка Купала (с.180)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 140.

Упершыню — «Славянская книга: месячник славянской библиографии под редакцией Ф.С.Мансветова» (Прага, 1925).

[1] *Кальцоў Аляксей Васільевіч* (1809—1842) — расійскі паэт.

[2] *Нікіцін Іван Савіч* (1824—1861) — расійскі паэт.

[3] *Някрасаў Мікалай Аляксеевіч* (1821—1877) — расійскі паэт, крытык, выдавец.

### *Белорусская книга от начала XX в. до мировой войны (с.181)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 201.

[1] Відаць, маецца на ўвазе «Круг беларускай народнай прасветы і культуры» — культурна-асветная арганізацыя, якая існавала ў 1902—1904 гг. у Пецярбургу.

[2] Ул. Жылка памыляецца: зборнік вершаў Янкі Лучыны называўся «Вязанка».

[3] Ул. Жылка недакладны: кніга мела назву «Калядная пісанка на 1904 год».

[4] «Велікодная пісанка» (1904).

[5] Дакладная назва «Чы будзе для ўсіх зямлі?»

[6] «Mora: (Rewolucja narodna)». Wilna, 1905. Выдадзена ананімна. Аўтар — Цётка.

[7] «Chrest na swabodu». Wilna, 1905. Выдадзена ананімна. Аўтар — Цётка.

[8] Выдадзена ў 1906 г. пад псеўданімам Гаўрыла з Полацка.

[9] Брашура «Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць» (Лондан, 1903) была перавыдадзена нелегальным выдавецкім таварыствам «Грамада» (Пецярбург, 1907).

[10] *«Наша доля»* — першая легальная газета на беларускай мове, выходзіла (кірыліцай і лацінкай) з верасня да снежня 1906 г. і была забаронена царскай цэнзурай; друкавала грамадска-палітычныя і літаратурныя матэрыялы. Рэдактар-выдавец І.Тукеркес.

[11] *Іваноўскі Вацлаў* (1880—1943) — палітычны і грамадскі дзеяч, навуковец, адзін з заснавальнікаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, заснавальнік славутай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», якая паўстала ў 1906 г. у Пецярбургу. Да пачатку

імперыялістычнай вайны суполка выдала 38 кніг (у тым ліку шэсць першых кніг Янкі Купалы) агульным накладам больш за 100 тысяч асобнікаў. Тамсама выдаваўся і літаратурна-мастацкі альманах «Маладая Беларусь»: у 1912 г. выйшлі №№ 1-2, у 1913 — № 3. Быў міністрам асветы ва ўрадзе Беларускай Народнай Рэспублікі (1918).

[12] *Уласаў Аляксандр* (1874—1941) — выдавец і грамадскі дзеяч, адзін з арганізатараў Беларускай сацыялістычнай грамады, рэдактар-выдавец «Нашай Нівы», часопісаў «Саха» і «Лучынка».

[13] *«Наша ніва»* — грамадска-палітычная, навукова-папулярная і літаратурна-мастацкая газета (1906—1915). Рэдактары-выдаўцы: С. Вольскі, А. Уласаў, Я. Купала. Адыграла вялікую ролю ў абуджэнні свядомасці беларускага народа.

[14] Статут Вялікага Княства Літоўскага (тры выданні: 1529, 1566, 1588) — збор юрыдычных законаў, што дзейнічалі ў Вялікім Княстве Літоўскім ад XVI ст.; на Правабярэжнай Украіне ў XVII—XVIII ст., у Віцебскай, Магілёўскай, Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губернях — у XIX ст. (да 1840 г.). Помнік беларускай мовы, пісьменнасці і юрыдычнай думкі.

[15] *Цяпінскі (Амельяновіч) Васіль* (1530-я або пач.1540-х—1603?) — беларускі гуманіст-асветнік, пісьменнік, выдавец, дзеяч рэфармацыйнага руху. Ва ўласнай друкарні ў фамільным маёнтку Цяпіна каля 1580 г. выдаў «Евангелле» ў сваім перакладзе на беларускую мову.

[16] *Будны Сымон* (каля 1530—1593) — беларускі кнігавыдавец, рэлігійны рэфарматар, публіцыст, перакладчык, тэолаг, гісторык. У 1562 г. у нясвіжскай друкарні М. Радзівіла Чорнага выдаў у сваім перакладзе на беларускую мову «Катэхізіс» М. Лютара з патрыятычнай прадмовай.

[17] Псеўданім Вацлава Іваноўскага.

[18] Belami. Kazka ab wadzie. [23-ці раздзел з рамана «Роўнасць» амерыканскага пісьменніка Эдуарда Беламі]. Pierałažyû na białaruskuju mowu A. W. Wilnia (1907). Выйшла таксама і кірылічным шрыфтам.

[19] *Власт* — псеўданім Вацлава Ластоўскага (1883—1938), беларускага гісторыка, публіцыста, пісьменніка, грамадска-палітычнага дзеяча.

[20] *Рагоўскі Людамір Міхал* (1881—1954) — беларуска-польскі кампазітар і дырыжор; Ул. Жылка, відаць, мае на ўвазе складзены ім «Беларускі песеннік з нотамі для народных і школьных хораў» (1911).

[21] «Загляне сонца і ў наша ваконца» — першае беларускае легальнае выдавецтва. Заснавана ў Пецярбургу па ініцыятыве Б. Эпімах-Шыпілы. Да пачатку імперыялістычнай вайны суполка выдала 38 кніг агульным накладам больш за 100 тысяч асобнікаў.

[22] *Грыневіч Антон* (1877—1937) — збіральнік і папулярызатар беларускага музычнага фальклору, выдавец, педагог, кампазітар.

[23] Звестак пра выдавецкую дзейнасць Перапечкі не выяўлена.

[24] *Эпімах-Шыпіла Браніслаў* (1859—1934) — дзеяч беларускай культуры, выдавец, фалькларыст, мовазнаўца.

[25] Дакладная назва: Гутарка аб небі і зямлі. На беларускую мову пер. К. Каспраўніцкі і С. Шаўлоўскі (1907).

[26] Biarozka Henryk. Pčalina — žyviołka małaja, a karyści daje mnoha. (Pb.,1911).

[27] Псеўданім Францішка Багушэвіча.

[28] *Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт* (1808—1884) — паэт, класік беларускай літаратуры XIX ст.

[29] Псеўданім Францішка Багушэвіча.

[30] *Каганец Карусь* (сапр. Кастравіцкі Казімір-Рафал, 1868—1918) — празаік, паэт, драматург, мастак і грамадскі дзеяч. Камедыя «Модны шляхцюк» выйшла ў 1910 г.

[31] Ажэшка Эліза (дзявочае прозвішча Паўлоўская, 1841—1910) — польская пісьменніца. Многія яе творы заснаваны на беларускім матэрыяле («Над Нёманам», «Нізіны», «Дзюрдзя», «Хам» і інш.). П'еса «У зімовы вечар» выйшла ў 1910 г. (без пазначэння прозвішча перакладчыка).

[32] Чэхаў Антон. Сватанне. Жарцік. Пералажыў з расійскай на беларускую мову Н. Чарноцкі (1910).

[33] Крапіўніцкі Марка. Па рэвізіі. Камедыя ў 1-й дзеі. Перароблена з украінскай мовы (1911); Крапіўніцкі Марка. Пашыліся ў дурні. Жарцік у 3-х дзеях. Пераложана (з папраўкамі) з украінскай на беларускую мову (1910); абодва выданні выйшлі без пазначэння прозвішча перакладчыка.

[34] Міхалка. Камедыя ў 1-й дзеі. З польскага на беларускі лад перарабілі Далецкія (1911). Звестак пра аўтара беларускае літаратуразнаўства не мае. Даследчык З. Пазняк лічыць, што гэты твор не перакладны, яго калектыўным аўтарам з'яўляюцца далецкія аматары, якія ў 1910 г. паставілі п'есу ў двары Дольцы былога Барысаўскага пав. (Пазняк З. Хто такія Далецкія // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1975. № 1. С. 50).

[35] *Галубок Уладзіслаў* (сапр. Голуб, 1882—1942) — драматург, празаік, рэжысёр, актор, мастак. Першы народны артыст Беларусі (1928).

[36] Якуб Колас.

[37] Таўрус. Аб чым шапацелі лісця (1913). Звестак пра аўтара адшукаць не ўдалося.

[38] Гвозд Л. Пракленашы. (Адгалоскі старыны). Апавяданне (1913). Звестак пра аўтара адшукаць не ўдалося.

[39] *Паўловіч Альберт* (1875—1951) — паэт, драматург, перакладчык, мастак.

[40] *Канапніцкая Марыя* (1842—1910) — польская пісьменніца. «Дым» выдаваўся ў 1909 г. ў перакладзе Зязюлі (Тэрэзы Гардзялкоўскай).

[41] «Тарас на Парнасе» — ананімная сатырычна-гумарыстычная паэма, помнік беларускай літаратуры XIX ст.; у 1896—1917 гг. перавыдавалася дзесяць разоў (Кніга Беларусі. Зводны каталог. Мн., 1986. С. 257).

[42] Горкі М. Архіп і Лявонка. З расійскай мовы пераклала на беларускую Т.Г. (Тэрэза Гардзялкоўская), 1910.

[43] Віткевіч С. Дзядзька голад. Апавяданне для дзяцей з рысункамі. Перадажыла з польскай Зязюля (Тэрэза Гардзялкоўская), 1911.

[44] Дакладная назва: Pačobka B. Boh z nami. Biełaruski madliteûnik (1915).

[45] *Зязюля Андрэй* (сапр. Астрамовіч Аляксандр, 1878—1921) — каталіцкі святар, беларускі паэт. Касцельную службу вёў па-беларуску. Запісваў і апрацоўваў беларускі фальклор, разам з А. Грыневічам выдаў другі том зборніка «Беларускія песні з нотамі» (1912). Зборнік вершаў «З роднага загону» (лацінкай) выйшаў у 1914 г.

[46] «Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні» існавала з перапынкамі з 1913 па 1930 год; у 1924 г. выдала зборнік вершаў Ул. Жылкі «На ростані».

[47] *Леўчык Гальяш* (сапр. Ляўковіч, 1880—1944) — паэт, празаік, перакладчык, бібліяфіл.

[48] Буйло Канстанцыя (па мужу Калечыц, 1893—1986) — беларуская паэтка.

[49] Змешчаны творы Я. Купалы, К. Каганца, Я. Коласа, К. Буйло, Я. Светлячка, Старога Уласа, А. Паўловіча, А. Арла, А. Гаруна, Л. Лобіка.

[50] *Лёсік Язэп* (1883—1940) — празаік, публіцыст, мовазнавец, палітычны дзеяч, акадэмік БАН (1928); кніга «Не ўсе ж разам, ягамосці!..» выйшла ў 1914 г.

[51] Псеўданім беларускага пісьменніка і публіцыста Пятра Яленскага

[52] Гэта не экслібрыс, а выява герба Магдалены Радзівіл, якая фінансава дапамагала ў выданні беларускіх кніг (да прыкладу, «Вянка» М. Багдановіча).

### *Першы крок (с.187)*

Друкуецца паводле час. «Новы прамень», 1926, № 1, дзе апублікаваны ўпершыню.

Рэцэнзія на зборнік вершаў гуртка маладых беларускіх паэтаў у Латвіі «Першы крок» (Рыга, 1926). Сярод дваццаці аўтараў кнігі — В.Ашурак, А.Бартуль,Э.Вайвадзіш, В.Вальтар, Я.Ванаг , Я.Воркуль, К.Езавітаў, В.Казлоўская, Н.Мікалаева, Б.Рык, В.Сахарава, П.Сакол, М.Талерка. У мастацкім афармленні кнігі выкарыстана нацыянальная беларуская сімволіка — на малюнку вокладкі селянін і рабочы трымаюць бел-чырвона-белы сцяг.

[1] Звестак пра А.Баркоўскага адшукаць не ўдалося.

[2] Звестак пра В.Ашурка адшукаць не ўдалося.

[3] Езавітаў Канстанцін (1893—1946) — дзеяч беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння, публіцыст, паэт, перакладчык, педагог, гісторык.

[4] Відаць, Ул. Жылка мае на ўвазе Шышкова Аляксандра Сямёнавіча (1754—1841) — расійскага пісьменніка і дзяржаўнага дзе-

яча, міністра народнай асветы Расійскай імперыі (1824—1828); А. С. Шышкоў узначальваў славянафільскі гурток «Беседа любителей русского слова» і быў ініцыятарам выдання гэтак званага чыгуннага цэнзурнага статута.

[5] Відаць, маецца на ўвазе В. Ластоўскі.

*Прывітальнае слова*
*на Першай Беларускай акадэмічнай канферэнцыі (с.191)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 185.

Упершыню — «Працы акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі» (Мн., 1927).

[1] Канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу праходзіла ў Мінску 14—21 лістапада1926 г.

*Чакаю літаратурнага будынку (с.192)*

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 1927, 28 жн., дзе апублікаваны ўпершыню.

[1] Паводле сведчання Максіма Лужаніна, пасля выступу Ул. Жылкі ў «Звяздзе» пісьменнікам была выдзелена частка будынку (з асобным уваходам) на рагу вул. Камсамольскай і Савецкай.

*«Наля» (с.193)*

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 1927, 9 кастр., дзе апублікаваны ўпершыню.

[1] *Дубоўка Уладзімір* (1900—1976) — паэт, празаік, крытык, блізкі сябра Ул. Жылкі. Зборнік «Наля» выйшаў у Мінску ў 1927 г.

[2] *Фермата* (муз.) — супынак музычнага тэмпу, які выяўляецца ў павелічэнні працягласці гукаў альбо паўзаў, што не ўваходзяць у метрычны лік.

*М.А.Някрасаў (с.196)*

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 1928, 15 студз., дзе апублікаваны ўпершыню.

[1] *Герцэн Аляксандр Іванавіч* (1812—1870) — расійскі пісьменнік, публіцыст, філосаф. Падтрымліваў нацыянальна-вызваленчы рух на Беларусі, у Польшчы і Літве, выступаў у друку за самавызначэнне беларусаў.

[2] *Тургенеў Іван Сяргеевіч* (1818—1883) — расійскі пісьменнік.

[3] *Аненкаў Павел Васільевіч* (1812—1887) — расійскі крытык, гісторык літаратуры, мемуарыст.

[4] *Бялінскі Вісарыён Рыгоравіч* (1811—1848) — расійскі літаратурны крытык, філосаф, публіцыст.

[5] *Дабралюбаў Мікалай Аляксандравіч* (1836—1861) — расійскі літаратурны крытык, паэт, публіцыст, філосаф.

[6] *Чарнышэўскі Мікалай Гаўрылавіч* (1828—1889) — расійскі рэвалюцыянер, філосаф, публіцыст, літаратурны крытык.

[7] *Пляханаў Георгій Валянцінавіч* (1856—1918) — расійскі рэвалюцыянер, філосаф, публіцыст, тэарэтык і прапагандыст марксізма.

[8] Радкі з верша М.Някрасава «Паэт і грамадзянін» (1856).

[9] *Пакроўскі Міхаіл Міхайлавіч* (1868—1942) — расійскі літаратуразнавец і мовазнавец, акадэмік АН СССР.

[10] *Луначарскі Анатоль Васільевіч* (1875—1933) — савецкі дзяржаўны дзеяч, пісьменнік, крытык, мастацтвазнаўца.

[11] *Мураўёў Міхаіл Мікалаевіч* (1797—1866) — дзяржаўны дзеяч Расіі, арганізатар і кіраўнік задушэння нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863—1864 гг. на Беларусі, у Польшчы і Літве; у 1864—1865 гг. займаў пасаду галоўнага начальніка Паўночна-Заходняга краю, меў надзвычайныя паўнамоцтвы. Усяго па загадзе Мураўёва было павешана і расстраляна 128 чалавек; за сваю жорсткасць празваны ў народзе «вешальнікам».

[12] *Ігнатоўскі Усевалад* (1811—1931) — гісторык, грамадскі і палітычны дзеяч, першы прэзідэнт Беларускай акадэміі навук. Ул. Жылка мае на ўвазе яго «Гісторыю Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецця», якая з 1923 па 1928 год выходзіла тройчы.

[13] *Чукоўскі Карней Іванавіч* (сапр. Карнейчукоў Мікалай Васільевіч, 1882—1969) — расійскі дзіцячы пісьменнік, крытык, перакладчык.

[14] *Старчакоў Аляксандр* — расійскі публіцыст другой паловы XIX ст.

[15] Цытата з верша А. Пушкіна «Клеветникам России» (1831).

[16] *Шаўчэнка Тарас* (1814—1861) — класік украінскай літаратуры.

[17] *Неслухоўскі Іван* (найбольш вядомы пад псеўд. Янка Лучына, 1851—1897) — беларускі паэт XIX ст. Ул. Жылка, відаць, мае на ўвазе вядомы верш Ул. Сыракомлі «Ямшчык» у перакладзе з польскай Я.Лучыны.

*Максім Горкі — грамадзянін (с.200)*

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 1928, 15 сак., дзе апублікаваны ўпершыню.

[1] *Антыномія* (грэцк.) — супярэчнасць паміж станамі, рэчамі, існаванне якіх можна пацвердзіць лагічна.

[2] Гэтыя словы ў п'есе М. Горкага «На дне» (1902) гаворыць не Лука, а Сацін.

[3] *Кацюбінскі Міхайла* (1864—1913) — украінскі пісьменнік і грамадскі дзеяч.

[4] Верш Я.Купалы, перакладзены М.Горкім на рускую мову.

*Перамога*
*Беларускага мастацтва (с.204)*

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 1928, 29 сак., дзе апублікаваны ўпершыню.

[1] *Гуно Шарль* (1818—1893) — французскі кампазітар; опера «Фаўст» (1859) лічыцца лепшай сярод яго музычных твораў.

13 Зак. 2780

[2] *Дрэйзін Юльян* (1879—1942) — музыказнавец, перакладчык, публіцыст. Працаваў у Мінскім музычным тэхнікуме, дзе ў 1927—1928 гг. выкладаў і Ул. Жылка.

[3] *Цвяткоў Васіль Аляксеевіч* (1866—1933) — рускі і беларускі спявак (бас) і педагог; у 1925—1928 гг. кіраваў вакальным класам Мінскага музычнага тэхнікума.

[4] *Гітгарц Ілля* (1893—1966) — беларускі дырыжор і педагог.

[5] *Бяссмертны Аркадзь* (1893—1955) — беларускі скрыпач, дырыжор, педагог; з 1924 г. быў дырэктарам Мінскага музычнага тэхнікума.

[6] Звестак пра Вастокава адшукаць не ўдалося.

[7] Звестак пра Цюрэмнава адшукаць не ўдалося.

[8] Звестак пра Валодзьку адшукаць не ўдалося.

[9] *Александроўская Ларыса* (1904—1980) — беларуская спявачка (сапрана), рэжысёр, грамадскі дзеяч.

[10] За свой дом, ў абарону сябе і сваіх справаў (лац.).

# ПЕРАКЛАДЫ

## З Г. Ібсена

### *«Я ветразь свой у свет вялікі...» (с.209)*

Друкуецца паводле выд.: На ростані. С. 45, дзе апублікавана з пазнакай: «*Камедыя кахання*».

*Ібсен Генрык* (1828—1906) — нарвежскі драматург і паэт.

## З А. Олеся

### *«Я болей не плачу...» (с.209)*

Друкуецца паводле выд.: На ростані. С. 46, дзе апублікавана з пазнакай: «*З украінскага*».

*Олесь Аляксандр* (сапр. Кандыба, 1878—1944) — украінскі паэт; пасля кастрычніцкага перавароту апынуўся на эміграцыі, жыў і памёр у Празе.

## З А. Міцкевіча

*Акерманскія стэпы (с.210)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 124.
Упершыню — газ. «Наша будучыня», 1922, 8 снеж.
*Міцкевіч Адам* (1798—1855) — класік польскай літаратуры.

## З І. Волькера

*Волькер Іржы* (1900—1924) — чэшскі паэт, празаік, публіцыст.
Ул. Жылка пераклаў таксама апавяданне І.Волькера «Služka» («Прамень», 1926, № 1) і артыкул «Пралетарскае мастацтва» («Новы прамень», 1926, № 1). Абодва пераклады друкаваліся пад псеўд. *Л. Макашэвіч.*

*Песня кахання (с.211)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 127.

*«На шпітальнай пасцелі праменні падуць...» (с.211)*

Друкуецца паводле выд.: Пожні. С. 127.

*Пакора (с.212)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 143.
Упершыню — час. «Узвышша», 1927, № 2.

*Вечар (с.212)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 143.
Упершыню — час. «Узвышша», 1927, № 2.

## З Ш. Бадлера

*Чалавек і мора (с.212)*

Друкуецца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 144.
Упершыню — час. «Узвышша», 1927, № 3.
*Бадлер Шарль* (1821—1867) — французскі паэт.

## З Б. Ясенскага

*Слова пра Якуба Шэлю (с.213)*

Друкуецца паводле час.: «Полымя», 1931, № 2, дзе апублікавана ўпершыню; прапушчаныя мясціны ўзноўлены па выд.: Ясенскі Б. Слова пра Якуба Шэлю: Паэма (З польск. Мн., 1932).

Неабходнасць улічваць не толькі першапублікацыю прадыктавана наступнымі прычынамі. Як вядома, Ул. Жылку ўпершыню арыштавалі ўлетку 1930 г. Верагодна, часопісную публікацыю падрыхтаваў яшчэ сам перакладчык, у той час як выданне паэмы асобнай кнігай наўрад ці ўзгаднялася з паэтам, пазбаўленым волі. Разам з тым у часопіснай публікацыі не хапае 17-ці строфаў; магчыма, гэта быў скарочаны, часопісны варыянт.

Адхіленні паміж дзвюма публікацыямі нязначныя, апрача 8-й і 9-й страфы Прадспева, якія ў кніжным выд. выглядалі наступным чынам:

*Раз яна мяне стрэла ў жытох за лукою,*
*Паваліла, сказала: служы мне, ці што ж!*
*Адарвала язык мой, як зелле пустое,*
*І заместа яго ўваткнула мне нож.*

*Прыйшла ўзімку самлелай, скалелай; я змоўчаў!*
*Папрасіла: агрэй, заплакала: кроў!*
*І ў грудзі ўрасла з прагавітасцю воўчай,*
*Наелася сэрца, сягнула ў нутро.*

*Ясенскі Бруна* (Віктар Якаўлевіч, 1901—1941) — польскі і расійскі савецкі пісьменнік.

[1] *Якуб Шэля* — кіраўнік сялянскага паўстання ў сярэдзіне XIX ст. на тэрыторыі Ўсходняй Польшчы. Звестак пра «першага свядомага змагара за інтарэсы сялянства» (Б.Ясенскі) захавалася няшмат. Вось што пісаў Людвік Дэмбіцкі пра Якуба Шэлю ў сваёй кнізе «З даўніх успамінаў» (1846—1848): «Гэта не быў звычайны злачынца, ён не дзеіў, як іншыя, у п’яным стане, з зацятасцю і жорсткасцю звера. Цвярозы і спакойны, ён меў на вуснах словы святога пісьма... У ім адчуваўся містык і сектант у сярмязе. Ён прамаўляў да іх [сваякоў забітых. — *М.С.*] як вызваліцель ад тыранаў, як выканаўца загадаў не толькі імператара, але і Пана Бога».

[2] *Пактар* — чалавек, які наймаўся на службу да гаспадара, што займаўся жывёлагадоўляй. Ён браў статак у своеасаблівую арэнду і арганізоўваў вытворчасць малочных вырабаў (масла, сыр і г.д.).

[3] *Гажаёва, Сядліска, Смажова, Вугры, Тарнова* — мясціны на тэрыторыі сучаснай Польшчы і Украіны, дзе адбываюцца падзеі ў паэме.

[4] *Назарэт* —горад на поўначы сучаснага Ізраіля, у якім прайшло дзяцінства і юнацтва Хрыста.

[5] *Вогір* — жарабец.

[6] *Шоркі* — пастронкі.

[7] *Фрашка* (польск. fraszka) — глупства, непатрэбшчына.

# ЛІСТЫ

### *1. Беларускай Сацыялістычнай Грамадзе (с.251)*

Друкуецца паводле газ. «Грамада», 1917, 20 траўня, дзе апублікаваны ўпершыню.

[1] Беларуская Сацыялістычная Грамада (БСГ) — рэвалюцыйна-дэмакратычная нацыянальная партыя пачатку XX ст.; стваральнікі і кіраўнікі БСГ — Іван і Антон Луцкевічы, Цётка, Алесь Бурбіс, Карусь Каганец, Вацлаў Іваноўскі, Аляксандр Уласаў.

### *2. Радзе народнай адукацыі (с.251)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў Мінскім абласным архіве (Ф. 322, воп. 1, адз. зах. 9, арк. 30); выяўлены даследчыкам У. Ляхоўскім.

На заяве рэзалюцыя старшыні Беларускай школьнай рады Міншчыны С. Рак-Міхайлоўскага: «*Назначен школьным работником 21 сов. школы I ступени. 13.IV.*»

[1] Так у тэксце.

### *3. Лідзіі Сілаевай (с.252)*

Друкуюцца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 250— 251.

[1] Відаць, «не будет отправлено».

[2] *Дантэ Аліг'еры* (1265—1321) — італьянскі паэт, аўтар знакамітай «Боскай камедыі» (1307—1321).

[3] Герой паэмы А. Грыбаедава «Гора ад розуму» (1822—1824).

[4] Радок з верша М.Някрасава «Внимая ужасам войны...» (1855—1856).

[5] Недакладная цытата з верша Ф.Цютчава «Прадвызначэнне»; гл. заўвагу № 11 да Дзённіка Ул. Жылкі.

### *4. Лідзіі Сілаевай (с.253)*

[1] Паводле «Кветак зла» (фр.).

### *6. Антону Луцкевічу (с.253)*

Лісты Ул. Жылкі да Антона Луцкевіча друкуюцца паводле выд.: Творы (Мінск). С. 220—249.

Упершыню — Шляхам гадоў: гісторыка-літаратурны зборнік. Мн., 1994. Вып. 3 (публікацыя Анатоля Сідарэвіча).

[1] Адкрыццё Беларускай гімназіі ў Дзвінску (Даўгаўпілсе).

[2] *Краскоўскі Іван* (?—пасля 1930) — дзеяч беларускага і ўкраінскага нацыянальных рухаў, дырэктар Дзвінскай беларускай гімназіі. У яго кватэры пэўны час жыў Ул. Жылка перад выездам у Прагу.

[3] *Тарашкевіч Браніслаў* (1892—1938) — грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, мовазнаўца, перакладчык. Маецца на ўвазе, што Б.Тарашкевіч на той час быў паслом на Сойм Польскай Рэспублікі.

### *6. Антону Луцкевічу (с.254)*

[1] *Станкевіч Янка* (1891—1976) — мовазнавец, перакладчык, грамадска-палітычны і культурны дзеяч; выпускнік Пражскага універсітэта.

[2] Мамонька Язэп — дзеяч беларускага нацыянальнага руху. Быў членам Прэзідыума Народнай Рады БНР; вучыўся ў Пражскім універсітэце, у 1920-я гг. пераехаў у БССР. Рэпрэсаваны ў 1930 г.

[3] Маецца на ўвазе абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г. У згаданым зборніку «Шляхам гадоў» А. Сідарэвіч апублікаваў факсіміле віншавальнага адрасу А.Луцкевічу да 5-х угодкаў БНР, напісанага рукой Ул. Жылкі і падпісанага беларускімі студэнтамі ў Празе.

[4] Урад Украінскай Народнай Рэспублікі на эміграцыі.

### *7. Антону Луцкевічу (с.255)*

[1] Ул. Жылка ліставаўся з жонкай І.Краскоўскага Валянцінай Сымонаўнай, пазней — з іх дачкой Людмілай. Апошняя перадала архіў бацькі ў Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа (ЦНБ НАН), зборнік «З палёў Заходняй Беларусі» (з аўтографам Ул. Жылкі) — у Літаратурны музей Я.Купалы.

[2] Па гэтым адрасе ў Вільні жыў А.Луцкевіч.

[3] Маецца на ўвазе Беларускі музей імя Івана Луцкевіча ў Вільні, заснаваны А.Луцкевічам на аснове багатых збораў брата; існаваў да 1944 г., пазней разрабаваны і раскіданы па розных музеях і бібліятэках.

### *8. Антону Луцкевічу (с.257)*

[1] *Драгаманаў Міхайла* (1841—1895) — украінскі пісьменнік, гісторык і публіцыст. У сваіх працах закранаў і беларускую тэматыку, у прыватнасці, пісаў пра Кастуся Каліноўскага.

[2] *«Наш сцяг»* — так з 5 чэрвеня па 12 жніўня 1923 г. называлася газета «Вольны сцян» — орган Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі; рэдактарам-выдаўцом з'яўляўся Я.Лагіновіч.

### *9. Антону Луцкевічу (с.258)*

[1] *«Перавясла»* — часопіс беларускіх студэнтаў у Празе, фактычным рэдактарам якога быў Ул. Жылка. Другі нумар часопіса вый-шаў у красавіку 1924 г.

[2] *Грышкевіч Францішак* — выпускнік Пражскага універсітэта; быў дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі.

[3] *Каберац Міхась* — студэнт Пражскага універсітэта; разам з Ул. Жылкам падпісваў віншавальны адрас да А. Луцкевіча з нагоды 5-х угодкаў абвяшчэння БНР.

[4] *Дыліс Яўген* — студэнт Пражскага універсітэта.

[5] *Клімовіч Адольф* (1900—1970) — выпускнік Пражскага універсітэта (па адукацыі інжынер); журналіст, рэдактар часопіса «Самапомач» (Вільня), дзеяч Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. У Аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа НАН захоўваецца машынапіс складзенага ім біяграфічнага слоўніка, дзе ёсць звесткі і пра Ул. Жылку.

[6] Звестак пра Лаўскага адшукаць не ўдалося.

[7] Звестак пра Буську адшукаць не ўдалося.

[8] *Гарошка Мікола* — інжынер, пляменнік архімандрыта Льва Гарошкі; пасля Другой сусветнай вайны эміграваў у ЗША, дзе быў адным з арганізатараў і кіраўнікоў Беларуска-Амерыканскага Задзіночання (БАЗА).

[9] Бібліятэка Віленскага універсітэта імя С. Баторыя.

[10] *Клецкін Б.* — віленскі выдавец, у чыёй друкарні друкаваліся шматлікія беларускія кнігі.

[11] «Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні» заснавана ў 1913 г. пры ўдзеле Івана Луцкевіча; у 1920-я гг. яго ўзначальваў А.Луцкевіч.

[12] *Франко Іван* (1856—1916) — украінскі пісьменнік, публіцыст, грамадскі дзеяч. Пераклад Ул. Жылкі яго паэмы «Маісей» адшукаць не ўдалося.

[13] *Бадунова Палута* (1885—1941) — дзеяч беларускага нацыянальнага руху. З 1919 г. сябра Рады БНР. У 1921 г. была арыштавана, але па хадайніцтве А.Чарвякова вызвалена і выехала за мяжу. У 1923—1925 гг. жыла ў Празе; пасля вяртання ў БССР працавала настаўніцай, пазней абвінавачана ў антысавецкай дзейнасці і расстраляна.

[14] Старшынёй таварыства «Беларуская Рада» ў Празе 12 снежня 1925 г. быў абраны Васіль Захарка.

[15] У «Извещении Белорусской партии с.-р» лідэры сацыялістаў-рэвалюцыянераў аспрэчвалі законнасць прызначэння А.Цвікевіча на пасаду прэм'ер-міністра БНР.

[16] *Цвікевіч Аляксандр* (1888—1937) — гісторык і грамадска-палітычны дзеяч; у 1923—1925 гг. выконваў абавязкі прэм'ер-міністра БНР.

[17] Звестак пра Макоўскага адшукаць не ўдалося.

[18] Радок з верша М. Някрасава «Школьнік» (1856).

[19] Валянціна Краскоўская.

[20] *«Заходняя Беларусь»* — выдадзены А.Луцкевічам у 1924 г. альманах, дзе быў надрукаваны верш Ул. Жылкі «На могілках».

*10. Антону Луцкевічу (с.261)*

[1] Звестак пра Ляйбовіча, Басэвіча, Конюха, Бурака адшукаць не ўдалося.

[2] Цэнтральная школьная рада створана ў 1921 г. (адзін з заснавальнікаў — А. Луцкевіч).

[3] *Ільяшэвіч Мікола* (1903 — 1934) — гісторык, географ, педагог; аўтар кнігі «Беларусь і беларусы» (1930, на чэшскай мове).

[4] *Мэнке Любоў* — студэнтка Пражскага універсітэта; яе сястра Юліяна была нявестаю І. Луцкевіча, пра якога пакінула цікавыя ўспаміны.

[5] *Вернікоўская Любоў* — студэнтка Пражскага універсітэта, дачка беларускага дзеяча Тодара Вернікоўскага, сябра Рады БНР (1918).

[6] Звестак пра Сімановіча і Прохарава адшукаць не ўдалося.

[7] Віленскі універсітэт імя Стафана Баторыя.

[8] *Раманаў Еўдакім* (1855—1922) — этнограф, фалькларыст, археолаг.

[9] *Шэйн Павел* (1826—1900) — фалькларыст і этнограф.

*11. Антону Луцкевічу (с.262)*

[1] *«На ростані»* — зборнік вершаў Ул. Жылкі (Вільня, 1924).

[2] *Карскі Яўхім* (1860—1931) — заснавальнік беларускага мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнограф, палеограф, фалькларыст.

[3] Так у тэксце. Відаць, трэба «пасля *«і»*.

[4] *Піятуховіч Міхаіл* (1891—1938) — гісторык беларускай літаратуры і крытык.

[5] Так у тэксце. Відаць, маецца на ўвазе «па-беларуску».

[6] Зборнік вершаў Алеся Гаруна; выйшаў у 1918 г.

[7] *Заяц Лявон* (Леанард, 1890—1935) — грамадскі і палітычны дзеяч, сябра Беларускага нацыянальнага камітэта, народны сакратар у першым урадзе БНР, міністр ва ўрадах В. Ластоўскага і А.Цвікевіча; пасля вяртання з эміграцыі працаваў у Наркамфіне БССР, у 1930 г. рэпрэсаваны. Вучыўся ў Пражскім універсітэце (юрыст).

[8] Далей у тэксце ідзе ліст Л.Зайца:

Вельмі паважаны Антон Іванавіч!

Карыстаючыся нагодай, рад паслаць Вам і Вашай жонцы (якую я добра помню, хоць і бачыў блізка толькі адзін раз у Б.!) шчырае прывітанне і пажаданне як найлепшага здароўя, на якое, як я чуў, і Вы самі западаеце. Мы з Жылкай прыпадкова знаходзімся ў адной санаторыі, дзе рапаруем свае папсутыя лёгкія. Чамусьці, мімаволі, мне ўспамінаецца адзін факт супольнага з Вамі жыцця ў Б[еларусі]. Я атрымаў вестку, што мая жонка ў бальшавіцкай турме. Чакаючы з Вамі разам «падземкі», каб ехаць з якогась сходу дамоў, я жаліўся на сваю нядолю, і Вы, каб мяне ўцешыць, сказалі, што Ваша палажэнне можа быць яшчэ горшае, бо Вы маеце весткі, што Вашу цяперашнюю жонку забілі, а мая жывая!.. Як бура ўсё гэта ўжо далёка праняслося, і Вы... шчаслівейшы за мяне. Вы аператор любімай жонкі маеце каля сябе вялікія надзеі — Вашых дзяцей!.. Я ж... пахаваў свае надзеі — аднаго сына ў Менску і двух у Коўне, на чужыне. Цяпер дбаю толькі аб сваё здароўе: нават аб справах нічога не магу Вам напісаць, бо таварышы мае 3 мес[яцы] нічога не пішуць, кажуць [неразб.] мяне. Адно скажу — абрыдла цягацца на чужыне!

*З пашанай, Заяц.*

*12. Антону Луцкевічу (с.265)*

[1] Паштоўка, пісаная лацінкаю.

[2] *Сваяк Казімір* (Стаповіч Кастусь, 1890—1926) — каталіцкі святар, паэт, драматург, публіцыст; зборнік «Мая ліра» Казіміра Сваяка выйшаў у 1924 г. у Беларускім выдавецкім таварыстве.

[3] Ул. Жылка ад пражскага беларускага студэнцтва ўдзельнічаў як дэлегат у рабоце міжнароднага студэнцкага з'езда ў Варшаве (1924 г.).

*13. Да сяброў (с.265)*

[1] Адрасат не высветлены. Ліст адпраўлены з Варшавы, дзе Ул. Жылка браў удзел у рабоце Міжнароднага студэнцкага з'езда (верасень 1924 г.).

[2] Звестак пра дзейнасць Варшаўскага беларускага нацыянальнага камітэта не выяўлена.

[3] І гэтак далей (фр.).

[4] Міжнародны студэнцкі саюз.

[5] *Масюкевіч, Лоскі, Арлецкі* — верагодна, дэлегаты ад украінскай студэнцкай суполкі.

*14. Калегу з Прагі (с.266)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў ДАМЛіМ. Ф. 3, воп. 1, адз. зах. 284).

Адрасат не высветлены. Запіска перасланая Ул. Жылкам з Варшавы, дзе паэт удзельнічаў у студэнцкім з'ездзе.

*15. Антону Луцкевічу (с.266)*

[1] Газета «Сялянская праўда» выходзіла з 28 верасня па 17 снежня 1924 г. у Вільні. Рэдактарам-выдаўцом быў Антон Войцік — муж Зоські Верас.

*16. Антону Луцкевічу (с.267)*

[1] ...с. *Тар—ічу*... — Сябру Тарашкевічу.

[2] Кронаў чэхаславацкіх.

[3] *Дварчанін Ігнат* (1895—1937) — грамадскі і палітычны дзеяч, выпускнік Пражскага універсітэта, літаратуразнавец, доктар філасофіі.

[4] Звестак пра Шаха адшукаць не ўдалося.

[5] *Nach Osten* (ням.) — на Ўсход.

[6] Паверсальская Еўропа.

[7] Рэцэнзія на зборнік Ул. Жылкі «На ростані» друкавалася ў штотыднёвіку «Przegląd Wileński», 1924, № 20 пад псеўд. *Spectator*.

17. Антону Луцкевічу (с.269)

[1] *Каўцкі Карл* (1854—1938) — адзін з лідэраў і тэарэтыкаў германскай сацыял-дэмакратыі і 2-га Інтэрнацыянала.

[2] Магчыма, маецца на ўвазе альманах «Заходняя Беларусь».

18. Антону Луцкевічу (с.270)

[1] Леапольда Родзевіча.

[2] *Беранжэ Жан* (1780—1857) — французскі паэт, у творчасці якога пераважалі сацыяльныя і палітычныя тэмы.

[3] *Верлен Поль* (1844—1896) — французскі паэт.

[4] Цытата з эпілога да паэмы А.Міцкевіча «Пан Тадэвуш» (1834):

*О, маці Польшча! Дзе знайсці мне сілы,*
*Жаль выказаць каля тваёй магілы!*
*Што шчэ не аблегла...*
*(пер. Я.Семяжона).*

[5] Аб лёсе «Повесці з віленскага жыцця» Ул. Жылкі нічога не вядома.

*19. Антону Луцкевічу (с.272)*

[1] *Motto* (італ.) — тут: кіруючая, вядучая думка, матыў.

[2] *Аляхновіч Францішак* (1883—1944) — драматург, празаік, паэт, публіцыст, актор.

[3] *«Студэнцкая думка»* — часопіс, які выдаваўся ў Вільні з 1924 г. З ім супрацоўнічаў А. Луцкевіч.

[4] Усевалад Ігнатоўскі.

[5] Людміла Краскоўская. У сталым веку яна напісала ўспаміны пра Ул. Жылку (гл. Дадатак). Апрача таго даслала С.Панізніку згадку пра побыт паэта у Дзвінску:

*Увосень 1922 года вядомы беларускі паэт Уладзімір Жылка прыйшоў да Дзвінска. Ён жыў у Вільні, але польская ўлада пачала ў Вільні рабіць арышты беларусаў, таму беларускія дзеячы, як Антон Луцкевіч, вырашылі, што Ул. Жылка на якісь час мусіць адысці з Вільні. У Дзвінску ў гэтым часе была беларуская дзяржаўная гімназія, арганізатарам і дырэктарам яе быў Іван Краскоўскі. Калі Ул. Жылка прыйшоў да Дзвінску (ён сапраўды пешшу перайшоў граніцу), ён пачаў вучыцца ў 10-ым класе гімназіі і жыў у кватэры дырэктара. Ул. Жылка жыў у Дзвінску толькі два месяцы.*

*«У гэтым часе ў Чэхаславакіі давалі эмігрантам магчымасць вучыцца ў высокіх школах і дапамагалі ім такім спосабам, што давалі грашовыя стыпендыі. Аб гэтай магчымасці даведаліся ў гімназіі ў Дзвінску. Ул. Жылка меў цяжкасці з вучэннем у гімназіі, таму што не ведаў дзяржаўную латышскую мову. Ул. Жылка не мог знайсці працу ў Дзвінску, бо не меў латышскага падданства, яму было непрыемна доўгі час жыць без заработкаў у сям'і Ів. Краскоўскага. Калі Ул. Жылка даведаўся пра ўмовы вучобы ў Чэхаславакіі, ён вырашыў паехаць у Прагу. У Празе ён скончыў матуральныя курсы і паступіў на філазафічны факультэт Карлава універсітэта. За кароткі час, калі Ул. Жылка жыў у Дзвінску, ён арганізаваў беларускую моладзь у Латгаліі».*

Людміла Краскоўская ліставалася з Ул. Жылкам пасля таго, як паэт выехаў у БССР. На жаль, лісты Ул. Жылкі не захаваліся. Пад час наведвання ўкладальнікам гэтай кнігі Л.Краскоўскай у Братыславе ў 1997 г. у яе хатнім архіве разам з аўтографам паэта на зборніку «З палёў Заходняй Беларусі» адшукаўся ліст да Ул. Жылкі, напісаны ў 1933 г. Пісьмо так і не было адаслана, хаця Л. Краскоўская нічога не ведала пра трагічны лёс паэта. Дазволім колькі вытрымак з ліста:

*«Трапілі пад руку старыя фатаграфіі і лісты, і гэтак захацелася напісаць табе пару слоў. Ведаеш, ты заўсёды лаяў мяне, што мала гавару (звычайна, жанчын абвінавачваюць якраз у адваротным)... Успомніла Дзвінск, гімназію і так страшэнна захацелася, каб павярнуўся той час. Валодзя, гэта ж нейкіх сем гадоў прайшло, і якіх гадоў, а не хочацца верыць, што гэта ўжо мінула назаўсёды. Я заўсёды гля-*

*дзела на нашыя адносіны, як на нешта дзіцячае... Часам так хацелася шмат сказаць, шчыра сказаць, не думаючы ні аб кім і ні аб чым. Чаму мы заўсёды звязаны нейкімі кайданамі? Чаму не можам быць шчырымі?..»*

[6] Афіны.

*20. Антону Луцкевічу (с.273)*

[1] Артыкул А. Луцкевіча, надрукаваны ў час. «Студэнцкая думка», 1925.

[2] Маецца на ўвазе II Усебеларуская канферэнцыя, якая адбылася ў Берліне 12—16 кастрычніка 1925 г.

[3] *Крэчаўскі Пётра* (18789?—1928) — грамадскі і палітычны дзеяч. У 1919—1928 гг. старшыня Рады БНР.

[4] *Захарка Васіль* (1877—1943) — грамадскі і палітычны дзеяч; у 1928—1943 гг. старшыня Рады БНР.

[5] *«Беларуская ніва»*— газета Беларускай сялянска-работніцкай грамады, выходзіла з 18 лістапада 1925 г. па 10 сакавіка 1926 г.

[6] *Inter nous* (франц.) — між намі.

[7] *Чэрны Адольф* (1864—1952) — чэшскі пісьменнік і вучоныславіст, першы перакладчык на чэшскую мову твораў Я.Купалы, Я.Коласа, Цёткі. У 1898 г. заснаваў і быў першым рэдактарам часопіса «Slovansky prehled».

[8] *«Спадчына»* — зборнік Я. Купалы (1922).

[9] Евангелле на беларускую мову пераклаў А. Луцкевіч.

*22. Антону Луцкевічу (с.276)*

[1] *Couleur noire* (фр.) — чорны колер.

*23. Антону Луцкевічу (с.277)*

[1] *Per pedes apostolorum* (лац.) — пешшу, як апосталы.

*24. Антону Луцкевічу (с.277)*

[1] *Homo homini lupus est* (лац.) — чалавек чалавеку воўк.

[2] Краскоўскай.

[3] Відаць, маецца на ўвазе Уладзімір Пракулевіч, старшыня Рады Случчыны (1920); з 1921 г. — дзяржаўны сакратар БНР. Пасля вяртання з эміграцыі ў БССР арыштаваны.

[4] Відаць, гаворка ідзе пра Л.Зайца.

*25. Антону Луцкевічу (с.278)*

[1] *Пас* — пашпарт.

[2] Маецца на ўвазе Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу (Мінск, 1926).

[3] *«Сялянская ніва»* — газета Беларускага сялянскага саюза, выходзіла ў Вільні (1925—1930).

[4] *«Krynica»* («Беларуская крыніца») — газета Беларускай Хрысціянскай дэмакратыі, выходзіла з 1917 па 1940 г.

*26. Язэпу Дылу (с.279)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў ДАМЛіМ (Ф. 3, воп. 1, адз. зах. 284).

[1] *Дыла Язэп* (1880—1973) — празаік, драматург, дзяржаўны і грамадскі дзеяч. У 1929 г. займаў пасаду намесніка загадчыка Белдзяржкіно, дзе Ул. Жылка працаваў перакладчыкам.

[2] *Тав. Цодзік* — асобу высветліць не ўдалося.

*27. Пятру Глебку (с.279)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў Аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН (Ф. 24, воп. 1, адз. зах. 1666).

Упершыню — час. «Беларусь», 1990, № 12 (публікацыя Я. Кісялёвай, І.Чыгрына).

[1] Ул. Жылка лячыўся ў Ялцінскім сухотным інстытуце вясной 1930 г.

# ДАДАТАК

*Макар Краўцоў*
*Мае ўспаміны аб Жылцы (с.281)*

*Краўцоў Макар* (1890—1939?) — паэт, перакладчык, крытык, публіцыст; дэлегат Першага Усебеларускага кангрэсу ў Мінску (1917), удзельнік Слуцкага антыбальшавіцкага паўстання (1920). У 1939 г. арыштаваны і вывезены ў Беласток, дзе быў закатаваны ў турме. Яго верш «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», пакладзены на музыку кампазітарам У.Тэраўскім, стаў нацыянальным беларускім гімнам.

Успаміны друкуюцца паводле газ. «Родны край», 1935, 14 і 21 чэрв., дзе апублікаваны ўпершыню.

*Людміла Краскоўская*
*З успамінак пра Уладзімера Жылку (с.285)*

*Краскоўская Людміла* (нар. у 1904 г.) — супрацоўніца Брацістаўскага археалагічнага інстытута (Славакія), дачка заснавальніка і першага дырэктара Дзвінскай беларускай гімназіі Івана Краскоўскага, на кватэры якога ў 1922 г. некаторы час жыў Уладзімір Жылка. Таварышка паэта па сумесным навучанні ў Карлавым універсітэце (Прага).

Успаміны друкуюцца паводле выд.: Уладзімір Жылка. Творы. Мн., 1996, дзе ўпершыню апублікаваны.

[1] *...па Slupe...* — вуліца ў Празе.

*Вінцэнт Жук-Грышкевіч*
*Уладзімер Жылка (с.287)*

*Жук-Грышкевіч Вінцэнт* (1903—1989) — дзеяч беларускай эміграцыі, педагог, літаратуразнавец, гісторык. Выпускнік Карлава універсітэта ў Празе. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР арыштаваны і асуджаны на восем гадоў зняволення. Адзін з заснавальнікаў і першы старшыня Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі (1946), арганізатар беларускай секцыі радыё «Вызваленне» (Мюнхен, 1954). Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (1970—1982).

Успаміны ўпершыню апублікаваны ў час. «Беларускі эмігрант» (Таронта), 1953, № 7. Друкуюцца паводле выд.: Жук-Грышкевіч Р. Жыццё і дзейнасць Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Таронта, 1993.

[1] У тагачасным друку паэму Ул. Жылкі «Уяўленне» часта называлі зборнікам вершаў.

*Юрка Гаўрук*
*Сейбіт зары (с.289)*

*Гаўрук Юрка* (1905—1979) — перакладчык, крытык, паэт. У 1935 г. арыштаваны, больш за 20 гадоў правёў у Сібіры, Комі АССР, Карэліі.

Успаміны ўпершыню апублікаваны ў альманаху «Дзень паэзіі»-71 пад назвай «Сустрэчы з Уладзімірам Жылкам». Друкуюцца паводле выд.: Юрка Гаўрук. Ступень адказнасці. Мн., 1986.

*Максім Лужанін*
*Вандроўнік і паэт (с.291)*

*Лужанін Максім* (нар. у 1909 г.) — паэт, празаік, кінадраматург, перакладчык. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я.Коласа. Сябра літаб'яднанняў «Малад-

няк», «Узвышша». У 1933 г. арыштаваны, пакаранне адбываў у Марыінску Кемераўскай вобл.

Успаміны ўпершыню апублікаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1980, 30 траўня. Друкуюцца паводле кн.: Максім Лужанін. Трое. Мн., 1989, з папраўкамі і дапаўненнямі, зробленымі спецыяльна для гэтага выдання.

### *Станіслава Плашчынская*
### *Успаміны пра Жылку (с.296)*

*Плашчынская Станіслава* (нар. у 1908 г.) — жонка паэта Язэпа Пушчы.

Успаміны друкуюцца паводле выд.: Уладзімір Жылка. Творы. Мн., 1996, дзе апублікаваны ўпершыню.

[1] Ф. Купцэвіч мог прыехаць не з Прагі, а з Гомельшчыны, дзе ў 1926 г. працаваў загадчыкам аддзела агітацыі і прапаганды Калінінскага акруткама кампартыі.

### *Яўхім Кіпель*
### *Апошнія дні Уладзімера Жылкі (с. 298)*

*Кіпель Яўхім* (1895—1969) — настаўнік, навуковец, палітычны і грамадскі дзеяч. супрацоўнік Істытута беларускай культуры, грамадскі дзеяч беларускага замежжа.У 1930 г. арыштаваны і высланы на 5 гадоў у г. Налінск. Пасля адбыцця высылкі арыштаваны паўторна. Быў кіраўніком навуковага аддзела Беларускай Цэнтральнай Рады, старшыняваў на Другім Усебеларускім кангрэсе ў Мінску (1944). Жыў у ЗША.

Успаміны ўпершыню апублікаваны ў газ. «Беларуская моладзь», 1962, № 18, Нью-Ёрк. Друкуюцца паводле выд.: На суд гісторыі / Укл. Б. Сачанка. Мн., 1994.

### *Вітаўт Кіпель*
### *Згадка пра «Тастамент» (с. 301)*

*Кіпель Вітаўт* (нар. у 1927 г.) — гісторык, бібліёграф, грамадскі дзеяч; на эміграцыі з 1944 г. Старшыня Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку (з 1982 г.)

Успаміны друкуюцца ўпершыню. Запісаў Я. Янушкевіч у кастрычніку 1997 г.

### *Мікола Улашчык*
### *Успаміны (З лістоў да Уладзіміра Калесніка) (с. 302)*

*Улашчык Мікола* (1906—1986) — гісторык, археограф, празаік, перакладчык. Доктар гістарычных навук (1964); у 1930, 1941, 1950 гг.

арыштоўваўся, адбываў пакаранне ў Налінску, Марыінску, Златавусце. З 1955 г. жыў у Маскве.

Яго лісты да даследчыка творчасці Ул. Жылкі Уладзіміра Калесніка ўпершыню апублікаваны ў перакладзе на рускую мову ў зб. «Русь — Литва—Беларусь» (Москва, 1997). Друкуюцца паводле аўтографаў, якія захоўваюцца ў сына гісторыка А.М.Улашчыка.

[1] Маецца на ўвазе вокладка зборніка Ул. Жылкі «Вершы», Мн., 1970.

[2] Аповесць А.Вольнага, выйшла ў 1925г.

*Мікалай Шарсценнікаў*
*Лёс паэта (с. 305)*

*Шарсценнікаў Мікалай* — супрацоўнік Уфімскага медінстытута (Расія), прафесар медыцыны. Быў арганізатарам і дырэктарам Уржумскага медыцынскага тэхнікума, дзе некаторы час працаваў Ул. Жылка.

Успаміны друкуюцца паводле газ. «Кировская искра», 1975, 17 ліпеня, дзе ўпершыню апублікаваны. Пераклад з рускай мовы ўкладальніка.

Гэта не адзіная згадка пра Ул. Жылку ў тамтэйшым друку. Паэту, да прыкладу, прысвечаны асобны артыкул у шасцітомнай «Энциклопедии земли Вятской» (1996), напісаны ўраджэнцам Уржума У. В. Мальцавым, які зараз жыве ў Мінску.

# ЗМЕСТ



## ВЕРШЫ

## *ВЕРШЫ НЕВЯДОМЫХ ГАДОЎ*



## *З НАКІДАЎ*

## ПАЭМЫ



## ПРОЗА



## КРЫТЫКА І ПУБЛІЦЫСТЫКА

## ПЕРАКЛАДЫ

### З нарвежскай. Г.Ібсена



### З украінскай. А. Олеся



### З польскай. А.Міцкевіча



### З чэшскай. І.Волькера



### З французскай. Ш.Бадлера



### З польскай. Б. Ясенскага.



## ЛІСТЫ

## ДАДАТАК

**Жылка Ул.**

Ж94 Выбраныя творы /Укладанне, прадмова і каментарыі М. Скоблы — Мн.: «Беларускі кнігазбор», 1998. 358 с., [4] л. іл.

ISBN 985-6318-19-X

Уладзімір Жылка (1900—1933) — адметная постаць у пантэоне выдатных дзеячаў беларускай культуры. Паэт, крытык, перакладчык, ён плённа ўзгадоўваў на беларускай глебе парасткі еўрапейскіх літаратурных традыцый. Адным з першых трапіўшы пад бальшавіцкія рэпрэсіі 1930-х гг., ён не паспеў вывесці пад купал велічны Храм Хараства, будаванне якога распачаў М. Багдановіч.

Апрача паэтычных твораў, што сталі ўжо хрэстаматыйнымі, у аднатомнік увайшлі невядомыя вершы, літаратурна-публіцыстычныя артыкулы, дзённік, лісты, успаміны пра паэта.

**ББК 84 (4Беи) 6**

Літаратурна-мастацкае выданне

УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА

Выбраныя творы

Рэдактар і адказны за выпуск *Я. Я.* Янушкевіч
Мастак М. Р. Казлоў. Мастацкі рэдактар Г. С. Хінка
Тэхнічны рэдактар Н. Я. Гарбар
Карэктар Л. А. Гарановіч
Камп'ютэрны набор *Я. Я.* Янушкевіча
Вёрстка А. А. Глекава

Падпісана да друку 15.12.1997 г.
Фармат 84x108 $^1/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 19,32+0,35 укл. Ум. фарб. адб. 26,46.
Ул.-выд. арк. 19,0Тыраж 6000 асобнікаў. Зак. № 2780.

Міжнародны фонд «Беларускі кнігазбор»
220034, г. Мінск, вул. Фрунзе, 5. Ліцэнзія ЛВ № 105 ад 1.12.1997 г.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў друкарні выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.